ПРАЦЫ І МАТЭРЫЯЛЫ ІНСТЫТУТУ АХОВЫ ПРАЦЫ ПРЫ НКП БССР

З Б О Р Н І К  Д Р У Г І



# Да характарыстыкі непрацаздольнасьці застрахаваных БССР

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ ДЫРЭКТАРА
ІНСТЫТУТУ АХОВЫ ПРАЦЫ
ДОЦЭНТА С. Р. ДЗІХЦЯРА



ДЗЯРЖПРАЦВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК 1930

ARBEITEN UND BEITRÄGE DES INSTITUTS FÜR ARBEITSSCHUTZ
DES VOLKSKOMMISSARIATS FÜR ARBEIT der W. S. S. R.

ZWEITE SCHRIFTENSAMMLUNG

# Zur Charakteristik der Arbeitsunfähigkeit der Versicherten in der W. S. S. R.

Redigiert vom Direktor des Instituts
Dozent S. R. DICHTJAR

GOSSTRUDISDAT
MINSK 1930

ПРАЦЫ І МАТЭРЫЯЛЫ ІНСТЫТУТУ АХОВЫ ПРАЦЫ ПРЫ НКП БССР

З Б О Р Н І К Д Р У Г І

# Да характарыстыкі непрацаздольнасьці застрахаваных БССР



Пад рэдакцыяй дырэктара
інстытуту аховы працы
доцэнта С. Р. ДЗІХЦЯРА




ДЗЯРЖПРАЦВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК 1930

## ЗЬМЕСТ

# INHALT

Мы выходзім з таго, што працаздольнасьць зьяўляецца адным з найважнейшых паказьнікаў соцыяльнага здароўя; мы ведаем таксама, што стан і дынаміка соцыяльнага здароўя resp. працаздольнасьці залежыць ад найскладнейшага комплексу прычын, ад стану аховы працы ў тым ліку.

З другога боку, асноўнай мэтай аховы працы ў перажываны, больш правільна, творчы пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца стварэньне магчыма найбольш спрыяючых умоў для павышэньня продукцыйнасьці працы, або, што па сутнасьці тое-ж самае, павышэньня і паляпшэньня працаздольнасьці. Тымчасам зроблена надта мала для таго, каб разабрацца ў самой зьяве непрацаздольнасьці, дакладней, у матэрыялах, па якіх мы мяркуем аб гэтай непрацаздольнасьці. Гэта-ж бо мае, трэба проста сказаць, асноўнае значэньне ня толькі з пункту погляду пазнаньня соцыяльнага здароўя, але і з пункту погляду ўзьдзеяньня,—а гэта і ёсьць мэта пазнаньня—на фактары непрацаздольнасьці resp. працаздольнасьці.

Наступныя работы і зьяўляюцца ў адносінах да матэрыялаў па БССР першай спробай крытычнага аналізу даных, характарызуючых непрацаздольнасьць.

**Дзіхцяр.**

---

I ЧАСТКА

# А ЧАСОВАЙ НЕПРАЦАЗДОЛЬНАСЬЦІ ЗАСТРАХАВАНЫХ У БССР

Д-р Я. М. Лагун і д-р А. Г. Сает

# Паказьнікі часовай непрацаздольнасьці застрахаваных буйных прадпрыемстваў БССР у 1927 г. па асобных прычынах.

*(Даныя выбарачнага ўліку страхкас).*

Намі апрацаваны матэрыял страхавых кас аб захворанасьці рабочых за 1927 г.

Матэрыял выбарачнага характару ахапляе найбольш буйныя прадпрыемствы БССР.

Разгледзім паказьнікі часовай непрацаздольнасьці па асобных прычынах.

## Хваробы інфэкцыйныя (у тым ліку і сухоты органаў дыханьня).

Даная група захворараньняў у нашым матэрыяле не падзяляецца на асобныя формы хваробы (напрыклад, грып, тыфусы і г. д.). Асобна выдзелены толькі сухоты органаў дыханьня, распаўсюджаньне якіх мы разгледзім ніжэй.

Інфэкцыйныя хваробы сярод мужчын стаяць на першым месцы ў хэмічнай прамысловасьці (59,7 на 100 чалавек застрахаваных), на другім месцы—апрацоўка дрэва і мінэральных матэрыялаў (54,7). Сярод жанчын інфэкцыйныя хваробы займаюць першае месца ў прамысловасьці па апрацоўцы дрэва (68,5 на 100) і другое месца ў хэмічнай прамысловасьці (58,8). Найменшыя паказьнікі сярод мужчын дае графічная вытворчасьць (33,6), а сярод жанчын—апрацоўка мінэральных матэрыялаў (46,8).

Разгледзім цяпер захворанасьць на інфэкцыйныя хваробы сярод мужчын і жанчын па асобных прадпрыемствах прамысловасьці.

У хэмічнай прамысловасьці сярэднія паказьнікі для мужчын 59,7 і для жанчын 58,8. Пры разглядзе захворанасьці на інфэкцыйныя хваробы па асобных прадпрыемствах хэмічнай прамысловасьці мы бачым, што сярод мужчын інтэнсыўныя паказьнікі адхіляюцца ў бок павялічэньня на запалкавай ф-цы „Дняпро“ (82,5), а на фабрыцы „Чырвоны Хэмік“ зьніжаюцца да 31,7. Сярод жанчын найвышэйшая захворанасьць—на ф-цы „Чырвоны Хэмік“ (84,6) і найніжэйшая на запалкавай ф-цы „Дняпро“ (48,1). Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку інфэкцыйнага захвораньня па ўсёй хэмічнай прамысловасьці для мужчын 9,8, а для жанчын 6,9 дня.

Хістаньні даюць для мужчын ф-ка „Дняпро“—11,4 і ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“ 5,5, а для жанчын ф-ка „Чырвоны Хэмік“ 16,2, „Дняпро“—8,0 і ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“—4,1 дня.

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэднія паказьнікі захворанасьці для абодвага роду 56,4. Найвышэйшая захворанасьць сярод асоб абодвага роду на цьвікова-калодачнай фабрыцы „Праца“ 115,2, фанернай ф-цы „Чырвоны Кастрычнік“ 91,1, лесазаводзе № 6 82,4 і лесазаводзе „Комінтэрн“ 72,1; найніжэйшую захворанасьць даюць лесазаводы „Соцыялізм“—21,9 і № 1—23,3.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку інфэкцыйнага захвораньня па ўсёй прамысловасьці 6,8 дня, па асобных прадпрыемствах хістаньне ад 13,6 да 3,7 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдні паказьнік захворанасьці для мужчын 54,7, для жанчын 46,8. На шкляных гутах „Праца“, „Пролетары“, „Кастрычнік“, „Ільліч“—70,0, а на заводзе „Домбаль“—25,8 і „Профінтэрн“—2,36 выпадкаў захворанасьці на 100 застрахаваных. Сярод жанчын найвышэйшую захворанасьць даюць шкляныя гуты: „Пролетары“—82,5, „Ільліч“—76,9 і цагельня Комгасу—83,3. Найніжэйшая захворанасьць на шкляных гутах „Кастрычнік“, „Ноўкі“ і „Домбаль“—ад 34,5 да 31,5.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку інфэкцыйнага захвораньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 6,3, а для жанчын 5,7 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні для мужчын ад 9,3 да 2,4, а для жанчын ад 9,4 да 2,9 дня.

У вытворчасьці паперы і папяровых вырабаў сярэдні інтэнсыўны паказьнік захворанасьці на інфэкцыйныя захвораньні для мужчын 41,9 і для жанчын 45,0. На прадпрыемствах гэтай прамысловасьці сярод мужчын найвышэйшая захворанасьць наглядалася на кардоннай ф-цы „Сталіна“—69,1, паперні „Профінтэрн“—56,9 і на шпалерні „Вароўскага“—43,0. Сярод жанчын на гэтых-жа прадпрыемствах, на шпалерні „Вароўскага“ паказьнікі 73,9, на кардоннай ф-цы „Сталіна“ 59,4; на астатніх-жа прадпрыемствах як сярод мужчын, так і сярод жанчын захворанасьць ніжэй сярэдніх паказьнікаў.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку інфэкцыйнага захвораньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 7,9 і для жанчын 8,6 дзён. Адхіленьні ад сярэдняй доўгачаснасьці захвораньня па асобных прадпрыемствах гэтай прамысловасьці для мужчын 9,7—4,9 і для жанчын 10,4—5,3 дня.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць для асоб абодвага роду 40,5. Па прадпрыемствах найвышэйшая захворанасьць на цьвіковым заводзе „Інтэрнацыянал“—63,2 і на гісэрні „Энэргія“—49,8, найніжэйшая-ж на зав. „Чырвоны Кастрычнік“—17,9. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па гэтай прамысловасьці 8,6 дня, па асобных-жа прадпрыемствах сярэдняя доўгачаснасьць хістаецца ад 10,2 да 5,9 дня.

Па харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць для мужчын 42,1 і для жанчын 49,0. На дражджоўнях „Пролетары“, „Варшавянка“, „Чырвоная Зорка“ захворанасьць на інфэкцыйныя хваробы ў жанчын вышэйшая, чым у мужчын. У мужчын лічбы хістаюцца ад 59,0 да 79,0, толькі на дражджоўні № 52 паказьнікі для мужчын 9,8, а для жанчын 33,3, а на дражджоўні „Леніна“ для мужчын 33,0,

а для жанчын 5,9. На бровары „Беларусь“ для жанчын 85,0, а для мужчын 36,2, на заводзе „Бэбеля“ для жанчын 11,8, а для мужчын 24,5 на 100 застрахаваных. Асабліва зварачае на сябе ўвагу бойня, дзе сярод жанчын захворанасьць на 100 застрахаваных дасягае лічбы 200,0, а сярод мужчын 35,2. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захворaньня па ўсёй гэтай прамысловасьці ў мужчын 6,8 і ў жанчын 6,3 дня.

Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца—у мужчын 18,5—2,4 і ў жанчын 10,2—3,2 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярэдняя захворанасьць па ўсёй прамысловасьці для асоб абодвага роду 51,8. Найвышэйшая захворанасьць наглядалася на шчацiннай ф-цы № 11—110,1 і ў працкол. абутнікаў 95,1. У астатніх прадпрыемствах захворанасьць ніжэй сярэдняй.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захворaньня па ўсёй гэтай прамысловасьці 8,1 дня, па асобных-жа прадпрыемствах яна хістаецца ад 14,5 да 2,8 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў найвышэйшая захворанасьць сярод мужчын наглядаецца ўвяровачнікаў і лямцоўшчыкаў—98,0; у Меншвэі сярод муж. 71,6 і сярод жанчын 98,9.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захворaньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 8,1 і для жанчын 6,9 дня.

Па асобных-жа прадпрыемствах лічбы хістаюцца для мужчын ад 13,4 (Вітшвэй) да 6,6 (Меншвэй) і для жанчын ад 7,2 (Вітшвэй) да 6,2 (Меншвэй). Асобна трэба адзначыць працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў, дзе сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захворанасьці для мужчын 4,3 і для жанчын 29,5 дня.

У паліграфічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 33,6 і сярод жанчын 50,3 на 100 застрахаваных.

У 1-ай дзярждрукарні сярод мужчын захворанасьць даходзіць да 43,7 і сярод жанчын да 62,2; у друкарні „Комінтэрн“ сярод мужчын 9,8 і сярод жанчын 28,6. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захворaньня ў гэтай вытворчасьці ў мужчын 8,4 і ў жанчын 7,2 дзён, у друкарні-ж „Комінтэрн“ даходзіць да 20,5 дня. У астатніх-жа асобных прадпрыемствах наглядаюцца хістаньні ад 12,3 да 3 дзён. Сярод жанчын таксама ў друкарні „Комінтэрн“ высокая доўгачаснасьць аднаго выпадку—19,9 дня, на астатніх-жа прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 10,6 да 3,1 дня.

Адзначым асобна прадпрыемствы, дзе наглядалася высокая захворанасьць на інфэкцыйныя захворaньні.

Сярод асоб абодвага роду: шчацінная ф-ка № 11, працколектыў абутнікаў, цьвікова-калодачная ф-ка „Праца“, фанерная ф-ка „Чырвоны Кастрычнік“, лесазавод № 6, лесазавод „Комінтэрн“. Меншвэй, дражджоўні—„Пролетары“, „Варшавянка“ і „Чырвоная Зорка“, шкляныя гуты „Пролетары“ ды „Ільліч“.

Сярод мужчын: шкляныя гуты „Праца“ і „Кастрычнік“, працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў, запалкавая ф-ка „Дняпро“ і кардонная ф-ка „Сталіна“.

Сярод жанчын: ф-ка „Чырвоны Хэмік“, цагельня Комгасу, шпалерня „Вароўскага“, бровар „Беларусь“ і бойня.

## Сухоты органаў дыханьня.

Сярэдняя захворанасьць сярод мужчын—9,7, сярод жанчын—10,9.

З разглядаемых галін прамысловасьці найвышэйшыя паказьнікі на 100 застрахаваных сярод мужчын дае хэмічная прамысловасьць—15,5, далей ідзе апрацоўка валакністых матэрыялаў—13,7 і дрэваапрацоўчая—10,3. У астатніх галінах прамысловасьці меліся невялікія хістаньні ў бок зьніжэньня—да 3,7 выпадкаў у рабочых электрастанцый.

Сярод жанчын сухоты органаў дыханьня даюць найвялікшую захворанасьць у прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў—18,8 і ў работніц электрастанцый—14,3. Па астатніх-жа групах вытворчасьці захворанасьць ніжэй сярэдняй для жанчын з найменшай—у апрацоўцы мінэральных матэрыялаў—4,5.

Якая-ж захворанасьць на сухоты органаў дыханьня па асобных прадпрыемствах па кожнай прамысловасьці?

Для тэкстыльнай і кравецкай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 13,7, а сярод жанчын 18,8. Па асобных-жа прадпрыемствах сярод мужчын захворанасьць дала найвялікшыя лічбы: ільнапрадзільня „Дзьвіна"—24,6 і Якаўлеўская суконная ф-ка—10,5; таксама і сярод жанчын гэтыя ф-кі далі найвялікшыя паказьнікі захворанасьці: на ільнапрадзільні „Дзьвіна"—33,4 і на Якаўлеўскай суконнай ф-цы—18,5.

Па астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца: сярод мужчын 11,6—16,5, а сярод жанчын былі ніжэй сярэдняй і даходзілі да 2,3 выпадкаў.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвараньня ў мужчын 14,5 і ў жанчын 10,2 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць захвараньня ў мужчын была: Вітшвэй—23,6, Дняпроўская мануфактура—20,1, ільнапрадзільня „Карла Маркса"—17,2 і Меншвэй—16,7 дня, сярод жанчын на гэтых жа прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 16,5 да 14,7 дня.

Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць захвараньня сярэдняя, і толькі ў працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў у мужчын і ў жанчын яна была каля 8 дзён.

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярэдняя захворанасьць на сухоты органаў дыханьня сярод асоб абодвага роду 11,0. Найвялікшая колькасьць выпадкаў наглядалася на мэханічнай абутковай ф-цы—27,4, у працколектывах абутнікаў—21,6 і на шчацінная ф-цы „Кастрычнік"—13,3.

Па астатніх прадпрыемствах лічбы былі ніжэй сярэдняй з найменшай захворанасьцю на гарбарнях „Бальшавік"—5,8 і „Пролетарскі Шлях"—2,4.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвараньня для ўсяе прамысловасьці 19,9 дня. Найвялікшая доўгачаснасьць наглядалася на гарбарні „Пролетарскі Шлях"—59,3 дня, на шавецкай ф-цы „Праца"—43,7 дня, на шчацінная ф-цы „Кастрычнік"—30,3 дня і на абутковых ф-ках ВСНГ і „Самаход"—каля 21 дня. У астатніх-жа прадпрыемствах яна была ніжэй сярэдняй з найменшай доўгачаснасьцю на шчацінная ф-цы (Віцебск).

На прадпрыемствах вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі паказьнікі даюць нязначныя адхіленьні ад сярэдняй па ўсёй вытворчасьці.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня для Менскай электрастанцыі 13,2 дня і Гомельскай 38,7 дня.

Па мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 40,5. Па асобных прадпрыемствах найвышэйшыя паказьнікі захворанасьці наглядаюцца на цьвікова-шрубным заводзе „Інтэрнацыянал“—63,2, гісэрні „Энэргія“—49,8, на заводзе сельскагаспадарчых машын Мэтпрому—44,1, на мэхан.-сьлясарным зав. „Усход“—44,7 і „Бурбіса“—43,5. У астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў ніжэй сярэдняй і даходзіць да 17,9 на драцяным заводзе „Чырвоны Кастрычнік“. Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсёй прамысловасьці 20,7 дня.

Па вышэйапісаных прадпрыемствах доўгачаснасьць аднаго захвораньня ад 29,8 да 25,2 дня. У астатніх прадпрыемствах ёсьць нязначныя хістаньні ад сярэдняй да найменшай доўгачаснасьці—15,9 дзён у рабочых гісэрні „Мэталь“.

Апрацоўка мінэральных матэрыялаў. Па захворанасьці на сухоты органаў дыханьня гэта група прадпрыемстваў стаіць ніжэй у параўнаньні з іншымі галінамі прамысловасьці.

Сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 7,1 і сярод жанчын 4,5. Найвышэйшая захворанасьць наглядаецца на шкляных гутах „Праца“. „Пролетары“ і „Кастрычнік“—ад 11,3 да 10,4 і на заводзе „Комінтэрн“—8,5.

Па астатніх прадпрыемствах сярод мужчын паказьнікі ніжэй сярэдняга і даходзяць да 1,8 на шкляной гуце „Профінтэрн“ і цагельні Комгасу.

Сярод жанчын найвышэйшыя паказьнікі на шкляной гуце „Ільліч“—23,1 і „Комінтэрн“—9,6 і на цагельні Комгасу 5,3. Па астатніх прадпрыемствах жанчыны даюць лічбы ніжэй сярэдніх з найменшымі паказьнікамі 1,7 на кахельным заводзе „Пролетары“

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня для мужчын 19,5 і для жанчын 19,9 дня.

Па прадпрыемствах доўгачаснасьць аднаго захвораньня сярод мужчын хістаецца ад 26,7 (шкляная гута „Ноўкі“) да 25,1—24,3 дня (шкляныя гуты „Домбаль“ і „Профінтэрн“).

Па астатніх прадпрыемствах нязначныя хістаньні, якія даходзяць да 9,4 дня доўгачаснасьці захвораньня на шкляной гуце „Пролетары“.

Жанчыны даюць найбольшую доўгачаснасьць на шкляных гутах „Пролетары“—46,1, „Праца“—31,6, „Ільліч“—24,6 дня.

Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй і даходзіць да 2 дзён на цагельні Белдзяржбуду.

Па дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду—9,7.

Найвышэйшая захворанасьць па прадпрыемствах на фанерных ф-ках „Чырвоны Кастрычнік“—22,9 і „Зьвязда“ 16,5, вышэй сярэдняй паказьнікі захворанасьці на лесазаводзе №7—12,9 і Томскага—11,3.

Па астатніх прадпрыемствах лічбы ніжэй сярэдніх і даходзяць да 1,1 на цьвіковай ф-цы „Праца“.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня 16,9 дня, прычым наглядаюцца значныя хістаньні: на цьвікова-калодачнай ф-цы „Праца“ 34,5 дня, на лесазаводзе „Колектыўная Праца“ 33,6 дня, на лесазаводах „Соцыялізм“ № 1—29,3 і 20,4 дня, на фанернай ф-цы „Томскага“ 25,4 дня. Па астатніх прадпрыемствах яна ніжэй сярэдняй і даходзіць да 11,1 дня (лесазавод № 7).

Па прадпрыемствах графічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 5,4 і сярод жанчын 9,8.

Па асобных прадпрыемствах сярод мужчын найвышэйшы паказьнік захворанасьці дае „Палесдрук“—7,9 і 1-ая дзярждрукарня—7,6. Па астатніх прадпрыемствах паказьнікі ніжэй сярэдняй і самыя нізкія ў 2-ой дзярждрукарні—1,0.

Паказьнікі захворанасьці сярод жанчын найвышэйшыя ў друкарні „Комінтэрн“—21,4 і ў 1-ай дзярждрукарні—17,0. Па астатніх прадпрыемствах паказьнікі ніжэй сярэдняй і даходзяць да 3,0 у 2-ой дзярждрукарні.

Доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня сярод мужчын 28,5 дня і сярод жанчын 18,4 дня.

Па асобных прадпрыемствах сярод мужчын толькі друкарня „Комінтэрн“ дае вялікую доўгачаснасьць—38 дзён і „Палесдрук“—27,8 дня. У астатніх-жа прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй і даходзяць да 1 дня ў 2-ой дзяржрдрукарні.

Сярод жанчын па доўгачаснасьці захвораньня першае месца займае „Палесдрук“—32,0 дня і друкарня „Комінтэрн“—24 дні. Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня ніжэй сярэдняй і найменшая ў 2-ой дзяржрдрукарні—5,1 дня.

Па харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 7,6 і сярод жанчын 5,6.

Па прадпрыемствах сярод мужчын найвышэйшыя паказьнікі захворанасьці на дражджоўнях: „Пролетары“—14,7, „Варшавянка“—13,8 і „Чырвоная Зорка“—13,1. Па астатніх прадпрыемствах паказьнікі ніжэй сярэдняй і даходзяць да 1,4 у бойні.

Сярод жанчын таксама найвышэйшыя паказьнікі на дражджоўнях: „Пролетары“ 22,6, „Варшавянка“—13,8 і „Чырвоная Зорка“—9,5. Па астатніх прадпрыемствах лічбы ніжэй сярэдняй і самы нізкі паказьнік на ф-цы хлебных і кондытэрскіх вырабаў—3,1.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для мужчын 16,1 дня і для жанчын 20 дзён.

Па асобных прадпрыемствах мужчыны даюць найвялікшую доўгачаснасьць на дражджоўнях: № 52—66,6 дня і „Леніна“—22,3 дня. Па астатніх прадпрыемствах у мужчын доўгачаснасьць ад 19 да 8,5 дня.

Сярод жанчын найвялікшая доўгачаснасьць на ф-цы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“—34,2 дня і на дражджоўні „Варшавянка“ 30,7 дня. Па астатніх прадпрыемствах у жанчын доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй і даходзіць да 7,7 дня на дражджоўні „Чырвоная Зорка“.

Па вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя захворанасьць для мужчын—7,4 і для жанчын 5,6 на 100 застрахаваных.

Больш высокі паказьнік захворанасьці сярод мужчын на папернях: „Профінтэрн“—21,6, „Спартак“—11,4 і шпалерні „Вароўскага“—10,2. Па астатніх прадпрыемствах невялікія адхіленьні ад сярэдняй з найменшай лічбай (2,0) на паперні „Зьвязда“.

Жанчыны даюць найбольшую колькасьць выпадкаў захвораньняў толькі на паперні „Профінтэрн"—19,4, па астатніх-жа прадпрыемствах паказьнікі ніжэй сярэдняй з мінімумам 3,3.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня для ўсіх прадпрыемстваў гэтай прамысловасьці ў мужчын 22,1 і ў жанчын 29,6 дня.

Па прадпрыемствах найбольшая доўгачаснасьць сярод мужчын і сярод жанчын на паперні „Зьвязда" (у мужчын 23,3 і ў жанчын 40,1 дня). Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня ніжэй сярэдняй і для мужчын і для жанчын, толькі на паперні „Гэрой Працы" мужчыны маюць найменшую доўгачаснасьць у параўнаньні з іншымі прадпрыемствамі—3,4 дня, а жанчыны найбольшую—40,9 дня. Жанчыны маюць найменшую доўгачаснасьць на кардоннай фабрыцы „Сталіна".

Адзначым асобна прадпрыемствы, дзе наглядалася высокая захворанасьць на сухоты.

Сярод мужчын—у хэмічнай прамысловасьці, апрацоўцы валакністых матэрыялаў і дрэва і сярод жанчын—апрацоўка валакністых матэрыялаў і ў вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі.

З асобных прадпрыемстваў па высокай захворанасьці неабходна адзначыць ільнапрадзільню „Дзьвіна" (мужчыны і жанчыны), працколектыў абутнікаў (абодвага роду), цьвікова-шрубны завод „Інтэрнацыянал", гісэрню „Энэргія", завод сельскагаспадарчых машын Мэтпрому, мэхан.-сьлясарны завод „Усход" і „Бурбіса", сярод жанчын шкляная гута „Ільліч", фанерныя ф-кі „Чырвоны Кастрычнік" і „Зьвязда", друкарня „Комінтэрн" і дражджоўні „Пролетары" і Варшавянка".

## Хваробы органаў крывязвароту

Па ўсіх групах вытворчасьці сярэдняя захворанасьць органаў крывязвароту сярод мужчын 5,0 і сярод жанчын 4,8 на 100 застрахаваных. Найвялікшыя паказьнікі захворанасьці сярод мужчын (6,0—6,8) дае апрацоўка продуктаў жывёлы, дрэва і хэмічная вытворчасьць, а сярод жанчын—хэмічная вытворчасьць і вытворчасьць і перадача электраэнэргіі. Па астатніх прадпрыемствах лічбы ніжэй сярэдняй для асоб абодвага роду і самыя нізкія дае графічная вытворчасьць для мужчын і жанчын—2,4.

Разгледзім усе групы вытворчасьці па асобных прадпрыемствах.

Сярод рабочых абодвага роду ў прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёлы захворанасьць 6,7. Самыя высокія паказьнікі на шчацінных ф-ках: „Чырвоны Кастрычнік"—33,3 і Віцебскай—18,2. У астатніх прадпрыемствах лічбы маюць нязначныя хістаньні да 3,4 выпадкаў на абутковай ф-цы „Самаход". Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах 9,8 дзён і найвышэйшая на шавецкай ф-цы „Праца"—21,1 дня. Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць мае нязначныя хістаньні, даходзячы да 2,5 дня на абутковай ф-цы ВСНГ.

Па дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць для асоб абодвага роду 6,1. Самыя большыя паказьнікі захворанасьці 10,2—10,3 на лесазаводах „Томскага" і № 6. На астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца і даходзяць да 0,9 на цьвікова-калодачной ф-цы „Рабочы".

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 8,6 дня і найвышэйшая на цьвікова-калодачнай ф-цы „Рабочы"—15,8 дня. Па астатніх прадпрыемствах яна дае нязначныя хістаньні і даходзіць да 2 дзён.

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 3,5 (Менск, Гомель).

Доўгачаснасьць захвораньня па Менскай электрастанцыі 6,2 дня і па Гомельскай—12,9 дня.

Па графічнай вытворчасьці сярэдні паказьнік захворанасьці сярод мужчын і жанчын 2,4.

Найвышэйшыя лічбы сярод мужчын у 2-ой дзяржрукарні—5,2 і працколектыве—5,1, а сярод жанчын у друкарні „Палесдрук" 4,0.

У астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца да 1,2 сярод мужчын у друкарнях „Палесдрук" і „Комінтэрн", а сярод жанчын—1,5 у друкарні працколектыву.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын—7,3, сярод жанчын—15 дзён.

Найвялікшая доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 12,6 дня у 1-ай дзяржрукарні і 11,7 дня у 2-ой дзяржрукарні, а сярод жанчын у друкарні працколектыву—30,4 дня.

У астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй: для мужчын—2,9 дня (друкарня „Палесдрук" і для жанчын—9,9 дня (1-ая дзяржрукарня).

У хэмічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 6,0, а сярод жанчын 7,9.

Па асобных прадпрыемствах гэтай прамысловасьці лічбы маюць нязначныя адхіленьні: да 4,5 сярод мужчын і 6,7 сярод жанчын на запалкавай ф-цы „Вэзуві". Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 9,9 дзён для мужчын і 6,9 для жанчын. Найвялікшая доўгачаснасьць 12,5 дня для мужчын на запалкавай ф-цы „Вэзуві" і для жанчын 9,8 дня на гэтай-жа ф-цы. Па астатніх прадпрыемствах лічбы нязначна хістаюцца да 6,5 дня на ф-цы „Чырвоны Хэмік" сярод мужчын і 3,3 на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна" сярод жанчын.

На прадпрыемствах па апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 4,3 і сярод жанчын 3,8. Найбольшыя паказьнікі сярод мужчын—7,1—7,0 у працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў і на Дняпроўскай мануфактуры, а сярод жанчын—Меншвэй (7,5) і Дняпр. мануфакт. (7,2). На астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 0,5 на ільнапрадзільні „Карла Маркса" сярод мужчын і сярод жанчын 1,7 на ф-цы „Дзьвіна".

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для мужчын 8,4 і для жанчын 6,9 дня. Найвялікшая доўгачаснасьць 14,3 дня на фабрыцы „Дзьвіна" сярод мужчын і сярод жанчын 13 дзён на Якаўлеўскай суконнай фабрыцы і 11,4 дня на ільнапрадзільні „Карла Маркса". Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй і найменшая на Якаўлеўскай суконнай ф-цы сярод мужчын—4 дні і сярод жанчын—4,8 дня на Дняпроўскай мануфактуры.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці на ўсіх прадпрыемствах сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў для асоб абодвага роду 4,7. Найбольшая колькасьць выпадкаў (8,5) на цьвікова-шрубным заводзе „Інтэрнацыянал" і ў астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 1,3 на гісэрні „Мэталь". Сярэдняя доўгачаснасьць захворaньня 10 дзён і найбольшая 13 дзён на гісэрні „Энэргія". У астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца да 6 дзён (драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік").

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 4,1 і сярод жанчын 3,6. Найбольшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын на паперні „Профінтэрн"—7,2, а сярод жанчын на шпалерні Вароўскага—8,7. Па астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 1,1 на паперні „Зьвязда" сярод мужчын, а сярод жанчын да 1,4 на кардоннай ф-цы „Сталіна".

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для мужчын 14 дзён, для жанчын 12,3 дня. Найвялікшая доўгачаснасьць сярод мужчын на паперні „Гэрой працы"—21,3 дня, а сярод жанчын на шпалерні „Вароўскага". Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня мае нязначныя хістаньні да 5,6 дня для мужчын на паперні „Зьвязда", а для жанчын 2 дні на паперні „Профінтэрн".

У прамысловасьці па апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод мужчын 4,2 і сярод жанчын 4,1.

Найвялікшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын на махорачнай ф-цы—10,2 і на ф-цы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет"—9,4, а сярод жанчын на дражджоўні № 52—7,4. Па астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў даходзіць да 1,4 для мужчын і жанчын у бойні.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 10,8 дня, а сярод жанчын 4,7 дня. Найвялікшая доўгачаснасьць захвораньня для мужчын (бойня) 56,3 дня і на дражджоўні „Варшавянка" 19,8 дня, а для жанчын 10 дзён на дражджоўні „Варшавянка".

Па астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 1 дня сярод мужчын на дражджоўні № 52, а сярод жанчын на дражджоўнях „Чырвоная Зорка", „№ 52" і „Леніна".

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя захворанасьць па ўсіх прадпрыемствах сярод мужчын 4,9 і сярод жанчын 3,3.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца для мужчын ад 18,9 (цагельні Комгасу) да 2,1 (шкляная гута „Домбаля"), а сярод жанчын ад 9,5 (цагельня Белдзяржбуду) да 1,5 (шкляная гута „Домбаля"). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для ўсіх прадпрыемстваў сярод мужчын 8,9 дня, а сярод жанчын 10,4 дня.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: сярод мужчын ад 11,4 дня (шкляная гута „Ноўкі") да 2,8 дня (цагельня Комгасу), а сярод жанчын ад 11,9 дня на шклянай гуце „Комінтэрн" да 2 дзён на шклянай гуце „Ноўкі".

Неабходна адзначыць асобныя галіны прамысловасьці і прадпрыемствы, на якіх наглядалася больш высокая захворанасьць органаў крывязвароту: сярод жанчын у хэмічнай прамысловасьці і ў вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі. З прадпрыемстваў выдзяляюцца шчацінныя фабрыкі „Чырвоны Кастрычнік" і Віцебская.

## Агульныя захвораньні.

Сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньня па ўсіх галінах прамысловасьці сярод мужчын 5,7 і сярод жанчын 8,0. Па асобных галінах прамысловасьці лічбы хістаюцца ад 7,5 да 2,9 сярод мужчын і ад 14,3 да 3,1 сярод жанчын. Унутры кожнай прамысловасьці паказьнік. захворанасьці значна хістаюцца як сярод мужчын, так і сярод жанчын-Так, у графічнай вытворчасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захворанасьці сярод мужчын 4,3 і сярод жанчын 10,4. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ў мужчын ад 10,3 (друкарня працколектыву) да 1,9 („Палесдрук“), а ў жанчын ад 17,6 (друкарня працколектыву) да 4,8 („Палесдрук“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 10,8 дня, а сярод жанчын 9,4 дня Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць ад 12,4 да 11,5 у друкарні „Комінтэрн“ і 1-ай дзярждрукарні (Менск) да 7 дзён („Палесдрук“) у мужчын, а сярод жанчын ад 14—12 дзён у друкарні „Комінтэрн“ і 1-ай дзяржрукарні да 1,9 дня („Палесдрук“).

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёлы сярэдні паказьнік захворанасьці сярод асоб абодвага роду 7,4.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 14,1 (Віцебская шчотачная ф-ка) да 2,4 (шавецкая ф-ка „Праца“). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для ўсіх прадпрыемстваў 10,4 дня. Найвялікшая доўгачаснасьць 14,5 дня на гарбарні „Пролетарскі Шлях“, мэханічнай абутковай ф-цы і шчацiннай ф-цы (Гомель), у астатніх прадпрыемствах яна хістаецца да 3,5 дня, на шавецкай ф цы „Праца“.

У прамысловасьці па апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 4,4 і сярод жанчын 8,4. У паасобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 8,3 (каўбасны Белмясгандаль і дражджоўня „Варшавянка“) да 1,2 (дражджоўня № 52) сярод мужчын і ад 17,2 (дражджоўня „Варшавянка“) да 3,5 (дражджоўня „Леніна“) сярод жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах у мужчын 9,2 дня, а ў жанчын 10,3.

У паасобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца сярод мужчын ад 15,2—2,8 дня (дражджоўня № 52 і каўбасная Балмясгандлю), а сярод жанчын ад 15,4 (дражджоўня „Леніна“) да 1,2 (дражджоўня „Варшавянка“).

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах гэтай прамысловасьці сярод мужчын 52 і сярод жанчын 9,1.

Па асобных прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца сярод мужчын ад 9,2 (паперня „Пролетары“) да 1,6 (шпалерня „Вароўскага“) і сярод жанчын ад 13,0 (шпалерня „Вароўскага“) да 4,3 (кардонная ф-ка „Сталіна“). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 13,5 дня ў мужчын і 13,3 дня ў жанчын. У асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца ў мужчын ад 19,3 дня (паперня „Зьвязда“) да 1,9 дня (шпалерня „Вароўскага“), а ў жанчын ад 16,2 дня (паперня „Гэрой Працы“) да 3 дзён (кардонная ф-ка „Сталіна“).

Па дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў сярод асоб абодвага роду 7,6. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 15,4 (фанерная ф-ка „Томскага“) да 3,2 (лесапільны завод „Томскага“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 9,6 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 16,6 дня (лесапільны завод „Томскага“) да 3,3 дзён на цьвікова-калодачнай ф-цы „Праца“.

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод мужчын 4,5, а ў жанчын 5,1.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ў мужчын ад 9,2 у працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў да 1,4 на ільнапрадзільні „Карла Маркса“.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 10,4 дня і ў жанчын 8,1 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 14,4 на ільнапрадзільні „Дзьвіна“ да 6,4 дня ў працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў сярод мужчын і ў жанчын ад 12,4 (Вітшвэй) да 4,9 (ільнапрадзільня „Карла Маркса“).

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 7,7 і сярод жанчын 11,1.

Па прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 14,6 (шкляная гута „Ільліч“) да 1,3 (шкляная гута „Профінтэрн“) сярод мужчын і ад 21,2 (шкляная гута „Комінтэрн“) да 3,0 (шкляная гута „Праца“) сярод жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 9,3 дня, у жанчын 8,5 дня. Па прадпрыемствах ёсьць хістаньні ад 15,9 дня на шкляной гуце „Кастрычнік“ да 4,9 на шклянай гуце „Ільліч“ сярод мужчын і сярод жанчын ад 21,3 дня (шкляная гута „Ноўкі“) да 2,9 дня на цагельні „Комгасу“.

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі на Менскай электрастанцыі сярэдняя захворанасьць 4,7 сярод асоб абодвага роду. Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 9,3 дня.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 4,1. Па прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 7,4 на гісэрні „Энэргія“ да 1,9 на гісэрні „Мэталь“. Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 12,8 дня. Хістаньні па прадпрыемствах ад 37,9 дня (цьвікова-шрубны завод („Інтэрнацыянал“) да 8,8 дня (цьвікова-драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік“).

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 5,3, сярод жанчын 10,1.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ў мужчын ад 11,7 (фабрыка „Чырвоны Хэмік“) да 2,3 (запалкавая фабрыка „Вэзуві“), сярод жанчын ад 19,0 на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“ да 50 на запалкавай ф-цы „Дняпро“.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 8,9 і ў жанчын 6,3 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 15,2 дня (запалкавая фабрыка „Вэзуві“) да 7 дзён (запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“) сярод мужчын і сярод жанчын ад 15,9 дня на ф-цы „Чырвоны Хэмік“ да 3,6 дня на запалкавай ф-цы „Бярэзіна“.

Разглядзеўшы агульныя захвораньні па асобных галінах прамысловасьці, неабходна адзначыць, што паказьнікі захворанасьці сярод жанчын больш высокія.

Прадпрыемствы з больш высокай захворанасьцю наступныя: друкарня працколектыву (жанчыны), драдждоўня „Варшавянка“ (жанчыны) і запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“ (жанчыны).

## Хваробы органаў зроку.

Сярэдняя колькасьць выпадкаў часовай страты працаздольнасьці з прычыны захвораньняў органаў зроку па ўсіх галінах прамысловасьці была сярод мужчын 3,2 і сярод жанчын 2,9. У паасобных галінах прамысловасьці хістаньні былі нязначныя—ад 4,8 (мэталяапрацоўчая прамысловасьць) да 1,9 (графічная вытворчасьць) сярод мужчын і ад 5,2 (мэталяапрацоўчая прамысловасьць) да 0,9 (графічная вытворчасьць) сярод жанчын. Як мы бачым, у мэталяапрацоўчай прамысловасьці найбольшая колькасьць выпадкаў, а ў графічнай найменшая. Па асобных прадпрыемствах хістаньні наглядаюцца даволі значныя; так, у мэталяапроцоўчай прамысловасьці сярод асоб абодвага роду ва ўсіх прадпрыемствах паказьнік 4,9, а ў асобных прадпрыемствах гэтай прамысловасьці лічбы хістаюцца ад 10,7 (гісэрня „Мэталь“) да 2,9 (завод сельска гаспадарчых машын „Рухавік Рэволюцыі“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах мэталяапрацоўчай прамысловасьці 5,3 дня для асоб абодвага роду, а ў асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 16,1 дня (завод сельска-гаспадарчых машын „Бурбіса“) да 2,9 дня (гісэрня „Пролетары“).

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 3,7 і сярод жанчын 3,2. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 12,3 (Якаўлеўская суконная ф-ка) да 1,1 (панчошна-трыкатажная фабрыка) сярод мужчын і сярод жанчын ад 5,7 (Меншвэй) да 1,7 ільнапрадзільня „Карла Маркса“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 6,1 дня і ў жанчын 5,1 дня. Па асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 9,4 (Якаўлеўская суконная ф-ка і Меншвей) да 1 дня (панчошна-трыкатажная ф-ка) і ў жанчын ад 6,9 дня (ільнапрадзільня „Карла Маркса“) да 1,4 дня (Меншвэй).

У папяровай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў у мужчын была 3,5 у жанчын 3,1.

Па асобных прадпрыемствах паказьнікі хістаюцца ад 4,9 (паперня «Спартак») да 0,8 (шпалерня „Вароўскага“) у мужчын і ад 4,0 (паперня „Спартак“) да 1,1 (паперня „Завязда“) у жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 3,7, у жанчын 4,6 дня.

Па асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 4,1 дня паперня „Спартак“) да 0,6 (паперня „Профінтэрн“), а ў жанчын ад 5,2 дня (паперня „Спартак“) да 2,5 дня ( кардонная ф-ка «Сталіна»).

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдні паказьнік захворанасьці сярод мужчын 2,6, сярод жанчын 1,2.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ў мужчын ад 6,7 (шкляная гута „Ноўкі“) да 0,3 (шкляная гута „Комінтэрн“), а ў жанчын ад 2,4 (шкляная гута „Ноўкі“) да 0,5 (шкляная гута „Домбаля“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 3,3 дня, у жанчын 4,5 дня.

Па асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 4,2 дня (шкляная гута „Ноўкі“) да 1,5 дня (шкляная гута „Ільліч“), у жанчын ад 21,8 дня (кахельны завод „Пролетары“) да 1 дня (шкляныя гуты „Домбаля“ і „Комінтэрн“).

У харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя колькасьць захвораньняў сярод мужчын 2,0 і сярод жанчын 2,3.

Па асобных прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца ад 8,5 (махорачная фабрыка) да 0,6 (дражджоўня „Чырвоная Зорка") у мужчын і ў жанчын ад 5,9 (дражджоўня „Леніна") да 3,2 (дражджоўня „Пролетары").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын і жанчын 8,5 дня. Па асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 16,6 дня (дражджоўня „Чырвоная Зорка") да 1 дня (бойня) і ў жанчын ад 13,5 дня (махорачная ф-ка) да 2 дзён (дражджоўня „Чырвоная Зорка").

У графічнай вытворчасьці сярэдняя колькасьць захвораньняў сярод мужчын 1,9, у жанчын 0,9. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 3,8 (1-ая дзярждрукарня) да 0,6 („Палесдрук") сярод мужчын і ад 2,9 (друкарня працколектыву) да 1,1 (1-ая дзярждрукарня) сярод жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 3,8 дня, у жанчын 2,6 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 18,5 („Палесдрук") да 1 дня (друкарня працколектыву) у мужчын і ў жанчын ад 3,3 дня (1-ая дзярждрукарня) да 2,5 дня (друкарня працколектыву).

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 3,1. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 5,0 (лесазавод „Соцыялізм") да 1,0 (лесазавод № 7).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5,8 дня. Па асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 18,1 дня (цьвіковая ф-ка „Праца" да 1,2 дня (фанерная ф-ка „Чырвоны Кастрычнік").

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах сярод асоб абодвага роду 2,6, а ў асобных прадпрыемствах былі хістаньні ад 6,9 (працколектыў абутнікаў) да 1,0 (шавецкая майстэрня Гандальбуду).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5 дзён, найвышэйшая 10,3 дня на шчаціннай ф-цы „Кастрычнік".

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод мужчын 2,8, сярод жанчын 3,1.

У асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца—у мужчын ад 3,8 (запалкавая ф-ка „Вэзуві") да 0,9 (запалкава ф-ка „Чырвоная Бярэзіна"), у жанчын ад 15,4 (фабрыка „Чырвоны Хэмік") да 2,4 (запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 3,9 дня, у жанчын 6,1 дня. У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 4,4 дня (запалкавая ф-ка „Дняпро") да 1,9 (ф-ка „Чырвоны Хэмік") у мужчын, а ў жанчын ад 11 дзён (запалкавая ф-ка „Дняпро") да 1 дня (ф-ка „Чырвоны Хэмік").

Сярод рабочых электрастанцыі сярэдняя колькасьць выпадкаў захворанасьці ў мужчын і жанчын 2,9 (Менская) і 0,9 (Гомельская). Доўгачаснасьць захвораньня на Менскай станцыі 8,6 дня, на Гомельскай—23,5 дня.

Такім чынам мы бачым, што найвышэйшая захворанасьць сярод рабочых мэталяапрацоўчай прамысловасьці, а ў асобных прадпрыемствах выдзяляюцца: гісэрня „Мэталь", Якаўлеўская суконная ф-ка, шкляная гута „Ноўкі", Віцебская махорачная ф-ка, друкарня „Палесдрук" і ф-ка „Чырвоны Хэмік" (сярод жанчын).

## Хваробы органаў дыханьня.

Сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў на 100 застрахаваных у разгляданых групах вытворчасьці сярод мужчын 14,8, сярод жанчын 15,1.

Сярод мужчын найбольшая колькасьць выпадкаў наглядаецца ў хэмічнай прамысловасьці—22,3, потым па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў—21,7 і ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці—17,4. У астатніх-жа групах вытворчасьці лічбы нязначна хістаюцца ад сярэдняй з найменшай колькасьцю ў графічнай вытворчасьці—7,6. Сярод жанчын таксама, як і сярод мужчын, хэмічная прамысловасьць па колькасьці выпадкаў захвораньяў займае першае месца—20,1, другое—дрэваапрацоўчая прамысловасьць—17,5.

У астатніх прадпрыемствах нязначныя хістаньні ад сярэдняй з найменшай колькасьцю выпадкаў (7,1) у вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі.

У асобных прадпрыемствах кожнай прамысловасьці мы маем наступнае: колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах хэмічнай прамысловасьці сярод мужчын 22,3, сярод жанчын 21,2.

Найбольшую колькасьць выпадкаў захворанасьці з прадпрыемстваў гэтай прамысловасьці дае запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“—36,0 сярод мужчын, сярод жанчын ф ка „Чырвоны Хэмік“—46,2, запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“—29,1 і запалкавая ф-ка „Вэзуві“ 23,6. Найменшая колькасьць выпадкаў наглядалася сярод мужчын на ф-цы „Чырвоны Хэмік“—10,0, а сярод жанчын на запалкавай ф-цы „Дняпро“—4,7.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах гэтай прамысловасьці сярод мужчын 5,2 дня, сярод жанчын—6,2. Найбольшая доўгачаснасьць захвораньня на запалкавых ф-ках „Дняпро“—8,1 дня і „Вэзуві“—6,1 дня. Сярод жанчын найбольшая доўгачаснасьць таксама на запалкавых ф-ках „Дняпро“—4,6 дня, „Вэзуві“—6,1 дня і на ф-цы „Чырвоны Хэмік“. Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй 2,7 дня сярод мужчын і 2,9 дня сярод жанчын на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“.

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў сярод мужчын 21,7, сярод жанчын 16,1.

Па асобных прадпрыемствах найбольшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын на шкляных гутах: „Комінтэрн“—44,7, „Пролетары“—32,01, „Праца“—27,0 і на цагельнях Белдзяржбуду—27,1, Комгасу—24,8. Сярод жанчын найбольшая колькасьць выпадкаў наглядалася на шкляных гутах „Комінтэрн“—36,5 і „Пролетары“—28,2 і на цагельні Белдзяржбуду—23,8.

У астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў ніжэй сярэдніх лічбаў для асоб абодвага роду, з найменшай колькасьцю на шкляных гутах „Профінтэрн“—4,6 для мужчын і „Ноўкі“—6,8 для жанчын. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня для ўсіх прадпрыемстваў гэтай прамысловасьці каля 5 дзён сярод мужчын і 5,6 сярод жанчын. Найбольшая доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын на шкляных гутах „Праца“—8,7 і „Ноўкі“—7,6 дня, а сярод жанчын на шкляных гутах „Ільліч“—12 дзён, „Кастрычнік“—9,6 і „Праца“—9,2 дня.

Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй з найменшай на шклянай гуце „Комінтэрн“—2,6 дня сярод мужчын, а сярод жанчын—2,5 дня на цагельні Комгасу.

У харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах сярод мужчын 12,8 і сярод жанчын 15,2.

Па прадпрыемствах найбольшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын на дражджоўнях „Варшавянка“—25,7 і „Пролетары“—15,8, бойні—19,7, броварах „Бэбеля“—16,2 і „Беларусь“—14,8, а сярод жанчын вялізная колькасьць выпадкаў у бойні—500,0, далей на бровары „Беларусь“—42,9, дражджоўні „Пролетары“—32,3, „Леніна“—23,5 і на заводе „Чырвоная Зорка“—21,4.

Найменшую колькасьць выпадкаў дае каўбасная ф-ка Белмясгандлю—4,2 сярод мужчын і жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па асобных прадпрыемствах гэтай групы прамысловасьці ў мужчын 7,9 і ў жанчын 4 дні. Найбольшая доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 13,6 дня на 1-ым дзяржмлыне і бровары „Беларусь“ 12 дзён, а сярод жанчын на дражджоўні „Пролетары“ 8 дзён. У астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 3 дзён у мужчын (каўбасная ф-ка Белмясгандлю) і ў жанчын 1,5 дня (дражджоўня „Леніна“) і 1,6 дня ў рабочых бойні.

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў. сярэдняя колькасьць захвораньняў сярод мужчын 10,7, сярод жанчын 13.

Найбольшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын працколектыву вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў—37,8, Меншвэю—21,6 і Дняпроўскай мануфактуры—11,1; жанчыны таксама даюць найбольшую колькасьць выпадкаў працколектыву вяровачнікаў—65,6 і Меншвэю—22,7. У астатніх прадпрыемствах ёсьць нязначныя хістаньні ў мужчын і жанчын, з найменшай колькасьцю выпадкаў на Якаўлеўскай суконнай фабрыцы ў мужчын і жанчын—7,7.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня сярод мужчын 6,6 дня, а ў жанчын 5,5 дзён. Найбольшая доўгачаснасьць 12,2 дня для мужчын (панчошна-трыкатажная ф-ка) і для жанчын 8,3 дня (Вітшвэй). Па астатніх прадпрыемствах лічбы доўгачаснасьці хістаюцца да 4,6 дзён для мужчын (Меншвэй) і для жанчын 2 дні (Якаўлеўская суконная фабрыка).

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці па ўсіх прадпрыемствах сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў для асоб абодвага роду 17,4. Найвялікшая колькасьць выпадкаў на цьвікова-калодачнай ф-цы „Рабочы“—32,7, на пільнях № 6—29,4, „Комінтэрн“—25,1 і лесазаводзе № 7—18,3 і на фанернай ф-цы „Чырвоны Кастрычнік“—23,6. У астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў ніжэй сярэдняй з найменшай на цьвікова-калодачнай ф-цы „Праца“—5,4.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 4,9 дня, найвялікшая 13,5 дня на цьвікова-калодачнай ф-цы „Праца“. У астатніх прадпрыемствах нязначныя хістаньні з найменшай доўгачаснасьцю 2,3 дня ў рабочых лесазаводу „Комінтэрн“.

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 9,8, сярод жанчын 11,5.

Найвялікшы паказьнік сярод мужчын на паперні „Профінтэрн“—19,6, найменшы на паперні „Зьвязда“—5,4; сярод жанчын найвышэйшы

на шпалерні „Вароўскага“—30,4, а найменшы на паперні „Зьвязда“—2,2. У астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца для мужчын і жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 7,6 дня, сярод жанчын 7,1 дня. Найбольшая доўгачаснасьць сярод мужчын на кардоннай ф-цы „Сталіна“ 12 дзён, а сярод жанчын на паперні „Гэрой Працы“—9,1 дня.

Па астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 3,7 дня сярод мужчын (шпалерня „Вароўскага“) і сярод жанчын да 1 дня на паперні „Профінтэрн“.

У графічнай вытворчасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод мужчын 7,6, сярод жанчын 12,8. Найбольшая колькасьць выпадкаў сярод мужчын у друкарні працколектыву 20,5, а сярод жанчын у 1-ай дзярждрукарні 20,5 і ў друкарні працколектыву 17,6.

Па астатніх прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца да найменшай—3,9 („Палесдрук“) сярод мужчын і 3,5 у 2-ой дзяржддрукарні сярод жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня сярод мужчын 5 дзён, сярод жанчын 3,2 дня. Найбольшая доўгачаснасьць для мужчын 7 дзён („Палесдрук“) і 6,7 дня (2-ая дзяржддрукарня), а сярод жанчын 3,5 дня (2-ая дзяржддрукарня).

Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць ніжэй сярэдняй з найменшай для мужчын—2,4 дня (друкарня працколектыву) і для жанчын—2,5 дня („Палесдрук“).

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі ёсьць толькі дзьве электрастанцыі, на якіх колькасьць выпадкаў 10,5 (Менск) і 9,7 (Гомель). Доўгачаснасьць захвораньня 5,4 дня (Менская станцыя) і 6,7 дня (Гомельская).

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёлы сярэдняя колькасьць захвораньняў для асоб абодвага роду 14,2. Найвышэйшы паказьнік на шчацінной ф-цы (Віцебск) 29,3 і каля 20 выпадкаў у працколектыве абутнікаў, шавецкай фабрыцы Гандальбуду і на шчацінной фабрыцы Гомеля. У астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 1,5 выпадкаў на фабрыцы абутнікаў ВСНГ.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5,5 дня. Найвышэйшыя на ф-цы абутнікаў ВСНГ—49,2 дня. У астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 2,7 дня (шчацінная ф-ка Віцебску).

У прамысловасьці па апрацоўцы мэталю сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод асоб абодвага роду 11,5, найвышэйшая 19,3 у рабочых мэханічна-сьлясарнага з-ду „Усход“. У астатніх прадпрыемствах лічбы хістаюцца да 8,1 выпадкаў на заводзе сельскагаспадарчых машын „Бурбіса“.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньняў 7,2 дня. Найвялікшая—11,1 дня на гісэрні „Пролетары“. Па астатніх прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца да 3,1 дня на гісэрні „Мэталь“.

Неабходна адзначыць найвышэйшыя паказьнікі захворанасьці органаў дыханьня на асобных прадпрыемствах—запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“ сярод асоб абодвага роду, фабрыка „Чырвоны Хэмік“ (жанчын), шкляныя гуты „Комінтэрн“, „Пролетары“ (сярод мужчын і жанчын), працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў (мужчын і жанчын), Віцебская шчацінная ф-ка і цьвікова-калодачная фабрыка „Рабочы“ (мужчын і жанчын).

## Нэрвовыя захвораньні.

У разгляданых галінах прамысловасьці нэрвовыя захвораньні па сваёй адноснай вазе маюць невялікія паказьнікі. Так, сярэдняя колькасьць выпадкаў сярод мужчын ва ўсіх галінах прамысловасьці на 100 была 7,2, сярод жанчын—9,9.

У асобных галінах прамысловасьці колькасьць выпадкаў хістаецца сярод мужчын ад 10,2 (хэмічная вытворчасьць) да 4,5 (вытворчасьць і перадача электраэнэргіі), а сярод жанчын ад 15,7 (дрэваапрацоўчы завод) да 3,8 (мэталяапрацоўчы). У астатніх прадпрыемствах ёсьць значныя хістаньні. У графічнай вытворчасьці сярод мужчын колькасьць выпадкаў хістаецца ад 14,6 (2-ая дзярждрукарня) да 2,5 („Палесдрук"). Сярэдні паказьнік захворанасьці сярод мужчын у графічнай вытворчасьці 8,4, а сярод жанчын ён значна вышэйшы—ад 26,5 (друкарня працколектыву) да 4,0 („Палесдрук") пры сярэднім—11,9.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па прадпрыемствах гэтай галіны прамысловасьці для мужчын 8,3 дня, а для жанчын 7,1 дня.

У асобных прадпрыемствах наглядаецца даволі вялікая доўгачаснасьць, асабліва сярод мужчын друкарні „Палесдрук"—227,3 дня і сярод жанчын 38,9 дня. У астатніх прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 9,1 (2-ая дзярждрукарня) да 1,4 дня (друкарня працколектыву), а ў жанчын была ніжэй сярэдняй і даходзіла да 1,4 (друкарня працколектыву).

Па харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя колькасьць захвораньняў сярод мужчын 8,4, сярод жанчын 7,4. У асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 15,6 (дражджоўня „Варшавянка") да 2,7 (бровар „Бэбеля") сярод мужчын, а сярод жанчын ад 11,8 (дражджоўня „Леніна") да 3,1 (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах сярод мужчын 11 дзён, сярод жанчын 6,9 дня.

Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць у мужчын хістаецца ад 23,2 дня (дражджоўня „Леніна") да 1 дня (каўбасная фабрыка Белмясгандлю), а сярод жанчын ад 47,2 дня (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет") да 1 дня (дражджоўні № 52 і „Леніна" і бровар „Бэбеля").

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод муж. 7,3, сярод жан. 9,3. У асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца сярод мужчын ад 22,8 (кардонная фабрыка „Сталіна") да 2,5 (паперня „Зьвязда"), а сярод жанчын ад 27,5 (кардонная фабрыка „Сталіна") да 4,8 (паперня „Гэрой Працы"). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах гэтай прамысловасьці сярод мужчын 10,2 дня, сярод жанчын 5,9 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня хістаецца сярод мужчын ад 17,3 (паперня „Профінтэрн") да 2,6 дня (кардонная фабрыка „Сталіна"), а сярод жанчын ад 9,7 (паперня „Спартак") да 1,4 дня (шпалерная фабрыка „Вароўскага").

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярод асоб абодвага роду сярэдняя колькасьць выпадкаў

захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах 8,0. Па асобных прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца ад 16,7 (працколектыў абутнікаў) да 1,0 (шавецкая фабрыка „Праца“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 7,9 дня. Па прадпрыемствах яна хістаецца ад 17,2 дня (шавецкая фабрыка „Праца“) да 2,7 дня (абутковая ф-ка ВСНГ).

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў па прадпрыемствах сярэдняя колькасьць выпадкаў сярод мужчын 6,1, сярод жанчын 5,5. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца сярод мужчын ад 29,6 (цагельня Комгасу) да 1,9 (шкляная гута „Профінтэрн“), а сярод жанчын ад 22,2 (цагельня Комгасу) да 1,5 (шкляная гута „Профінтэрн“).

Сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў у рабочых электрастанцыі сярод асоб абодвага роду 4,6 (Менск) і 0,9 (Гомель). Доўгачаснасьць захвораньня ў рабочых Менскай электрастанцыі 6,3 дня і Гомельскай 1 дзень.

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах сярод мужчын 10,2, сярод жанчын 12,8. У асобных прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца сярод мужчын ад 13,6 (запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“) да 6,5 (запалкавая ф-ка „Вэзуві“), сярод жанчын ад 27,7 (запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“) да 6,1 (запалкавая ф-ка „Дняпро“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах у мужчын 7,8 дня, у жанчын 4,9 дня. У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 10,3 дня (запалкавая ф-ка „Вэзуві“) да 4,5 дня (запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“), а сярод жанчын ад 9,3 дня (запалкавая фабрыка „Дняпро“) да 1 дня (фабрыка „Чырвоны Хэмік“).

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў па ўсіх прадпрыемствах сярод муж. 6,3, сярод жанчын 9,3. У асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: сярод мужчын ад 17,5 (Меншвэй) да 1,0 (ільнапрадзільня „Карла Маркса“), а сярод жанчын таксама найбольшая колькасьць выпадкаў захвораньняў у Меншвэі—29,5 і найменшая на ільнапрадзільні „Карла Маркса“—1,1.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах сярод мужчын 7 дзён, сярод жанчын 36 дзён.

У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 13,1 (ільнапрадзільня „Дзьвіна“) да 1,6 дня (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) у мужчын і ад 24 дзён (Якаўлеўская суконная ф-ка) да 1,8 дня (ільнапрадзільня „Карла Маркса“) у жанчын.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод асоб абодвага роду на ўсіх прадпрыемствах 5,6. У асобных прадпрыемствах хістаньні ад 9,7 (завод сельскагаспадарчых машын „Бурбіса“) да 2,4 (гісэрня „Пролетары“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня на ўсіх прадпрыемствах 9,1 дня. У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 24,6 дня (гісэрня „Пролетары“) да 5,3 дня (цьвікова-драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік“).

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярод асоб абодвага роду па ўсіх прадпрыемствах 8,9. У асобных прадпрыемствах колькасьць выпадкаў хістаецца ад 22,1 (цьвікова-калодачная фабрыка „Рабочы") да 2,6 (пільня № 1).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па ўсіх прадпрыемствах 7,7 дня. У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 19,6 дня (пільня „Соцыялізм") да 2,4 дня (цьвікова-калодачная фабрыка „Рабочы").

Неабходна адзначыць, што нэрвовыя захвораньні сярод жанчын сустракаюцца часьцей, чым сярод мужчын. Найбольш выдзяляецца дрэваапрацоўчая прамысловасьць, а з прадпрыемстваў—друкарня працколектыву, кардонная фабрыка „Сталіна" (сярод асоб абодвага роду) і запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна".

## Хваробы органу слуху.

Сярэдняя колькасьць выпадкаў часовай страты працаздольнасьці з прычыны захвораньня органу слуху па ўсіх групах вытворчасьці сярод мужчын 1,2, сярод жанчын 1,1.

У асобных галінах прамысловасьці лічбы хістаюцца ад 1,9 (апрацоўка дрэва) да 0,5 (вытворчасьць і перадача электраэнэргіі) сярод мужчын, а сярод жанчын ад 1,9 (апрацоўка дрэва) да 0,8 (хэмічная прамысловасьць і апрацоўка валакністых матэрыялаў).

Па прадпрыемствах унутры кожнай прамысловасьці ёсьць даволі значныя хістаньні. Так, у дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярод асоб абодвага роду колькасьць выпадкаў па ўсіх прадпрыемствах, як ужо адзначалася, 1,9, але на двох прадпрыемствах яна значна большая: на фанернай фабрыцы „Чырвоная Зьвязда" 5,6 і на лесазаводах № 6 і „Колектыўная Праца" 3,9 і 3,2. У астатніх прадпрыемствах хістаньні да 0,4 (пільня імя „Томскага").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 7,5 дня, а ў асобных прадпрыемствах яна хістаецца ад 22 дзён (лесазавод „Кол. Праца") да 1,5 дня (лесазавод № 7).

У прадпрыемствах па апрацоўцы продуктаў жывёлiны сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў 1,4 сярод асоб абодвага роду. Па прадпрыемствах меліся значныя хістаньні—ад 10,1 на Віцебскай шчаціннай фабрыцы да 0,9 на абутковай фабрыцы ВСНГ.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 9,1 дня; па асобных прадпрыемствах яна хісталася ад 15,1 дня (шчотачная фабрыка Гомелю) да 5,2 дня (працколектыў абутнікаў).

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў была сярод мужчын—1,1, сярод жанчын—0,8. У асобных прадпрыемствах лічбы хісталіся ад 2,1 (Дняпроўская мануфактура) да 0,5 (ільнапрадзільня „Карла Маркса") у мужчын, а ў жанчын ад 3,1 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) да 0,6 (ільнапрадзільня „Дзьвіна").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 5,9 дня, у жанчын 5,7 дня. Па прадпрыемствах у мужчын яна хістаецца ад 9,5 дня (ільнапрадзільня „Дзьвіна", Якаўлеўская суконная фабрыка і Меншвэй) да 0,6 (ільнапрадзільня „Карла Маркса"), а ў жанчын ад 20,9 дня (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўчшыкаў) і 9 дзён (Меншвей, ільнапрадзільня „Карла Маркса") да 3,9 дня (Вітшвэй).

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў сярод муж. 1,7, а сярод жан. 0,8. Па асобных прадпрыемствах лічбы хісталіся ў мужчын ад 3,0 (запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна") да 1,3 (запалкавая ф-ка „Вэзуві"), а ў жанчын яшчэ менш—ад 3 выпадкаў (запалкавая ф-ка „Вэзуві") да 0,6 (запалкавая ф-ка „Дняпро"). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 10,6, у жанчын 3,6 дня. У асобных прадпрыемствах—ад 13,5 (запалкавая ф-ка „Вэзуві") да 4,3 дня (запалкавая ф-ка „Дняпро") у мужчын і ў жанчын толькі на запалкавай ф-цы „Дняпро" было 4,1 дня, а ў астатніх прадпрыемствах яна была ніжэй сярэдняй.

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў па ўсіх прадпрыемствах была сярод мужчын 1,4 і ў жанчын 1,7.

У асобных прадпрыемствах у мужчын лічбы хісталіся ад 3,6 (шкляная гута „Праца") да 0,4 (шкляная гута „Пролетары"), а ў жанчын ад 8,5 (кахельны завод „Пролетары") да 0,5 (шкляная гута „Домбаля").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 7,1 дня, у жанчын 5,7 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ў мужчын ад 11,2 дня (шкляная гута „Праца") да 1 дня (шкляная гута „Пролетары"), у жанчын ад 9,5 дня (кахельны завод „Пролетары") да 1 дня (шкляная гута „Домбаля").

У апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньня сярод муж. 1,4, сярод жан. 1,8. У асобных прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 3,1 (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет") да 0,6 (дражджоўня „Чырвоная Зорка"), а ў жанчын ад 6,5 (дражджоўня „Пролетары") да 1,0 (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет").

Сярэдняя доўгачаснасьць выпадку захвораньня ў мужчын 4 дні, у жанчын 8,7 дзён. Па прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 14,1 (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет") да 1 дня (дражджоўня „Леніна"), а ў жанчын ад 4,9 дня (дражджоўня „Чырвоная Зорка")да 2,3 дня (дражджоўня „Пролетары").

У папяровай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньня сярод мужчын 0,9, сярод жанчын 1,3. Па прадпрыемствах яна хістаецца ў мужчын ад 3,4 (кардонная ф-ка „Сталіна") да 0,3 (паперня „Зьвязда"), у жанчын ад 1,7 (паперня „Спартак") да 1,1 (паперня „Зьвязда").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 10,1 дня, у жанчын 6,7 дня. Па прадпрыемствах яна хістаецца ад 12,6 дня (паперня „Спартак") да 1,3 дня (кардонная ф-ка „Сталіна") у мужчын, а ў жанчын ад 8 дзён (паперня „Гэрой Працы") да 1 дня (паперня „Профінтэрн").

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярод асоб абодвага роду сярэдняя колькасьць выпадкаў 0,9.

У асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 24 (завод сельскагаспадарчых машын „Бурбіса") да 0,8 (завод сельскагаспадарчых машын Мэтпрому).

Сярэдняя доўгачаснасьць выпадку захвораньня 8,8 дня, а па асобных прадпрыемствах хістаецца ад 19,5 дня (завод сельскагаспадарчых машын Мэтпрому) да 1,7 дня (завод сельскагаспадарчых машын „Бурбіса" і драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік").

У графічнай прамысловасьці сярэдняя колькасьць выпадкаў захвораньняў сярод мужчын 0,6, сярод жанчын 1,5.

У асобных прадпрыемствах сярод мужчын хістаньні ад 2,6 (друкарня і перапл. працколектыву) да 0,3 (1-ая дзяржрукарня), а сярод жанчын ад 3,0 (2-ая дзяржрукарня) да 2,3 (1-ая дзяржрукарня).

Сярэдняя доўгачаснасьць выпадку захвораньня ў мужчын 4,3 дня, у жанчын 9,8 дня. У асобных прадпрыемствах у мужчын хістаньні даходзілі ад 5,3 дня („Палесдрук") да 3,3 дня (1-ая дзярж. друкарня), а ў жанчын ад 12 дзён (1-ая дзяржрукарня) да 2,6 дня (друкарня працколектыву).

Сярод асоб абодвага роду ў рабочых электрастанцый Менску 0,4 і Гомельскай 0,9. Доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў рабочых Менскай электрастанцыі 3,5 дня, Гомельскай 4,9 дня.

Неабходна адзначыць, што найбольшая захворанасьць органа слуху наглядаецца ў рабочых абодвага роду фанернай фабрыкі „Чырвоны Кастрычнік" і сярод жанчын на кахельным заводзе „Пролетары" і дражджоўні „Пролетары".

## Хваробы органаў траўленьня.

На хваробы органаў траўленьня ў 1927 г. па ўсіх галінах прамысловасьці хварэла 47 мужчын на 100 і 51,9 жанчын. Па асобных галінах прамысловасьці малюнак захворанасьці некалькі мяняецца. Сярод мужчын захворанасьць дасягнула найбольш высокіх лічбаў: у хэмічнай прамысловасьці—58,6, у апрацоўцы дрэва—58,0 і апрацоўцы мінэральных матэрыялаў—56,2. Ніжэй сярэдніх лічбаў захворанасьць наглядалася ў паліграфічнай прамысловасьці—33,0, апрацоўцы харчовых матэрыялаў—37,7, вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы—36,0, у вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі—27,7. Сярод жанчын захворанасьць на хваробы органаў траўленьня па ўсіх галінах прамысловасьці была вышэй, чым у мужчын. Найвышэйшыя лічбы яна дала ў хэмічнай прамысловасьці — 65,2, апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня—62,2 і дрэваапрацоўчай—60,8.

Ніжэй сярэдніх лічбаў захворанасьць наглядалася ў апрацоўцы мэталю—36,7, вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы—40,3, вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі—28,6.

Па асобных прадпрыемствах малюнак захворанасьці даволі разнастайны.

У хэмічнай прамысловасьці пры сярэдняй захворанасьці сярод мужчын 58,6, на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна" захворанасьць была 72,9, на ф-цы „Чырвоны Хэмік"—35,0. Пры сярэдняй захворанасьці жанчын 65,2, на запалкавай ф-цы „Вэзуві"—95,2 і на запалкавай ф-цы „Дняпро"—29,2 на 100 застрахаваных жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку па хэмічнай прамысловасьці для мужчын 5 дзён і для жанчын 4,4 дня. На запалкавай ф-цы „Дняпро" сярэдняя доўгачаснасьць для мужчын 6,5 дня, для жанчын 6,7 дня, на ф-цы „Чырвоная Бярэзіна" для мужчын 3,1 дня, для жанчын 2,5 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня захворанасьць сярод асоб абодвага роду 54,5. Найбольш

высокіх лічбаў яна дасягнула на Віцебскай шчаціннай—ф-цы 113,1, працколектыве абутнікаў—95,1, а ў працколектыве абутнікаў „Самаход“—21,2 і шавецкай ф-цы „Праца“—ніжэй сярэдняй.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку для асоб абодвага роду 4,8 дня. На гарбарні „Пролетарскі Шлях“ доўгачаснасьць аднаго выпадку была 10,1 дня, а на мэханічнай абутковай ф-цы—2,9 дня.

Па дрэваапрацоўчай прамысловасьці для асоб абодвага роду захворанасьць 58,4. Па асобных прадпрыемствах наглядаюцца значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй. Найбольш высокія лічбы далі лесазавод № 6—96,1, лесазавод „Чырвоны Дрэваапрац.“—72,2, лесазавод „Комінтэрн“—78,6, фанерная ф-ка „Томскага“—75,4. Найніжэйшыя пасказьнікі нагляліся на пільні „Соцыялізм“—23,1. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня 4,5 дня, а на лесазаводзе „Томскага“ 9,6 дня і лесазаводзе № 7—2,9 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў захворанасьць сярод мужчын 56,2 і для жанчын 49,1.

Па асобных прадпрыемствах нагляліся значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй: на цагельні Комгасу сярод мужчын—115,4, сярод жанчын—138,9; на цагельні Белдзяржбуду сярод мужчын—78,0, сярод жанчын 81,0; на шкляных гутах „Комінтэрн“ сярод мужчын—102,1, сярод жанчын—115,5 і „Профінтэрн“ сярод мужчын—21,1.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку для мужчын і для жанчын 3,9 дня. Найбольшыя адхіленьні ад сярэдняй сярод мужчын на шклянай гуце „Праца“ 6,9 дня, на цагельні Белдзяржбуду—2,9 дня, сярод жанчын на цагельні Комгасу—1,9 дня і на шклянай гуце „Кастрычнік“—6,1.

У апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 37,7, сярод жанчын 48,7.

Па асобных прадпрыемствах у гэтай прамысловасьці захворанасьць давала значныя адхіленьні ад сярэдняй:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На дражджоўні „Пролетары“ | сярод | мужчын | 80,0 |
| „ „Варшавянка“ | „ | „ | 48,6 |
| Каўбасная Белмясгандлю | „ | „ | 12,5 |
| На бровары „Беларусь“ | „ | жанчын | 150,0 |
| „ дражджоўні „Пролетары“ | „ | „ | 122,6 |
| „ „ „Леніна“ | „ | „ | 17,6 |

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня для мужчын 5,6 дня, для жанчын 4,8 дня. Найбольш значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй доўгачаснасьці нагляліся сярод мужчын на дражджоўні № 52—12,3 дня і каўбаснай фабрыцы Белмясгандлю—3 дні, а сярод жанчын на фабрыцы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“—7,9 дня і дражджоўні № 52—2,3 дня.

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 36,0 і сярод жанчын 40,3.

Па асобных прадпрыемствах і гэтай прамысловасьці паказьнікі захворанасьці значна хістаюцца: на кардоннай фабрыцы „Сталіна“—124,2, на паперні „Профінтэрн“—53,6 сярод мужчын, а на паперні „Зьвязда“ сярод мужчын – 26,5.

Паказьнікі захворанасьці сярод жанчын па асобных прадпрыемствах таксама значна хістаюцца: на кардоннай ф-цы „Сталіна“ 95,3, паперні „Спартак“ 46,5 і на паперні „Зьвязда“—13,3.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 5,2 дня і для жанчын 4,6 дня. Найбольш значныя адхіленьні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на паперні „Гэрой Працы“ | у мужчын | 7,0 | дня |
| „ „Профінтэрн“ | „ | 2,5 | „ |
| „ „Профінтэрн“ | у жанчын | 7,0 | „ |
| кардонная ф-ка „Сталіна“ | | 2,5 | „ |

Сярэдняя захворанасьць па мэталяапрацоўчай прамысловасьці для асоб абодвага роду была 39,1. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць значна адхіляецца ад сярэдніх лічбаў, так, напрыклад

| | |
|---|---|
| на заводзе сельска-гаспад. машын Мэтпрому захворан. | 53,8 |
| „ мэхан.-сьлясарн. „Усход“ | 52,2 |
| „ драцяным „Чырвоны Кастрычнік“ | 18,8 |

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці 5,3 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца:

| | | |
|---|---|---|
| на гісэрні „Пролетары“ | 7,3 | дня |
| „ зав. сельска-гасп. машын „Рухавік Рэволюцыі“ | 7,1 | „ |
| „ драцяным заводзе „Чырвоны Кастрычнік“ | 3,8 | „ |
| „ акулярнай фабрыцы | 3,8 | „ |

У паліграфічнай вытворчасьці захворанасьць сярод мужчын 33,0 і сярод жанчын 54,0. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: у друкарні і перапл. працколектыву сярод мужчын 59,8, сярод жанчын 79,4, у друкарні „Комінтэрн“ сярод мужчын 18,3, сярод жанчын 35,7. Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў мужчын 5 дзён і ў жанчын 3,9 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца: у 2-ой дзярждрукарні 6,7 дня сярод мужчын, а ў друкарні працколектыву 2,9 дня; сярод жанчын у 2-ой дзярждрукарні 5,7 дня, а ў друкарні „Комінтэрн“ 2,4 дня.

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 44,6, сярод жанчын 46,3.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца; так, сярод мужчын, захворанасьць у Меншвэі 105,1, у працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў 64,3, на Дняпроўскай мануфактуры 63,9, на ільнапрадзільні „Карла Маркса“ 19,1 і на ільнапрадзільні „Дзьвіна“ 24,1.

Сярод жанчын у Меншвэі 120,5, у працколектыве вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў—75,0, у панчошна-трыкатажнай фабрыцы—79,1, Дняпроўскай мануфактуры—82,4, Якаўлеўскай суконнай фабрыцы—18,5 і на ільнапрадзільні „Карла Маркса“—15,7.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 4 дні, а для жанчын 4,2 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на ільнапрадзільні „Карла Маркса“ | сярод мужчын | 7,2 | дня |
| „ „ „Дзьвіна“ | „ „ | 6,2 | „ |
| „ Меншвэй | „ „ | 3,1 | „ |
| „ Дняпроўскай мануфактуры | „ „ | 3,1 | „ |
| „ Якаўлеўскай суконнай ф-цы | сярод жанчын | 6,8 | „ |
| „ Панчошна-трыкатажнай | „ „ „ | 3,0 | „ . |

Паказьнікі захворанасьці на дзьвёх электрастанцыях розныя: на Менскай сярод асоб абодвага роду—32,2, а доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня—4,8 дня; на Гомельскай сярод асоб абодвага роду—16,8, а доўгачаснасьць захвораньня—6,1 дня.

Неабходна адзначыць асобна прадпрыемствы, дзе наглядаюцца высокія паказьнікі захворанасьці: запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна“, запалкавая ф-ка „Вэзуві“, Віцебская шчацінная фабрыка, працколектыў абутнікаў, лесазавод № 6, лесазавод „Чырвоны Дрэваапрац.“, лесазавод „Комінтэрн“, фанерная ф-ка „Томскага“, цагельня Комгасу, цагельня Белдзяржбуду, шкляны завод „Комінтэрн“, дражджоўня „Пролетары“, бровар „Беларусь“, кардонная ф-ка „Сталіна“, друкарня і перапл. працколектыву, Меншвэй, працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў, Дняпроўская мануфактура, панчошна-трыкатажная фабрыка.

Апрача таго, неабходна адзначыць, што наогул паказьнікі захворанасьці органаў траўленьня па ўсіх галінах прамысловасьці вышэйшыя ў жанчын, чым у мужчын.

## Хваробы ад знадворных прычын.

Па ўсіх галінах прамысловасьці хваробамі ад знадворных прычын хварэла 44,7 (на 100) мужчын і 31,2 жанчын.

Па асобных прадпрыемствах захворанасьць значна хістаецца і дасягнула найвышэйшых лічбаў сярод мужчын:

| | | |
|---|---|---|
| у апрацоўцы | мэталю | 63,5 |
| „ „ | дрэва | 63,5 |
| „ „ | мінэр. матэрыялаў | 57,5, |

а сярод жанчын у хэмічнай вытворчасьці—63,3 і апрацоўцы мінэральных матэрыялаў—42,2.

Паказьнікі захворанасьці ніжэй сярэдняй нагляdaліся сярод мужчын у вытворчасьці паперы—28,9, у апрацоўцы валакністых матэрыялаў—22,8 і поліграфічнай вытворчасьці—14,1, а сярод жанчын у апрацоўцы валакністых матэрыялаў—13,2, у вытворчасьці паперы—14,4, апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў—18,5, у апрацоўцы матэрыялаў жывёльнага паходжаньня—16,9 і ў поліграфічнай вытворчасьці—12,8.

Разгледзім далей захворанасьць па асобных галінах прамысловасьці.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 50,0. Па асобных прадпрыемствах паказьнікі значна хістаюцца: так, на заводзе сельскагаспадарчых машын

Мэтпрому—91,9 (абодвага роду), на мэханічна-сьлясарным заводзе „Ўсход"—77,0, на акулярнай ф-цы—18,0 і на заводзе сельскагаспадарчых машын „Бурбіса"—25,8.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці 8,1 дня, а па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца ад 12,1 дня (акулярная ф-ка) да 5,2 дня (драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік") і 5,4 дня (гісэрня „Энэргія").

У прамысловасьці паперы і вырабаў з паперы захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 28,9 і сярод жанчын 14,4. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: сярод мужчын 38,3 (кардонная ф-ка „Сталіна"), 35,9 (паперня „Профінтэрн") да 22,8 (паперня „Зьвязда") і сярод жанчын ад 24,5 (кардонная ф-ка „Сталіна"), 22,6 (паперня „Профінтэрн"), 20,4 (паперня „Спартак") да 4,4 (паперня „Зьвязда").

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў мужчын 7,8 дня і ў жанчын 7,6 дня па ўсёй прамысловасьці. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: так, на паперні „Гэрой Працы" доўгачаснасьць—9,3 дня сярод мужчын, на паперні „Профінтэрн"—4,2 дня для мужчын і для жанчын на кардоннай ф-цы „Сталіна"—12,2 дня і на шпалерні „Вароўскага"—2,6 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 57,6 і сярод жанчын 42,2. Па асобных прадпрыемствах наглядаліся значныя хістаньні, і асабліва высокія паказьнікі на цагельнях сярод асоб абодвага роду: на цагельні Комгасу сярод мужчын 124,3 і сярод жанчын 94,4 і на цагельні Белдзяржбуду сярод мужчын 100,0 і сярод жанчын 66,7. На шкляных гутах асабліва высокія лічбы захворанасьці сярод мужчын (шкляныя гуты „Праца"—84,8, „Пролетары"—102,0, „Кастрычнік"—74,9), а сярод жанчын захворанасьць вышэй сярэдняй толькі на заводзе „Кастрычнік"—65,8. Захворанасьць ніжэй сярэдніх лічбаў сярод мужчын адзначана на шклянай гуце „Ноўкі"—25,4 і „Профінтэрн"—24,8, а сярод жанчын на кахельным заводзе „Пролетары"—6,8.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці для мужчын 5,3 дня і для жанчын 5,6 дня. Па асобных прадпрыемствах адзначаюцца больш-менш значныя хістаньні: так, на заводзе „Праца" сярод мужчын—7,9 дня, на заводзе „Профінтэрн"—2,7 дня, а ў жанчын на шкляных гутах „Праца"—8,7 дня, „Кастрычнік"—6,9 дня, „Профінтэрн"—1,8 дня і на кахельным заводзе „Пролетары"—1,4 дня.

У апрацоўцы харчсмакавых матэрыялаў захворанасьць па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 33,5 і сярод жанчын 18,5. Па асобных прадпрыемствах у захворанасьці наглядаюцца значныя адхіленьні ад сярэдняй: так, сярод мужчын на каўбаснай ф-цы Белмясгандлю,—66,7, бойні—56,3, бровары „Беларусь"—48,6, на дражджоўнях „Леніна"—15,9 і № 52—11,0. Сярод жанчын на бровары „Беларусь"—92,8, дражджоўні „Чырвоная Зорка"—35,7, дражджоўні № 52—3,7 і на махорачнай ф-цы—7,6.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня па ўсёй прамысловасьці сярод мужчын 6,1 дня і ў жанчын 4,8 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца: так, на фабрыцы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет" для мужчын 9,4 і для жанчын

6,6 дня, на махорачнай фабрыцы для мужчын 10,9 і 6,5 дня, на дражджоўні № 52 для мужчын 8,9, на дражджоўні „Леніна“ для мужчын 3,6, і для жанчын 2,5, на бровары „Бэбеля“ для жанчын 9,6 і на дражджоўні „Пролетары“ для мужчын 2,4 дня.

У паліграфічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 14,1 і сярод жанчын 12,8. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць хістаецца ад 23,1 сярод мужчын (друкарня працколектыву) да 7,3 (друкарня „Комінтэрн“) і сярод жанчын ад 22,1 (друкарня працколектыву) да 8,7 („Палесдрук“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня для мужчын 6,8 дня, для жанчын 5,9 дня па ўсёй прамысловасьці.

Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: так, сярод мужчын у друкарні „Комінтэрн“ доўгачаснасьць 20 дзён, а ў друкарні і пераплётнай працколектыву 2,9 дня і ў 1-ай дзяржлрукарні 3,6 дня, а сярод жанчын доўгачаснасьць хістаецца ад 22,4 дня (друкарня „Комінтэрн“) да 2,9 дня (1-ая дзяржлрукарня).

У хэмічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 47,1, сярод жанчын 63,3. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць хістаецца ад 57,3 (запалкавая ф-ка „Вэзуві“) да 18,3 (ф-ка „Чырвоны Хэмік“) сярод мужчын і сярод жанчын ад 85,7 (запалкавая фабрыка „Дняпро“) да 49,5 (запалкавая фабрыка „Вэзуві“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў мужчын 6,5 дня і ў жанчын 5,3 дня. Найбольш значныя адхіленьні адзначаны на ф-цы „Чырвоны Хэмік“ сярод мужчын—9,1 дня і на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“—4,6 дня і 3,3 дня ў жанчын.

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці паказьнік захворанасьці сярод асоб абодвага роду 59,3. Па асобных прадпрыемствах сярод асоб абодвага роду (адносна мужчын і жанчын у паасобку матэрыялу няма) лічбы значна хістаюцца: так, на лесазаводзе № 7—102,5, на лесазаводзе № 6—97,5, фанэрнай ф-цы „Томскага“—80,8, лесазаводзе „Комінтэрн“—78,5, фанернай ф-цы „Зьвязда“—32,0, цьвікова-калодачнай ф-цы „Рабочы“—38,9 і на пільні „Соцыялізм“—32,5.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку для асоб абодвага роду 6,7 дня, а па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 10,4 дня (фанерная ф-ка „Зьвязда“), і 9,3 дня (пільня № 1 і „Соцыялізм“) да 3,1 дня (цьвікова-калодачная ф-ка „Рабочы“).

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў захворанасьць сярод мужчын 22,8, сярод жанчын 13,2. Па асобных прадпрыемствах наглядаюцца значныя адхіленьні ад гэтых сярэдніх: так, сярод мужчын хістаньні ад 49,0 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў), 36,0 (панчошна-трыкатажная ф-ка) да 14,4 (Вітшвэй) і сярод жанчын ад 43,8 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў), 18,7 (панчошна-трыкат. ф-ка) да 3,7 (Якаўлеўская суконная ф-ка).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку для мужчын 6,7 і для жанчын 6,3 дня. Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца: сярод мужчын ад 9,6 дня (ільнапрадзільня „Дзьвіна“), 8,0 дня (Якаўлеўская суконная ф-ка) да 4,2 дня (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) і сярод жанчын ад 7,9 дня (ільнапрадзільня „Дзьвіна), 8,8 дня (Вітшвей) да 2,5 дня (Меншвэй).

У апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня паказьнік захворанасьці сярод асоб абодвага роду 30,5 (па роду вестак ня

маецца). Па асобных прадпрыемствах паказьнікі значна хістаюцца: так, на Віцебскай шчацiннай ф-цы сярод абодвага роду—61,6, гарбарня „Бальшавiк"—50,7, у працколектыве абутнікаў—53,9, на шавецкай ф-цы „Праца"—14,8 і ў абутковым працколектыве—„Самаход" 17,2.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня 5,3 дня для абодвага роду. Па прадпрыемствах хістаньні ад 11,3 дня (гарбарня „Пролетарскі Шлях") да 2,9 дня (Віцебская шчацінная ф-ка).

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі мы маем весткі па двух станцыях. Па Гомельскай паказьнік захворанасьці сярод асоб абодвага роду 36,3 і сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 7,9 дня, а па Менскай захворанасьць 33,3 і сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5,9 дня.

Адзначым асобна прадпрыемствы, дзе захворанасьць была найвышэйшая: 1) зав. сельскагаспад. машын Мэтпрому (сярод абодвага роду), 2) мэханічна-сьлясарны завод „Усход" (абодвага роду), 3) цагельня Комгасу і Белдзяржбуду (абодвага роду), 4) на шкляных гутах „Праца" і „Пролетары" (сярод мужчын) і шкляная гута „Кастрычнік" (сярод абодвага роду), 5) на броварах „Беларусь" і запалкавай фабрыцы „Дняпро" (сярод жанчын), 6) на пільнях № 6, і 7, „Комінтэрн" і фанернай фабрыцы „Томскага" (сярод абодвага роду).

## Хваробы касьцей і органаў руху.

Сярэднія паказьнікі захворанасьці хваробамі касьцей і органаў руху сярод мужчын 13,5 па ўсіх галінах прамысловасьці і сярод жанчын 9,0. Па асобных галінах прамысловасьці паказьнікі часта значна адрозьніваюцца ад гэтых сярэдніх. Так, сярод мужчын захворанасьць вышэй сярэдняй адзначана ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці—20,4 і ў хэмічнай прамысловасьці—18,3, а ніжэй сярэдняй у графічнай прамысловасьці—8,1. Сярод жанчын захворанасьць таксама была вышэй у дрэваапрацоўшчыкаў—19,2 і ў хэмічнай прамысловасьці—14,0 і ніжэй у графічнай вытворчасьці—5,6 і ў апрацоўцы валакністых матэрыялаў—4,8.

Пры разглядзе захворанасьці хваробамі касьцей і органаў руху, па прадпрыемствах асобных галін прамысловасьці можна адзначыць, што захворанасьць па прадпрыемствах часта значна адхіляецца ад сярэдняй.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці паказьнікі захворанасьці сярод абодвага роду 15,1. Па асобных заводах адзначаны зусім інакшыя лічбы захворанасьці: на заводзе сельскагаспадарчых машын Мэтпрому—22.7 (сярод абодвага роду), на чыгунамэталёвым заводзе „Энэргія"—18,5, на гісэрні „Пролетары"—8,2, на драцяным заводзе „Чырвоны Кастрычнік"—7,1 і на акулярнай фабрыцы—7,5.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня 4,7 дня па усёй прамысловасьці, а на акулярнай ф-цы і цьвікова-шрубным заводзе „Інтэрнацыянал"—6,7 дня і на мэханічна-сьлясарным заводзе „Ўсход"—3,2 дня.

У прамысловасьці паперы і вырабаў з паперы захворанасьць у сярэднім вызначаецца сярод мужчын 9,6 і сярод жанчын 5,8. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць адзначана вышэй сярэдніх лічбаў

сярод мужчын на паперні „Профінтэрн“—36,6 і кардоннай ф-цы „Сталіна“—20,8, сярод жанчын на паперні „Профінтэрн“—19,4 і шпалерні „Вароўскага“—13,0.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 6,0 дня і сярод жанчын 6,7 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня хістаецца сярод мужчын ад 8,6 дня (паперня „Зьвязда“), 8,4 („Гэрой Працы“) да 3,1 дня (паперня „Профінтэрн“) і ў жанчын ад 15,7 дня (паперня „Спартак“) да 2 дзён (паперня „Профінтэрн“), 2,8 дня (паперня „Зьвязда“) і 2,5 дня (кардонная ф-ка „Сталіна“).

У апрацоўцы мінэральных матэрыялаў па ўсёй прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 11,5 і сярод жанчын 9,2. Па асобных прадпрыемствах адзначаюцца значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй, прычым трэба падкрэсьліць высокую захворанасьць на цагельнях:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на цагельнях | Комгасу захвор. | сярод мужчын 63,5, | сярод жанчын | 94,4 |
| „ „ | Белдзяржбуду | „ „ 27,1 | „ „ | 47,6 |
| на шклян. гутах | „Праца“ | „ „ 18,8 | „ „ | 4,5 |
| „ „ | „Пролетары“ | „ „ 18,0 | „ „ | 15,5 |
| „ „ | „Кастрычнік“ | „ „ 3,9 | „ „ | 1,4 |
| „ „ | „Ільліч“ | „ „ 3,8 | „ „ | — |

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 4,4 дня і ў жанчын 3,5 дня. Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца ў мужчын ад 9,9 дня (шкляная гута „Кастрычнік“), 7,4 дня (шкляная гута „Ноўкі“) да 2,9 дня (шкляная гута „Домбаля“ і кахельны завод „Пролетары“) і 2,2 дня (шкляная гута „Профінтэрн“) і ў жанчын ад 13,0 дня (шкляная гута „Праца“), 5,9 (шкляная гута „Профінтэрн“) да 1,9 (кахельны завод „Пролетары“) і 1 дня (шкляная гута „Кастрычнік“).

У прамысловасьці па апрацоўцы харчовых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 12,3 і сярод жанчын 10,4. Па асобных прадпрыемствах мы бачым значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй: так, сярод мужчын захворанасьць адзначана на дражджоўні „Пролетары“—18,9, бойні—25,4, на каўбаснай ф-цы Белмясгандлю—4,2 і на фабрыцы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“—3,1 і сярод жанчын на дражджоўні „Чырвоная Зорка“—23,8, на дражджоўні „Варшавянка“—20,7, на дражджоўні № 52—3,7, на фабрыцы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“—3,1 і бровары „Беларусь“—1,4.

Доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня сярод мужчын 5,3 дня і сярод жанчын 4,1 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць захвораньня хістаецца ў мужчын ад 17,4 дня (махорачная фабрыка) да 2,0 дзён (фабрыка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“) і ў жанчын ад 7,7 дня (дражджоўня „Варшавянка“) да 2 дзён (дражджоўня „Леніна“).

У паліграфічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 8,1 і сярод жанчын 5,8. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць хістаецца сярод мужчын ад 15,4 (друкарня і пераплётная працколектыву) да 4,9 дня (друкарні „Комінтэрн“ і „Палесдрук“) і сярод жанчын ад 8,8 (друкарня працколектыву) да 3,2 („Палесдрук“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў мужчын 6,1 дня і сярод жанчын 4,0 дня. Хістаньні доўгачаснасьці сярод мужчын

ад 7,5 дня (1-ая дзяржрукарня) і 7,4 (друкарня „Комінтэрн") да 3,6 (2-ая дзяржрукарня) і сярод жанчын ад 7,3 дня („Палесдрук") да 2 дзён (1-ая дзяржрукарня).

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 18,3 і сярод жанчын 14,0. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць хістаецца сярод мужчын ад 24,9 (запалкавая ф-ка „Вэзуві") да 11,6 (запалкавая ф-ка „Дняпро") і сярод жанчын ад 30,3 (фабрыка „Чырвоны Хэмік") да 7,3 (запалкавая фабрыка „Дняпро").

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня ў мужчын 4,3 дня і ў жанчын 4,5 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ў мужчын ад 6,6 дня (запалкавая фабрыка „Дняпро") да 2,1 дня (фабрыка „Чырвоны Хэмік") і для жанчын ад 6,2 дня (запалкавая ф-ка „Дняпро") да 3,7 дня (запалкавая ф-ка „Чырвоная Бярэзіна").

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод абодвага роду 20,2. Па асобных прадпрыемствах ёсьць адхіленьні ад гэтай сярэдняй: так, на лесазаводзе „Чырвоны Дрэваапрац."—40,7, на фанернай фабрыцы „Томскага"—33,1, на цьвікова-калодачнай фабрыцы „Праца"—5,4, на лесазаводзе „Соцыялізм"—6,3 і фанернай фабрыцы „Зьвязда"—8,1.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня 4,5 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 7,8 дня (лесазав. Томскага) і 6,8 дня (фанерная фабрыка „Чырвоны Кастрычнік") да 2,5 дня (цьвікова-калодачная фабрыка „Рабочы"), 3,9 (лесазавод № 6) і 3,8 (лесазавод „Соцыялізм").

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 10,3 і сярод жанчын 4,8. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца: сярод мужчын ад 38,8 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) і 15,5 (Дняпроўская мануфактура) да 4,0 (ільнапрадзільня „Дзьвіна" і 4,5 (ільнапрадзільня „Карла Маркса") і сярод жанчын ад 15,6 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) да 2,4 (ільнапрадзільня „Дзьвіна") і 0,7 (ільнапрадзільня „Карла Маркса").

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня для мужчын 4,0 дні і для жанчын 5,7 дня. Хістаньні доўгачаснасьці па прадпрыемствах сярод мужчын ад 5,2 дня (ільнапрадзільня „Карла Маркса") да 2,3 дня (Вітшвэй) і сярод жанчын ад 14,7 дня (ільнапрадзільня „Карла Маркса") і 8,2 (ільнапрадзільня „Дзьвіна") да 2,5 (Меншвэй) і 2,8 (Дняпроўская мануфактура).

У апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярэдняя захворанасьць сярод абодвага роду 10,7. Па прадпрыемствах адзначаюцца даволі значныя адхіленьні ад гэтай сярэдняй: на Віцебскай шчацінная фабрыцы—30,3, у працколектыве абутнікаў „Самаход"—5,3, мэханічнай абутковай фабрыцы—5,1 і шавецкай фабрыцы „Праца"—5,3. Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5,3 дня. Па прадпрыемствах хістаньні доўгачаснасьці ад 18,3 дня (шавецкая фабрыка „Праца") да 2,7 дня (Віцебская шчацінная фабрыка).

Вытворчасьць і перадача электраэнэргіі. Сярэдняя захворанасьць на Менскай электрастанцыі сярод абодвага роду 13,8 і сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 6,3 дня, захворанасьць на Гомельскай электрастанцыі сярод абодвага роду 6,2 і сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 3,4 дня.

Адзначым асобныя прадпрыемствы, дзе захворанасьць на хваробы касьцей і органаў руху дае высокія паказьнікі. Сярод асоб абодвага роду: завод сельскагаспадарчых машын Мэтпраму, лесазавод „Чырвоны Дрэваапрацовачнік", фанерная фабрыка „Томскага" і Віцебская шчацінная фабрыка; сярод жанчын: драждж оўня „Чырвоная Зорка", фабрыка „Чырвоны Хэмік"; сярод мужчын: паперня „Профінтэрн", запалкавая фабрыка „Вэзуві" і працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў; сярод абодвага роду: цагельні Комгасу і Белдзяржбуду.

## Хваробы скуры і падскурнай абалоніны.

Захворанасьць хваробамі скуры і падскурнай абаланіны ў сярэднім ва ўсіх галінах прамысловасьці сярод мужчын 37,9 і сярод жанчын 44,8. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці адхіляюцца ад сярэдняй. У хэмічнай і дрэваапрацоўчай прамысловасьці захворанасьць вышэй сярэдняй як сярод мужчын (хэмічная—53,1 і дрэваапрацоўчая—54 8) так і сярод жанчын (хэмічная 93,8 і дрэваапрацоўчая 54 4) У прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў захворанасьць вышэй сярэдняй наглядалася сярод мужчын—52,0.

Захворанасьць ніжэй сярэдняй адзначана ў паліграфічнай прамысловасьці (мужчын 12,5, жанчын 16,5). у вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі (сярод мужчын 16,8 і сярод жанчын 14,3), у вытворчасьці паперы ды вырабаў з паперы захворанасьць ніжэй сярэдняй толькі сярод жанчын – 18,2

Разгледзім далей захворанасьць на хваробы скуры і падскурнай абалоніны па асобных прадпрыемствах па розных галінах прамысловасьці.

У хэмічнай прамысловасьці захворанасьць у большасьці прадпрыемстваў нязначна адхіляецца ад сярэдняй захворанасьці па прамысловасьці (сярод мужчын 53,1 і сярод жанчын 73,8). Трэба толькі адзначыць запалкавую фабрыку „Вэзуві", дзе захворанасьць сярод жанчын дасягае 116,3 выпадкаў, і фабрыку „Чырвоны Хэмік", дзе захворанасьць была значна ніжэй сярэдняй (сярод мужчын 23,3 і сярод жанчын 7,7).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 6,1 дня і ў жанчын 5,1 дня. Больш значныя адхіленьні ад гэтых лічбаў трэба адзначыць на фабрыцы „Чырвоны Хэмік"—9,5 дня сярод мужчын і 1,0 дзён сярод жанчын.

Захворанасьць у прамысловасьці па апрацоўцы мінэральных матэрыялаў была сярод мужчын 52,0 і сярод жанчын 37,9.

Па асобных прадпрыемствах паказьнікі адхіляюцца ад сярэдняй: вышэй сярэдняй на шклянай гуце „Праца"—сярод мужчын 103,4 і сярод жанчын 59,8, на шклянай гуце „Комінтэрн" сярод мужчын 70,0 і сярод жанчын 53,8, на шклянай гуце „Ільліч"—сярод жанчын 76,9 і на цагельні Комгасу—сярод мужчын 81,4 і сярод жанчын 61,1; ніжэй сярэдняй на шкляных гутах: „Профінтэрн"—сярод мужчын 10,2 і сярод жанчын 9,1, „Домбаля"—толькі сярод мужчын 34,7 і на заводзе „Ноўкі"—сярод жанчын 19,3 і на кахельным заводзе „Пролетары"—сярод мужчын 33,1.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 5,2 дня і ў жанчын 4,8 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні сярод мужчын ад

7,1 дня (шкляная гута „Праца") да 3,4 дня (шкляная гута „Ноўкі" і кахельны завод „Пролетары") і сярод жанчын ад 8,8 дня (кахельны завод „Пролетары") да 2,9 дня (шкляная гута „Ільліч").

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод абодвага роду 54,7. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць значна хістаецца; так, на фанернай фабрыцы „Томскага"—103,1, лесазаводзе № 6—107,8, лесазаводзе № 7—77,2, цьвікова-калодачнай фабрыцы „Рабочы"—71,1 цьвікова-калодачнай фабрыцы „Праца"—14,1, лесазаводзе „Соцыялізм"—23,8.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвараньня для абодвага роду 5,8 дня. Па прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца ад 10,8 дня (лесазавод „Томскага") і 9,3 дня (лесазав. № 1) да 3,7 дня (фанерная фабрыка „Томскага").

У харчасмакавай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод муж. 25,0 і сярод жан. 27,4 Па некаторых прадпрыемствах захворанасьць адхіляецца ад сярэдняй. Захворанасьць вышэй сярэдняй адзначана сярод мужчын на дражджоўні „Пролетары"—45,3, на дражджоўні „Леніна"—34,1 і бровары „Беларусь"—31,4 і сярод жанчын у бойні—100,0 і каўбаснай Белмясгандлю 100,0.

Захворанасьць ніжэй сярэдняй адзначана сярод мужчын на дражджоўні № 52—13,4 і бровары „Бэбеля"—13,3 і сярод жанчын на бровары „Беларусь"—14,3 і дражджоўні № 52—2,2.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвараньня ў мужчын 5,3 дня і ў жанчын 5,0 дня. Па асобных прадпрыемствах наглядаліся некаторыя адхіленьні: сярод мужчын на бровары „Бэбеля"—7 дзён, на фабрыцы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет"—8,1 дня, на 1-ым дзяржмлыне—7,9 дня і на каўбаснай фабрыцы Белмясгандлю 3,8 дня і ў жанчын на бровары „Беларусь"—1,5 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы валакністых матэрыялаў захворанасьць сярод муж. 24,5 і сярод жан. 26,3. Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца: сярод мужчын—69,4 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) і 14,5 (на ільнапрадзільні „Карла Маркса") і сярод жанчын—62,5 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў), 38,2 (панчошна-трыкатажная фабрыка) і 7,4 (Якаўлеўская суконная фабрыка).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвараньня для мужчын 6 дзён і для жанчын 6,2 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хісталася сярод мужчын ад 8,1 (Якаўлеўская суконная фабрыка) да 3,8 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў) і сярод жанчын 3,3 дня (Меншвэй).

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы захворанасьць сярод мужчын 26,3 і сярод жанчын 18,2.

Па прадпрыемствах лічбы гэтыя хістаюцца: сярод мужчын ад 68,5 (кардонная ф-ка „Сталіна") да 10,2 (шпалерня „Вароўскага") і сярод жанчых ад 32,3 (паперня „Профінтэрн") да 8,7 (шпалерня).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвараньня для мужчын 6,5 дня і для жанчын 5,2 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца сярод мужчын ад 7,5 дня (паперня „Гэрой Працы") да 3,6 (паперня: „Пролетары") і сярод жанчын ад 7,5 дня (шпалерня „Вароўскага") да 2,9 дня (паперня „Профінтэрн").

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод абодвага роду 36,0. Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца ад 83,7 (драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік"), 81,4 (мэх.-сьлясарны завод „Усход"), 46,0 (завод сельскагаспадарчых машын Мэтпрому) да 19,5 (гісэрня „Энэргія") і 19,0 (акулярная фабрыка).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго захвораньня для абодвага роду па ўсёй прамысловасьці 5,9 дня; па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 7,9 (цьвікова-шрубны завод „Інтэрнацыянал") да 2,1 (драцяны завод „Чырвоны Кастрычнік").

Перадача і вытворчасьць электраэнэргіі. Захворанасьць на Менскай элетрастанцыі сярод асоб абодвага роду 18,5 і сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 5,2 дня і на Гомельскай электрастанцыі захворанасьць 12,4 з сярэдняй доўгачаснасьцю 6,6 дня.

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня захворанасьць сярод абодвага роду 31,6. Па асобных прадпрыемствах гэтыя лічбы хістаюцца ад 53,5 (Віцебская шчацінная ф-ка), 59,8 (працколектыў абутнікаў) да 15,9 (працколектыў абутнікаў „Самаход").

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня для абодвага роду 5,5 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 7,3 (гарбарня „Пролетарскі Шлях" і мэханічная абутковая фабрыка) да 4,0 дзён (Віцебская шчацінная фабрыка).

У поліграфічнай вытворчасьці захворанасьць сярод мужчын 12,5 і сярод жанчын 16,5. Больш значныя адхіленьні ад гэтых лічбаў наглядаліся ў пераплётнай працколектыву—33,3 сярод мужчын і 20,6 сярод жанчын і ў 2-ой дзярждрукарні—7,3 сярод мужчын і 6,1 сярод жанчын.

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня ў мужчын 6,1 і ў жанчын 4,1 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хісталася для мужчын ад 7,5 („Палесдрук") да 4,1 (2-ая дзярждрукарня) і для жанчын ад 10,0 (друкарня „Комінтэрн") да 1,5 (2-ая дзяржрукарня).

Адзначым асобна прадпрыемствы, дзе захворанасьць на хваробы скуры і падскурнай абалоніны дасягнула высокіх лічбаў: на шкляных гутах „Праца" і „Комінтэрн" сярод мужчын і жанчын і шкляным заводзе „Ільліч" сярод жанчын, на цагельні Комгасу і працколект. вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў сярод мужчын і жанчын; на фанернай фабрыцы „Томскага", лесазаводзе № 6 і № 7, цьвікова-калодачнай фабрыцы „Рабочы", цьвіковым заводзе „Чырвоны Кастрычнік" і мэханічна-сьлясарным заводзе „Усход" сярод асоб абодвага роду; на кардоннай ф-цы „Сталіна" сярод мужчын, у бойні і каўбаснай фабрыцы Белмясгандлю сярод жанчын. Высокая захворанасьць наглядалася сярод жанчын на ўсіх прадпрыемствах хэмічнай прамысловасьці, за выключэньнем фабрыкі „Чырвоны Хэмік".

## Хваробы цяжарных і пасьляродавыя.

Захворанасьць на хваробы цяжарных і пасьляродавыя сярод жанчын, занятых на буйных прадпрыемствах, у 1927 г. 7,2. Па галінах прамысловасьці наглядаліся адхіленьні ад 14,3 (вытворчасьць і перадача электраэнэргіі), 12,8 (апрацоўка продуктаў жывёльнага паходжаньня), 10,4 (хэмічная вытворчасьць) да 4,9 (апрацоўка мінэральных матэрыялэў) і 4,3 (апрацоўка дрэва).

Што да нормальных родаў, то паказьнік быў 22,4, з адхіленьнямі ад 28,4 (паліграфічная вытворчасьць) да 14,3 (апрацоўка мэталю і вытворчасьць і перадача электраэнэргіі).

Па асобных прадпрыемствах захворанасьць значна хістаецца. У хэмічнай вытворчасьці, пры сярэдняй захворанасьці 10,4 па асобных прадпрыемствах, лічбы хістаюцца ад 17,1 (запалкавая фабрыка „Вэзуві“) да 3,7 (запалкавая фабрыка „Дняпро“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня па прадпрыемствах хісталася ад 12,7 (запалкавая фабрыка „Дняпро“) да 7,6 дня (запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“).

У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы захворанасьць 7,5. Па прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 9,7 (паперня „Профінтэрн“), 8,9 (паперня „Гэрой Працы“) да 3,3 (паперня „Зьвязда“). Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 8,7 дня. Па прадпрыемствах хістаньні ад 10,0 (паперня „Гэрой Працы“) да 3,7 дня (паперня „Зьвязда“).

У паліграфічнай вытворчасьці сярэдняя захворанасьць 6,7 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці хістаюцца ад 14,3 (друкарня „Комінтэрн“), 13,6 (1-ая дзяржжрукарня) да 4,0 („Палесдрук“). Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 6,5 дня. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць нязначна хістаецца—ад 6,9 (1-ая дзяржжрукарня) да 5,4 (друкарня „Комінтэрн“).

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць 6,1. Па асобных прадпрыемствах лічбы мяняліся ад 9,4 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў), 9,2 (Вітшвэй) да 3,7 (Якаўлеўская суконная фабрыка).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 9,2 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 13,1 (Меншвэй), 12,1 (Якаўлеўская суконная фабрыка) да 7,0 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў).

У апрацоўцы харчасмакавых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць 6,6. Па асобных прадпрыемствах адзначаюцца хістаньні ад 19,0 (дражджоўня „Чырвоная Зорка“), 14,3 (бровар „Беларусь“) да 3,4 (махорачная фабрыка) і 3,2 (дражджоўня „Пролетары“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 10,0. Па асобных прадпрыемствах адзначаюцца высокія лічбы: так, на бровары „Беларусь“ 18,5 дня і дражджоўні „Леніна“ 15,5 дня.

У апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя захворанасьць 4,9. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца ад 19,0 (цагельня Белдзяржбуду), 6,8 (шкляная гута „Пролетары“) да 1,9 (шкляная гута „Комінтэрн“), 1,4 (шкляная гута „Кастрычнік“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 7,0 дзён. Па прадпрыемствах яна хістаецца ад 21,1 дня (шкляная гута „Пролетары“) да 3,9 (шкляная гута „Домбаля“). Па раду галін прамысловасьці па асобных прадпрыемствах захворанасьць жанчын не паказана, а ёсьць весткі аб захворанасьці сярод асоб абодвага роду, дзеля чаго мы абмяжуемся паказаньнем даных аб сярэдняй захворанасьці і сярэдняй доўгачаснасьці аднаго выпадку па галінах прамысловасьці.

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі захворанасьць сярод жанчын 14,3 пры сярэдняй доўгачаснасьці аднаго выпадку 21,0.

У прамысловасьці па апрацоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня захворанасьць сярод жанчын 10,4.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці захворанасьць была сярод жанчын 14,3. Па дрэваапрацоўчай вестак аб захворанасьці сярод жанчын няма.

З усіх прадпрыемстваў можам адзначыць запалкавую фабрыку „Вэзуві“, дражджоўню „Чырвоная Зорка“ і цагельню Белдзяржбуду, дзе захворанасьць дасягнула больш высокіх лічбаў.

## Мачаплоцьныя хваробы.

Захворанасьць на мачаплоцьныя хваробы ў 1927 г. была сярод мужчын 2,3 і сярод жанчын 22,4.

Па асобных галінах прамысловасьці лічбы захворанасьці хістаюцца сярод мужчын ад 3,1 (апрацоўка дрэва) да 1,7 (апрацоўка мэталю, вытворчасьць паперы і вырабу з паперы, апрацоўка продуктаў жывёльнага паходжаньня) і сярод жанчын ад 68,9 (апрацоўка дрэва), 29,6 (хэмічная вытворчасьць) да 12,7 (апрацоўка харчасмакавых матэрыялаў), 13,9 (апрацоўка валакністых матэрыялаў) і 13,3 (апрацоўка мэталю). Па асобных прадпрыемствах лічбы значна хістаюцца.

У дрэваапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 13,6. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці сярод абодвага роду хістаюцца ад 34,8 (лесазавод № 6), 25,7 (лесазавод № 7), 26,9 (лесазавод „Чырвоны Дрэваапрацовачнік“) і 30,0 (фанерная фабрыка „Томскага“) да 3,2 (лесазавод „Дрэваапрацовачнік“) і 3,5 (фанерная фабрыка „Чырвоны Кастрычнік“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня 4,7 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ад 10,3 дня (лесазавод № 1), 10,8 дня (лесазавод „Томскага“) да 1,8 дня (лесазавод „Колектыўная Праца“).

У хэмічнай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 2,9 і сярод жанчын 29,6. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці хістаюцца: сярод мужчын ад 5,6 (запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“) да 1,4 (запалкавая фабрыка „Вэзуві“) і сярод жанчын ад 38,8 (запалкавая фабрыка „Вэзуві“) да 15,7 (запалкавая фабрыка „Дняпро“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня для мужчын 10,9 дня і для жанчын 5,1 дня. Па прадпрыемствах хістаньні сярод мужчын ад 12,4 дня (запалкавая фабрыка „Вэзуві“) да 4,8 дня (фабрыка „Чырвоны Хэмік“) і сярод жанчын ад 7,7 дня (запалкавая фабрыка „Дняпро“) да 3,9 (запалкавая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна“).

У апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 2,6 і сярод жанчын 20,4. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці хістаюцца сярод мужчын ад 5,1 (цагельня Белдзяржбуду), 4,5, (шклян. гута „Праца“), 4,8 (шкляная гута „Кастрычнік“) да 0,6 (шкляная гута „Ільліч“ і шкляная гута „Профінтэрн“) і сярод жанчын ад 47,6 (цагельня Белдзяржбуду), 45,2 (шкляная гута „Кастрычнік“), 29,8 (шкляная гута „Комінтэрн“) да 3,8 (шкляная гута „Ільліч“), 7,7 (шкляная гута „Ноўкі“) і 6,8 (кахельны завод „Пролетары“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 12,2 дня і сярод жанчын 4,9 дня. Па асобных прадпрыемствах хістаньні сярод

мужчын ад 20,8 дня (шкляная гута „Праца“), 16,4 (цагельня Комгасу) да 2,2 дня (шкляная гута „Ільліч“) і 2,6 дня (цагельня Белдзяржбуду) і сярод жанчын ад 10,1 дня (шкляная гута „Праца“), 12,1 дня (цагельня Белдзяржбуду) да 1,7 дня (шкляная гута „Кастрычнік“), 1,0 дня (шкляная гута „Профінтэрн“); 3,8 дня (цагельня Комгасу).

У паліграфічнай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 2,7 дня і сярод жанчын 20,1 дня. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці хістаюцца сярод мужчын ад 7,7 (друкарня і пераплётная працкол.) да 2,0 („Палесдрук“) і сярод жанчын ад 27,9 (друкарня і пераплётная працкол.) да 6,1 (2-ая дзярж.друкарня).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку захвораньня 13,0 дня для мужчын і 6,2 дня для жанчын. Па асобных прадпрыемствах хістаньні ў доўгачаснасьці сярод мужчын ад 16,6 дня (1-ая дзярж.-друкарня) да 3,5 дня (друкарня „Комінтэрн“) і сярод жанчын ад 11,0 дзён (друкарня „Комінтэрн“) да 2,2 дня (друкарня і пераплётн. працкол.).

У прамысловасьці паперы і вырабаў з паперы сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 1,7 і сярод жанчын 17,8. Па асобных прадпрыемствах лічбы захворанасьці хістаюцца сярод мужчын ад 2,7 (кардонная ф-ка „Сталіна“) да 0,6 (паперня „Зьвязда“) і сярод жанчын ад 50,7 (кардонная ф ка „Сталіна“) да 3,8 (паперня „Зьвязда“).

Сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня сярод мужчын 11,8 дня і сярод жанчын 8,8 дня. Па прадпрыемствах хістаньні доўгачаснасьці сярод мужчын ад 15,7 дня (паперня „Гэрой Працы“) да 1,8 дня (паперня „Зьвязда“) і сярод жанчын ад 12,1 дня (паперня „Гэрой Працы“) да 2,3 дня (паперня „Профінтэрн“).

У апрацоўцы харчасмакавых продуктаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 1,9 і сярод жанчын 12,7. Па асобных прадпрыемствах лічбы хістаюцца сярод мужчын ад 8,3 (каўбасная ф-ка Белмясгандлю), 6,3 (дражджоўня „Пролетары“) да 0,8 (дражджоўня „Чырвоная Зорка“) і сярод жанчын ад 100,0 (каўбасная Белмясгандлю), 33,6 (дражджоўня „Чырвоная Зорка“), 27,6 (дражджоўня „Варшавянка“), 22,0 (дражджоўня „Пролетары“) да 5,2 (ф-ка хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 9,0 дзён сярод мужчын і 5,3 дня сярод жанчын. Па асобных прадпрыемствах хістаньні доўгачаснасьці сярод мужчын ад 26,4 дня (дражджоўня № 52), 13,8 дня (дражджоўня „Пролетары“) да 3,1 дня (дражджоўня „Чырвоная Зорка“) і сярод жанчын на ф-цы хлебных і кондытэрскіх вырабаў „Прасьвет“ даходзіць да 2 дзён.

У апрацоўцы валакністых матэрыялаў сярэдняя захворанасьць сярод мужчын 2,4 і сярод жанчын 13,9. Па асобных прадпрыемствах захворанасьць хісталася сярод мужчын ад 18,0 (панчошна-трыкатажная ф-ка) да 0,3 (ільнапрадзільня) і сярод жанчын ад 31,3 (працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў), 26,1 (Меншвэй), 22,2 Якаўлеўская суконная ф-ка) да 4,7 (ільнапрадзільня „Карла Маркса“).

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 10,9 дня сярод мужчын і 6,7 сярод жанчын. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хісталася сярод жанчын ад 9,2 дня (ільнапрадзільня „Карла Маркса“) да 1,8 дня (Якаўлеўская суконная ф-ка) і сярод мужчын на Дняпроўскай мануфактурнай ф-цы 1,5 дня.

У апрапоўцы продуктаў жывёльнага паходжаньня сярэдняя захворанасьць сярод асоб абодвага роду 3,2. Па асобных прадпрыемствах лічбы хісталіся ад 69,3 (гарбарня „Бальшавік"), 7,1 (Віцебская шчацінная ф-ка) да 0,5 (шавецкая ф-ка „Праца").

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 9,6 дня сярод мужчын і жанчын. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца ад 25,5 дня (Менская шчацінная ф-ка), 11,1 дня (працколектыў абутнікаў да 0,7 дня (гарбарня „Бальшавік").

У вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі захворанасьць сярод ужчын і жанчын была 2,1 пры сярэдняй доўгачаснасьці аднаго выпадку 7,1 дня.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці сярэдняя захворанасьць сярод абодвага роду 2,7. Па асобных прадпрыемствах лічбы хісталіся ад 5,0 (акулярная ф-ка), 4,4 (гісэрня „Мэталь") да 0,6 (мэханічна-сьлясарны завод „Усход").

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку 9,6 дня сярод мужчын і жанчын. Па асобных прадпрыемствах доўгачаснасьць хістаецца ад 15,3 дня (цьвікова-шрубны зав. „Інтэрнацыянал") да 1,1 (завод сельскагаспадарчых машын „Рухавік Рэволюцыі").

Неабходна адзначыць, папершае, высокую захворанасьць на хваробы мачаплоцьных органаў сярод жанчын і, падругое, тыя прадпрыемствы, дзе захворанасьць дала вялікія лічбы.

Сярод асоб абодвага роду—на лесазаводах №№ 6 і 7 „Чырвоны Дрэваапрацовачнік", фанернай ф-цы „Томскага" і гарбарні „Бальшавік". Сярод жанчын і мужчын—друкарня і пераплётная працколектыў, каўбасная Белмясгандлю. Сярод мужчын—панчошна-трыкатажная ф ка, сярод жанчын—запалкавая ф-ка „Вэзуві", цагельня Белдзяржбуду, шкляная гута „Кастрычнік", кардонная ф-ка „Сталіна", дражджоўні „Чырвоная Зорка", „Варшавянка" і працколектыў вяровачнікаў і лямцоўшчыкаў.

* * *

Мы разглездзелі інтэнсыўнасьць захворанасьці і распаўсюджанасьць асобных форм захворанасьці сярод рабочых мужчын і жанчын па галінах прамысловасьці і асобных прадпрыемствах БССР за 1927 г.

Як адзначалася вышэй, сярод разгледжаных намі форм захвораньняў хваробы скуры і падскурнай абалоніны, органаў траўленьня, ад знадворных прычын і эпідэмічныя ды інфэкцыйныя (разам з сухотамі органаў дыханьня) займаюць першае месца.

Але, апрача гэтых чатырох форм, у некаторых галінах прамысловасьці можна адзначыць яшчэ цэлы рад захвораньняў, якія выдзяляюцца ў параўнаньні з захвораньнямі ў іншых галінах прамысловасьці.

Так, у мэталяапрацоўчай прамысловасьці выдзяляюцца захвораньні органаў руху і касьцей і органу зроку.

У дрэваапрацоўчай—органаў руху і касьцей; у харчсмакавай (сярод мужчын--органаў руху і касьцей і сярод абодвага роду--органаў дыханьня.

У апрацоўцы мінэральных матэрыялаў сярод жанчын—хваробы мачаплоцьных органаў і агульныя, а сярод мужчын—органаў дыханьня. У паліграфічнай вытворчасьці сярод мужчын—хваробы органаў руху і касьцей і мачаплоцьныя і нэрвовыя—сярод жанчын. У вытворчасьці паперы і вырабаў з паперы—хваробы органу зроку сярод мужчын і мачаплоцьныя і агульныя – сярод жанчын.

У апрацоўы жывёльных продуктаў—хваробы органаў крывязвароту, у апрацоўцы валакністых матэрыялаў—сухоты органаў дыханьня і хваробы органаў зроку сярод мужчын; сухоты, мачаплоцьныя і хваробы органаў дыханьня—сярод жанчын.

У хэмічнай вытворчасьці—сухоты органаў дыханьня, іншыя хваробы органаў дыханьня сярод мужчын і мачаплоцьныя сярод жанчын.

І, нарэшце, у вытворчасьці і перадачы электраэнэргіі—хваробы органаў дыханьня, хваробы касьцей і органаў руху і сухоты органаў дыханьня.

Пры разглядзе матэрыялаў наглядаюцца значныя хістаньні інтэнсыўных паказьнікаў ня толькі ў паасобных галінах прамысловасьці, але і ўнутры кожнай прамысловасьці па асобных яе прадпрыемствах. Гэта тлумачыцца, зразумела, тым, што кожнае асобнае прадпрыемства з санітарнага пункту погляду (санітарныя абставіны працы і профшкоднасьці) ня толькі можа адрозьнівацца ад іншых нават аднолькавых прадпрыемстваў, але і ўнутры кожнага прадпрыемства наглядаюцца розныя санітарныя абставіны і профшкоднасьці ў залежнасьці ад цэху, дзе працуе рабочы, і яго профэсіі. (Гэту думку выказвае С. Каплун у „Санитарной статистике труда“, выданьне „Вопросы труда“ 1929 г., стар. 232).

Далей, перавага чатырох форм захвораньняў (хваробы: эпідэмічныя, хваробы органаў траўленьня, хваробы ад знадворных прычын хваробы скуры і падскурнай абалоніны), мабыць, тлумачыцца тым, што страхавыя лісткі выдаюцца пры часовай непрацаздольнасьці, якая зьвязана ў большасьці выпадкаў з вострымі захвораньнямі.

Неабходна таксама адзначыць і тое, што рэгістрацыя прычын страты працаздольнасьці, зьвязанай з выдачай страхавых лісткоў, залежыць часта ад раду момантаў, якія цяжка ўлічваюцца (кваліфікацыя доктара, суб'ектывізм у пастаноўцы дыягнозу і ў тэрміне данага водпуску, а часам і паводзіны хворага і г. д.). Усе гэтыя моманты ня могуць не адбіцца на страхавым матэрыяле.

Зразумела, што па вышэйапісаных даных мы ня можам рабіць вывадаў адносна ўплыву профэіянальных ці соцыяльна-бытавых фактараў на захворанасьць (рознымі формамі) асобных профэсіянальных груп рабочых. Мы толькі констатавалі інтэнсыўнасьць захворанасьці на асобныя формы хвароб па галінах прамысловасьці і па прадпрыемствах сярод мужчын і жанчын і выдзелілі прадпрыемствы, на якіх інтэнсыўныя паказьнікі захворанасьці на тыя ці іншыя формы хвароб параўнальна высокія.

Dr Dr Lagun und A. Saëtt.

## Die Indexe temporärer Arbeitsunfähigkeit der Versicherten in den Grossbetrieben der W. S. S. R. im Jahre 1927 und ihre Ursachen.

*(Nach den Angaben der Versicherungskassen).*

In der Arbeit werden die Erkrankungen—nebst den Erkrankungsformen (nach der üblichen Klassifikation)—der Arbeiter der Grossbetriebe der W. S. S. R. für das Jahr 1927 angeführt. Die Angaben werden für verschiedene Industriebranchen und ferner für einzelne Betriebe besprochen, dabei wird auf den Anteil, der beiden Geschlechten zukommt, und auf die Dauer der Arbeitsunfähigkeit hingewiesen.

Es werden wesentliche Schwankungen der Intensitätindexe in ungefähr gleichartigen Betrieben beobachtet, Schwankungen, die auf die Verschiedenheit der sanitären Bedingungen der entsprechenden Betriebe und auf die Tatsache, dass die Feststellung der Arbeitsunfähigkeit im grossen und ganzen von den Fachkenntnissen und den anderen ausschliesslich subjektiven Eigenschaften des Arztes, dem Benehmen des Patienten u. s. w. abhängig ist, zurückzuführen sind.

In den verschiedenen Industriebranchen, sowohl als in den einzelnen Betrieben, müssen epidemische Krankheiten als Hauptursache der Arbeitsunfähigkeit hervorgehoben werden; ferner kommen Verdauungskrankheiten, Erkrankungen aus äusseren Ursachen, Haut-und-Zellgewebeerkrankungen. Dass an unserem Material das Übergewicht den akuten Erkrankungen zukommt, muss dadurch erklärt werden, dass Patienten, die an denselben leiden, viel häufiger als diejenigen, die an chronischen Krankheiten leiden, Kassenzette bekommen.

Leider erlaubt unser Material nicht die beruflichen und sozialen Faktoren der Erkrankungen, sowohl als die Erkrankungsformen, die in den einzelnen Betrieben beobachtet wurden, festzustellen.

---

Д-р М. Б. Хаскін

# Распрацоўка статыстычнага матэрыялу Гомельскай страхкасы аб захвораньнях з часовай стратай працаздольнасьці ў запалкавай прамысловасьці на фабрыках „Вэзуві“ і „Дняпро“, за 1927 і 1928 г.г.

Распрацаваны матэрыял складаўся з адрэзкаў бюлетэняў, аплачаных Гомельскай страхкасай за 1927 і 1928 г. па часовай непрацаздольнасьці па дзьвюх запалкавых фабрыках: „Вэзуві“ ў Нова-Беліцы і „Дняпро“ ў Рэчыцы.

У росьце рабочай сілы за 1927 і 1928 гг. па абедзьвюх фабрыках зьмены былі зусім нязначныя, і таму мною падана сярэдняя лічба рабочых за абодва гады па кожнай фабрыцы, прычым рабочая сіла па кожнай фабрыцы падзелена па профэсіі, роду і ўзросту.

**Ф-ка „Вэзуві“** Табліца 1

| Узрост / Назва профэсій | Да 18 год | | 19—20 г. | | 21—30 г. | | 31—40 г. | | 41—50 г. | | Разам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | |
| Мачалі | — | — | 2 | — | 42 | — | 14 | — | 9 | — | 67 | — | 67 |
| Накатчыкі | 10 | — | 16 | — | 35 | 2 | 25 | 2 | 23 | — | 109 | 4 | 113 |
| Здымальшчыцы | — | 82 | — | 96 | 8 | 293 | — | 93 | — | 33 | 8 | 597 | 605 |
| Кляільшчыцы | 1 | 6 | 1 | 22 | 5 | 84 | 9 | 25 | 4 | 7 | 20 | 144 | 164 |
| Упакоўшчыцы-скрыначн. | — | 4 | 1 | 10 | 13 | 47 | 5 | 13 | 2 | 7 | 21 | 81 | 102 |
| Стругалі | — | — | 6 | 1 | 25 | 11 | 14 | 6 | 8 | 5 | 53 | 23 | 76 |
| Розн. рабоч. і чорнорабоч. | 4 | — | 15 | — | 102 | 13 | 79 | 13 | 52 | 12 | 252 | 38 | 290 |
| **Разам** | **15** | **92** | **41** | **129** | **230** | **450** | **146** | **152** | **98** | **64** | **530** | **887** | **1417** |

**Ф-ка „Дняпро“**

Табліца 2

| Узрост / Назва профэсій | Да 18 год | | 19—20 г. | | 21—30 г. | | 31—40 г. | | 41—50 г. | | Разам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | Мужчын | Жанчын | |
| Мачалі | — | — | — | — | 28 | — | 25 | — | 8 | — | 61 | — | 61 |
| Накатчыкі | 10 | — | 5 | — | 70 | — | 25 | — | 8 | — | 181 | — | 181 |
| Здымальшчыцы | — | 78 | 3 | 102 | — | 232 | — | 83 | — | 14 | 3 | 509 | 512 |
| Кляільшчыцы | — | 14 | 2 | 32 | 23 | 65 | 6 | 18 | — | — | 31 | 129 | 160 |
| Упакоўшчыцы-скрыначн. | 5 | 10 | 2 | 10 | 32 | 49 | 6 | 3 | — | — | 45 | 72 | 117 |
| Стругалі | 5 | 2 | 3 | 4 | 23 | 6 | 9 | — | 3 | — | 43 | 12 | 55 |
| Розныя рабочыя | 16 | — | 20 | 2 | 191 | 32 | 154 | 30 | 85 | 9 | 466 | 73 | 539 |
| **Разам** | **36** | **104** | **35** | **150** | **367** | **384** | **225** | **134** | **104** | **23** | **807** | **795** | **1602** |

У табліцах 1 і 2 рабочыя былі падзелены па асноўных профэсіях запалкавай вытворчасьці, прычым у групу „розныя рабочыя“ ўвайшлі служачыя, рабочыя па двару, рабочыя фанернага заводу і рабочыя іншых дапаможных профэсій, у якіх заняты нязначны лік рабочых. Ва ўзросную групу рабочых—41-50 г. увайшоў нязначны лік рабочых, старэйшых за 50 год, апошнія-ж ня выдзелены ў асобную групу з прычыны іх малай колькасьці.

У некаторых профэсіях, як мачалі, накатчыкі, заняты выключна мужчыны, а на іншых, як здымальшчыцы, кляільшчыцы, заняты пераважна жанчыны, што-ж да іншых профэсій, дык на стругальных і скрыначных работах працуе больш мужчын, а на ўпакоўцы—жанчын.

Лік рабочых жанчын на абедзьвюх фабрыках большы, чым лік мужчын, і асабліва на фабрыцы „Вэзуві“, дзе жанчын на 337 больш, чым мужчын.

Па ўзросту рабочыя на абедзьвюх фабрыках (запалкавых) разьмяркоўваюцца ў процантным стасунку да агульнага ліку рабочых наступным чынам:

да 18 год—8 %; 19-20 год—12%; 21-30 год—50%;
31-40 год—20%; 41-50 год—10%.

Такім чынам, палова ўсяе рабочае сілы прыпадае на ўзрост 21-30 год. Па колькасьці рабочых, занятых на тэй ці іншай дэталёвай профэсіі, першае месца займаюць здымальшчыцы, другое месца—кляільшчыцы, трэцяе месца—накатчыкі, чацьвёртае—упакоўшчыцы, а затым ідуць стругалі і мачалі. На мачальных работах падлеткаў няма.

**Лік захвораньняў са стратай працаздольнасьці сярод рабочых запалкавых фабрык „Дняпро" і „Вэзуві" за 1927 і 1928 г. г.**

Табліца 3

| Род / Назва фабрыкі | Мужчын | | Жанчын | | Усяго захворан. | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г | за 1927 і 1928 г.г. |
| „Вэзуві" | 1534 | 807 | 2579 | 2080 | 4113 | 2887 | 7000 |
| „Дняпро" | 936 | 1023 | 1023 | 2215 | 1959 | 3238 | 5197 |
| **Разам** | **2410** | **1830** | **3602** | **4295** | **6072** | **6125** | **12197** |

**Лік захвораньняў са стратай працаздольнасьці на 100 рабоч. за год**

Табліца 4

| Род / Назва фабрыкі | Мужчын | | Жанчын | |
|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | 1927 г. | 1928 г. |
| „Вэзуві" | 290 | 152,3 | 290,7 | 234,5 |
| „Дняпро" | 122 | 133,4 | 128,7 | 250,0 |

Як відаць з табліц 3 і 4, абсолютны лік захвораньняў са стратай працаздольнасьці за два гады на запалкавай фабрыцы „Вэзуві" большы, чым на фабрыцы „Дняпро". У 1927 годзе захвораньняў на фабрыцы „Вэзуві" было больш, чым у 1928 г., а на фабрыцы „Дняпро" ў 1928 г. больш, чым у 1927 г. Абсолютны лік захвораньняў сярод жанчын большы, чым сярод мужчын на абедзьвюх фабрыках. Найбольшы лік захвораньняў на 100 рабочых у 1927 годзе як сярод мужчын, так і сярод жанчын мы маем на запалкавай фабрыцы „Вэзуві". У 1928 годзе розьніца ў захвораньнях па абедзьвюх фабрыках нязначная параўнаўча з 1927 годам. Наглядаецца зьніжэньне ліку захвораньняў на 100 рабочых у 1928 годзе параўнаўча з 1927 г. на запалкавай фабрыцы „Вэзуві", і гэта зьніжэньне рэзкае ў стасунку да захворанасьці мужчын. Наадварот, па запалкавай фабрыцы „Дняпро" ў 1928 годзе мае месца павышэньне ліку захвораньняў на 100 рабочых, і асабліва прыкметна гэта ўзрастаньне ў стасунку да жанчын. Лік захвораньняў на 100 жанчын у сярэднім большы, чым на 100 мужчын. Агульны лік захвораньняў сярод рабочых запалкавай фабрыкі „Вэзуві" большы, чым на фабрыцы „Дняпро", ня гледзячы на тое, што лік рабочых на фабрыцы „Дняпро" большы, чым на ф-цы „Вэзуві".

**Захворанасьць у абсолютных лічбах кожнай узроснай групы і дэталёвай профэсіі па запалкавай фабрыцы „Дняпро“ за 1927 і 1928 г.г.**

Таблiца 5

| Узрост | Да 18 г. | | | | 19—20 г. | | | | 21—30 г. | | | | 31—40 г. | | | | 41—50 г. | | | | Разам | | | | Разам за 1927 і 1928 г.г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | |
| Род | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | |
| **Профэсія** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мачалі | — | — | — | — | — | — | — | — | 44 | — | 49 | — | 17 | — | 14 | — | — | — | 1 | — | 61 | — | 64 | — | 125 |
| Накатчыкі | 2 | — | 22 | — | 14 | — | 16 | — | 141 | — | 242 | — | 27 | — | 53 | — | 13 | — | 24 | — | 197 | — | 357 | — | 554 |
| Упакоўшчыкі | 3 | — | 1 | — | 3 | — | 4 | — | 3 | — | 15 | — | 3 | — | 8 | — | — | — | — | — | 12 | — | 28 | — | 40 |
| Стругалі | 4 | — | 5 | — | 6 | — | 1 | — | 10 | — | 20 | — | 2 | — | 5 | — | 4 | — | — | — | 26 | — | 31 | — | 57 |
| Розн. рабоч. (мужч.) | 83 | — | 30 | — | 141 | — | 137 | — | 216 | — | 199 | — | 122 | — | 142 | — | 78 | — | 35 | — | 640 | — | 543 | — | 1183 |
| Розн. рабоч. (жанч.) | — | — | — | — | — | 8 | — | 7 | — | 56 | — | 108 | — | 15 | — | 36 | — | 24 | — | 9 | — | 103 | — | 160 | 263 |
| Здымальшчыцы | — | 166 | — | 362 | — | 206 | — | 343 | — | 311 | — | 855 | — | 41 | — | 149 | — | 3 | — | 24 | — | 727 | — | 1733 | 2460 |
| Кляільшчыцы | — | 16 | — | 37 | — | 39 | — | 43 | — | 69 | — | 108 | — | 8 | — | 22 | — | — | — | — | — | 132 | — | 210 | 342 |
| Упакоўшчыцы | — | 21 | — | 14 | — | 10 | — | 30 | — | 33 | — | 51 | — | — | — | 8 | — | — | — | — | — | 64 | — | 103 | 167 |
| Стругальшч. жанч.) | — | — | — | 1 | — | — | — | 3 | — | — | — | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 6 | 6 |
| **Разам** | **92** | **203** | **58** | **414** | **164** | **263** | **158** | **426** | **414** | **469** | **525** | **1124** | **171** | **64** | **222** | **215** | **95** | **27** | **60** | **33** | **936** | **1026** | **1023** | **2212** | **5197** |

**Стасунак ліку захвораньняў на 100 рабочых кожнай узроснай групы і дэталёвай профэсіі па запалкавай фабрыцы „Дняпро“ за 1927 і 1928 г.**

Табліца 6

| Узрост | Да 18 г. | | | | 19—20 г. | | | | 21—30 г. | | | | 31—40 г. | | | | 41—50 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | |
| Род | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М | Ж. | М | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. |
| **Профэсія** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мачалі | — | — | — | — | — | — | — | — | 160 | — | 172 | — | 68 | — | 56 | — | — | — | — | — |
| Накатчыкі | 20 | — | 220 | — | 280 | — | 320 | — | 201,4 | — | 346 | — | 108 | — | 47,1 | — | 162,5 | — | 300 | — |
| Упакоўшчыкі | 60 | — | 20 | — | 150 | — | 200 | — | 10 | — | 50 | — | 50 | — | 133,3 | — | — | — | — | — |
| Стругалі | 80 | — | 100 | — | 200 | — | 33 | — | 43,5 | — | 87 | — | 22,2 | — | 55,5 | — | 133,3 | — | — | — |
| Розн. рабоч. (мужч.) | 520 | — | 187,5 | — | 705 | — | 685 | — | 150,5 | — | 143 | — | 130 | — | 140 | — | 92 | — | 41,2 | — |
| Розн. рабоч. (жанч.) | — | — | — | — | — | 400 | — | 350 | — | 175 | — | 340 | — | 50 | — | 120 | — | 266,6 | — | 100 |
| Здымальшчыцы | — | 213 | — | 464 | — | 202 | — | 336,2 | — | 134 | — | 368,5 | — | 50 | — | 180 | — | 21,4 | — | 171,4 |
| Кляільшчыцы | — | 115 | — | 264,3 | — | 122 | — | 131,2 | — | 106 | — | 166 | — | 44,4 | — | 122 | — | — | — | — |
| Упакоўшчыцы | — | 210 | — | 140 | — | 100 | — | 300 | — | 67,3 | — | 104 | — | — | — | 266 | — | — | — | — |
| Стругальшч. (жанч.) | — | — | — | 50 | — | — | — | 75 | — | — | — | 33 | — | — | — | — | — | — | — | — |

**Лік рабочых па ўзросту, часу, роду і дэталёвай профэсіі Захворанаьць у абсолютных лічбах кожнай узроснай групы і дэталёвай профэсіі на запалкавай фабрыцы „Вэзуві“ за 1927 і 1928 г.г.**

Табліца 7

| Узрост | Да 18 г. | | | | 19—20 г. | | | | 21—30 г. | | | | 31—40 г. | | | | 41—50 г. | | | | Разам | | | | Разам за 1927 і 1928 г.г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | |
| Род | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М | Ж. | |
| Профэсія | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мачалі . . . . . . . | — | — | — | — | 4 | — | 5 | — | 82 | — | 48 | — | 14 | — | 20 | — | 4 | — | 4 | — | 104 | — | 77 | — | 181 |
| Накатчыкі . . . . . | 23 | — | 14 | — | 7 | — | 10 | — | 134 | — | 92 | — | 96 | — | 52 | — | 48 | — | 20 | — | 308 | — | 188 | — | 496 |
| Упакоўшчыкі . . . . | 2 | — | 6 | — | 2 | — | 4 | — | 12 | — | 15 | — | 12 | — | 7 | — | 4 | — | — | — | 32 | — | 32 | — | 64 |
| Стругалі . . . . . . | — | — | — | — | 5 | — | 6 | — | 16 | — | 20 | — | 8 | — | 9 | — | 1 | — | 6 | — | 30 | — | 41 | — | 71 |
| Розн. рабоч. (мужч.) . | 27 | — | 28 | — | 120 | — | 87 | — | 504 | — | 300 | — | 252 | — | — | — | 167 | — | 44 | — | 1070 | — | 459 | — | 1529 |
| Розн. рабоч. (жанч.) . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 112 | — | 137 | — | 115 | — | 100 | — | 105 | — | 104 | — | 332 | — | 341 | 673 |
| Кляільшчыцы . . . . | — | 32 | — | 7 | — | 33 | — | 20 | — | 128 | — | 139 | — | 22 | — | 25 | — | 2 | — | 10 | — | 217 | — | 201 | 418 |
| Упакоўшчыцы . . . | — | 17 | — | 15 | — | 26 | — | 14 | — | 48 | — | 76 | — | 9 | — | 24 | — | — | — | — | — | 100 | — | 129 | 229 |
| Здымальшчыцы . . . | — | 313 | — | 223 | — | 327 | — | 280 | — | 871 | — | 778 | — | 201 | — | 219 | — | 48 | — | 62 | — | 1760 | — | 1562 | 3322 |
| Стругальшч. (жанч.) | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 3 | — | 4 | — | 4 | — | 4 | — | 1 | — | 1 | — | 8 | — | 10 | 18 |
| **Разам** . . . | **52** | **362** | **48** | **245** | **138** | **386** | **112** | **315** | **748** | **1162** | **475** | **1134** | **382** | **351** | **88** | **372** | **224** | **156** | **74** | **177** | **1544** | **2417** | **797** | **2243** | **7001** |

**Стасунак ліку захвораньняў на 100 рабочых кожнай узроснай групы і дэталёвай профэсіі па запалкавай фабрыцы „Вэзуві“ за 1927 і 1928 г.**

Табліца 8

| Узрост | Да 18 г. | | | | 19—20 г. | | | | 21—30 г. | | | | 31—40 г. | | | | 41—50 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | |
| Род | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| **Профэсія** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Мачалі | — | — | — | — | 200 | — | 250 | — | 195 | — | 114 | — | 100 | — | 1428 | — | 44,4 | — | 44,4 | — |
| Накатчыкі | 230 | — | 87,5 | — | 44 | — | 63 | — | 234,3 | — | 137,1 | — | 384 | — | 208 | — | 109 | — | 87 | — |
| Ўпакоўшчыкі (мужч.) | — | — | — | — | 200 | — | 400 | — | 92,3 | — | 115,4 | — | 240 | — | 140 | — | 200 | — | — | — |
| Стругалі | — | — | — | — | 84 | — | 100 | — | 156,5 | — | 125 | — | 57,5 | — | 64,5 | — | 12,5 | — | 62,5 | — |
| Розн. рабоч. (мужч.) | 675 | — | 700 | — | 800 | — | 580 | — | 500 | — | 300 | — | 320 | — | — | — | 320 | — | 82 | — |
| Розн. рабоч. (жанч.) | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 862 | — | 900 | — | 885 | — | 800 | — | 800 | — | 800 |
| Здымальшчыцы | — | 381,7 | — | 272 | — | 340,6 | — | 300 | — | 294 | — | 265 | — | 216 | — | 235,5 | — | 145 | — | 60,6 |
| Кляільшчыцы | — | 533,3 | — | 116,6 | — | 150 | — | 90,9 | — | 150 | — | 165,5 | — | 88 | — | 100 | — | 28,6 | — | 143 |
| Упакоўшчыцы | — | 425 | — | 375 | — | 260 | — | 140 | — | 100 | — | 162,0 | — | 70 | — | 184,6 | — | — | — | — |
| Стругальшч. (жанч.) | — | — | — | — | — | — | — | 100 | — | — | — | 27,5 | — | 27,5 | — | 20 | — | 20 | — | — |

**Лік захвораньняў на 100 рабочых па роду і ўзросту на запалкавых фабрыках „Вэзуві“ і „Дняпро“ за 1927 і 1928 г.**

Табліца 9

| Узрост / Род / Назва фабрыкі | Да 18 г. | | 19—20 г. | | 21—30 г. | | 31—40 г. | | 41—50 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужч. | Жанч. | Мужч. | Жанч. | Мужч. | Жанч. | Мужч. | Жанч. | Мужч. | Жанч. |
| | У 1927 годзе | | | | | | | | | |
| „Вэзуві“ . . . . . . . . . . . | 3466 | 400 | 720 | 180 | 324 | 280,5 | 261,5 | 231 | 160 | 116,5 |
| „Дняпро“ . . . . . . . . . . | 255,5 | 200 | 468,5 | 175,3 | 112,5 | 122,2 | 76 | 48 | 91,5 | 117,5 |
| | У 1928 годзе | | | | | | | | | |
| „Вэзуві“ . . . . . . . . . . . | 320 | 266,3 | 273 | 245 | 206.4 | 252 | 60 | 244,5 | 75.5 | 134,5 |
| „Дняпро“ . . . . . . . . . . | 160 | 400 | 451 | 284 | 140 | 300 | 100 | 160 | 60 | 148,5 |

На падставе табліц 5, 6, 7, 8 і 9 можна адзначыць, што мачалі на запалкавай фабрыцы „Вэзуві“ на 100 чалавек даюць захвораньняў больш, чым на фабрыцы „Дняпро“, і што найбольшы лік захвораньняў па абедзьвюх фабрыках прыпадае на ўзрост 21—30 год і рэзка зьніжаецца ва ўзросьце 41—50 год.

Тое самае мы бачым і ў накатчыкаў. Трэба адзначыць вялікую колькасьць захвораньняў на 100 чалавек сярод падлеткаў запалкавай фабрыкі „Вэзуві“.

Здымальшчыцы на фабрыцы „Вэзуві“ на 100 чалавек таксама даюць больш захвораньняў, чым на фабрыцы „Дняпро“. Значны лік захвораньняў прыпадае на ўсе ўзросныя групы. Параўнаўчае зьніжэньне даюць узросныя групы 31—40 і 41—50 год.

Кляільшчыцы на 100 рабочых даюць значна меншы лік захвораньняў параўнаўча са здымальшчыцамі. Зьвяртае на сябе ўвагу вялікая лічба 533,3, якая прыпадае на ўзросную групу да 18 год у 1927 г. па фабрыцы „Вэзуві“. Ва ўзросьце 41—50 год захвораньняў сярод кляільшчыц не наглядаецца.

Стругалі, параўнаўча з іншымі пералічанымі вышэй профэсіямі, даюць нявысокі лік захвораньняў на 100 рабочых.

На падставе лічбовых даных у табліцах 5, 6, 7, 8 і 9 цяжка зрабіць пэўны вывад аб разьмеркаваньні захвораньняў па роду, узросту і профэсіі, але ўсё-ж на падставе таго матэрыялу, што ёсьць, можна адзначыць, што падлеткі на абедзьвюх запалкавых фабрыках даюць вялікі лік захвораньняў на 100 рабочых. Розныя рабочыя, як мужчыны, так і жанчыны, даюць таксама вялікі лік захвораньняў на 100 чалавек. Лічбы 381,7, 533,3, 675, 425 зьяўляюцца досыць высокімі. Можна таксама адзначыць, што на фабрыцы „Вэзуві“ амаль усе профэсіі даюць большы лік захвораньняў, чым на фабрыцы „Дняпро“, і што ўзростная група ў 41—50 год па некаторых профэсіях зусім не дае захвораньняў, а па іншых профэсіях дае нязначны лік захвораньняў на 100 чалавек. З профэсій, на якіх заняты мужчыны, накатчыкі даюць большы лік захвораньняў, чым іншыя, а сярод жанчынработніц найбольшы лік захвораньняў даюць здымальшчыцы.

На гэтым спыняецца разбор агульнай хваравітасьці пералічаных вышэй профэсій (дэталёвых). Пяройдзем цяпер да вывучэньня сілы разьвіцьця ў гэтых профэсіях паасобных форм хвароб і складу іх хваравітасьці. Разгледзім кожную вылучаную дасьледваньнем форму

хваробы, наколькі яна паражае тую ці іншую дэталёвую профэсію, а таксама вывучым характар і склад хваравітасьці кожнай дэталёвай профэсіі ў сувязі з санітарнай характарыстыкай кожнай профэсіі.

**Захвораньне на сухоты ў процантным стасунку да 100 рабочых і на 100 захвораньняў на запалкавых фабрыках „Вэзуві“ і „Дняпро“ мужчын ды жанчын ва ўзросьце ад 18 да 50 год**

Табліца 10

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 22,6 | 9,5 |
| Накатчыкі | 30,7 | 6,7 |
| Стругалі | 2 | 1,3 |
| Упакоўшчыкі | 3,2 | 2 |
| Розныя рабочыя | 26 | 6,3 |
| **Разам** | **23** | **9** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 5 | 1,8 |
| Упакоўшчыцы | 2,6 | 1 |
| Здымальшчыцы | 10,2 | 2 |
| Розныя рабочыя | 35 | 4 |
| **Разам** | **9** | **3** |

З табліцы 10 відаць, што з мужчынскіх профэсій найбольшую колькасьць захвораньняў на сухоты даюць накатчыкі—30,7 проц., на другім месцы стаяць мачалі—22,6 проц., на апошнім месцы—упакоўшчыкі—3,2 проц. на 100 рабочых; сярод жанчын на першым месцы стаяць здымальшчыцы—10,2 проц., на апошнім месцы—упакоўшчыцы—2,6 проц. Работніцы па групе „розныя рабочыя“ даюць значна больш захвораньняў на сухоты, чым мужчыны: першыя даюць 35, другія 26. Наогул жа сухоты сярод рабочых мужчын пашыраны больш, чым сярод работніц жанчын.

**Хваробы органаў дыханьня** Табліца 11 (кл. V)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 17,2 | 7,2 |
| Накатчыкі | 30,3 | 7 |
| Стругалі | 2,3 | 2 |
| Упакоўшчыкі | 10,6 | 7 |
| Розныя рабочыя | 14,5 | 3,5 |
| **Разам** | **25** | **9** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 14,2 | 5 |
| Упакоўшчыцы | 20 | 8 |
| Здымальшчыцы | 20 | 4 |
| Розныя рабочыя | 70 | 8 |
| **Разам** | **22** | **8** |

З табліцы 11 мы бачым, што ўсе дэталёвыя профэсіі, якія намі дасьледуюцца, даюць павышаную захворанасьць органаў дыханьня, апрача стругалёў. Сярод мужчынскіх профэсій на першым месцы стаяць накатчыкі—30,3 проц., на другім месцы—мачалі—17,3 проц.; сярод жанчын на першым месцы стаяць здымальшчыцы—20 проц., на другім месцы кляільшчыцы—14,2 проц. Што да групы „розныя рабочыя", дык зьвяртае на сябе ўвагу вялікае захвораньне верхніх шляхоў дыханьня ў жанчын—70 проц.

**Хваробы органаў траўленьня** Табліца 12 (кл. VI)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 43,4 | 18 |
| Накатчыкі | 57,1 | 12,7 |
| Стругалі | 12,3 | 10,3 |
| Упакоўшчыкі | 29 | 18,2 |
| Розныя рабочыя | 63,3 | 15,3 |
| **Разам** | **60** | **25** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 44,6 | 16 |
| Упакоўшчыцы | 40 | 15,2 |
| Здымальшчыцы | 70 | 14,5 |
| Розныя рабочыя | 173 | 19 |
| **Разам** | **60** | **22** |

На падставе табліцы 12 можна адзначыць, што захвораньні органаў траўленьня значна распаўсюджаны сярод усіх профэсій, якія намі дасьледуюцца, апрача стругалёў. З асноўных профэсій на першым месцы стаяць накатчыкі—57,1 проц., на другім—мачалі—43,4 проц., на апошнім месцы—стругалі—12,3 проц.; сярод жанчын на першым месцы стаяць здымальшчыцы—70 проц., на другім—кляільшчыцы—44,6 проц. Зьвяртае на сябе ўвагу вялікая захворанасьць сярод жанчын па групе „розныя рабочыя"—173 проц.

**Нэрвовыя хваробы** Табліца 13 (кл. III)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 9,3 | 4 |
| Накатчыкі | 17,3 | 4 |
| Стругалі | — | — |
| Упакоўшчыкі | 3,2 | 2,0 |
| Розныя рабочыя | 21 | 5 |
| **Разам** | **48** | **7** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 9,3 | 5,5 |
| Упакоўшчыцы | 5,2 | 2 |
| Здымальшчыцы | 9,5 | 2 |
| Розныя рабочыя | 28 | 11,2 |
| **Разам** | **12** | **4** |

З табліцы 13 мы можам заўважыць, што з асноўных мужчынскіх прафэсій на першым месцы па захворанасьці стаяць накатчыкі—10,3 проц., на другім—мачалі—9,3 проц.; з жаночых асноўных прафэсій на першым месцы стаяць здымальшчыцы—9,5 проц. і на другім—кляільшчыцы—9,3 проц. Сярод групы „розныя рабочыя“ мужчыны даюць большую захворанасьць, чым жанчыны.

**Хваробы касьцей і органаў дыханьня** Табліца 14

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 14 | 6 |
| Накатчыкі | 17,3 | 4 |
| Стругалі | 6,2 | 5,1 |
| Упакоўшчыкі | 12,1 | 7,7 |
| Розныя рабочыя | 33 | 8 |
| **Разам** | **20** | **12** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 15 | 5,2 |
| Упакоўшчыцы | 13 | 5 |
| Здымальшчыцы | 12,3 | 2,5 |
| Розныя рабочыя | 7 | 6,5 |
| **Разам** | **17** | **6** |

На падставе табліцы 14 можна таксама адзначыць, што і па захворанасьці органаў руху накатчыкі стаяць на першым месцы—17,3 проц., мачалі на другім месцы—14 проц.; сярод жанчын здымальшчыцы на першым месцы, кляільшчыцы на другім месцы. У групе „розныя рабочыя“ мужчыны даюць большую захворанасьць, чым жанчыны.

**Агульныя хваробы** Табліца 15 (кл. II)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | Мужчыны | |
| Мачалі | 10,8 | 4,6 |
| Накатчыкі | 18,2 | 4 |
| Стругалі | 1,5 | 1,3 |
| Упакоўшчыкі | 3 | 2 |
| Розныя рабочыя | 22,3 | 5 |
| **Разам** | **20** | **6** |
| | Жанчыны | |
| Кляільшчыцы | 15,8 | 6 |
| Упакоўшчыцы | 28 | 10,3 |
| Здымальшчыцы | 30,5 | 6 |
| Розныя рабочыя | 8,4 | 7,7 |
| **Разам** | **29** | **9** |

З табліцы 15 відаць, што захворанасьць (агульныя хваробы) паражае найбольш накатчыкаў—18,2 проц., а потым мачалёў — 10,8 проц.,

а сярод жанчын найбольш паражае здымальшчыц—30 проц., а за імі кляільшчыцы. Гэты від захворанасьці наглядаецца больш сярод жанчын, чым сярод мужчын.

### Хваробы сэрца і судзін

Табліца 16 (кл. IV)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | **Мужчыны** | |
| Накатчыкі | 3,5 | 0,8 |
| Стругалі | — | — |
| Мачалі | 1,5 | 0,7 |
| Упакоўшчыкі | — | — |
| Розныя рабочыя | 5 | 1,2 |
| **Разам** | **4** | **2** |
| | **Жанчыны** | |
| Кляільшчыцы | 6 | 2,1 |
| Упакоўшчыцы | 4 | 1,5 |
| Здымальшчыцы | 5,7 | 1,1 |
| Розныя рабочыя | 3,9 | 3,8 |
| **Разам** | **7** | **3** |

На падставе табліцы 16 можна адзначыць параўнаўна невялікую захворанасьць сэрца і судзін сярод дасьледваных дэталёвых профэсій як мужчынскіх, так і жаночых, прычым жанчыны даюць большую захворанасьць, чым мужчыны. На першым месцы па захворанасьці сярод мужчын стаяць накатчыкі—3,5 проц., на другім—мачалі—1,5 проц., а сярод жанчын першае месца займаюць кляільшчыцы—6 проц. і другое—здымальшчыцы—5,7 проц.

### Хваробы скуры і падскурнай абалоніны

Табліца 17 (кл. IX)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| | **Мужчыны** | |
| Мачалі | 50 | 20 |
| Накатчыкі | 65 | 15 |
| Стругалі | 10 | 8,4 |
| Упакоўшчыкі | 50 | 30 |
| Розныя рабочыя | 100 | 24 |
| **Разам** | **85** | **47** |
| | **Жанчыны** | |
| Кляільшчыцы | 51,3 | 18,4 |
| Упакоўшчыцы | 42 | 16 |
| Здымальшчыцы | 136 | 27,7 |
| Розныя рабочыя | 151,4 | 17,1 |
| **Разам** | **114** | **33** |

**Іншыя хваробы** Табліца 18

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| Мачалі | 74 | 30 |
| Накатчыкі | 215,4 | 46,6 |
| Стругалі | 112,4 | 71,1 |
| Упакоўшчыкі | 54,5 | 34,6 |
| Розныя рабочыя | 93,5 | 31,7 |
| Кляільшчыцы | 104,6 | 94 |
| Упакоўшчыцы | 92,2 | 35,6 |
| Здымальшчыцы | 183,7 | 35,2 |
| Розныя рабочыя | 166 | 18,8 |

З табліцы 17 відаць, што захвораньні скуры значна распаўсюджаны сярод усіх дасьледваных дэталёвых профэсій. У мужчын скурныя хваробы выяўлены рэзка: сярод накатчыкаў—65 проц., сярод упакоўшчыкаў—50 проц.; у жанчын скурныя хваробы найбольш распаўсюджаны сярод здымальшчыц—136 проц. і потым сярод кляільшчыц—51,3 проц. Можна яшчэ адзначыць вялікае захвораньне на скурныя хваробы сярод мужчын і жанчын па групе „розныя рабочыя“.

**Жаночыя хваробы** Табліца 19 (кл. VII)

| Назва профэсій | Стасунак да 100 раб. | Стасунак да 100 захворан. |
|---|---|---|
| Кляільшчыцы | 15,4 | 5,8 |
| Упакоўшчыцы | 13 | 5 |
| Здымальшчыцы | 41 | 8,4 |
| Розныя рабочыя | 70 | 71,6 |
| **Разам** | **30** | **10** |

На падставе табліцы 18 можна адзначыць, што жаночыя захвораньні выяўлены ў работніц дасьледваных профэсій і асабліва з асноўных груп у здымальшчыц—35,7 проц., а ў „розных рабочых“ дасягаюць вялікіх разьмераў—70 проц.

Пяройдзем да вывучэньня характару і складу хваравітасьці кожнай з дасьледваных дэталёвых профэсій.

Табліца 20

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы органаў крываzвароту | Кл. V. Хваробы органаў дыханьня | Кл. VI. Хваробы органаў траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачапалоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і органаў руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Мачалі | 22,6 | 10,6 | 9,3 | 1,5 | 17,2 | 43,4 | — | 50 | 14 | 61,1 |
| | У стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| Мачалі | 9,5 | 4,7 | 4 | 0,8 | 7,2 | 18 | — | 20 | 6 | 29,8 |

**Захворанасьць мачалёў у абсолютных лічбах на запалкавых фабрыках „Дняпро“ і „Вэзуві“**

Табліца 21

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | — | — | 21 | 6 | 2 | 29 |
| Агульныя хваробы | — | — | 11 | 3 | — | 14 |
| Нэрвовыя хваробы | — | — | 7 | 4 | 1 | 12 |
| Хваробы сэрца | — | — | 2 | — | — | 2 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | — | 2 | 12 | 8 | — | 22 |
| Хваробы орг. траўленьня | — | 1 | 44 | 9 | 1 | 55 |
| Жаночыя хваробы | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы скуры | — | 2 | 48 | 10 | 3 | 63 |
| Хваробы касьцей і орган. руху | — | — | 9 | 2 | 7 | 18 |
| Іншыя хваробы | — | 25 | 41 | 16 | 9 | 91 |
| **Разам** | — | **30** | **195** | **58** | **23** | **306** |

У табліцах 19 і 20 мы знаходзім характар хваравітасьці дэталёвай профэсіі мачалёў. У мачалёў адзначаецца вялікая захворанасьць на сухоты: 22,6 проц. у стасунку да 100 рабочых і 9,5 у стасунку да 100 захвораньняў, а таксама вялікая захворанасьць верхніх шляхоў дыханьня: 17,9 і 7,2.

Апрача таго, мачалі даюць вялікую захворанасьць скуры і падскурнай абалоніны: 50 на 100 рабочых і 20 на 100 захвораньняў. Яны-ж таксама даюць высокую захворанасьць органаў траўленьня: 43,4 на 100 рабочых і 18 на 100 захвораньняў. Такім чынам, мачалі хварэюць пераважна на сухоты і на хваробы шляхоў дыханьня, травільна-кішкавага тракту і скуры. Павышаная захворанасьць мачалёў на пералічаныя вышэй хваробы ў поўнай ступені зьвязана з умовамі іх працы. На абедзьвюх запалкавых фабрыках мачалі працуюць у невялікіх памяшканьнях з нізкаю стольлю; вэнтыляцыя невыстарчальная. ёсьць толькі электрычная выцяжная вэнтыляцыя; каптуры па-над мачальнымі сталамі не паглынаюць цалкам пары ад парафіны, газы, акісласьці вугляроду (ад гарачай пліты для прасушваньня саломкі) і серкаваты бязводнік (ангідрыд). У рабочым памяшканьні тэмпэратура заўсёды надта высокая. Мачалі пры рабоце ўвесь час пацеюць і п'юць шмат вады. Дзьвярэй у сумежныя рабочыя памяшканьні няма, і таму мачалі часта церпяць ад скразьняку. Праца сама па сабе інтэнсыўная і вымагае выкапаньня яе стоячы. Пры рабоце верхняе тулава і рукі мачалёў аднастайна хістаюцца і робяць па 35—40 рухаў у хвіліну. У іх наглядаецца сталае раздражэньне нюху параю парафіны, чадным газам ад згараньня саломкі на сушыльнай пліце і серкаватым ангідрыдам ад самаўспалымленьня запальнай запалкавай масы. Такія нездаровыя абставіны: сталае ўдыханьне пары ад парафіны, серкавых газаў і акісласьці вугляроду, знаходжаньне ў памяшканьні са сталай тэмпэратурай у 33—35°С, вялікая патлівасьць— усе гэтыя шкодныя варункі аслабляюць організм мачалёў і зьніжаюць ня толькі здольнасьць верхніх шляхоў дыханьня і лёгкіх да супраціў-

леньня хваробе, але яшчэ спрыяюць захвораньню мачалёў на сухоты і хваробы шляхоў дыханьня. Рабочы дзень мачалёў шасьцігадзінны, яны атрымліваюць спэцхарчаваньне. Захворaньні скуры ў мачалёў можна тлумачыць сталым сутыканьнем іх з парафінавай і запальнай масай, а таксама забруджаньнем цела ад сталага паценьня, а значную колькасьць захвораньняў травільнага тракту ў мачалёў можна тлумачыць тым, што яны п'юць шмат вады, паглынаюць паветра, насычанае парaю парафіны і серкавымі газамі. Зразумела, што з раду прычын не выключаецца ў даным выпадку няправільнае харчаваньне дома ды інш.

Трэба агаварыцца, што гэтыя вывады аб профэсіянальнай захворанасьці верхніх шляхоў дыханьня, скуры, травільна-кішкавага тракту і на сухоты сярод мачалёў ня могуць быць абсолютнымі, бо для гэтага трэба было-б вывучыць захворанасьць навакольнага насельніцтва, захворанасьць сем'яў рабочых і захворанасьць бяз страты працаздольнасьці, чаго нельга было зрабіць.

Табліца 22

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы органаў крывязвароту | Кл. V. Хваробы органаў дыханьня | Кл. VI. Хваробы органаў траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і органаў руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Накатчыкі . . . . | 30,7 | 18,2 | 17,3 | 3,5 | 30,3 | 57,1 | — | 68,5 | 17,3 | 215,4 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| Накатчыкі . . . . | 6,7 | 4 | 4 | 0,7 | 6,7 | 12,6 | — | 14,8 | 4 | 46,5 |

**Захворанасьць накатчыкаў у абсолютных лічбах на запалкавых фабрыках „Дняпро" і „Вэзуві"**

Табліца 23

| Назва хвароб | 18 год | 19-20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41-50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты . . . . . . . . . . | — | 3 | 44 | 20 | 4 | 71 |
| Агульныя хваробы . . . . | 4 | 1 | 25 | 8 | 4 | 42 |
| Нэрвовыя хваробы . . . . | 1 | 5 | 23 | 7 | 4 | 40 |
| Хваробы сэрца . . . . . . | — | 1 | 3 | 2 | 2 | 8 |
| Хваробы шляхоў дыханьня . | 2 | — | 43 | 14 | 12 | 71 |
| Хваробы орг. траўленьня . | 6 | 5 | 62 | 45 | 15 | 133 |
| Жаночыя хваробы . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы скуры . . . . . . | 7 | 9 | 77 | 48 | 15 | 156 |
| Хваробы касьцей і орг. руху | 1 | 2 | 20 | 11 | 6 | 40 |
| Іншыя хваробы . . . . . . | 80 | 123 | 161 | 77 | 48 | 489 |
| **Разам . . . . . .** | **101** | **149** | **458** | **232** | **110** | **1050** |

У табліцах 21 і 22, дзе вызначаны характар захворанасьці дэталёвай профэсіі накатчыкаў, асабліва выдзяляецца захвораньне на сухоты: 30,7 у стасунку да 100 рабочых і 12,5 у стасунку да 100 захвораньняў; затым ідуць хваробы органаў верхніх шляхоў дыханьня:

30,3 на 100 рабочых і 6,7 на 100 захвораньняў. Потым у накатчыкаў наглядаецца яшчэ вялікая захворанасьць скуры: 68,5 на 100 рабочых і 14,8 на 100 захвораньняў. Тлумачыць такую высокую захворанасьць сярод накатчыкаў санітарнай характарыстыкай профэсіі ды вытворчымі ўмовамі працы нельга. Накатчыкі працуюць стоячы, памяшканьне і па плошчы і па кубатуры здавальняючае. Праўда, няма ніякіх вэнтыляцыйных установак, апрача фрамуг на вокнах. На запалкавай фабрыцы „Вэзуві“ накатальнае аддзяленьне знаходзіцца на 2-м паверсе з драўнянай падлогай, паложанай на драўняных жа бальках, чаму ў часе работы накатальных варштатаў моцна дрыгае падлога. У рабочым памяшканьні стаіць бязупынны шум ад варштатаў. Накатальнае аддзяленьне не ізолявана ад мачальнага аддзяленьня і таму ў памяшканьні заўсёды тэмпэратура 25—27°C, а ў паветра памяшканьня ад устрасаньня і шараваньня сухой саломкі на накатальных варштатах паступае невялікая колькасьць дрэўнага пылу. З няспрыяючых умоў працы накатчыкаў заслугоўваюць увагі тэмпэратурны фактар, бязупынны шум і здрыгі падлогі на аднэй з запалкавых фабрык, а ўсе іншыя шкодныя фактары выяўлены нязначна, і таму такую вялікую захворанасьць сярод накатчыкаў цяжка тлумачыць умовамі іх працы, а тым самым паказаныя вышэй захвораньні лічыць профэсіянальнымі.

Табліца 24

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крываабароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплецьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і органаў руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Упакоўшч. - скрыначнікі . . . . | 1,5 | 3 | 3,2 | — | 10,6 | 29 | — | 50 | 12,1 | 54,5 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| | 1 | 2 | 1 | — | 7 | 18,2 | — | 29 | 6,6 | 34,6 |

## Захворанасьць упакоўшчыкаў у абсолютных лічбах

Табліца 25

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты . . . . . . . . . . | — | — | 1 | — | — | 1 |
| Агульныя хваробы . . . . | — | — | — | — | 2 | 2 |
| Нэрвовыя хваробы . . . . | — | — | 1 | — | — | 1 |
| Хваробы сэрца . . . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы шляхоў дыханьня . | 2 | 2 | 3 | — | — | 7 |
| Хваробы орг. траўленьня . | 1 | 4 | 7 | 7 | — | 19 |
| Жаночыя хваробы . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы скуры . . . . . . | 4 | 7 | 16 | 2 | 1 | 30 |
| Хваробы касьцей і орг. руху . | — | — | 7 | 1 | — | 8 |
| Іншыя хваробы . . . . . . | 6 | 8 | 15 | 4 | 3 | 36 |
| **Разам** . . . . . . | **13** | **21** | **49** | **15** | **6** | **104** |

З табліц 23 і 24 мы бачым, што упакоўшчыкі хварэюць найбольш на хваробы скуры: 50 на 100 рабочых і 29 на 100 захвораньняў, і потым на хваробы травільна-кішкавага тракту: 29 на 100

рабочых і 18,2 на 100 захвораньняў, а параўнаўча з іншымі захвораньнямі даюць яшчэ вялікую захворанасьць касьцей і органаў руху: 12 на 100 рабочых і 6,6 на 100 захвораньняў. Умовы працы упакоўшчыкаў-скрыначнікаў здавальняючыя, і высокую захворанасьць органаў траўленьня сярод іх нельга тлумачыць вытворчымі ўмовамі. Што да вялікай захворанасьці скуры, дык апошняя, мажліва, мае профэсіянальны характар, бо ўпакоўшчыкам-скрыначнікам прыходзіцца мець дачыненьне з дротам, цьвікамі, жалезнымі шынамі і неабчэсанымі дошкамі, ад чаго ў іх бываюць частыя параненьні, нагнёты і мазалі на верхніх канцавінах. На павышаную захворанасьць органаў руху, магчыма, пэўны ўплыў мае тое, што ўпакоўшчыкам прыходзіцца варочаць і падымаць скрыні з запалкамі, дзякуючы чаму могуць быць розныя зьбітыя месцы.

Табліца 26

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня. | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хв робы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У стасунку да 100 работніц | | | | | | | | | |
| Кляільшчыцы | 5 | 15,8 | 9,3 | 6 | 17,2 | 44,6 | 15,4 | 51,3 | 15 | 101,6 |
| | У стасунку да 100 захвораньняў | | | | | | | | | |
| | 1,8 | 5,6 | 3,4 | 2,1 | 5,4 | 16 | 5,7 | 18,4 | 5,1 | 36,5 |

**Захворанасьць кляільшчыц у абсолютных лічбах**

Табліца 27

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | 3 | 5 | 5 | — | 1 | 14 |
| Агульныя хваробы | 3 | 9 | 25 | 5 | 1 | 43 |
| Нэрвовыя хваробы | 1 | 6 | 16 | 3 | — | 26 |
| Хваробы сэрца | 1 | 2 | 7 | 3 | 3 | 16 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | 6 | 6 | 21 | 6 | — | 39 |
| Хваробы орг. траўленьня | 11 | 17 | 75 | 15 | 4 | 122 |
| Жаночыя хваробы | 6 | 6 | 25 | 5 | — | 12 |
| Хваробы скуры | 20 | 21 | 91 | 7 | 1 | 140 |
| Хвар. касьцей і орг. руху | 8 | 10 | 14 | 7 | 1 | 40 |
| Іншыя хваробы | 55 | 87 | 106 | 18 | 12 | 278 |
| **Разам** | **114** | **169** | **385** | **69** | **23** | **760** |

З табліц 25 і 26 відаць, што сярод кляільшчыц распаўсюджана вялікая захворанасьць скуры: 5,3 на 100 работніц і 18 на 100 захвораньняў, і апрача таго ў іх жа наглядаецца ў значнай ступені захворанасьць органаў траўленьня: 44,6 на 100 работніц і 16 на 100 захвораньняў; параўнаўча высока выяўлены захвораньні мочаплоцьныя—15,4 на 100 работніц і 5,7 на 100 захвораньняў. У кляільным аддзяленьні маюць месца сталая згуртаванасьць, невыстарчальнасьць вэнтыляцыі і кубатуры. Кляільшчыцы ўвесь час працуюць стоячы каля кляільных варштатаў. Праўда, у кляільшчыц ёсьць небясьпека ўшчамленьня пальцаў у рухомых частках варштатаў, а рукі

забруджваюцца клеем, але ўсё-ж гэта нельга лічыць адзінай прычынай захвораньня скуры ў кляільшчыц у такой вялікай колькасьці. Таксама і захвораньні травільнага тракту нельга ставіць у сувязь з вытворчымі ўмовамі, бо ніякія атрутныя матэрыі не выдзяляюцца ў процэсе работы і прытым кляільшчыцы пры рабоце маюць справу толькі з асновай, трэскай, клеем і паперай. Што да захвораньняў жаночай родавай сфэры, дык, мабыць, утварэньню гэтага віду захвораньняў сярод кляільшчыц спрыяе тое, што работу яны робяць заўсёды стоячы.

Табліца 28

| Назва профэсій | | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры | Кл. X. Хваробы касьцей і органаў руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Упакоўшчыцы | У процантным стасунку да 100 работніц | 2,6 | 28 | 5,2 | 4 | 20 | 40 | 13 | 42 | 13 | 92,2 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | 1 | 10,5 | 2 | 1,5 | 8 | 15,2 | 5 | 16 | 5 | 35,8 |

**Захвораньне упакоўшчыц у абсолютных лічбах**

Табліца 29

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | — | 2 | 1 | 1 | — | 4 |
| Агульныя хваробы | 5 | 7 | 24 | 5 | — | 41 |
| Нэрвовыя хваробы | — | 3 | 3 | 2 | — | 8 |
| Хваробы сэрца | — | — | 6 | — | — | 6 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | 3 | 9 | 13 | 7 | — | 32 |
| Хваробы орг. траўленьня | 11 | 14 | 27 | 7 | 1 | 60 |
| Жаночыя хваробы | 2 | 4 | 12 | 2 | — | 20 |
| Хваробы скуры | 13 | 11 | 33 | 7 | — | 64 |
| Хваробы касьцей і орг. руху | 2 | 1 | 14 | 3 | — | 20 |
| Іншыя хваробы | 28 | 37 | 53 | 13 | 10 | 141 |
| **Разам** | **64** | **88** | **186** | **47** | **11** | **396** |

З табліц 27 і 28 відаць, што сярод упакоўшчыц значна распаўсюджана захворанасьць скуры: 42 на 100 работніц і 16,5 на 100 захвораньняў. Апрача таго, наглядаецца высокая захворанасьць травільнага тракту: 40 на 100 работніц і 15,2 на 100 захвораньняў. Параўнаўча высокая захворанасьць органаў дыханьня: 20 на 100 работніц і 8 на 100 захвораньняў. Амаль у такой жа меры захворанасьць жаночай плоцьнай сфэры: 13 на 100 работніц і 5 на 100 захвораньняў. Лічыць паказаныя вышэй захвораньні сярод упакоўшчыц профэсіянальнымі ні ў якім разе нельга, бо ў процэсе іх работы няма такіх момантаў, якія-б маглі быць прычынай такога рэзка выяўленага захвораньня. Работа ўпакоўшчыц складаецца з таго, што яны, седзячы пры стале, ўпакоўваюць у тонкую паперу карабкі запалак па дзесятках ды заклейваюць гэту паперу клеем. Часта здараецца, што пакавальная папера бывае шурпатая і цьвярдая, што выклікае ў упакоў-

шчыц нагнёты і пацёртасьць скуры на пальцах і далоні, але ўсё-ж гэтага ўсяго нельга лічыць адзінай прычынай такога вялікага захвораньня скуры ў кляільшчыц. Зусім ня трэба шукаць прычыны высокай захворанасьці травільнага тракту, жаночых хвароб ды інш. у вытворчых умовах працы ўпакоўшчыц.

Табліца 30

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 работніц | | | | | | | | | |
| Здымальшчыцы | 10,2 | 30,5 | 9,5 | 5,7 | 20 | 70 | 41 | 136 | 12,3 | 153,3 |
| | У процантным стасунку да 100 захвораньняў | | | | | | | | | |
| Здымальшчыцы | 2 | 6 | 2 | 1,1 | 4 | 14,5 | 8,4 | 27,7 | 2,5 | 31,8 |

**Захвораньне здымальшчыц у абсолютных лічбах**

Табліца 31

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | 12 | 17 | 57 | 18 | 9 | 113 |
| Агульныя хваробы | 43 | 66 | 175 | 48 | 6 | 338 |
| Нэрвовыя хваробы | 12 | 22 | 63 | 13 | 1 | 111 |
| Хваробы сэрца | 5 | 6 | 39 | 9 | 4 | 63 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | 27 | 56 | 103 | 27 | 11 | 224 |
| Хваробы орг. траўленьня | 124 | 119 | 413 | 111 | 17 | 784 |
| Жаночыя хваробы | 41 | 63 | 136 | 213 | 5 | 458 |
| Хваробы скуры | 402 | 361 | 615 | 117 | 26 | 1521 |
| Хваробы касьцей і орг. руху | 23 | 28 | 60 | 20 | 7 | 138 |
| Іншыя хваробы | 434 | 585 | 713 | 182 | 118 | 2032 |
| **Разам** | **1123** | **1323** | **2374** | **758** | **204** | **5782** |

На падставе табліц 29 і 30 можна адзначыць высокую захворанасьць у здымальшчыц увогуле і асабліва вялікую захворанасьць скуры і падскурнай абалоніны: 136 на 100 работніц і 27,7 на 100 захвораньняў і яшчэ захворанасьць плоцьнай сфэры: 41 на 100 работніц і 8,4 на 100 захвораньняў. Досыць значную лічбу даюць захвораньні органаў дыханьня: 20,2 на 100 работніц і 4 на 100 захвораньняў. Высокі процантны стасунак даюць яшчэ захвораньні на сухоты сярод здымальшчыц: 10,2 на 100 работніц. На падставе гэтых даных можна зрабіць вывад, што здымальшчыцы, параўнаўча з іншымі дасьледванымі намі дэталёвымі профэсіямі, даюць вялікую захворанасьць і што прычыну высокага захвораньня на некаторыя хваробы трэба шукаць часткова ва ўмовах самой вытворчасьці і ў процэсе працы здымальшчыц. І сапраўды, у рабочым памяшканьні заўсёды вялікая скупаванасьць; вэнтыляцыйных установак мала: усяго 2—3 выцяжныя вэнтылятары на вялікае памяшканьне, у якім адначасна працуюць некалькі сот чалавек. Плошча і кубатура ў памяшканьні здымальнага

цэху надзвычай невыстарчальная ў адносінах да ліку людзей, працуючых у ім адначасна, дзякуючы чаму паветра здымальнага цэху заўсёды затхлае. Апрача таго здымальшчыцам прыходзіцца працаваць стоячы, здымальныя сталы не прыстасаваны да росту работніц—усе сталы аднолькавай вышыні. Планкі на здымальных драўняных рамах няроўныя, шурпатыя, і таму ў здымальшчыц на руках частыя стрэмкі, фурункулы і нарыцы. Ад частых успалымленьняў рам з запалкамі ў памяшканьні шмат чадных і серкавых газаў.

Скупаванасьць, затхлае паветра ў рабочым памяшканьні з прычыны невыстарчальнай вэнтыляцыі, стаячая работа на працягу 8 гадзін—усё гэта бязумоўна адбіваецца на здароўі здымальшчыц і значна спрыяе распаўсюджаньню сярод іх вышэйадзначаных хвароб у гэткіх значных разьмерах.

Табліца 32

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Стругалі . . . . . | 2 | 1,5 | — | — | 2,3 | 12,3 | — | 10 | 6,2 | 85,5 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| | 1,4 | 1,4 | — | — | 2 | 10,3 | — | 8,5 | 5,2 | 71,2 |

**Захвораньне стругалёў у абсолютных лічбах**

Табліца 33

| Назва профэсій | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты . . . . . . . . . . | — | — | 1 | 1 | — | 2 |
| Агульныя хваробы . . . . | — | — | 1 | 1 | — | 2 |
| Нэрвовыя хваробы . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы сэрца . . . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы шляхоў дыханьня | — | — | 2 | 1 | — | 3 |
| Хваробы орг. траўленьня . | 2 | 4 | 7 | 2 | 1 | 16 |
| Жаночыя хваробы . . . . | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы скуры . . . . . . | 2 | — | 8 | 3 | — | 13 |
| Хваробы касьцей і орг. руху . | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 8 |
| Іншыя хваробы . . . . . . | 22 | 27 | 44 | 11 | 4 | 108 |
| **Разам** . . . . . . | **27** | **32** | **65** | **21** | **7** | **152** |

З табліц 31 і 32, якія вызначаюць характар захворанасьці стругалёў, можна адзначыць некалькі павышаную захворанасьць органаў траўленьня: 12,3 на 100 рабочых і 10,3 на 100 захвораньняў, а таксама скуры: 10 на 100 рабочых і 8,5 на 100 захвораньняў.

Прычыну захвораньняў і некалькі павышанай захворанасьці травільных органаў сярод стругалёў трэба шукаць у бытавых умовах, бо з вытворчымі ўмовамі іх працы захворанасьць зусім ня зьвязана, а высокая захворанасьць скуры ў стругалёў, магчыма, залежыць і ад

вытворчых умоў, бо ім прыходзіцца мець дачыненьне да варштатаў і чурбакоў, дзякуючы чаму здараюцца частыя парэзы і нагнёты на скуры рук і прадплечча.

Табліца 34

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мача-плоцьвыя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Чорнарабоч. і розн. рабоч. мужчыны | 26 | 22,3 | 21 | 5 | 14,5 | 63,3 | — | 160 | 33 | 94,2 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| | 6,7 | 5,8 | 5 | 1,3 | 7,2 | 16,4 | — | 26 | 8 | 13 |

## Захвораньні чернорабоч. мужчын у абсолютных лічбах

Табліца 35

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | 9 | 18 | 106 | 42 | 13 | 188 |
| Агульныя хваробы | 9 | 6 | 102 | 26 | 15 | 158 |
| Нэрвовыя хваробы | 5 | 16 | 82 | 39 | 17 | 151 |
| Хваробы сэрца | 5 | 1 | 15 | 10 | 5 | 36 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | 12 | 5 | 101 | 57 | 20 | 195 |
| Хваробы орг. траўленьня | 23 | 63 | 237 | 87 | 45 | 455 |
| Жаночыя хваробы | — | — | — | — | — | — |
| Хваробы скуры | 59 | 56 | 407 | 130 | 53 | 705 |
| Хваробы касьцей і орг. руху | 21 | 16 | 96 | 76 | 28 | 237 |
| Іншыя хваробы | 155 | 189 | 248 | 64 | 21 | 677 |
| **Разам** | **298** | **370** | **1394** | **523** | **217** | **2802** |

Табліца 36

| Назва профэсій | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы моча-плоцьвыя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалоніны | Кл. X. Хваробы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантным стасунку да 100 рабочых | | | | | | | | | |
| Чорнарабоч. і розн. рабоч. жанчыны | 35,1 | 68,5 | 28 | 33,3 | 70 | 173 | 66,7 | 151,3 | 57,7 | 159 |
| | У процантным стасунку да 100 захворан. | | | | | | | | | |
| | 41,7 | 8,1 | 3,3 | 4 | 8,3 | 20,5 | 8 | 18 | 6,8 | 18,8 |

## Захворанасьць розных рабочых жанчын у абсолютных лічбах

Табліца 37

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сухоты | 5 | 4 | 23 | 6 | — | 39 |
| Агульныя хваробы | 5 | 14 | 35 | 17 | 5 | 76 |
| Нэрвовыя хваробы | 2 | — | 19 | 6 | 4 | 31 |
| Хваробы сэрца | 3 | 3 | 19 | 11 | 1 | 37 |
| Хваробы шляхоў дыханьня | 5 | 10 | 41 | 20 | 2 | 78 |

Табліца 37 (працяг)

| Назва хвароб | 18 год | 19—20 г. | 21—30 г. | 31—40 г. | 41—50 г. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Хваробы орг. траўленьня | 17 | 27 | 82 | 36 | 30 | 192 |
| Жаночыя хваробы | 4 | 4 | 51 | 12 | 3 | 74 |
| Хваробы скуры | 42 | 23 | 77 | 17 | 9 | 168 |
| Хваробы касьц. і орг. руху | 6 | 14 | 29 | 11 | 4 | 64 |
| Іншыя хваробы | 34 | 37 | 70 | 18 | 17 | 176 |
| **Разам** | **123** | **136** | **447** | **154** | **75** | **935** |

## Агульная зводка захворанасьці ў стасунку да 100 рабочых (профэсіі і хваробы)

Табліца 38

| Хваробы / Профэсіі | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры | Кл. X. Хваробы касьцей і орг. руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мачалі | 22.6 | 10,8 | 9,3 | 1,5 | 17,2 | 43,4 | — | 50 | 14 | 61,1 |
| Накатчыкі | 30,7 | 18,2 | 17,3 | 3,5 | 30.3 | 57,1 | — | 65 | 17,3 | 213 |
| Упакоўшчыкі | 3,2 | 3 | 3,2 | — | 10,6 | 29 | — | 50 | 12,1 | 54,5 |
| Стругалі | 2,1 | 1,5 | — | — | 2,3 | 12,3 | — | 10 | 6,2 | 85,5 |
| Розн. рабоч. (мужчыны) | 26 | 22,3 | 21 | 5 | 14,5 | 63,3 | — | 100 | 33 | 131,6 |
| Кляільшчыцы | 5 | 15,8 | 9,3 | 6 | 17,2 | 44,6 | 15,4 | 51,3 | 15 | 101,6 |
| Здымальшчыцы | 10,2 | 30,5 | 9,5 | 5,7 | 20 | 70 | 41 | 136 | 12,3 | 155,3 |
| Упакоўшчыцы | 2,6 | 28 | 5,2 | 4,6 | 20 | 40 | 13 | 42 | 13 | 92,2 |
| Розн. рабоч. (жанчыны | 35 | 8,4 | 28 | 3,9 | 70 | 17,3 | 8,1 | 17,3 | 7 | 24,2 |

## Агульная зводка ў стасунку да 100 захвораньняў (профэсіі і хваробы)

Табліца 39

| Хваробы / Профэсіі | Сухоты | Кл. II. Агульныя хваробы | Кл. III. Нэрвовыя хваробы | Кл. IV. Хваробы орг. крывязвароту | Кл. V. Хваробы орг. дыханьня | Кл. VI. Хваробы орг. траўленьня | Кл. VII. Хваробы мачаплоцьныя | Кл. IX. Хваробы скуры і падскурнай абалонінм | Кл. X. Хваробы касьцей і орг руху | Іншыя хваробы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мачалі | 9,5 | 4,7 | 4 | 0,8 | 7,2 | 18 | — | 20 | 6 | 29,8 |
| Накатчыкі | 6,4 | 4 | 4 | 0,7 | 7 | 12,3 | — | 15 | 4 | 46,6 |
| Упакоўшчыкі | 1 | 2 | 1 | — | 7 | 18,2 | — | 29 | 6,6 | 34,6 |
| Стругалі | 1.4 | 1,4 | — | — | 2 | 10,3 | — | 8,5 | 5,2 | 71,2 |
| Розн. рабоч. (мужчыны) | 6,3 | 5 | 5 | 1,2 | 3,5 | 15,3 | — | 24 | 8 | 31,7 |
| Кляільшчыцы | 1,8 | 5,6 | 3,4 | 2,3 | 5,4 | 16 | 5,7 | 18,4 | 5,1 | 36,5 |
| Здымалшчыцы | 2 | 6 | 2 | 1,1 | 4 | 14,5 | 8,4 | 27,7 | 2,5 | 31,8 |
| Упакоўшчыцы | 1 | 10,5 | 2 | 1,5 | 8 | 15,2 | 5 | 16 | 5 | 35,8 |
| Розн. рабоч. (жанчыны) | 4 | 7,7 | 3,1 | 3,7 | 8 | 19 | 7,5 | 17,1 | 6,4 | 23,5 |

На падставе распрацаванага матэрыялу аб захворанасьці на запалкавых фабрыках „Вэзуві“ і „Дняпро“ можна зрабіць наступныя вывады:

Умовы працы на запалкавай фабрыцы „Вэзуві“ значна горшыя, чым на фабрыцы „Дняпро“, дзякуючы чаму і захвораньняў там больш.

2. Захворанасьць сярод работніц-жанчын большая, чым сярод мужчын, што тлумачыцца невыстарчальнай прыстасаванасьцю арганізму жанчын да такой работы, як здыманьне запалак, абклейваньне карабкоў, дзе працуюць выключна стоячы, і выяўляецца пасьпешнасьць ды сталае напружаньне ўсёй нэрвовай сыстэмы.

3. Найбольшая захворанасьць падае на рабочых, як мужчын, так і жанчын, ва ўзросьце да 20 год, што тлумачыцца невыстарчальнай прыстасаванасьцю да акружаючых іх вытворчых абставін і ня зусім умацаваным іх арганізмам. Пры паступовым павышэньні ўзросту захворанасьць сярод рабочых зьніжаецца і ва ўзросьце 41—50 год мы бачым сярод іх нязначную захворанасьць, а па некаторых групах рабочых захворанасьці зусім няма.

4. Вялікую захворанасьць мы маем амаль сярод усіх дасьледваных профэсій, апрача ўпакоўшчыкаў і стругалёў, што тлумачыцца здавальняючымі ўмовамі працы апошніх як з боку вытворчага, так і з боку тэхнолёгічнага процэсу.

5. Вялікая захворанасьць на сухоты наглядаецца сярод накатчыкаў і розн. рабочых мужчын, іншыя-ж групы рабочых даюць параўнаўча невялікую захворанасьць. Ёсьць падставы лічыць, што ўмовы працы мачалёў і тэхнолёгія процэсу абмочваньня саломкі ў запальную масу зьяўляецца галоўнай прычынай захвораньня на сухоты сярод мачалёў. У захвораньні на сухоты сярод рабочых іншых груп вялікую ролю адыгрываюць і бытавыя ўмовы.

6. Скурныя захвораньні рэзка выяўлены ва ўсіх групах рабочых, апрача стругалёў. Скурныя захвораньні сярод здымальшчыц можна лічыць захвораньнем профэсіянальным, бо ім прыходзіцца заўсёды мець справу з запалкамі, здымаючы іх з рам і пакладаючы ў карабкі; розныя захвораньні скуры ў здымальшчыц выклікаюцца тым, што яны часта апякаюць рукі. Сярод іншых груп рабочых, у якасьці прычын скурных захвораньняў, апрача вытворчых умоў, ня малую ролю адыгрываюць і ўмовы бытавыя.

7. Хваробы касьцей і органаў руху рэзка выяўлены ў розных рабочых, што тлумачыцца характарам іх работы: пераноска і перасоўваньне цяжараў, работа на вышыні ды інш.

8. Вялікая захворанасьць травільнага тракту па ўсіх дасьледваных профэсіях тлумачыцца выключна бытавымі ўмовамі, апрача мачалёў, у якіх захвораньні травільнага тракту ў пэўнай ступені зьвязаны з вытворчымі ўмовамі іх працы.

9. Захвораньні нэрвовай сыстэмы досыць значна выяўлены ў накатчыкаў і залежаць ад вытворчых варункаў: стук ад варштатаў, сталы шум у рабочым памяшканьні, моцныя здрыгі падлогі.

10. Для зьніжэньня захворанасьці сярод рабочых на вышэйпаказаных запалкавых фабрыках трэба правесьці наступныя аздараўляючыя мерапрыемствы:

а) абсталяваць прыточна-выцяжную вэнтыляцыю галоўным чынам у мачальным, накатным, здымальным цэхах, а таксама ў лябораторыі і трусках з тым, каб пара, газы і пыл, якія ўтвараюцца пры рабоце, былі зусім зьнішчаны;

б) ізоляваць накатальнае аддзяленьне ад мачальнага;

в) для сядзеньня ў часе работы для здымальшчыц і кляільшчыц абсталяваць круглыя табурэткі на шрубах;

г) перавесьці накатальнае аддзяленьне на фабрыцы „Вэзуві“ з 2-га паверху на 1-шы ці палажыць жалезабэтонную падлогу;

д) скараціць колькасьць здымальных варштатаў у здымальным цэху, каб мець дастатковыя праходы паміж варштатаў і таксама мець галоўны праход;

е) мэханізаваць процэс накаткі саломкі, накладаньня ў карабкі і абмочваньня саломкі ў запальную масу шляхам устаноўкі аўтоматаў і здымальных машын, дзякуючы чаму будуць зьнішчаны ўсе шкодныя моманты ў працы мачалёў, накатчыкаў і здымальшчыц.

11. Каб характарыстыка захворанасьці дасьледваных профэсій магла мець вычарпальную каштоўнасьць, трэба яшчэ за вышэйвызначаны час распрацаваць амбуляторны матэрыял без часовай страты працаздольнасьці, а таксама вывучыць захворанасьць сем'яў рабочых паказаных профэсій.

12. З тэй жа мэтай трэба вывучыць захворанасьць сярод рабочых новай мэханізаванай запалкавай фабрыкі „Х Кастрычнік“, пабудаванай і абсталяванай з захаваньнем усіх санітарна-гігіенічных і тэхнічных норм, устаноўленых працоўным законадаўствам.

Доц. С. Р. Дзіхцяр.

# Аналіз паказьнікаў часовай непрацаздольнасьці застрахованых БССР.

Кожнае статыстычнае вывучэньне зьяў социяльнага здароўя мае істотны недахват з пункту погляду практычнага прыстасаваньня вывадаў гэтага вывучэньня ў галіне аховы здароўя і социяльнага страхаваньня. Статыстычнае вывучэньне, як вядома, можа даць больш ці менш пэўныя вынікі тады, калі яно заснавана на вельмі масыўным матэрыяле, які зьбіраўся ў працягу досыць доўгага пэрыоду часу і ахапляе вельмі значную колькасьць нагляданьняў. Толькі такі матэрыял, натуральна, можа выявіць тыя ці іншыя законамерныя ўзаемазалежнасьці ў зьявах социяльнага здароўя. Але гэта каштоўнасьць такога матэрыялу ў значнай меры абясцэньвае яго як крыніцу кіраўнічых заўваг у практычнай чыннасьці. Жыцьцё заўсёды дынамічна, і практычныя вывады, якія падказваюцца законамернасьцямі, выяўленымі пры вывучэньні матэрыялаў пяцідзесяцігадовай і больш даўнасьці, зразумела, не асабліва практычны проста таму, што за гэты пэрыод, як-бы марудна ні ішло разьвіцьцё экономічных узаемаадносін, такія вывады ў большай ці меншай меры робяцца несваячасовымі. Тым больш гэта правільна адносна тэмпаў нашага социялістычнага будаўніцтва, ня кажучы ўжо пра пяцігадовыя або дзесяцігадовыя, але вывучэньне і трохгадовых статыстычных матэрыялаў дае такія практычныя вывады, якія могуць стацца проста анахронізмам для ўмоў сёньняшняга дня. Гэта супярэчнасьць, якая заўсёды нібыта існуе ў социяльнай гігіене, між якасьцю статыстычных матэрыялаў ды іх практычнай вартасьцю, сама па сабе зьяўляецца належнай падставай для пэўнай мэтодолёгічнай рэвізіі пытаньня і ў кожным разе апраўдвае мэтодычныя вышукі. Ня спыняючыся тут на далейшым разьвіцьці нашых адносін да гэтага пытаньня, якое, бясспрэчна, заслугоўвае падрабязнага вывучэньня, мы лічым за канечна патрэбнае выявіць сэнс і мэтазгоднасьць аналізу матэрыялаў страхкасы аб непрацаздольнасьці за адзін толькі год, прычым год ужо крыху „ўстарэлы“.

Такі аналіз, зразумела, ня можа асьвятліць социяльную ці профэсіянальную патолёгію рабочых, працуючых у паасобных галінах прамысловасьці: матэрыял для гэтага невыстарчальны ні колькасна, ні якасна (мы ня маем ні ўзроснай захворанасьці, ні самога разьмеркаваньня па ўзростах застрахаваных). Аднак, социяльна-гігіенічны сэнс такога аналізу ня вычэрпваецца выяўленьнем узаемазалежнасьцяй між пашырэньнем патолёгічных зьяў і тымі ці іншымі агульнымі социяльнымі ці прыроднымі фактарамі. Кожнае социяльна-гігіенічнае вывучэньне, у канчатковым падрахунку, павінна шукаць мер

узьдзеяньня на ўмовы, уплываючыя на патолёгічныя зьявы, і з гэтага пункту погляду аналіз нязначнай колькасьці такіх зьяў, часамі нават паядынчых, бязумоўна, дае надта каштоўныя вынікі. У прыватнасьці, гэта справядліва ў адносінах да вызначэньня мерапрыемстваў па ахове працы: досыць падаць прыклад вялізнага значэньня вывучэньня кожнага няшчаснага выпадку для распрацоўкі практычных мерапрыемстваў па змаганьні з прамысловым траўматызмам. Распачаты намі аналіз часовай непрацаздольнасьці, такім чынам, павінен мець значэньне ў сэнсе выкрыцьця тых яе прычын, на якія мы маем магчымасьць узьдзеяць ці шляхам зьмены ўмоў працы, ці шляхам палепшаньня лекава-профіляктычнага абслугоўваньня. А рrіоrі мы павінны чакаць, што апошняе ўплывае ня толькі на пашыреньне патолёгічных зьяў, але і на іх выяўленьне. У адносінах да інвалідызацыі мы гэта паказалі, нам здаецца, з выстарчальнай пераканальнасьцю; відаць, і вывучаная намі часовая непрацаздольнасьць, як яе разьмеры, так і характар яе, адбівае сабой ня толькі яе сапраўдны стан, але і стан тэй організацыі, што яе дыягностызуе ды ўлічае. Ня трэба даводзіць значэньня такога прадпалажэньня для самога вывучэньня соцыяльнай патолёгіі, праверка яго сама па сабе апраўдвае, нам здаецца, аналіз таго матэрыялу, што ляжыць у аснове данай работы.

Агульныя паказьнікі часовай непрацаздольнасьці па асобных галінах прамысловасьці і па асобных найбольш буйных прадпрыемствах паданы ў табліцах.

У падсумаваным відзе сярэднягадовая колькасьць выпадкаў захвораньняў і дзён непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных становіць сабой наступныя стасункі:

| Назва галін прамысловасьці | Колькасьць выпадкаў захвораньняў на 100 застрах. за год | Колькасьць дзён непрацаздольнасьці на 100 застрах. |
|---|---|---|
| Мэталяапрацоўчая | 229,3 | 1571,5 |
| Дрэваапрацоўчая | 314,3 | 1875,6 |
| Апрацоўка валакн. матэр. | 191,9 | 1175,5 |
| " паперы | 182,5 | 1331,7 |
| " мінэральн. матэр. | 274,0 | 1469,0 |
| Харчовая вытворчасьць | 196,7 | 1236,5 |
| Апрацоўка жывёльных продуктаў | 229,4 | 1461,1 |
| Хэмічная вытворчасьць | 355,7 | 2131,7 |
| Поліграфічная | 155,3 | 1016,2 |
| Перадача электроэнэргіі | 156,6 | 976,9 |
| **Разам па ўсіх галінах вытворчасьці** | **244,6** | **1513,4** |

Пры разглядзе гэтай табліцы мы бачым, што па колькасьці выпадкаў захвораньняў першае месца займае хэмічная прамысловасьць (355,7), другое—дрэваапрацоўчая прамысловасьць (314,3), трэцяе—апрацоўка мінэральных матэрый (274).

Лепшае у гэтых адносінах становішча мы маем у поліграфічнай галіне вытворчасьці (155,3), у перадачы электроэнэргіі (155,6) і ў апрацоўцы валакнаватых матэрый (191,9).

Па колькасьці дзён непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных першае месца займае хэмічная вытворчасьць (2131,7), другое—дрэваапрацоўчая прамысловасьць (1875,6), трэцяе—мэталяапрацоўчая (1571,5), чацьвёртае — апрацоўка мінэральных матэрый (1469). Найменшая колькасьць дзён наглядаецца на прадпрыемствах па перадачы электраэнэргіі (976,9), у поліграфічнай вытворчасьці (1016,2) і пры апрацоўцы валакнаватых матэрый (1175,5).

Пераходзячы да разгляду даных па асобных прадпрыемствах, мы перш за ўсё заўважаем, што ўнутры аднэй і тэй самай галіны прамысловасьці паказьнікі хістаюцца па розных прадпрыемствах.

Так, па мэталяапрацоўчай прамысловасьці колькасьць выпадкаў 229,3; максымальна—318,6, мінімальна—139,2, сярэдняя колькасьць дзён—1571,5, максымальна—2005,5, мінімальна—779.

| Назва галін прамысловасьці | Колькасьць дзён | | | Колькасьць выпадкаў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдн. | Максым. | Мінім. | Сярэдн. | Максым. | Мінім. |
| Па дрэваапрацоўч. | 1875,6 | 2426,5 | 1222,8 | 314,3 | 512,3 | 158,1 |
| Апрац. валакн. матэр. | 1175,5 | 1772,3 | 685,8 | 191,9 | 393,8 | 98,4 |
| „ жывёльн. продуктаў | 1173,5 | 1460,1 | 871,3 | 229,4 | 472,7 | 119,4 |
| Хэмічная вытворч. | 2131,7 | 2439,7 | 1516,9 | 355,7 | 401,8 | 197,3 |
| Поліграфічная вытворч. | 1016,2 | 1104,8 | 784,4 | 155,3 | 268,2 | 75,0 |
| Электрастанцыі | 976,9 | 994,6 | 933,6 | 156,6 | 171,0 | 121,2 |
| Апрацоўка паперы | 1331,7 | 1841,7 | 782,9 | 182,5 | 359,2 | 115,3 |
| „ мінэр. матэр. | 1469,0 | 2002,8 | 786,2 | 274,0 | 490,5 | 166,1 |
| Харчовая вытворч. | 1236,5 | 1900,0 | 744,0 | 196,7 | 331,3 | 101,8 |

Усе гэтыя даныя, перш за усё, сьведчаць, што сярэднія паказьнікі часовай непрацаздольнасьці па ўсіх галінах прамысловасьці ані не адбіваюць сабой сапраўднага значэньня гэтай зьявы для асобных прадпрыемстваў. Гэта і зразумела, бо галіны прамысловасьці злучаюць зусім рознахарактарныя прадпрыемствы. Тлумачэньня, аднак, патрабуюць выкрытыя адрозьненьні ў паказьніках часовай непрацаздольнасьці ў аднатыповых прадпрыемствах. Усе адрозьненьні могуць залежаць ад рознага складу рабочых, ад рознага санітарна-тэхнічнага стану самых прадпрыемстваў, а калі не ад гэтых прычын, дык ад нейкіх іншых, якія трэба выявіць. На жаль, мы ня мелі даных аб складзе рабочых (аб узросьце, роду, кваліфікацыі, стажы ды інш.), і нашы заключэньні мы прымушаны рабіць на падставе некаторых параўнаньняў ды вывадаў, правільнасьць якіх павінна быць праверана, бязумоўна, як далейшымі нашымі ж данымі, так і дадатковымі матэрыяламі. Усё ж мы думаем, што факты як быццам гавораць самі за сябе.

У мэталяапрацоўчай прамысловасьці зьвяртаюць на сябе ўвагу паказьнікі па заводах цьвікоў „Інтэрнацыянал“ (у Рэчыцы) і „Чырвоны Кастрычнік“ (Барань Аршанскай акругі). Па характары вытворчасьці і па складзе рабочых абодва гэтыя заводы не настолькі ў кожным разе адрозьніваюцца адзін ад аднаго, каб апраўдаць такую рэзкую розьніцу ў паказьніках: „Інтэрнацыянал“—216,5 выпадкаў і 2005,5 дня на 100 застрахаваных, „Чырвоны Кастрычнік“—139,2 выпадкаў і 779,2 дня на 100 застрахаваных. Такая розьніца выклікае, перш за ўсё, прадпалажэньне аб распаўсюджаньні ў Рэчыцы якіх-небудзь эпідэмічных захвораньняў у вывучаны пэрыод. За 1927 г. мы

маем такія паказьнікі руху ўсіх вostразаразных хвароб па асобных гарадох і акругах (на 10.000 насельніцтва): усяго па БССР—352,8, у акруговых гарадох—772,9, у іншых мясцовасьцях—341,5. Па асобных акругах даныя такія:

| | Гарады | Іншыя мясцовасьці |
|---|---|---|
| Бабруйск . . . . . . . . | 877,9 (697,7) | 368,6 (223,1) |
| Віцебск . . . . . . . . | 571,4 (277,0) | 219,7 (140,2) |
| Гомель . . . . . . . . | 604,2 (385,6) | 557,1 (376,7) |
| Менск . . . . . . . . | 928,9 (660,9) | 333,5 (228,3) |
| Магілеў . . . . . . . . | 664,4 (416,1) | 301,7 (191,4) |
| Мазыр . . . . . . . . | 1993,2 (912,4) | 361,2 (183,0) |
| Ворша . . . . . . . . | 924,6 (579,3) | 346,1 (228,9) |
| Полацак . . . . . . . . | 730,7 (486,3) | 173,8 (109,5) |

Увага. У дужках—грып.

У адносінах да tbc, найбольш цікавячай нас хранічнай інфэкцыі з пункту погляду ўплыву на працаздольнасьць, дык распаўсюджаньне яго па асобных гарадох і акругах характарызуецца наступнымі данымі:

| | Гарады | Іншыя мясцовасьці |
|---|---|---|
| Бабруйск . . . . . . . . | 606,0 / 356,9 | 94,5 / 79,1 |
| Віцебск . . . . . . . . | 191,7 / 126,6 | 84,0 / 67,5 |
| Гомель . . . . . . . . | 217,8 / 142,3 | 120,4 / 92,5 |
| Менск . . . . . . . . | 511,2 / 272,2 | 95,0 / 74,4 |
| Магілеў . . . . . . . . | 132,5 / 84,0 | 59,4 / 40,7 |
| Мазыр . . . . . . . . | 1468,4 / 1159,7 | 136,7 / 118,1 |
| Ворша . . . . . . . . | 986,4 / 797,4 | 69,4 / 58,7 |
| Полацак . . . . . . . . | 925,0 / 521,6 | 88,8 / 69,5 |

Увага. Верхняя лічба—tbc усіх органаў, ніжняя—у тым ліку tbc органаў дыханьня.

Хаця даных аб пашырэньні інфэкцыйных хвароб у Рэчыцы і Барані ў нас няма, але на падставе і агульна акруговых паказьнікаў можна сьцьвярджаць, што розьніца ў гэтым пашырэньні не такая ўжо вялікая, каб здавальняюча тлумачыць адзначаную розьніцу ў паказьніках часовай непрацаздольнасьці.

У далейшым мы больш падрабязна прааналізуем усе прычыны часовай непрацаздольнасьці; тут жа мы карыстаемся данымі аб інфэкцыйных захвораньнях, каб наогул падкрэсьліць, што адрозьненьнямі ў іх распаўсюджаньні зусім нельга растлумачыць розьніцы ў паказьніках часовай непрацаздольнасьці. Прадпрыемствы ў акругах з надта высокімі паказьнікамі інфэкцыйнасьці даюць больш нізкія паказьнікі

часовай непрацаздольнасьці за прадпрыемствы ў акругах з менш значным распаўсюджаньнем заразных хвароб, і наадварот. У гэтым можна пераканацца па даных хоць якой галіны прамысловасьці.

Прадпрыемствы па апрацоўцы дрэва, як вядома, знаходзяцца ў такіх санітарна-тэхнічных умовах, якія мала адрозьніваюцца адны ад адных; але паказьнікі часовай непрацаздольнасьці на гэтых прадпрыемствах вельмі хістаюцца. Досыць зірнуць на паказьнікі двох прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў аднэй акрузе і нават у адным горадзе, каб у гэтым пераканацца.

З гэтым фактам мы сустракаемся па ўсіх без выключэньня галінах прамысловасьці і для ілюстрацыі адзначым толькі наступныя параўнаньні: ільнапрадзільні „Дзьвіна“ ды імя Карла Маркса (абедзьве ў Віцебскай акрузе) па тэкстыльнай прамысловасьці; „Гэрой працы“ (Гомельская акруга, са значным распаўсюджаньнем інфэкцыйных захвораньняў) і „Спартак“ (Магілеўская акруга, з куды менш значнай інфэкцыйнай захворанасьцю); гуты „Кастрычнік“ і „Комінтэрн“ (абедзьве ў Бабруйскай акрузе), „Домбаля“, „Пролетары“ (абедзьве ў Менскай акрузе); дражджоўні „Варшавянка“ і „Чырвоная Зорка“ (у Менску); шчацінныя фабрыкі (у Віцебску ды Гомлі); усе запалкавыя фабрыкі, усе друкарні ды інш.

Зусім натуральна, што паданы факт прымушае шукаць для яго рацыянальнага тлумачэньня, якое, паўтараем, не даецца ні характарам вытворчасьці, ні складам рабочых, ні распаўсюджаньнем інфэкцыйных захвораньняў. Дзеля таго мы і зьвяртаемся цяпер да аналізу прычын часовай непрацаздольнасьці: мо‘ мы сустрэнемся з асабліва характэрнымі захвораньнямі для асобных галін прамысловасьці або прадпрыемстваў, якія і здолеюць асьвятліць пытаньне аб розьніцах у паказьніках непрацаздольнасьці.

Выходзіць, што сярод прычын часовай непрацаздольнасьці найбольш значныя лічбы даюць хваробы эпідэмічныя (у тым ліку і сухоты), хваробы органаў траўленьня, знадворныя прычыны, хваробы скуры і падскурнай абалоніны.

Трэба адзначыць, што ва ўсіх прадпрыемствах інтэнсыўныя паказьнікі па хваробах ад знадворных прычын для мужчын (44,7) большыя, як для жанчын (31,2), а па хваробах скуры і падскурнай абалоніны яны большыя ў жанчын--(44,8), чым у мужчын (37,9). Гэтыя ж чатыры захвораньні ўвогуле стаяць на першым месцы і па асобных галінах прамысловасьці, але параўнаўчае значэньне іх рознае для розных галін прамысловасьці.

Паказаныя ў табліцах даныя як быццам гавораць за тое, што ў якасьці прычын часовай непрацаздольнасьці першае месца займаюць хваробы ад знадворных прычын у мэталяапрацоўчай і дрэваапрацоўчай прамысловасьці, хваробы інфэкцыйныя—у тэкстыльнай, харчовай і папяровай галінах прамысловасьці, хваробы органаў траўленьня—на прадпрыемствах па апрацоўцы мінэральных продуктаў жывёльнага паходжаньня, у графічнай вытворчасьці, хваробы скуры і падскурнай абалоніны—у хэмічнай прамысловасьці.

Гэтыя адносіны выкрываюць, як і трэ‘ было чакаць, родавыя адрозьненьні.

Хваробы ад знадворных прычын у мужчын даюць большыя паказьнікі; выключэньне—хэмічная вытворчасьць, дзе жанчыны даюць нібыта большыя паказьнікі часовай непрацаздольнасьці ад хвароб па знадворных прычынах. Хваробы органаў трауленьня даюць у жанчын большыя паказьнікі; выключэньне становяць прадпрыемствы па апрацоўцы мэталяў і мінэральных матэрый, дзе мужчыны даюць большыя паказьнікі часовай непрацаздольнасьці па гэтай катэгорыі хвароб.

Эпідэмічныя хваробы ў жанчын даюць большыя паказьнікі; выключэньне—апрацоўка мэталю, мінэральных матэрый, хэмічных.

Хваробы скуры даюць у жанчын большыя паказьнікі; выключэньне—апрацоўка мэталю, мінэральных матэрый, папяровая вытворчасьць, апрацоўка дрэва, жывёльных продуктаў.

Мачаплоцьныя хваробы ў хэмічнай і ў дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў жанчын даюць значна большыя паказьнікі, як у мужчын.

Такім чынам, увогуле, мы ўстанаўляем, што па ўсіх галінах прамысловасьці найбольшую спэцыфічную вагу сярод прычын часовай непрацаздольнасьці маюць (у зьбежным парадку) хваробы інфэкцыйныя, органаў трауленьня, ад знадворных прычын, скуры і падскурнай абалоніны, і што жанчыны даюць большыя паказьнікі, як мужчыны, за выключэньнем часовай непрацаздольнасьці ад знадворных прычын.

Аднак пры азнаямленьні з прычынамі часовай непрацаздольнасьці як гэтыя сярэднія стасункі па ўсіх галінах прамысловасьці, так і выведзеныя вышэй сярэднія паказьнікі для асобных галін прамысловасьці аказваюцца надта варыябільнымі. У мэталяапрацоўчай прамысловасьці першае месца сярод прычын часовай непрацаздольнасьці ў большасьці прадпрыемстваў займаюць зусім не хваробы ад знадворных прычын (траўматызм): на трох прадпрыемствах (на заводзе „Энэргія“ ў Менску, у майстэрні Бурбіс ў Менску і на заводзе „Інтэрнацыянал“ у Рэчыцы) першае месца займаюць інфэкцыйныя хваробы, на двух прадпрыемствах (на заводзе „Ўсход“ ў Менску і на зав. „Чырвоны Кастрычнік“ у Барані)—хваробы скурныя. Тое самае і па дрэваапрацоўчай прамысловасьці: на трох прадпрыемствах найбольшую спэцыфічную вагу сярод прычын часовай непрацаздольнасьці маюць хваробы органаў трауленьня („Чырвоны Дрэваапрацовачнік“ і „Комінтэрн“), у чатырох—інфэкцыйныя хваробы (зав. Томскага, „Праца“, фанерная ф-ка „Чырвоны Кастрычнік“, „Зьвязда“), у чатырох—хваробы скуры („Колектыўная праца“, № 6, „Рабочы“, фанерная ф-ка Томскага).

Эпідэмічныя хваробы, як мы бачылі, першае месца займаюць у тэкстыльнай і харчовай прамысловасьці. Тымчасам у чатырох, з васьмі тэкстыльных прадпрыемствах („Дняпроўская мануфактура“, панчошнатрыкатажная ф-ка, Вітшвэй і Меншвэй) першае месца займаюць хваробы органаў трауленьня. Па гэтай жа галіне прамысловасьці мы бачым, што адрозьненьні ў паказьніках у некаторых выпадках адыходзяць ад вызначаных раней палажэньняў. Так, на ільнапрадзільні імя К. Маркса мужчыны даюць большы паказьнік па хваробах органаў трауленьня і скуры; на Якаўлеўскай суконнай ф-цы мужчыны даюць большы паказьнік па ўсіх хваробах, апрача мачаплоцьных; на Вітшвэі і ў працколектывах вяровачнікаў ды лямцоўшчыкаў мужчыны таксама даюць большыя паказьнікі па інфэкцыйных хваробах.

Аналёгічны малюнак мы бачым і ў харчовай прамысловасьці. На дражджоўні № 52 і бровары „Беларусь" першае месца займаюць хваробы органаў траўленьня, на бровары імя Бэбеля хваробы ад знадворных прычын, на дражджоўні імя Леніна хваробы скуры. Роўным чынам і родавыя адрозьненьні далёка ня ўсюды аднолькавыя. Па інфэкцыйных хваробах мужчыны даюць большыя паказьнікі на дражджоўні імя Леніна, на бровары імя Бэбеля, на махорачнай ф-цы, на цукерачнай ф-цы; па хваробах органаў траўленьня вялікія паказьнікі ў мужчын наглядаюцца на дражджоўні № 52, імя Леніна, на бровары імя Бэбеля, на каўбаснай фабрыцы. Наадварот, большыя паказьнікі жанчыны маюць па хваробах ад знадворных прычын на дражджоўні „Чырвоная Зара" і бровары „Беларусь", а на дражджоўнях „Пролетары", „Варшавянка", № 52 і на бровары „Беларусь" хваробы скуры даюць большыя паказьнікі ў мужчын.

У папяровай прамысловасьці інфэкцыйныя хваробы сапраўды займаюць першае месца, за выключэньнем кардоннай фабрыкі імя Сталіна, на якой здараецца больш за ўсё выпадкаў часовай непрацаздольнасьці ад хвароб органаў траўленьня. У адносінах-жа да родавых адрозьненьняў мы і тут наглядаем значныя хістаньні: на папернях „Спартак" і „Профінтэрн" і зав. імя Сталіна паказьнікі па інфэкцыйных хваробах у мужчын большыя, як у жанчын; большыя паказьнікі ў іх і па хваробах органаў траўленьня на папернях „Пролетары" ды „Чырвоная Зорка".

У прадпрыемствах хэмічнай прамысловасьці, як прычына часовай непрацаздольнасьці, першае месца займаюць хваробы скуры; тое самае і ў папяровых галінах.

Аднак на запалкавай фабрыцы „Дняпро" першае месца займаюць хваробы ад знадворных прычын, а на ф-цы „Чырвоны Хэмік"—інфэкцыйныя хваробы.

Што да родавых адрозьненьняў, то на зав. „Чырвоны Хэмік" па хваробах скуры ды інфэкцыйных паказьнікі ў жанчын меншыя, як у мужчын, на запалкавай фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна" ў жанчын па хваробах органаў траўленьня паказьнікі меншыя, а па інфэкцыйных хваробах большыя, на „Дняпры" паказьнікі па хваробах органаў траўленьня большыя ў мужчын, чым у жанчын, а на „Вэзуві" па інфэкцыйных хваробах у жанчын большыя паказьнікі, а па хваробах ад знадворных прычын меншыя. Усе гэтыя родавыя адрозьненьні проста процілеглыя тым, якія мы вывелі ў сярэднім для ўсіх галін прамысловасьці.

Нарэшце, хваробы органаў траўленьня займаюць у сярэднім першае месца на прадпрыемствах па апрацоўцы жывёльных продуктаў, мінэральных матэрый, у графічных і на электрастанцыях. Тымчасам па гарбарнай прамысловасьці мы бачым, што на гарбарні „Пролетарскі Шлях", у шавецкай майстэрні Гандальбуду, на шавецкай ф-цы „Праца" і шчацiннай ф-цы першае месца займаюць інфэкцыйныя хваробы; яны ж першае месца займаюць і на Гомельскай электростанцыі. У шклянай прамысловасьці на радзе прадпрыемстваў („Пролетары", „Кастрычнік", імя Домбаля) першае месца займаюць хваробы ад знадворных прычын, на другіх („Ільліч", „Ноўкі", „Профінтэрн")—інфэкцыйныя хваробы, на зав. „Праца"—хваробы скуры. Па графічнай прамысловасьці хваробы органаў траўленьня першае месца

займаюць на двох прадпрыемствах, на трох асобных гэта месца займаюць інфэкцыйныя хваробы. Па родавых адрозьненьнях мы бачым адхіленьні ад выведзеных сярэдніх стасункаў на прадпрыемствах па апрацоўцы мінэральных матэрый. Так, на гутах „Кастрычнік“, „Профінтэрн“ і на цагельнях жанчыны па хваробах органаў травленьня даюць большыя паказьнікі, чым мужчыны; тое самае мы бачым і адносна паказьнікаў па хваробах ад знадворных прычын на заводзе „Ноўкі“ і „Профінтэрн“; па інфэкцыйных хваробах мы такія-ж стасункі бачым на зав. „Пролетары“, „Ільліч“, „Профінтэрн“ і на цагельнях Комгасу; на зав. „Кастрычнік“ ды „Ільліч“ жанчыны даюць большыя паказьнікі па хваробах скуры.

Калі аналёгічным чынам прааналізаваць усе прычыны часовай непрацаздольнасьці, дык можна пераканацца, што і для іх таксама характэрны хістаньні „сярэдніх“ вялічынь, і—гэта яшчэ важней—што вельмі цяжка на падставе сярэдніх паказьнікаў меркаваць, якія сапраўды захвораньні зьяўляюцца найбольш пашыранымі або важнымі прычынамі часовай непрацаздольнасьці. Уважаючы за лішняе рабіць падрабязны разгляд усіх прычын захвораньняў па асобных прадпрыемствах (падрабязнасьці гл. у табліцах), мы для доваду—больш дакладна для ілюстрацыі—спынімся на некаторых прыкладах.

Па ўсіх галінах вытворчасьці tbc органаў дыханьня ў якасьці прычыны часовай непрацаздольнасьці ў сярэднім складае 4,1 проц. усіх прычын у адносінах да колькасьці выпадкаў і 11,5 проц. у адносінах да колькасьці дзён.

Пры гэтым найбольшы процант tbc органаў дыханьня мы бачым на прадпрыемствах па апрацоўцы валакнаватых матэрый: 8,7 проц.—у адносінах да колькасьці выпадкаў, 16,6 проц.—у адносінах да колькасьці дзён. Сапраўды, разглядаючы даныя аб спэцыфічнай вазе tbc органаў дыханьня сярод прычын часовай непрацаздольнасьці на прадпрыемствах па апрацоўцы валакнаватых матэрый, мы бачым, што яны хістаюцца між 2,2 і 18,7 проц. у адносінах да колькасьці выпадкаў і 5,5 і 25,1 проц. у адносінах да колькасьці дзён. Для мужчын гэтыя хістаньні—між 1,7 проц. і 18,1 проц. у адносінах да колькасьці выпадкаў і 7,5 і 27,4 проц. у адносінах да колькасьці дзён, а для жанчын—між 0,8 проц. і 19 проц. у адносінах да колькасьці выпадкаў і 1,0 проц. і 25,2 проц. у адносінах да колькасьці дзён. Труднасьць знайсьці гэтым хістаньням рацыянальнае тлумачэньне (склад рабочых, умовы працы) ілюструецца параўнаньнем спэцыфічнай вагі tbc па роду ў аналёгічных прадпрыемствах. Напрыклад, процант tbc органаў дыханьня.

| | У адносінах да колькасьці выпадкаў у %% | | У адносінах да колькасьці дзён у %% | |
|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. |
| Якаўлеўская ф-ка | 5,3 | 17,8 | 8,8 | 10,0 |
| Дняпроўская „ | 1,7 | 3,1 | 6,9 | 9,2 |
| Вітшвэй | 7,9 | 1,3 | 27,4 | 2,9 |
| Меншвэй | 5,4 | 2,3 | 17,7 | 7,5 |

А вось даныя па хваробах органаў зроку. У сярэднім яны складаюць 1,3 проц. усіх прычын непрацаздольнасьці ў адносінах да колькасьці выпадкаў і 1,0 проц. у адносінах да колькасьці дзён. Найбольшай гэта спэцыфічная вага ў адносінах да колькасьці выпадкаў

адзначана на прадпрыемствах па апрацоўцы мэталяў (2,1). Хістаньні па розных прадпрыемствах гэтай галіны прамысловасьці—між 0,8 проц. і 3,7 проц.

Падамо яшчэ даныя па хваробах органаў дыханьня: сярэдняя іх спэцыфічная вага 6,1 проц. у адносінах да колькасьці выпадкаў і 5,7 проц. у адносінах да колькасьці дзён. Найбольшыя лічбы мы бачым пры апрацоўцы мінэральных матэрый у адносінах да колькасьці выпадкаў (7,4 проц.) і ў харчовай прамысловасьці ў адносінах да колькасьці дзён (7,3 проц.). Сапраўды, на прадпрыемствах па апрацоўцы мінэральных матэрый спэцыфічная вага захворанасьці органаў дыханьня ў адносінах да колькасьці выпадкаў толькі на гутах хістаецца між 4,7 проц. і 11,5 проц. Пры дыфэрэнцыяцыі па роду мы атрымаем такія даныя:

| | М. | Ж. |
|---|---|---|
| „Праца“ . . . . . . | 6,9 | 4,6 |
| „Пролетары“ . . . . | 8,4 | 8,2 |
| „Кастрычнік“ . . . . | 4,5 | 5,5 |
| „Ільліч“ . . . . . . | 5,8 | 2,9 |
| „Комінтэрн“ . . . . | 12,1 | 9,8 |
| „Ноўкі“ . . . . . . | 7,8 | 4,6 |
| Ім. Домбаля . . . . . | 6,6 | 6,9 |

І гэтае падагульненьне, нам здаецца, не патрабуе асаблівых комэнтараў у тым сэнсе, што яно выклікае натуральна пытаньні: чым выклікана такая розьніца ў ролі хваробы органаў дыханьня па радзе аналёгічных прадпрыемстваў? чым выкліканы такія рэзкія ў некаторых выпадках родавыя адрозьненьні? чаму ў адных выпадках роля захворанасьці органаў дыханьня большая ў мужчын, а ў другіх выпадках—у жанчын?

Разгледзім яшчэ прадпрыемствы харчовай прамысловасьці, якія, што ўжо адзначалася, займаюць першае месца па спэцыфічнай вазе захвораньняў на іх органаў дыханьня ў адносінах да колькасьці дзён непрацаздольнасьці (7,3 проц.). Гэта спэцыфічная вага хістаецца між 1,6 і 13,6. Родавая дыфэрэнцыяцыя па аналёгічных прадпрыемствах дае такія даныя:

| | | М. | Ж. |
|---|---|---|---|
| Дражджоўні | „Пролетары“ . . . . . | 7,0 | 7,7 |
| „ | „Варшавянка“ . . . . . | 11,6 | 2,4 |
| „ | „Чырв. Зорка“ . . . . | 3,2 | 5,7 |
| „ | № 52 . . . . . . . . . | 8,2 | 8,7 |
| „ | імя Леніна . . . . . . | 7,1 | 3,5 |
| Бровары | „Беларусь“ . . . . . . . | 14,3 | 9,6 |
| „ | імя Бэбеля . . . . . . . . | 7,5 | — |

Пытаньні, паданыя ў сувязі з данымі па прадпрыемствах для апрацоўкі мінэральных матэрый, відаць, маюць падставу і ў гэтым выпадку.

Мы ня будзем больш падаваць прыкладаў, якія, нам здаецца, пераканаўча сьведчаць аб правільнасьці высновы, што аналіз зарэгістраваных прычын часовай непрацаздольнасьці ня можа даць правільнага ўяўленьня аб тыпе захворанасьці ў асобных галінах прамысловасьці і па асобных прадпрыемствах. Гэты вывад застаецца правільным, ня гледзячы на тое, што ў некаторых прадпрыемствах лік працуючых

рабочых здаецца не асабліва значным, бо колькасьць зарэгістраваных выпадкаў захвораньняў усё-ж досыць вялікая (у сярэднім 244,6 на 100 застрахаваных).

Аналіз тыпу захворанасьці resp. інтэнсыўных паказьнікаў прычын часовай непрацаздольнасьці дае тыя самыя вывады. Так, напрыклад, паводле даных уліку зарэгістраваных выпадкаў tbc органаў дыханьня, ён найбольш пашыраны (16,8) сярод прадпрыемстваў па апрацоўцы валакнаватых матэрый (па колькасьці выпадкаў хваробы) і больш за ўсё пашыраны (па колькасьці дзён непрацаздольнасьці) у хэмічнай вытворчасьці (224,7) ды ў прадпрыемствах па апрацоўцы жывёльных продуктаў (218,4 проц.). Калі мы зьвяртаемся да даных аб распаўсюджаньні tbc органаў дыханьня па гэтых галінах прамысловасьці, дык атрымліваем такія вынікі.

| | Колькасьць выпадкаў на 100 | | Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку | |
|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж. | М. | Ж. |
| Ільнапрадзільня „Дзьвіна“ . | 24,6 | 33,4 | 11,7 | 9,1 |
| Ільнапрадз. імя К. Маркса . | 5,0 | 4,7 | 17,2 | 16,0 |
| Якаўлеўская сук. ф-ка . . | 10,5 | 18,5 | 11,3 | 10,4 |
| Дняпроўская мануфак. . . | 3,5 | 8,6 | 20,1 | 14,7 |
| Панчош.-трык. ф-ка . . . . | 4,5 | 5,6 | 19,0 | 17,8 |
| Меншвэй . . . . . . . . . | 11,6 | 2,3 | 23,6 | 14,8 |
| Вітшвэй . . . . . . . . . | 16,5 | 9,1 | 16,7 | 16,5 |
| П/к вяровачнікаў . . . . . | 15,3 | 3,1 | 7,9 | 7,1 |
| **Сярэдняе** . . . . . . . | **13.7** | **18.8** | **14.5** | **10.2** |

| Назва галін прамысловасьці | Колькі. выпадк. | Сярэдн. доўгач. |
|---|---|---|
| | А. Р. | А. Р. |
| Гарбарня „Бальшавік“ | 5,8 | 13,3 |
| „Пролетар. Шлях“ . | 2,4 | 59,3 |
| П/к абутнікаў . . . | 21.6 | 15,4 |
| Шавецкая майстэрня Гандальбуду . . | 12,4 | 17,3 |
| Фабрыка абутку ВСНГ | 9,3 | 21,7 |
| Аб. п/к „Самаход“ . | 10,9 | 20,1 |
| Мэхан. ф-ка абутку . | 27.4 | 16,5 |
| Шчацін. ф-ка „Кастрычнік“ . . . . . | 13,3 | 30,3 |
| Шав. ф-ка „Праца“ . | 8,6 | 13,7 |
| Шчацін. ф-ка . . . . | 9,9 | 12,6 |
| „ „ . . . . | 10,1 | 3,8 |
| **Разам** . . . | **11,0** | **19,9** |

| Назва галін прамысловасьці | Колькі. выпадкаў на 100 | | Сярэдн. доўгачасн. аднаго выпадку | |
|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж | М. | Ж. |
| „Праца“ . . . . . . | 11,3 | 3,0 | 21,9 | 31,6 |
| „Пролетары“ . . . . | 11,3 | 4,9 | 9,4 | 46,1 |
| „Кастрычнік“ . . . . | 10,4 | 1,4 | 21,7 | 10,7 |
| „Ільліч“ . . . . . . | 7,5 | 23,1 | 12,5 | 24,6 |
| „Комінтэрн“ . . . . | 8,5 | 9,6 | 16,0 | 7,7 |
| „Ноўкі“ . . . . . . | 7,1 | 3,9 | 26,7 | 14,7 |
| Імя Домбаля . . . . | 2,5 | 3,0 | 25,1 | 21.2 |
| „Профінтэрн“ . . . . | 1,8 | — | 24,3 | — |
| Кахельня . . . . . | 5,6 | 1,7 | 16,9 | 3,0 |
| Цагельня . . . . . | 1,8 | 5,6 | 12,5 | 9,9 |
| „ Б.Д.Б. . | — | 4,8 | — | 2,0 |
| **Разам** . . . | **7,1** | **4.5** | **19.5** | **19.9** |

Нам здаецца, што досыць нават пабежнага прагляду паданых абагульненьняў, каб пераканацца, што зробленыя намі апрыорныя заключэньні аб галінах прамысловасьці, найбольш паражоных tbc, на падставе сярэдніх паказьнікаў далёка не адпавядаюць рачаіснасьці. Кожная галіна прамысловасьці па аналёгічных прадпрыемствах дае значныя хістаньні ў адносінах і колькасьці захвораньняў, і сярэдняй доўгачаснасьці кожнага выпадку, і родавых адрозьненьняў. Калі гэтыя хістаньні выклікаюцца рознымі ўмовамі працы, дык чаму-ж такія рэзкія

часамі адрозьненьні ў тым, як часта хварэюць мужчыны і жанчыны? Калі родавыя адрозьненьні выклікаюцца розьніцай у профэсіях, дык чаму ў адным выпадку мужчыны даюць большыя паказьнікі, а ў другім жанчыны? Чаму сярэдняя доўгачаснасьць захвораньня,—значыць, відаць, цяжкасьць яго, такая розная?

Рацыянальнае тлумачэньне якімі-небудзь об'ектыўнымі прычынамі знайсьці нялёгка.

Такім жа шляхам можна прааналізаваць інтэнсыўныя паказьнікі ўсіх прычын часовай непрацаздольнасьці і, як у гэтым лёгка пераканацца, прагледзеўшы ўсе даданыя да артыкулу табліцы, атрымаць аналёгічныя вывады аб тыпе захворанасьці па асобных галінах прамысловасьці.

Што да сярэдняй доўгачаснасьці resp. цяжкасьці захвораньня ў па асобных галінах прамысловасьці, дык даныя аб іх абагулены ў табліцы. Нават тыя захвораньні, доўгачаснасьць якіх па галінах прамысловасьці хістаецца сама менш, па асобных прадпрыемствах надта варыябільныя (гл. адпаведныя даныя ў табліцах). У гэтых адносінах асабліва характэрны даныя па часовай непрацаздольнасьці пасьля родаў і ад хвароб цяжарнасьці. Здавалася-б, яны павінны быць надта мала зьменныя, паколькі датычаць больш-менш аднароднай групы (па веку і роду) рабочых, а розьніца ў характары вытворчасьці не павінна адбівацца ў аналёгічных прадпрыемствах. Але і ў гэтым выпадку хістаньні паказьнікаў вельмі значныя. Для доваду падамо наступнае абагульненьне.

Сярэдняя доўгачаснасьць аднаго выпадку па хваробах, зьвязаных з цяжарнасьцю і пасьля родаў.

**Гуты.**

| | |
|---|---|
| „Праца" | 4,2 |
| „Пролетары" | 24,1 |
| „Кастрычнік" | 8 |
| „Ільліч" | 6,1 |
| „Комінтэрн" | 11,1 |
| „Ноўкі" | 9,7 |
| Ім. Домбаля | 3,9 |
| „Профінтэрн" | 10,6 |
| **У сярэднім** | **7** |

**Тэкстыльная і кравецкая прамысловасьць.**

| | |
|---|---|
| Ільнапрадзільня „Дзьвіна | 9,1 |
| Ільнапрадзільня імя К. Маркса | 10,5 |
| Якаўлеўская мануф. | 12,1 |
| Дняпроўская „ | 8,7 |
| Панчошна-трыкатажн. ф-ка | 9,8 |
| Вітшвэй | 7,4 |
| Меншвэй | 13,1 |
| П/к лямцоўшчыкаў | 7 |
| **У сярэднім** | **9,2** |

**Графічная вытворчасьць.**

| | |
|---|---|
| І-я дзярж. друкарня | 6,9 |
| Працколектыў | 6,7 |
| „Комінтэрн" | 5,4 |
| Палесдрук | 6,1 |
| **У сярэднім** | **6,5** |

**Дражджоўні і бровары.**

| | |
|---|---|
| „Пролетары" | 13 |
| „Варшавянка" | 9,2 |
| „Чырвоная Зорка | 13,4 |
| Імя Леніна | 15,5 |
| „Беларусь" | 18,5 |
| Імя Бэбеля | 10,9 |
| **У сярэднім** | **10** |

**Папяровая прамысловасьць.**

| | |
|---|---|
| „Гэрой Працы" | 10 |
| „Спартак" | 7,2 |
| „Профінтэрн" | 4 |
| „Чыр. Зорка" | 3,7 |
| Імя Сталіна | 9,7 |
| Шпалерная ф-ка | 8,2 |
| **У сярэднім** | **8,7** |

**Хэмічная прамысловасьць.**

| | |
|---|---|
| „Чырв. Бярэзіна" | 7,6 |
| „Дняпро" | 12,7 |
| „Вэзуві" | 9,4 |
| „Чырв. Хэмік" | – |
| **У сярэднім** | **9,3** |

гэтымі цыркулляркамі. Між тым ёсьць бясьпечныя варштаты з мэханічнай ланцуговай падачай амэрыканскіх і нямецкіх фірм. Кошт такіх варштатаў, напрыклад нямецкіх, 2.500 руб., але затое продукцыйнасьць іх значна вышэйшая, бо адзін такі варштат заменіць чатыры нашы цыркуляркі. Прымаючы пад увагу, што атрымаць іх з-за граніцы не заўсёды можна, а патрэба ў бясьпечных цыркулярках вялізная, то выцякае сама сабой патрэба пачаць выпуск абсталяваньня для нашых заводаў не застарэлай конструкцыі, а новай, па тыпу загранічных машын. Гэта дало-б вялізны эфэкт зьмяншэньня траўматызму і хутка акупілася-б з гаспадарчага пункту погляду.

Таксама і ў шкляной прамысловасьці шмат няшчасных выпадкаў бывае ад прымітыўных варштатаў па шліфаваньні шкляной пасуды. Пры рабоце шклянкі прыціскаюцца непасрэдна рукамі да шайбаў і, лопаючыся, што бывае вельмі часта, значна раняць пальцы рук. У сучасны момант на шклянай гуце імя Домбаля робіцца мэханічны варштат, мэта якога—адхіліць ручны націск шклянкі пры дапамозе спрунжын. Работу гэту праводзіць вынаходца, мэханік-рацыяналізатар, і трэба спадзявацца, што варштат неўзабаве будзе зроблены.

Траўматызм выклікаецца таксама зношаным абсталяваньнем, несваячасовым яго рамонтам, адсутнасьцю адпаведнага нагляду за яго станам. Так, напрыклад, на паперні ў Чашніках мноства няшчасных выпадкаў бывае з прычыны няспраўнасьці фрыкцыйных муфт пры накатах папяровых машын. Пры разрываньні паперы валік з ёю, вагой каля 10 пудоў, прыходзіць у хуткае вярчэньне і выскаквае пад уплывам адцэнтравай сілы з свайго месца. Калі рабочы не пасьпявае загадзя адскочыць, то атрымлівае дзе-небудзь ушыб. Спыніць у час валік нельга з прычыны няспраўнасьці мэханізму.

Характарызаваць зношанасьць абсталяваньня могуць таксама наступныя прыклады, атрыманыя пры абсьледваньні.

На лесакомбінаце ў Барысаве адбыліся наступныя аварыі: 1) у 1928 г. другі раз паламаўся левы цыліндр паравіка; машына працуе адным толькі цыліндрам; 2) у 1928 г. трэснуў каленчаты вал лёкомобіля „Гарет и Смит", з прычыны чаго машына спынілася на цэлы год; 3) у 1928 г. знойдзена шчыліна ў катле лёкомобіля „Гарет-Лейстон", пасьля чаго кацёл быў спынены на рамонт; 4) у 1929 г. паламаўся фанерны рэзальны нож „Краўзэ", з прычыны чаго ён не працаваў 2 месяцы; 5) у 1929 г. паламаўся дышаль лесапільнага варштату; 6) у 1930 г. разарвалася ваданагравальная труба вадатрубнага катла, дзякуючы чаму кацёл доўгі час не ачышчалі ад гразі і накіпу; 7) у 1930 г. спынілі для рамонту лёкомобіль.

На драцяна-цьвіковым заводзе ў Барані ў 1929 г. паламаўся вал газагенэратарнага рухавіка ў 200 конскіх сіл; рухавік яшчэ раманстуецца.

Паказаныя прыклады даволі выразна сьведчаць аб нездавальняючым стане абсталяваньня старых заводаў, што пры вялікай нагрузцы ў рабоце машын і варштатаў можа выклікаць аварыі і чалавечыя афяры.

Такое становішча лішні раз падкрэсьлівае неабходнасьць спэцыяльнага штодзённага тэхнічнага нагляду і кантролю ва ўмовах нагрузкі прадпрыемстваў са зношаным абсталяваньнем.

Як зазначалася вышэй, вялікая колькасьць няшчасных выпадкаў здараецца ад цеснаты і заграмоджанасьці рабочых памяшканьняў. Падобныя выпадкі прыпадаюць, галоўным чынам, на рабочых, занятых ручной работай, пераноскай цяжараў, уборкай, але меў месца і такі няшчасны выпадак, калі кваліфікаванаму майстру на заводзе „Дрэваапрацовачнік" з прычыны загароджанага паўфабрыкатам доступу да калевачнага варштату адрэзала фрэзам два пальцы на руцэ.

Цесната і заграмоджанасьць выклікаецца дзьвюма ўмовамі: 1) дадатковай устаноўкай варштатаў у сувязі з павялічэньнем вытворчай праграмы і 2) несваячаснай або недастатковай уборкай памяшканьня. На некаторых прадпрыемствах пры абсьледваньні прапанована было разгрузіцца ад варштатаў, як, напр., на заводзе „Комінтэрн", на драцяна-цьвіковым заводзе ў Барані, на новым Бабруйскім комбінаце ды інш. У даных адносінах інспэкцыі працы неабходна больш жорстка праводзіць папераджальны нагляд і сачыць за тым, каб бяз ведама спэцінспэкцыі не ўстанаўляліся дадатковыя варштаты.

Павышаны траўматызм выклікаецца, вядома, і дэфэктамі абгараджальных мерапрыемстваў. На драцяна-цьвіковым заводзе быў выпадак, калі рабочы, які нёс у руках скруткі дроту, быў захоплены і падняты пасам цьвіковага варштату. Пас зачапіў за скрутак дроту які быў пад рукой рабочага.

Шмат выпадкаў бывае і ад недахвату забясьпечных мерапрыемстваў, напрыклад пры работах на тачылах, з прычыны таго, што рабочыя не заўсёды адзяваюць акуляры; тое ж самае бывае пры абточваньні на такарных варштатах меднай арматуры, пры якім ляціць шмат стружак.

Гэты від траўматызму можна адхіліць таксама забясьпечным прыстасаваньнем у выглядзе шкляных заслон непасрэдна пры тачылах або разцох.

Адна з складаных крыніц траўматызму, якая належыць да няправільнай організацыі работ, заключаецца ў непасьлядоўным разьмяшчэньні процэсаў вытворчасьці. Дзякуючы гэтаму здараецца шмат няшчасных выпадкаў на запалкавай ф-цы „Чырвоная Бярэзіна", прычым пашкоджаньні бываюць ад ваганэтак (якія называюцца варштатамі). Такая-ж непасьлядоўнасьць вытворчых опэрацый ёсьць на старых пільнях „Комінтэрн" і „Дрэваапрацовачнік". Тут назіраецца зваротная плынь паўфабрыкатаў да папярэчнай пілы.

Змагацца з падобнымі недахватамі вельмі цяжка, паколькі адхіленьне іх зьвязана з пераноскай цэхаў, перастаноўкай варштатаў па ходу процэсу, пераабсталяваньнем трансмісій, а часам і пашырэньнем памяшканьняў.

Неабходна адзначыць вялікую колькасьць цяжкіх няшчасных выпадкаў на складах пільняў. Выпадкі здараюцца пры скачваньні ў сьцірты бярвеньняў і пры складаньні ў ярусы пілаванага матэрыялу.

Тлумачыцца траўматызм ненормальным станам складзкай гаспадаркі, зьвязанай з недахватам вольнай плошчы для пашырэньня складу, з прычыны чаго матэрыялы складаюцца ў высокія ярусы і штабелі. Напрыклад, на Віцебскім лесазаводзе вышыня штабеляў і ярусаў перавышае 10 аршын. З такой вышыні часта падаюць рабочыя, атрымліваючы цяжкія ўшыбы і пераломы. Радыкальнай мерай аздараўленьня

ўмоў працы на такіх складах павінна быць увядзеньне мэханізацыі работ і пабудова бясьпечных драбін па тыпу тых, якія ўжываюцца на будаўнічых работах, што і прапанавалася ажыцьцёвіць.

Тры сьмяротных выпадкі ў бягучым годзе, што здарыліся на гісэрні „Пролетары" ў Гомлі, на кардоннай ф-цы „Сталіна" ў Рагачэве і на лесазаводзе „Комінтэрн" у Барысаве, зьяўляюцца характарнымі для прычыны, выкліканай адсутнасьцю нагляду за работамі.

На гісэрні „Пролетары" пры пад'ёме бака вагою 90 пудоў абарваўся прэнт, які змацоўваў ланцуг пад'ёмніка з бакам, што падымаўся. Бак, падаючы, забіў на сьмерць рабочага, які хацеў праскочыць пад бакам, у момант яго пад'ёму. Як паказала сьледзтва, зломаны прэнт быў узяты рабочым з тых, што валяліся ў цэху, і зусім не адпавядаў разьліковым разьмерам. Падобныя выпадкі разрыву прантоў былі ня раз, але паколькі ня было няшчасных выпадкаў, то ніхто не звярачаў на гэта ўвагі, і адміністрацыяй ніякіх мер аховы ня прымалася.

Другі няшчасны выпадак на кардоннай ф-цы імя Сталіна здарыўся з падлеткам-дзяўчынкай, якая дапускалася ў машыновае аддзяленьне без нагляду: падышоўшы да мотору, яна была захоплена муфтай валу электрапомпы за адзежу і забіта.

Трэці выпадак на заводзе „Комінтэрн" здарыўся пры надзяваньні пасу на хаду спрактыкаваным, з вялікім стажам, рабочым—памоцнікам мэханіка. Ня гледзячы на забарону тэхнічнага інспэктара надзяваць пасы нахаду, гэта рабілася з ведама адміністрацыі.

Паданых трох выпадкаў і шмат падобных, якія скончыліся менш трагічна, ня было-б, калі-б на прадпрыемствах быў нагляд па тэхніцы бясьпекі і працоўная дысцыпліна, створаная гэтым наглядам.

Яшчэ пэўны проц. траўм адносіцца да неспрактыкаванасьці рабочых. Па думцы гаспадарнікаў, „неспрактыкаванасьць" зьяўляецца галоўнай прычынай, выклікаючай рост траўматызму, і зьяўляецца вынікам цякучасьці рабочай сілы. Між тым, як відаць з паданай табліцы, неспрактыкаванасьць выклікала толькі 75 выпадкаў, і, значыць, яна не адыгрывае домінуючай ролі.

Такім чынам трэба прызнаць, што ў нашых умовах галоўнымі фактарамі, выклікаючымі траўматызм, зьяўляюцца:

1) зношанае і застарэлай конструкцыі абсталяваньне;

2) адсутнасьць увязкі паміж павялічэньнем вытворчасьці і наяўнымі разьмерамі памяшканьняў і станам абсталяваньня;

3) поўная адсутнасьць нагляду па тэхніцы бясьпекі на прадпрыемствах;

4) няправільная організацыя работ;

5) цякучасьць і малая кваліфікацыя рабочай сілы.

---

Табліца № 1

## Частата няшчасных выпадкаў у прадпрыемствах БССР у 1927-1929 г.

| Назва прадпрыемстваў і груп вытворчасьці | Колькасьць застрахаваных | | | | Абсолютны лік няшчасных выпадкаў | | | | Колькасьць няшчасн. выпадкаў на 1000 поўн. рабочых | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдні лік застрахаваных | | 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | |
| | 1927 г. | 1928 г. | I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. |
| Па апрацоўцы мэталю | 2588 | 2927 | 3528 | 3745 | 1059 | 1635 | 454 | 461 | 538,8 | 703,2 | 166,2 | 162,3 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе | — | — | — | — | — | — | — | — | 294,9 | 317,4 | — | — |
| Па апрацоўцы дрэва | 4247 | 4189 | 4339 | 4600 | 1436 | 1120 | 289 | 360 | 455,4 | 332,8 | 83,7 | 94,4 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе | — | — | — | — | — | — | — | — | 326,4 | 371,6 | — | — |
| Па апрацоўцы валакн. матэрый | 4519 | 5732 | 6631 | 6857 | 236 | 358 | 131 | 138 | 66,3 | 81,2 | 24,0 | 25,3 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Па вытворчасьці паперы і кардону | 3347 | 3218 | 3146 | 2957 | 378 | 340 | 129 | 132 | 157,5 | 140,8 | 53,8 | 56,6 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе | — | — | — | — | — | — | — | — | 127,0 | 140,1 | — | — |
| Па апрацоўцы мінэральн. матэр. | 3804 | 4038 | 4605 | 4383 | 1199 | 1130 | 207 | 281 | 423,9 | 325,2 | 52,0 | 72,8 |
| Даныя СССР па саюзе па шкляной вытворч. | — | — | — | — | — | — | — | — | 306,8 | 330,7 | — | — |
| Па апрацоўцы харч. матэр. | 2184 | 1818 | 1829 | 1782 | 448 | 379 | 87 | 104 | 311,8 | 277,0 | 61,2 | 80,9 |
| Даныя СССР па бровар. і вінакур. | — | — | — | — | — | — | — | — | 268,4 | 264,8 | — | — |
| Па апрацоўцы жывёльн. продукт. | 2375 | 3062 | 3469 | 3788 | 422 | 703 | 202 | 190 | 228,8 | 271,4 | 71,1 | 61,4 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе | — | — | — | — | — | — | — | — | 234,4 | 258,2 | — | — |
| Хэмічная вытворчасьць | 2756 | 4139 | 4619 | 5009 | 1283 | 1184 | 325 | 467 | 464,0 | 360,8 | 85,1 | 109,9 |
| Даныя СССР па ўсім саюзе запалк. вытворч. | — | — | — | — | — | — | — | — | 289,4 | 306,2 | — | — |
| Па ўсіх прадпрыемствах | 28534 | 30791 | 33920 | 34907 | 6648 | 7010 | 1852 | 2162 | 312,8 | 286,0 | 67,8 | 77,2 |
| Сярэдняя норма траўматызму па СССР | — | — | — | — | — | — | — | — | 220,8 | — | — | — |

**Частата няшчасных выпадкаў у буйных**

| Назва прадпрыемстваў і груп вытворчасьці | Назва акругі | Лік застрахаваных | |
|---|---|---|---|
| | | Сярэдні лік застрахав. | |
| | | 1927 г. | 1928 г. |
| **Па апрацоўцы мэталю** | | | |
| З-ды с.-г. машын „Чыр. Мэтал." і гісэрня „Комінтэрн" | Віцебск | 1062 | 1187 |
| Гісэрня „Комунар" | Менск | — | — |
| Машына-будаўн. зав. і гісэрня „Энэргія" | „ | 204 | 315 |
| З-д с.-г. машын, „Рухавік Рэволюцыі" | Гомель | 273 | 314 |
| Гісэрня і арматур. з-д „Пролетары" | „ | 455 | 554 |
| Цьвікова-драцяны і трубавы з-д „Інтэрнацыянал" | „ | 274 | 252 |
| Цьвікова-драцяны з-д „Чырвоны Кастрычнік" | Ворша | 320 | 304 |
| | | **2588** | **2927** |
| **Па апрацоўцы дрэва** | | | |
| Пільня „Соцыялізм" | Гомель | 160 | 189 |
| Пільня „Колектыўная Праца" | „ | 420 | 398 |
| Пільня „Праца" | Мазыр | 119 | 109 |
| „ „Пролетары" | „ | 155 | 155 |
| „ імя Томскага | Гомель | 288 | 274 |
| „ „Комінтэрн" | Барысаў | 461 | 402 |
| „ былая № 1 | Віцебск | 318 | 347 |
| „ былая № 7 імя Фрунзэ | Бабруйск | 193 | 190 |
| „ былая № 6 імя Вароўскага | „ | 202 | 190 |
| „ былая № 2 „Комінтэрн" | „ | 166 | 183 |
| „ былая імя Халтурына | „ | 112 | 88 |
| „ былая „Спартак" | „ | 107 | 110 |
| „ былая „Чырвоная Зорка" | Магілеў | 85 | 75 |
| „ былая „Дрэваапрац." | Менск | 215 | 221 |
| Фанерная ф-ка „Чырвоны Кастрычнік" | Мазыр | 264 | 312 |
| „ „ „Чырвоная Зорка" | „ | 325 | 328 |
| „ імя Томскага | Бабруйск | 132 | 140 |
| Цьвікал. ф-ка „Рабочы" | Барысаў | 106 | 172 |
| „ „ „Праца" | Менск | 89 | 66 |
| Ф-ка гнут. мэблі імя Вароўскага | Гомель | 144 | Ліквідавана |
| Ф-ка гнут. мэблі | Віцебск | 186 | 191 |
| | | **4247** | **4189** |
| **Па апрацоўцы валакн. матэрыялаў** | | | |
| Ільнапрадзільня „Дзьвіна" | „ | 1938 | 1869 |
| „ „ „Карла Маркса" | „ | 631 | 552 |

**прадпрыемствах БССР у 1927-29 г. г.** Табліца 2

| Лік застрахаваных | | Абсолютн. лік няшчасных выпадкаў | | | | Лік няшчасных выпадкаў на 1 00 поўных рабочых | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. | | | | 1929 г. | | | | 1929 г. | |
| I кв. | II кв. | 1927 г. | 1928 г. | I кв. | II кв. | 1927 г. | 1928 г. | I кв. | II кв. |
| 1176 | 1144 | 590 | 953 | 193 | 156 | 724,5 | 1009,5 | 217,1 | 188,4 |
| 476 | 561 | — | — | 67 | 101 | — | — | 178,7 | 232,7 |
| 409 | 529 | 49 | 169 | 59 | 71 | 310,5 | 647,5 | 178,5 | 172,3 |
| 324 | 318 | 107 | 125 | 39 | 45 | 523,5 | 523,0 | 161,8 | 178,6 |
| 612 | 655 | 184 | 273 | 72 | 63 | 508,1 | 605,3 | 150,0 | 124,7 |
| 247 | 251 | 63 | 43 | 12 | 12 | 337,4 | 228,7 | 62,5 | 61,9 |
| 284 | 287 | 66 | 72 | 12 | 13 | 275,1 | 297,4 | 53,8 | 60,5 |
| **3528** | **3745** | **1059** | **1635** | **454** | **461** | **538.8** | **703,2** | **166.2** | **162,3** |
| 216 | 214 | 37 | 38 | 9 | 14 | 313,9 | 250,0 | 48,6 | 93,3 |
| 360 | 374 | 168 | 83 | 17 | 16 | 540,2 | 264,3 | 61,8 | 58,2 |
| 106 | 107 | 30 | 21 | 6 | 3 | 353,5 | 262,5 | 69,0 | 30,3 |
| 188 | 178 | 69 | 66 | 34 | 18 | 644,0 | 554,6 | 222,2 | 116,1 |
| 270 | 279 | 79 | 105 | 21 | 18 | 384,0 | 477,3 | 95,9 | 84,9 |
| 410 | 433 | 179 | 108 | 12 | 26 | 630,7 | 355,3 | 34,1 | 71,0 |
| 382 | 535 | 59 | 84 | 17 | 30 | 230,8 | 284,7 | 66,4 | 60,4 |
| 204 | 173 | 124 | 54 | 3 | 26 | 751,8 | 325,3 | 19,5 | 166,7 |
| 121 | 161 | 142 | 70 | 13 | 18 | 864,7 | 454,5 | 125,0 | 151,3 |
| 230 | 188 | 93 | 59 | 25 | 26 | 671,5 | 393,3 | 163,4 | 167,7 |
| 108 | 115 | 16 | 20 | 8 | 7 | 275,8 | 303,0 | 100,0 | 68,6 |
| 127 | 163 | 35 | 45 | 9 | 11 | 516,5 | 517,2 | 93,8 | 97,3 |
| 99 | 103 | 19 | 20 | 8 | 8 | 283,3 | 322,6 | 102,6 | 101,3 |
| 248 | 274 | 72 | 115 | 23 | 28 | 506,7 | 668,6 | 124,3 | 185,1 |
| 317 | 319 | 70 | 78 | 22 | 37 | 346,3 | 333,0 | 79,7 | 124,6 |
| 391 | 433 | 80 | 50 | 30 | 43 | 300,0 | 188,6 | 89,0 | 107,8 |
| 205 | 202 | 79 | 23 | 20 | 23 | 753,1 | 188,2 | 113,6 | 160,8 |
| 169 | 163 | 23 | 22 | 5 | 2 | 242,3 | 151,7 | 33,6 | 12,3 |
| 58 | 60 | 24 | 26 | 2 | — | 371,1 | 500,0 | 43,5 | — |
| Ліквідавана | — | 27 | Ліквідавана | | Ліквідавана | 220 | Ліквідавана | | — |
| 130 | 126 | 11 | 26 | 5 | 6 | 85,2 | 168,8 | 51,0 | 58,3 |
| **4339** | **4600** | **1436** | **1120** | **289** | **360** | **455.4** | **332,8** | **83,7** | **94,4** |
| 1881 | 1863 | 87 | 46 | 24 | 13 | 58,5 | 31,0 | 15,2 | 7,9 |
| 458 | 471 | 18 | 5 | 6 | 1 | 34,9 | 11,0 | 15,3 | 2,4 |

| Назва прадпрыемстваў і груп вытворчасьці | Назва акругі | Лік застрахаваных — Сярэдні лік застрахав. 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|
| Ф-ка „Дняпроўская мануфактура" | Ворша | 777 | 735 |
| Панч.-трык. ф-ка | Віцебск | 498 | 524 |
| Кравецк. ф-ка „Профінтэрн" | „ | 384 | 1372 |
| Швэйпром | Менск | 291 | 681 |
| | | **4519** | **5732** |
| **Па вытворчасьці паперы і вырабу картону** | | | |
| Паперня „Зорка" | Віцебск | 731 | 567 |
| „ „Спартак" | Магілеў | 745 | 706 |
| „ „Гэрой Працы" | Гомель | 1641 | 1751 |
| Кардон. ф-ка імя Сталіна | Бабруйск | 230 | 194 |
| | | **3347** | **3218** |
| **Па апрацоўцы мінэральн. матэрыялаў** | | | |
| Ізразц. кахляны з-д „Пролетары" | Ворша | 322 | 356 |
| Шкляная гута „Пролетары" | Менск | 344 | 323 |
| „ „ „Ноўкі" | Віцебск | 589 | 571 |
| „ „ „Кастрычнік" | Бабруйск | 325 | 554 |
| „ „ „Комінтэрн" | „ | 470 | 408 |
| „ „ „Домбаль" | Барысаў | 807 | 827 |
| „ „ „Ільліч" | Магілеў | 351 | 507 |
| „ „ „Праца" | Полацак | 596 | 492 |
| | | **3804** | **4038** |
| **Па апрацоўцы харчав. матэр.** | | | |
| Цукерк. фабр. „Х-годзьдзя Кастрычн. рэволюцыі" | Гомель | 130 | 175 |
| „ „ „ „ | Менск | 62 | 76 |
| Дражджоўня „Чырвоная Зорка" | „ | 249 | 195 |
| „ „Пролетары" | „ | 133 | 105 |
| „ „Варшавянка" | „ | 166 | 127 |
| „ „Вызваленая Праца" | Віцебск | 107 | 79 |
| „ „Чырвоны Харчавік" | Бабруйск | 124 | 103 |
| „ „Ільліча" | Барысаў | 111 | Ліквідавана |
| Сьпірыт.-гарэлачны завод | Менск | 72 | 69 |
| „ „ | Віцебск | 112 | 106 |
| „ „ | Гомель | 148 | 129 |
| Бровар „Беларусь" | Менск | 120 | 103 |

Табліца 2 (працяг)

| Лік застрахаваных | | Абсолютн. лік няшчасных выпадкаў | | | | Лік няшчасных выпадкаў на 1000 поўных рабочых | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | |
| I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. |
| 751 | 749 | 51 | 41 | 8 | 3 | 79,4 | 66,7 | 12,6 | 4,5 |
| 819 | 937 | 30 | 27 | 5 | 11 | 83,7 | 65,9 | 7,5 | 14,9 |
| 1848 | 1845 | 19 | 118 | 40 | 45 | 52,4 | 101,4 | 27,0 | 33,7 |
| 874 | 936 | 31 | 121 | 48 | 65 | 151,0 | 224,9 | 69,0 | 66,8 |
| **6631** | **6857** | **236** | **358** | **131** | **138** | **66.3** | **81,2** | **24.0** | **25.3** |
| 593 | 512 | 47 | 69 | 43 | 34 | 138,0 | 206,5 | 125,4 | 90,2 |
| 684 | 681 | 90 | 76 | 20 | 18 | 153,4 | 129,5 | 33,7 | 32,2 |
| 1662 | 1558 | 193 | 136 | 43 | 59 | 148,3 | 102,3 | 33,4 | 49,7 |
| 201 | 206 | 48 | 59 | 23 | 21 | 281,7 | 357,6 | 133,7 | 99,5 |
| **3146** | **2957** | **378** | **340** | **129** | **132** | **157.5** | **140,8** | **53,8** | **56.6** |
| 360 | 385 | 11 | 6 | 3 | — | 40,9 | 19,7 | 9,8 | — |
| 339 | 352 | 201 | 127 | 17 | 23 | 648,9 | 475,7 | 60,3 | 74,2 |
| 611 | 517 | 125 | 75 | 26 | 27 | 252,0 | 155,9 | 50,5 | 56,5 |
| 738 | 729 | 186 | 290 | 21 | 93 | 717,0 | 577,6 | 32,5 | 158,7 |
| 500 | 481 | 130 | 108 | 30 | 31 | 335,0 | 285,7 | 66,4 | 44,0 |
| 1039 | 1040 | 187 | 154 | 38 | 50 | 350,2 | 212,1 | 41,3 | 54,6 |
| 496 | 478 | 35 | 157 | 30 | 22 | 248,6 | 392,5 | 68,6 | 42,6 |
| 522 | 401 | 324 | 213 | 42 | 35 | 749,9 | 510,8 | 58,8 | 123,4 |
| **4605** | **4383** | **1199** | **1130** | **207** | **281** | **423,9** | **325,2** | **52,0** | **72.0** |
| 231 | 218 | 19 | 23 | 6 | 6 | 188,7 | 162,0 | 30,2 | 34,7 |
| 86 | 157 | 17 | 12 | 3 | 10 | 372,4 | 210,5 | 48,3 | 76,3 |
| 195 | 206 | 39 | 38 | 6 | 9 | 246,1 | 217,1 | 33,0 | 16,3 |
| 109 | 108 | 25 | 15 | 3 | 3 | 255,5 | 182,9 | 87,8 | 92,3 |
| 64 | Лік. | 25 | 24 | 2 | Лік. | 229,4 | 242,4 | 43,4 | Лік. |
| 88 | 90 | 5 | 9 | 1 | 2 | 66,6 | 157,8 | 13,9 | 28,2 |
| 75 | 59 | 46 | 20 | 4 | 5 | 524,9 | 250,0 | 64,5 | 147,1 |
| Ліквідавана | | 9 | Ліквідавана | | Ліквідавана | 112,8 | Ліквідавана | | — |
| 64 | 59 | 6 | 31 | 9 | 5 | 174,9 | 704,5 | 230,8 | 151,5 |
| 113 | 84 | 15 | 11 | 2 | 8 | 219,0 | 157,1 | 26,3 | 258,0 |
| 105 | 97 | 54 | 32 | 5 | 6 | 623,4 | 395,1 | 73,5 | 101,7 |
| 86 | 87 | 41 | 22 | 5 | 8 | 454,2 | 271,6 | 79,4 | 131,1 |

| Назва прадпрыемстваў і груп вытворчасьці | Назва акругі | Лік застрахаваных | |
|---|---|---|---|
| | | Сярэдні лік застрахав. | |
| | | 1927 г. | 1928 г. |
| Бровар „Бэбеля" | Віцебск | 128 | 110 |
| „ „Спартак" | Ворша | 47 | 43 |
| „ „Пролетары" | Магілеў | 67 | 59 |
| Бойня | Менск | 73 | 67 |
| „ | Гомель | 53 | 72 |
| Маслабойны з-д імя Калініна | Віцебск | 44 | 26 |
| „ „ імя Адзярыха | Бабруйск | 45 | 23 |
| Хлебазавод | Менск | — | — |
| Хлебапякарня ЦРК | Гомель | 58 | 69 |
| | | **2148** | **1818** |
| **Па апрацоўцы жывёльн. продуктаў** | | | |
| Гарбарня „Бальшавік" | Менск | 373 | 468 |
| „ „Пролетарскі Шлях" | Гомель | 125 | 142 |
| „ імя Лекерта | Магілеў | 110 | 147 |
| Прац. кол. абутнікаў | Менск | 106 | 223 |
| Абутк. майст. Гандальбуд | „ | 155 | 113 |
| Ф-ка Скуртрэсту | „ | 108 | 143 |
| Абутковая ф-ка | Віцебск | 319 | 270 |
| Ф-ка Скуртрэсту | „ | 123 | 131 |
| Абутковая ф-ка „Праца" | Гомель | 209 | 232 |
| Шавецкая арц. „Пролетары" | „ | 101 | 219 |
| Ф-ка шчотачнікаў | Менск | 247 | 558 |
| Шчацін. ф-ка | „ | 99 | 97 |
| „ „ | Віцебск | 181 | 191 |
| „ „ „Чырвоны Кастрычнік" | Гомель | 119 | 129 |
| | | **2375** | **3062** |
| **Хэмічная вытворч.** | | | |
| Запалк. ф-ка „Вэзуві" | Гомель | 1304 | 1564 |
| „ „ „Дняпро" | „ | 1416 | 1495 |
| „ „ „Чырвоная Бярэзіна" | Барысаў | 1036 | 1080 |
| „ „ „Х-годзьдзя Кастрычн. рэв." | Гомель | — | — |
| | | **3756** | **4139** |
| Электростанцыя | Менск | 236 | 243 |
| „ | Гомель | 114 | 148 |
| „ | Бабруйск | 68 | 84 |
| | | **508** | **474** |
| **Поліграфічная вытворчасьць** | | | |
| 1-я дзярждрукарня | Менск | 505 | 543 |
| Друкарня працкол. | „ | 107 | 94 |
| „ „Палесдрук" | Гомель | 410 | 338 |
| „ „Саха і Молат" | Магілеў | 115 | 83 |
| „ „Комбінат" | Барысаў | 78 | 49 |
| „ „ | Віцебск | 83 | 89 |
| | | **1268** | **1195** |
| **Па ўсіх прадпрыемствах** | | **28534** | **30791** |

Увага. Некаторыя паданыя ў табліцах паказьнікі па тэхнічных прычынах

## ДА ХАРАКТАРЫСТЫКІ ПРАМЫСЛОВАГА ТРАЎМАТЫЗМУ Ў БССР

Табліца 2 (працяг)

| Лік застрахаваных | | Абсолютн. лік няшчасных выпадкаў | | | | Лік няшчасных выпадкаў на 1000 поўных рабочых | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | |
| I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. | | | I кв. | II кв. |
| 91 | 94 | 13 | 15 | 2 | 7 | 137,5 | 182,9 | 28,2 | 101,5 |
| Ліквi | давана | 19 | — | Ліквi | давана | 608,6 | — | Ліквіда | вана |
| 51 | 46 | 17 | 14 | 4 | 3 | 351,8 | 341,4 | 114,3 | 107,1 |
| 77 | 81 | 22 | 40 | 16 | 8 | 424,4 | 714,3 | 280,7 | 137,9 |
| 102 | 92 | 10 | 30 | 4 | 6 | 264,1 | 606,8 | 48,8 | 92,3 |
| 35 | 34 | 5 | 3 | — | — | 187,3 | 150,0 | — | — |
| 32 | 32 | 32 | 9 | 2 | 7 | 1142,4 | 642,8 | 87,0 | 269,0 |
| 149 | 156 | — | — | 11 | 7 | — | — | 97,3 | 68.0 |
| 76 | 82 | 15 | 20 | 2 | 4 | 337,2 | 400,0 | 33,9 | 69,0 |
| **1829** | **1782** | **448** | **379** | **87** | **104** | **311,8** | **277.0** | **61,2** | **80,9** |
| 661 | 729 | 116 | 157 | 43 | 44 | 399,4 | 391,5 | 52,3 | 79,0 |
| 155 | 159 | 22 | 31 | 23 | 15 | 244,0 | 284,4 | 186,9 | 111,1 |
| 226 | 250 | 27 | 72 | 15 | 7 | 311,5 | 615,4 | 81,5 | 38,0 |
| 228 | 244 | 29 | 43 | 9 | 8 | 349,7 | 221,6 | 46,9 | 43,0 |
| 120 | 120 | 10 | 24 | 2 | 1 | 121.1 | 266,7 | 19,6 | 8,9 |
| 211 | 229 | 15 | 20 | 6 | 11 | 167,0 | 160,0 | 51,3 | 61,8 |
| 249 | 274 | 12 | 38 | 12 | 20 | 46,0 | 170.4 | 59,4 | 93,0 |
| 219 | 367 | 25 | 22 | 5 | 10 | 249,4 | 203,7 | 28,4 | 29,0 |
| 277 | 361 | 19 | 23 | 10 | 16 | 113.2 | 116,8 | 42,9 | 49,1 |
| Ліквi | давана | 10 | 34 | Ліквi | давана | 129,6 | 184,8 | Ліквіда | вана |
| 696 | 621 | 47 | 154 | 36 | 19 | 233,8 | 309 8 | 62,9 | 40,9 |
| 103 | 105 | 25 | 25 | 21 | 21 | 324,5 | 320,5 | 253,0 | 244,2 |
| 188 | 192 | 40 | 39 | 11 | 8 | 268,3 | 245,2 | 71,0 | 46,8 |
| 136 | 137 | 25 | 21 | 9 | 10 | 269,4 | 192,7 | 77,5 | 81,9 |
| **3469** | **3788** | **422** | **703** | **202** | **190** | **228,3** | **271.4** | **71,1** | **61.4** |
| 1624 | 1628 | 387 | 243 | 98 | 89 | 409.8 | 179,7 | 79,5 | 73,0 |
| 1328 | 1215 | 646 | 707 | 164 | 240 | 635,2 | 608.9 | 156,0 | 243,9 |
| 1277 | 1284 | 250 | 234 | 46 | 75 | 312,0 | 275,6 | 46,0 | 72,1 |
| 390 | 882 | — | — | 17 | 63 | — | — | 51.8 | 79,3 |
| **4619** | **5009** | **1283** | **1184** | **325** | **467** | **464,0** | **360.8** | **85,1** | **109,9** |
| 234 | 237 | 55 | 48 | 8 | 10 | 299,7 | 287,4 | 53,7 | 74,1 |
| 141 | 158 | 32 | 16 | 3 | 1 | 356,9 | 168,4 | 32,3 | 11.6 |
| 84 | 93 | 14 | 14 | 6 | 9 | 285,5 | 229,5 | 105,3 | 145,2 |
| **469** | **488** | **101** | **78** | **17** | **20** | **316,7** | **241,4** | **56.9** | **70,9** |
| 600 | 600 | 36 | 43 | 8 | 5 | 91,0 | 98,9 | 16,2 | 11,1 |
| 77 | 74 | 11 | 8 | 1 | 1 | 122,8 | 100,0 | 17,5 | 18.2 |
| 362 | 381 | 28 | 28 | 2 | 3 | 94,9 | 104,1 | 7,1 | 9,8 |
| 75 | 60 | 8 | 4 | — | — | 88,7 | 75,4 | — | — |
| 55 | 59 | 1 | — | — | — | 33,0 | — | — | — |
| 116 | 124 | 2 | — | — | — | 25,7 | — | — | — |
| **1285** | **1298** | **86** | **83** | **11** | **9** | **87,9** | **87.0** | **10,6** | **9,0** |
| **3920** | **34907** | **6648** | **7010** | **1852** | **2162** | **312.8** | **286,0** | **67,8** | **77.2** |

Статадзелам Галоўсоцстраху не праверены.

Табліца № 3

| Назва абсьледваных прадпрыемстваў | Сьпісачн. кольк. рабоч. / Поўная кольк. рабоч. | Фактычн. колькасьць няшч. выпадкаў за 1 год | Колькасьць расьследв. няшчасных выпадкаў | Засьмечан. даных страхкас | У % адносінах | Сярэдн. згуб. працадольн. у днёх | Колькасьць няшч. выпадк. не зарэгістр. | У % адносінах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дрэвапрац. комбінат „Комінтэрн"—Барысаў | 450 | 99 | 41 | — | — | — | 14 | 14 |
| Зав. „Дрэвапрацовачнік"—Менск | 287/218 | 127 | 117 | — | — | 9,0 | 9 | 7 |
| Пільня № 13—Віцебск | 581/561 | 392 | 200 | 35 | 9 | 13,2 | 300 | 80 |
| Фанерн. ф-ка „Чырвоны Кастрычнік"—Мазыр | 312/287 | 134 | 134 | 36 | 27 | 8,0 | — | — |
| Кардонная фабрыка імя Сталіна—Рагачэў | 160/174 | 81 | 73 | 5 | 7 | 7,0 | 17 | 21 |
| Паперня „Чырв. Зорка"—Чашнікі | 567/423 | 100 | 75 | 10 | 10 | 9,1 | 15 | 15 |
| Паперня „Профінтэрн"—Барысаў | 148 | 56 | — | — | — | 7,0 | 45 | 80 |
| Мэталяапрац. зав. „Мэталісты"—Віцебск | 1180/1100 | 635 | 635 | — | — | — | — | — |
| Драцяна-цьвіковы зав. „Барань" | 223 | 58 | 58 | 12 | 20 | 8,0 | 32 | 55 |
| Запалк. ф-ка „Чырвоная Бярэзіна"—Н.-Барысаў | 1220/964 | 328 | 242 | 14 | 4,1 | 6,0 | — | — |
| Запалк. ф-ка „Вэзуві"—Н.-Беліца | 1737 | 444 | 444 | — | — | 4,4 | — | — |
| Шкляная гута „Кастрычнік"—Елізава. Бабр. акр. | 738 700 | 325 | 180 | 20 | 6 | 7,5 | 190 | 58 |
| Шклян. гута „Домбаль"—Барысаў | 1030 | 197 | 176 | 43 | 18 | 6,0 | 36 | 18 |
| Комбінат, млын, пільня „Чырв. Зорка"—Магілеў | 83 | 31 | 31 | — | — | 9,4 | — | — |
| Панчошная ф-ка „Клары Цэткін"—Віцебск | 1160 | 148 | 52 | 58 | 28 | 4,4 | 121 | 81 |
| Гарбарня „Яўстыгнеева"—Віцебск | 285 | 39 | 39 | — | — | — | 30 | 7 |
| Гісэрня „Пролетары"—Гомель | 776 | 513 | 453 | — | — | 5,9 | — | — |
| **Разам** | **1093** | **3707** | **2950** | — | — | — | — | — |

Увага. Колькасьць няшчасных выпадкаў вызначана за 8 месяцаў.

Табліца № 4

## Матэрыяльныя прычыны няшчасных выпадкаў ў проц. адносінах

| Назва абсьледваных прадпрыемстваў | Кольк. няшч. выпадкаў распрац. | Выканаўч. мэхан. | Трансмісіі | Ручны інструмант | Заводскі трансп. | Ручная работа | Паданьне прадмету | Паданьне рабочых | Іншыя работы | Катлы і кохэры | Апёкі | Наколы аб востр. | Зачаплен. раб. перакід. прадмет. | Асколкі, сьмяцьцінкі, стружкі, акаліна |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дрэваапрац. комбін. „Комінтэрн“—Барысаў | 85 | 23,5 | 1,2 | 15,3 | 8,5 | 48,5 | — | — | 3,5 | — | — | — | — | — |
| Зав. Дрэваапрацовачнік—Менск | 117 | 24,0 | 1,6 | 16,2 | 9,3 | 41,8 | 4,3 | 0,8 | 2,0 | — | — | — | — | — |
| Пільня № 13—Віцебск | 182 | 35,0 | — | 13,2 | 3,3 | 29,0 | 2,2 | 10,5 | 6,8 | — | — | — | — | — |
| Фанерная фабрыка „Чырвоны Кастрычнік“—Мазыр | 134 | 18,0 | — | 16,0 | 7,0 | 41,5 | — | — | 17,5 | — | — | — | — | — |
| Кардонная ф-ка імя Сталіна—Рагачэў | 68 | 23,0 | 1,5 | 7,0 | 14,0 | 27,0 | 3,0 | 5,0 | 1,5 | 18,0 | — | — | — | — |
| Паперня „Чырв. Зорка“—Чашнікі | 73 | 53,0 | 5,5 | 10,0 | — | 5,5 | 7,0 | 8,0 | 11,0 | — | — | — | — | — |
| Мэталяапрац. зав. „Мэталісты“—Віцебск | 811 | 3,5 | — | 20,5 | — | 9,1 | 15,3 | 8,6 | 7,1 | — | 14,9 | 11,5 | 2,0 | 7,5 |
| Драцяна-цьвіковы зав. „Барань“ | 58 | 46,5 | 5,0 | 17,4 | — | 17,4 | — | — | 13,7 | — | — | — | — | — |
| Запалкавая ф-ка „Чырв. Бярэзіна“ | 230 | 23,0 | 0,9 | 5,6 | 8,3 | 13,0 | 1,3 | 1,8 | 0,9 | — | 35,0 | 5,2 | — | — |
| Запалкав. ф-ка „Вэзуві“—Н.-Беліца | 444 | 7,2 | — | 7,2 | 3,0 | 3,1 | 4,5 | — | 8,1 | — | 57,2 | 9,4 | — | — |
| Шкляная гута „Кастрычнік“—Елізава | 191 | 6,0 | — | 6,0 | — | 77,0 | 2,0 | 1,0 | 8,0 | — | — | — | — | — |
| Шкляная гута—„Домбаль“ | 176 | 53,5 | 2,0 | 2,8 | — | 15,3[1]<br>11,8[2] | 1,4 | 2,8 | — | — | — | — | — | — |
| Гісэрня „Пролетары“—Гомель | 453 | 32,3 | 1,8 | 30,0 | — | — | 24,5 | 2,6 | 4,7 | — | 4,1 | — | — | — |

[1]) Пры рабоце ля печы.
[2]) Пры пераносцы

Табліца № 5

| Назва абсьледваных прадпрыемстваў | Атрымана паведамленьняў аб няшчасных выпадках | У тым ліку сьмяротных | Выкрыта незарэгістрав. няшчасных выпадкаў | Расьсьледв. няшч. выпадкаў на месцы здарэньня | Прычыны расьсьледваных няшчасных выпадкаў: Ненормальныя ўмовы працы | | | | | | | | | Забесьпячальныя мерапрыемствы | | | | | Няправільная організацыя работ | | | | Прычыны ў пацярп. або яго супрац. | | | Іншыя прычыны [2] |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Дрэннае асьвятленьне | Цесната і загроможанасьць | Няспраўн. падлога | Нездавальн. транспорту | Адсутнасьць механізацыі | Няспраўн. і неадпаведн. варшт. ды інструментаў | Дрэнная якасьць матэр. | Неўдаскан. конструкц. | Інш. прычыны гэт. катэг. незд. утр. пам. | Адсутн. або недаст. агароджы | Адсутн. або недаст. абароннч. прыстас. | Неадпаведн. спецвопраткі | Адсутнасьць спэцвопраткі | Інш. прычыны гэт. катэг.-адс. акуляр. | Адсутн. нагляду за работай | Адсутн. вопыту рабоч. і неспрактык | Незнаёмства раб. з правіл. бясьпекі | Інш прычыны гэт. катэг.[1] | Стомлен. і хвар. становішча | Нядбайн. і несьцярожн. | Невыкананьне правіл бясьпекі | |
| Дрэваапр. комб. „Комінтэрн“ | — | 1 | — | 41 | 3 | 5 | — | 2 | — | 1 | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | 7 | 1 | 9 | 3 | 4 | — | 4 |
| Зав. „Дрэваапрац.“—Менск | — | — | — | 117 | 3 | 10 | — | — | — | 4 | 1 | — | 10 | 13 | 4 | — | — | — | 6 | 6 | — | 11 | — | 18 | 1 | 31 |
| Пільня № 13—Віцебск | — | — | — | 182 | 6 | 3 | — | — | — | 43 | — | — | 19 | 17 | 10 | — | 2 | — | 1 | 8 | — | — | — | 40 | 4 | 29 |
| Фанерн. ф-ка „Чырв. Кастр.“ Мазыр | — | — | — | 134 | 1 | 11 | — | — | — | 15 | — | — | 21 | — | 10 | — | — | — | 3 | 9 | — | 8 | — | 37 | 2 | 17 |
| Кардон-ф. імя Сталіна Рагачоў | — | 1 | — | 68 | — | 2 | — | | | 8 | — | — | 9 | 2 | 16 | — | — | — | — | 2 | — | 1 | — | 25 | — | — |
| Паперня „Чырв. Зорка“—Чашнікі | — | — | — | 73 | — | — | — | — | 6 | 13 | — | — | 10 | 11 | — | — | — | — | 1 | 4 | — | 11 | — | 8 | 6 | 3 |
| Мэталяапрац. з-д „Мэталісты“—Віцебск | — | — | — | | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Драп-цьвік. зав. „Барань“ | — | — | — | 58 | — | 3 | — | — | — | 13 | — | — | 6 | 8 | — | — | 1 | — | 1 | 3 | — | 3 | 1 | 10 | 8 | 5 |
| Гісэрня „Пролетары“—Гомель | — | 1 | — | 513 | 3 | 57 | — | — | — | 44 | — | — | — | — | 47 | — | 14 | 133 | — | 27 | — | 48 | 3 | 71 | 22 | 44 |
| Запалк. ф-ка „Чырв. Бярэз.“—Барысаў | — | — | — | 230 | 1 | 5 | 12 | — | — | 39 | 4 | — | 10 | 11 | 1 | — | 1 | — | — | 5 | — | 22 | 2 | 25 | 9 | 84 |
| Запалк. ф-ка „Вэзуві“ | — | — | — | 444 | — | 12 | 7 | 3 | — | 32 | — | — | — | 1 | — | — | — | 6 | 2 | 2 | — | 36 | — | 32 | 13 | 298 |
| Шкляная гута „Кастрычн.“—Елізава | — | — | — | 180 | 1 | 2 | — | — | — | 9 | — | — | 12 | 1 | 10 | 11 | — | — | 1 | 1 | — | 12 | — | 39 | — | 81 |
| Шкляная гута „Домбаль“—Барысаў | — | — | — | 135 | — | 2 | 3 | 1 | — | 4 | 2 | 6 | 4 | — | — | 6 | — | — | — | 1 | — | 6 | — | 23 | 3 | 74 |
| **Па ўсёй вытворчасьці** | — | **3** | — | **2178** | **18** | **112** | **22** | **6** | **6** | **225** | **7** | **6** | **101** | **65** | **99** | **17** | **18** | **139** | **15** | **75** | **1** | **167** | **9** | **332** | **68** | **670** |
| | | | | | **503** | | | | | | | | | **338** | | | | | **258** | | | | **409** | | | **670** |
| | | **100** | | | **23.5** | | | | | | | | | **15.5** | | | | | **11,6** | | | | **18.7** | | | **30.7** |

[1]) Да іншых прычын аднесены таксама апёкі на запалкавых фабрыках.

[2]) Няправільнае разьмяшчэньне абсталяваньня.

Ing. M. D. Sachowsky.

## Zur Frage über den Traumatismus in der W. S. S. R. und seine Bekämpfung.

Die vom Volkskommissariat für Arbeit der W. S. S. R. mit Unterstützung von wirtschaftlichen, professionellen, Arbeiterorganisationen durchgeführte Untersuchung der Arbeitsbedingungen an den Grossbetrieben der W. S. S. R. bringt den Verf. zu dem Schlusse, dass folgende Faktoren—als Hauptfaktoren des Traumatismus—zu betrachten sind:

1. Abnutzung und Veraltung der sämtlichen Betriebsanlagen.

2. Einiges Zurückbleiben der Betriebsanlagen und Mangel an Raum, die mit dem Wuchs des Betriebes nicht Schritt halten.

3. Ungenügende Aufsicht auf dem Gebiete der Sicherheitstechnik.

4. Fehlerhafte Arbeitsorganisation.

5. Fliessende Arbeitskraft und ungenügende berufliche Ausbildung derselben.

---

С. М. Выгодзкі.

# Матэрыялы да пытаньня аб прамысловым траўматызьме ў БССР за 1926—1927 г. г.

У гэту распрацоўку прамысловага траўматызму на вытворчых прадпрыемствах Беларусі за 1926/27 г. г, згодна з карткамі страхкасы, увайшло 4.760 траўматызаваных асоб абодвага роду: 4.019 мужчын і 741 жанчына. Якасьць матэрыялу далёка нездавальняючая: у некаторых картках, напрыклад, няма адказаў на пытаньні аб пасадах, аб профэсіях траўматызаваных; у некаторых няма адказаў на пытаньне аб узросьце, аб дыягнозе; няма таксама адказаў на пытаньні аб выніках траўм з прычыны таго, што траўматызаваны вышаў з-пад нагляду доктара; у гэтых выпадках даецца адказ, што вынік траўмы невядомы. Часта запаўненьне картак таксама не вызначаецца належнай выразнасьцю.

Распрацоўка матэрыялу праводзілася ў 11 наступных варыянтах:

1) вынік і дыягноз;
2) узрост і дыягноз;
3) доўгачаснасьць захвораньня і дыягноз;
4) профэсія і дыягноз;
5) дзень траўмы і доўгачаснасьць захвораньня;
6) вынік і дзень траўмы;
7) вынік і доўгачаснасьць траўмы;
8) вынік і профэсія;
9) узрост і профэсія;
10) доўгачаснасьць захвораньня і профэсія;
11) дзень траўмы і профэсія.

Наступнай мэтай адзначанай апрацоўкі было вывесьці належныя паказьнікі для вызначэньня розных узаемазалежнасьцяй на працягу траўмы.

Увесь матэрыял разьмеркаваны на сем галін прамысловасьці:

1) мэталяпрамысловасьць;
2) фанерныя і лесапільныя заводы;
3) будаўніцтва;
4) гуты;
5) запалкавая;
6) бровары;
7) розныя іншыя галіны прамысловасьці, аб'яднаныя ў групу „іншых“ з прычыны вялікай колькасьці профэсій і малой колькасьці матэрыялу для кожнай з іх.

## Мэталяпрамысловасьць.

Па мэталяпрамысловасьці Беларусі намі разгледжана 800 выпадкаў траўм, з якіх 781 сярод мужчын і 19 сярод жанчын. Зрабіць вывад аб уплыве роду на лік траўм у данай галіне прамысловасьці няма магчымасьці, бо колькасьць прымаўшых удзел жанчын у ёй надта малая.

У адносінах да дыягнозу мы маем наступны малюнак: мужчыны даюць самы большы процант ушыбаў—339 выпадкаў, або 43,4 проц.; параненьні займаюць другое месца—173 выпадкі, або 22,2 проц.; потым ідуць усе другія траўмы, аб'яднаныя пад рубрыкай „іншыя траўмы"—154 выпадкі, або 19,7 проц.; апёкі займаюць чацьвёртае месца—113 выпадкаў, або 14,4 проц.; пераломы ў мэталяпрамысловасьці займаюць у мужчын зусім нязначнае месца—усяго толькі 2 выпадкі, або 0,3 проц.

Траўматызуюцца ў большасьці выпадкаў у мужчын і жанчын усіх узростаў рукі; мужчыны даюць 496 выпадкаў, або 63,5 проц.; жанчыны—11 выпадкаў, або 57,4 проц. Другое месца па колькасьці паражоных органаў займаюць ногі: у мужчын—126 выпадкаў, або 16,1 проц., у жанчын 4 выпадкі, або 21,3 проц. і г. д.

У сэнсе доўгачаснасьці страты працаздольнасьці ў сувязі з траўмамі ў мужчын самы большы процант прыпадае на выпадкі з адным днём. З 781 выпадку на 1 дзень прыпадае 192 выпадкі, або 24,5 проц., на 5 дзён—48 выпадкаў, ці 6,2 проц., на тэрмін больш месяцу—да 36 выпадкаў, або 4,6 проц.

Самая большая колькасьць траўм у нашай распрацоўцы прыпадае на ўзросты ад 18 да 36 год. Рабочыя больш старэйшага веку, маючы большую кваліфікацыю, відаць, больш прызвычаеныя і асьцярожныя ў процэсе работы. Рабочыя ад 36 да 55 год даюць зьніжаны паказьнік ад 9,7 проц. да 2,7 проц. (ад 33 выпадкаў да 9).

Меншыя паказьнікі траўматызму ў адносінах да старэйшых узростаў можна яшчэ, бязумоўна, растлумачыць меншым колькасным удзелам гэтых узростаў у вытворчасьці.

Як больш за ўсё нясталы від траўм амаль усіх узростаў і профэсій трэба адзначыць ушыбы, параненьні ды апёкі; узрост у 18—20 г. дае наступныя паказьнікі: ушыбы—43 выпадкі (127 проц.) параненьні—32 выпадкі (18 проц.) і г. д.

Самую нязначную колькасьць траўм даюць пераломы—усяго 2 выпадкі ў мужчын ва ўзросьце ад 31 да 35 год (1,9 проц. да ўсіх траўм гэтага ўзросту). Іншыя траўмы даюць тыя самыя паказьнікі, г. зн. большасьць іншых траўм прыпадае на больш малодшыя ўзросты. Профэсія сьлесароў дае наступны паказьнік: ушыбы займаюць першае месца—170 выпадкаў (49 проц. усіх траўм гэтай профэсіі). Потым ідуць параненьні—той самы процант (15 выпадкаў, або 50,0 проц.). Пераломы даюць нязначны процант траўм—0,3 проц. Жанчыны зьмешчаны ў „іншыя" мэталістых і даюць наступны паказьнік: ушыбы—4 выпадкі (21,1 проц.), параненьні—7 выпадкаў (36,9 проц.), апёкі—2 выпадкі (10,4 проц.), пераломы—5,2 проц. ды іншыя траўмы—5 выпадкаў, або 26,4 проц.

Дыфэрэнцуючы траўматызм мэталяпрамысловасьці па профэсіях і па колькасьці, бачым, што з усіх профэсій на сьлесароў траўм прыпадае больш за ўсё—341 выпадак (43,7 проц.); потым ідзе профэсія малатабойцаў—30 выпадкаў (3,8 проц. да ўсіх профэсій). Што-ж да

катляроў, дык гэта профэсія па ступені траўматызацыі ў даным выпадку займае апошняе месца: 8 выпадкаў, або 1 проц. да ўсіх профэсій.

Гэтыя даныя бязумоўна нічога не гавораць аб параўнаўчай траўматызацыі паасобных профэсій, бо колькасьці іх мы ня ведаем, значыць, інтэнсыўных паказьнікаў вывесьці нельга.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях ды органах траўм дае наступныя паказьнікі: профэсія сьлесароў дае большую колькасьць траўм рук—242 выпадкі (71,0 проц. усіх іншых траўм гэтай профэсіі), потым ідуць траўмы ног—35 выпадкаў (10,2 проц.); менш траўм прыпадае на вочы—32 выпадкі (9,4 проц.), на тулава—25 выпадкаў (7,3 проц.) і на галаву—7 выпадкаў (2,1 проц.).

Профэсія малатабойцаў амаль таксама не адхіляецца ад агульнага правіла і дае найбольшы процант траўм рук—19 выпадкаў (63,3 проц.); потым ідуць траўмы тулава—5 выпадкаў (16,6 проц.) і г. д. Іншыя мэталістыя таксама даюць найбольшую колькасьць траўм рук; потым ідуць траўмы ног—82 выпадкі (20,4 проц.); траўмы галавы, тулава і вачэй даюць больш зьніжаны паказьнік траўм: ад 21 выпадку (5,2 проц.) да 36 выпадкаў (8 9 проц.) на кожны орган.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і доўгачаснасьці траўм дае наступныя паказьнікі: сьлесары даюць самую большую (апрача профэсіі іншых мэталістых) колькасьць траўм на 1 дзень—90 выпадкаў (26,4 проц.); у адносінах да рэшты дзён гэта профэсія дае крывую, якая хістаецца ў межах ад 40 выпадкаў (11,8 проц.) да 13 выпадкаў (3,8 проц.). Пасьля сьлесароў ідзе профэсія малатабойцаў, якая, прыблізна, дае такі самы малюнак: на 1 дзень 10 выпадкаў (33,4 проц.); у далейшым атрымліваецца крывая, якая хістаецца ў межах ад 1 выпадку на 2 дні (3,4 проц.) да 1 выпадку на 22—28 дзён (9,9 проц.).

Профэсія катляроў (усяго 8 выпадкаў) большую колькасьць траўм з доўгачаснасьцю на тэрмін у 3 дні—2 выпадкі (25 проц.), на 8—10 дзён—таксама 2 выпадкі (25 проц.).

Выпадкі траўм сярод іншых мэталістых прэвалююць над рэштай профэсій—402 выпадкі.

Разьмеркаваньне гэтых выпадкаў па доўгачаснасьці ўтварае крывую, якая хістаецца ў наступных межах: на 1 дзень доўгачаснасьці страты працаздольнасьці прыпадае 92 выпадкі (22,9 проц.), на доўгачаснасьць больш за месяц—22 выпадкі (5,5 проц.).

Разьмеркаваньне траўм па днёх тыдню дае наступны малюнак: сама больш траўм прыпадае на панядзелак—160 выпадкаў (20,5 проц.). Ва ўсе іншыя дні тыдню траўмы даюць крывую: зьніжэньне ў аўторак да 108 выпадкаў (13,8 проц.), павышэньне ў сераду да 134 выпадкаў (17,2 проц.) і зьніжэньне пад суботу да 110 выпадкаў (14,1 проц.), а ў нядзелю—да 24 выпадкаў (3,12 проц.).

## Запалкавая прамысловасьць.

Па траўматызацыі ў запалкавай прамысловасьці ў Беларусі апрацаваны матэрыял страхкасы Барысаўскай запалкавай фабрыкі „Бярэзіна". У распрацоўку ўвайшло 297 выпадкаў за 1926—27 год у асоб абодвага роду, у тым ліку ў мужчын 84 выпадкі і ў жанчын—213 выпадкаў.

Паколькі ў даным выпадку жанчын сярод рабочых запалкавай вытворчасьці па колькасьці больш, дык, натуральна, і траўм на іх долю прыпадае таксама больш.

Большасьць траўм сярод мужчын, рабочых запалкавай вытворчасьці, прыпадае на параненьні: з 84 выпадкаў на параненьні прыпадае 37 выпадкаў (44,1 проц.); потым ідуць ушыбы — 27 выпадкаў (32,1 проц.), усіх траўм сярод мужчын); на апёкі ў запалкавай прамысловасьці прыпадае 14 выпадкаў (16,7 проц.); пераломы і другія траўмы займаюць меншае месца—ад 5,9 проц. да 1,2 проц.

Сярод жанчын самая большая колькасьць траўм прыпадае на апёкі, на якія, наогул, можна, бязумоўна, паказаць, як на характэрную для гэтай галіны прамысловасьці траўму—усяго 69 выпадкаў (79 проц. усіх траўматызаваных жанчын); потым ідуць параненьні—22 выпадкі (19,3 проц.) і ўшыбы—19 выпадкаў (8,9 проц.); пераломы ды іншыя траўмы (як і ў мужчын) займаюць сярод іх нязначнае месца—усяго 1—2 выпадкі (1 проц.).

Аналіз траўм па професіях ды колькасьці дае наступныя паказьнікі: з усіх 8 распрацаваных намі профэсій па запалкавай прамысловасьці (ня лічачы другіх профэсій, аб'яднаных пад рубрыкай „іншыя", куды увайшло 52 выпадкі—61,9 проц. траўматызаваных мужчын і 23 выпадкі жанчын—11,5 проц.) самая большая колькасьць траўм у мужчын прыпадае на профэсію накатчыкаў — 17 выпадкаў (20,2 проц.); потым ідуць пакавьнікі—8 выпадкаў (9,5 проц.); рэшта профэсій:, стругал, макал і г. д., даюць нязначную колькасьць траўм; з жанчын першае месца займаюць пакавальніцы—179 выпадкаў (83,1 проц.); потым ідуць каробачніцы—5 выпадкаў (2,4 проц.).

У лік распрацаваных намі 8 профэсій запалкавай прамысловасьці ў мужчын на профэсію накатчыкаў прыпадае больш параненьняў—11 выпадкаў (64,7 проц.), ушыбаў—6 выпадкаў (35,3 проц.), другіх дыягнозаў не ўстаноўлена.

Стругалі даюць усяго толькі 2 параненьні, пакавальнікі—8 апёкаў, парафіншчыкі—1 параненьне (33,3 проц.) і 2 апёкі (66,7 проц.); другія профэсіі, аб'яднаныя ў „іншыя", даюць ушыбы і параненьні па 21 выпадку (па 40,4 проц.); апёкі, пераломы ды іншыя траўмы даюць нязначную колькасьць выпадкаў.

Як характэрны дыягноз траўм, а менавіта апёкі сярод жанчын, трэба адзначыць профэсію пакавальнікаў; сярод 179 траўматызаваных па розных дыягнозах жанчын 162 выпадкі (90,6 проц.) прыпадае на апёкі, на ўшыбы прыпадае 9 выпадкаў (4,9 проц.), на параненьні—7 выпадкаў (3,9 проц.) і 1 выпадак на іншыя траўмы (0,6 проц.).

Аналіз траўм па профэсіях ды органу траўм дае наступныя паказьнікі. Сама больш траўм у распрацаваных намі профэсіях запалкавай прамысловасьці сустракаецца на руках. Профэсія накатчыкаў дае траўмы рук—9 выпадкаў (19,3 проц.), траўмы ног—6 выпадкаў (28,6 проц.); траўмы галавы і тулава даюць нязначную колькасьць выпадкаў; профэсія пакавальнікаў дае 8 выпадкаў траўм рук у мужчын (15,4 проц. усіх іншых профэсій) і 170 выпадкаў (85 проц.) сярод жанчын па ўсіх іншых профэсіях.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях ды іх доўгачаснасьці дае наступныя даныя: профэсія пакавальнікаў у сэнсе доўгачаснасьці траўм сярод усіх іншых профэсій стаіць на першым месцы; на 1 дзень у мужчын 1 выпадак (12.5 проц. да траўматызаваных данае профэсіі), на 2 дні—61 выпадак (50 проц., у далейшым атрымліваецца няроўная крывая зьніжэньня выпадкаў траўм. Другое месца па доўгачаснасьці

траўм займае профэсія накатчыкаў: на 1 дзень—2 выпадкі (11,8 проц.), на 2 дні—7 выпадкаў (41,3 проц.); ва ўсе іншыя дні доўгачаснасьць траўм на тэрмін больш 1 месяца дае крывую зьніжэньня колькасьці выпадкаў. Профэсіі, аб'яднаныя ў рубрыцы „іншыя", таксама даюць, прыблізна, такі ж самы малюнак: доўгачаснасьць на 1 дзень—7 выпадкаў (13,4 проц.), на 2 дні—15 выпадкаў (28,8 проц.); у далейшым атрымліваецца крывая, якая ўрэшце ўсяго зьніжаецца да 1 выпадку (1,9 проц.) траўмы з больш чым месячнай доўгачаснасьцю. Большасьць траўм сярод мужчын і жанчын рабочых сустракаюцца на руках, у мужчын—52 выпадкі (62,2 проц.), у жанчын—198 выпадкаў (92,9 проц.). Потым ідуць траўмы ног: у мужчын—21 выпадак (24,9 проц.), у жанчын—7 выпадкаў (3,2 проц.); траўмы тулава ў мужчын—7 выпадкаў (8,2 проц.), у жанчын—6 выпадкаў (2,9 проц.); траўмы галавы і вачэй у мужчын і жанчын займаюць (згодна з выведзенымі ў адзначанай галіне прамысловасьці паказьнікамі самае меншае месца—1—3 выпадкі (0,5 проц.—3 проц.).

Большая колькасьць траўм сярод мужчын, рабочых запалкавай прамысловасьці, прыпадае на выпадкі доўгачаснасьці ў 2 дні—27 выпадкаў (32,1 проц.); тое самае мы бачым і ў адносінах да жанчын: 70 выпадкаў (32,9 проц.); другое месца па доўгачаснасьці траўм для мужчын і жанчын прыпадае на 1 дзень: у мужчын—10 выпадкаў (11,9 проц.), у жанчын—45 выпадкаў (21,2 проц.). Супадаюць таксама ў сэнсе доўгачаснасьці выпадкі і ў 3 дні як для мужчын, так і для жанчын: у мужчын—8 выпадкаў (9,5 проц.), у жанчын—24 выпадкі (12,7 проц.), у далейшым атрымліваецца зьніжэньне крывой для абодвух родаў: у мужчын, пачынаючы выпадкамі з чатырохдзённым тэрмінам траўм да тэрміну больш як у 1 месяц (з 7 выпадкаў—8,3 проц. да 1 выпадку—1,2 проц.), у жанчын за той жа самы час—з 12 выпадкаў (5,6 проц.) да 1 выпадку (0,5 проц.).

З паказьнікаў разьмеркаваньня ўплыву ўзросту на колькасьць траўм у запалкавай прамысловасьці відаць, што рабочыя абодвух родаў малодшых узростаў (ад 18 да 36 год) даюць самую большую колькасьць траўм. Ва ўзросьце ад 18 да 20 год—у мужчын 12 выпадкаў (14,3 проц.), у жанчын—94 выпадкі (44,1 проц.); ва ўзросьце ад 21 году да 25 год—у мужчын 29 выпадкаў (34,5 проц.), у жанчын—58 выпадкаў (27,3 проц.); ва ўзросьце ад 26 да 30 год—у мужчын 15 выпадкаў (17,8 проц.), у жанчын—28 выпадкаў (13,1 проц.); ва ўзросьце ад 31 да 35 год—у мужчын 11 выпадкаў (13,1 проц.,) і ў жанчын 21 выпадак (9,9 проц.). Рабочыя старэйшых узростаў (да 55 год) даюць крывую зьніжэньня да 3 выпадкаў (3,6 проц.).

Паказьнікі ўплыву ўзросту на дыягноз траўм выяўляюцца ў наступных даных: дыягнозы больш маладых узростаў, а менавіта ад 18 да 36 год, у большасьці выпадкаў выражаюцца ў параненьнях. Напрыклад, узрост у 18—20 год дае параненьняў 5 выпадкаў (41,7 проц.), за параненьнямі ідуць ушыбы і апёкі—па 3 выпадкі (па 25 проц.); пераломы ды іншыя траўмы займаюць нязначнае месца (каля 1 проц.).

Гэта таксама правільна і ў адносінах да ўзросту ад 21 да 35 год: параненьні даюць 15 выпадкаў (51,7 проц.), ушыбы і параненьні—па 6 выпадкаў (па 20,7 проц.) і г. д. Больш старэйшыя ўзросты (да 55 год) даюць вялікі процант ушыбаў.

У жанчын траўматызуючы дыягноз выяўляецца ў апёках у большасьці распрацаваных намі ўзростаў. Ва ўзросьце ад 18 да 20 год апёкі даюць 83 выпадкі (88,2 проц.), ушыбы і параненьні па 5 выпадкаў (5,4 проц.); ва ўзросьце ад 21 да 25 год апёкі даюць 39 выпадкаў (67,3 проц.), параненьні—10 выпадкаў (17,2 проц.), ушыбы—6 выпадкаў (15,5 проц.); тое самае ў жанчын ва ўзросьце ад 26 да 30 год і г. д.

Аналіз уплыву дня траўмы на колькасьць траўм дае наступныя паказьнікі: за нядзелю ўстаноўлёна 2 выпадкі сярод жанчын (0,9 проц.); у панядзелак колькасьць траўм, у параўнаньні з аўторкам, большая: ў 14 мужчын (16,6 проц.) і 45 жанчын (21,2 проц.); у аўторак у 13 мужчын (15,5 проц.) і 35 жанчын (16,4 проц.); усе іншыя дні тыдню даюць наступную крывую: серада—11 мужчын (13,1 проц.) і 38 жанчын (17,8 проц.), чацьверг—19 мужчын (22,7 проц.) і 35 жанчын (16,4 проц.), пятніца—18 мужчын (21,5 проц.) і 37 жанчын (17,4 проц.) і, нарэшце, субота—9 мужчын (10,6 проц.) і 21 жанчына (9,9 проц.).

## Фанерні і пільні.

Па пільнях Беларусі распрацавана 880 выпадкаў траўм сярод асоба бодвага роду, з якіх 808 мужчын і 72 жанчыны. У лесапільнай прамысловасьці большая частка траўм прыпадае на мужчын з прычыны таго, што іх больш, чым жанчын, працуе ў гэтай галіне. Апрача таго, на мужчын прыпадаюць профэсіі больш небясьпечныя ў сэнсе атрыманьня траўм.

Уплыў роду на дыягноз траўмы ў лесапільнай галіне прамысловасьці дае наступныя паказьнікі: у мужчын большасьць траўм прыпадае на ўшыбы—з 808 выпадкаў 331 выпадак (40,9 проц.); потым ідуць параненьні—293 выпадкі (36,2 проц.); апёкі і пераломы займаюць нязначнае месца (ад 10 да 20 выпадкаў, 1,2 проц.); усе другія траўмы, аб'яднаныя ў „іншыя“, у даным выпадку даюць 154 выпадкі (19,1 проц.). Сярод жанчын заўважаецца амаль тое самае: ушыбаў 31 выпадак (43 проц.), параненьняў—19 выпадкаў (26,4 проц.), апёкаў—4 выпадкі (5,6 проц.) і г. д. Для гэтага вызначыць якую-небудзь залежнасьць дыягнозу ад роду з паданых намі паказьнікаў нельга.

Аналіз уплыву роду на траўматызаваныя органы дае наступныя паказьнікі. Сама больш траўм сустракаецца на руках: з 808 выпадкаў у мужчын—421 выпадак (52,1 проц.) прыпадае на рукі; далей ідуць траўмы ног—201 выпадак (24,7 проц.); потым ідуць траўмы тулава—136 выпадкаў (16,9 проц.); траўмы галавы і вачэй займаюць нязначнае месца—ад 19 да 31 выпадку (ад 2 проц. да 3 проц.).

Аналёгічныя зьявы мы маем і сярод жанчын: траўмы рук—36 выпадкаў (50,0 проц.); ног—26 выпадкаў (36,1 проц.), тулава—7 выпадкаў (9,7 проц.), вачэй і галавы—1—2 выпадкі (1—2 проц.). Як відаць з гэтых даных, процант траўм у адносінах да органаў у мужчын і жанчын амаль супадае. Уплыў роду на доўгачаснасьць траўм вызначаецца наступнымі данымі: сярод мужчын самая большая колькасьць траўм прыпадае на 2 дні—з 808 выпадкаў страты працаздольнасьці сярод мужчын 188 выпадкаў (23,3 проц.), потым ідуць траўматызаваныя на 1 і 3 дні—па 127 выпадкаў, або па 15,7 проц.; у далейшым атрымліваецца крывая: пачынаючы з 4 дзён 53 выпадкамі (6,6 проц.), даходзіць да 404 выпадкаў (5,4 проц.). доўга-часнасьці больш за месяц,

Сярод жанчын самая большая колькасьць траўм прыпадае на 3 дні: з 72 выпадкаў 18 выпадкаў, або 25 проц., прыпадае на 3 дні, потым ідуць траўмы на 2 дні—16 выпадкаў (22,1 проц.) і на 1 дзень—11 выпадкаў (15,3 проц.); пачынаючы з чацьвертага дня, атрымліваецца крывая, якая хістаецца на працягу адзначаных дзён да 2,8 проц. Большая колькасьць траўм у жанчын тэрмінам у 3 дні тлумачыцца, на наш погляд, зьявамі патолёгічнага характару, тым, што організм у іх менш трывалы.

У адносінах да ўплыву ўзросту на колькасьць траўм мы маем паказьнік, які сьведчыць, што з усіх узростаў (ад 18 да 55 год) больш маладыя ўзросты—ад 18 да 36 год—даюць самую значную колькасьць траўм: узрост у 18—20 год дае 137 выпадкаў (16,9 проц.) у мужчын і 37 выпадкаў (51,4 проц.) сярод жанчын; узрост ад 21 да 25 год дае 239 выпадкаў (29,6 проц.) сярод мужчын і 19 выпадкаў (26,4 проц.) сярод жанчын і г. д. Больш старэйшыя ўзросты даюць зьніжаныя паказьнікі.

Уплыў узросту на дыягноз траўм выяўляецца ў наступных паказьніках: узрост у 18—20 год дае сярод мужчын найбольшую колькасьць траўм у выглядзе параненьняў. З 137 выпадкаў траўм гэтага ўзросту 59 выпадкаў (43,0 проц.) прыпадае на параненьні, потым ідуць ушыбы—43 выпадкі (31,4 проц.), іншыя траўмы—29 выпадкаў (21, 2 проц.); апёкі і пераломы займаюць нязначнае месца.

На жанчын у гэтым узросьце прыпадаюць пераважна ўдары—з 37 выпадкаў траўм на ўшыбы прыпадае 16 выпадкаў (43,2 проц.), на параненьні—10 выпадкаў (27,0 проц.), на іншыя траўмы—9 выпадкаў (24,4 проц.). Тое ж самае ўстаноўлена ў адносінах да мужчын і жанчын ва ўзросьце ў 21—25 год: з 239 выпадкаў сярод мужчын прыпадае на ўшыбы 92 выпадкі (38,8 проц.), на параненьні—86 выпадкаў (35,8 проц.), на іншыя траўмы—22,1 проц.; на апёкі і пераломы прыпадае нязначная колькасьць выпадкаў. Сярод жанчын таксама большасьць дыягнозаў прыпадае на ўшыбы: з 19 выпадкаў—7 выпадкаў (36,8 проц.), параненьняў—6 выпадкаў (31,6 проц.) і г. д. Ва ўсіх іншых узростах ўшыбы і параненьні таксама прэвалююць.

Разьмеркаваньне траўм распрацаваных намі трох відаў лесапільнай прамысловасьці, дрэваапрацовачнікаў, сталяроў і другіх профэсій, аб'яднаных рубрыкай „іншыя",—дае наступны малюнак: пасьля „іншых" найбольшая колькасьць траўм прыпадае на дрэваапрацоўчую профэсію—з 808 траўм сярод мужчын на яе прыпадае 250 выпадкаў (30,9 проц.); на „іншыя" прыпадае сама больш траўм—535 выпадкаў (66,3 проц.); на сталяроў прыпадае 23 выпадкі (2,8 проц.). У жанчын данае галіны прамысловасьці на дрэваапрацовачнікаў прыпадае 29 выпадкаў (43,3 проц.) з 42 усіх траўматызаваных жанчын; „іншыя" маюць 42 выпадкі (58,4 проц.) і сталярская—1 выпадак (1,3 проц.).

У адносінах да разьмеркаваньня траўм па профэсіях і дыягнозу бачым, што на аналізаваныя намі профэсіі больш за ўсё прыпадаюць выпадкі ўшыбаў і параненьняў: на дрэваапрацовачнікаў сярод мужчын з 250 выпадкаў прыпадае 94 ушыбы (37,6 проц.), 97 параненьняў (38,8 проц.), іншых траўм—52 выпадкі (20,8 проц.), апёкаў і пераломаў—нязначная колькасьць, ад 3 да 4 выпадкаў (1 проц.); тое самае і сярод жанчын. З 29 траўм мы маем 13 параненьняў (44,8 проц.), 9 ушыбаў (31,1 проц.), іншых траўм—7 (24,1 проц.); профэсія сталяроў

дае амаль тое самае: сярод мужчын з 23 выпадкаў данае профэсіі мы маем 12 параненьняў (52,2 проц.), 7 ушібаў (30,4 проц.) і 4 іншыя траўмы (17,4 проц.), іншыя профэсіі даюць найвышэйшую колькасьць ушыбаў: з 535 траўм у ліку іншых профэсій сярод мужчын ушыбаў—230 выпадкаў (42,9 проц.), параненьняў—184 выпадкі (34,5 проц.), на іншыя траўмы прыпадае 98 выпадкаў (18,4 проц.), на апёкі і пераломы—нязначная колькасьць траўм (17,2 проц.). Сярод жанчын іншых профэсій мы маем: ушыбаў 21 выпадак (50 проц.), параненьняў—6 (14,3 проц.), іншых траўм—11 выпадкаў (26,2 проц.) і г. д.

Разглядаючы паказьнікі размеркаваньня траўм па профэсіях ды органах, мы бачым, што характэрным органам у сэнсе найбольшай паражонасьці ад траўм і для профэсій лесапрамысловасьці зьяўляюцца рукі. Сярод дрэваапрацовачнікаў з 250 траўм гэтай профэсіі на рукі сярод мужчын прыпадае 135 выпадкаў (54,0 проц.); потым ідуць траўмы ног—51 выпадак (20,4 проц.), далей траўмы тулава—47 выпадкаў (18,8 проц.). Сярод жанчын таксама прэвалююць траўмы рук: з 29 выпадкаў траўматызаваных жанчын на рукі прыпадае 16 траўм (55,3 проц.).

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і доўгачаснасьці траўм паказвае на тое, што профэсія дрэваапрацовачнікаў сярод мужчын дае найвышэйшую колькасьць траўм з доўгачаснасьцю ў 2 дні—55 выпадкаў (22,0 проц.), у 1 дзень—43 выпадкі (17,2 проц.), у 3 дні—39 выпадкаў (15,6 проц.); пачынаючы з чацьвёртага дня, дрэваапрацоўчая профэсія дае крывую, якая хістаецца ў межах ад 14 выпадкаў (5,6 проц.) да 9 выпадкаў (3,6 проц.) і г. д. Дрэваапрацоўчая профэсія і сярод жанчын дае найбольшую колькасьць траўм з доўгачаснасьцю ў 3 дні—10 выпадкаў (34,4 проц.), у 1 дзень траўмы сярод жанчын даюць 7 выпадкаў, або 24,1 проц.; у далейшым паказьнік дае крывую ў межах ад 1 выпадку (3,5 проц.) да 2 (6,9 проц.).

Профэсія сталяроў дае найвышэйшую колькасьць траўм у сэнсе доўгачаснасьці—у 1 дзень 6 выпадкаў (26,2 проц.). У далейшым гэта колькасьць зьніжаецца да 1 выпадку (4,3 проц.). Сярод рэшты профэсій, аб'ядналых рубрыкай „іншыя профэсіі", найвышэйшая колькасьць траўматызаваных прыпадае на 2 дні—128 выпадкаў (23,9 проц.).

Сярод жанчын доўгачаснасьць непрацаздольнасьці ад траўм у 3 дні наглядаецца часьцей, чым сярод мужчын.

Апрацаваны намі матэрыял па пільнях і фанернях у адносінах да ўплыву дня траўмы на колькасьць траўм дае наступныя паказьнікі: нядзеля сярод мужчын дае 18 выпадкаў (2,2 проц.), сярод жанчын—3 выпадкі (4,2 проц.); панядзелак—139 траўм (17,2 проц.) сярод мужчын і 8 выпадкаў (11,1 проц.) сярод жанчын; аўторак—144 траўмы (17,7 проц.) сярод мужчын і 13 (18,1 проц.) сярод жанчын; серада—129 траўм (16,6 проц.) сярод мужчын і 14 (19,5 проц.) сярод жанчын; пятніца—118 выпадкаў (14,7 проц.) сярод мужчын і 13 траўм (18,0 проц.) сярод жанчын; субота—106 выпадкаў (13,1 проц.) сярод мужчын і 8 выпадкаў (11,1 проц.) сярод жанчын. Меншую колькасьць траўм у суботу можна растлумачыць скарочаным рабочым часам перад днём адпачынку, бо ў іншым разе, у выніку стомленасьці пад канец рабочага тыдню, колькасьць траўм павінна была-б павысіцца. Малая колькасьць траўм у нядзелю, відаць, зьяўляецца вынікам нязначнай, з прычыны дня адпачынку, колькасьці рабочых, працуючых у гэты дзень на прадпрыемстве.

## Дражджовая, броварная і дзяржсьпірытусовая прамысловасьць.

Па данай прамысловасьці распрацавана 175 траўм сярод асоб абодвага роду, з якіх мужчын 143 і жанчын 32. Вызначыць ступень уплыву роду на колькасьць траўм наўрад ці магчыма, бо колькасьць траўматызаваных тут рабочых жанчын нязначная.

Уплыў роду на дыягноз траўм дае наступны малюнак: у мужчын адзначанай прамысловасьці першае месца займаюць ўшыбы: з 143 траўматызаваных мужчын 57 выпадкаў (39,8 проц.) прыпадае на ўшыбы; потым ідуць параненьні—51 выпадак (35,7 проц.); далей—апёкі—21 выпадак (14,8 проц.); іншыя траўмы даюць 11 выпадкаў (7,6 проц.); пераломы займаюць нязначнае месца—3 выпадкі (2,1 проц.).

У жанчын найвышэйшы процант траўм прыпадае на параненьні: з 32 траўматызаваных жанчын на параненьні прыпадае 18 выпадкаў (56,2 проц.); потым ідуць іншыя траўмы—6 выпадкаў (18,7 проц.); далей—апёкі—4 выпадкі (12,5 проц.).

У выніку аналізу ўплыву роду на орган траўм мы маем наступныя паказьнікі: з усіх траўматызаваных у адзначанай прамысловасьці органаў найбольшая колькасьць траўм прыпадае на рукі: з 143 выпадкаў у мужчын 65 (45,5 проц.), а з 32 выпадкаў 26 у жанчын (81,3 проц.) даюць траўмы рук; далей ідуць траўмы тулава—29 выпадкаў (20,2 проц.) і траўмы ног—28 выпадкаў (19,6 проц.); траўмы вачэй і галавы займаюць нязначнае месца, усяго ад 9 да 12 (8,4 проц.) выпадкаў.

Уплыў роду на доўгачаснасьць траўм сьведчыць аб наступным: у мужчын самая найвышэйшая доўгачаснасьць траўмы прыпадае на тэрмін у 2 дні—29 выпадкаў (20,3 проц.); потым у іх жа ідзе доўгачаснасьць у 3 дні—24 выпадкі (16,8 проц.); колькасьць траўм доўгачаснасьцю ў 1 дзень меншая—14 выпадкаў (9,8 проц.); пачынаючы з 4 дзён, утвараецца крывая зьніжэньня ў межах ад 12 (8,4 проц.) да 4 (2,7 проц.) выпадкаў. У жанчын найвышэйшая доўгачаснасьць непрацаздольнасьці ад траўм таксама прыпадае на 2 дні; колькасьць выпадкаў са стратай працаздольнасьці на 1 дзень меншая—3 (9,3 проц.); пачынаючы з 3 дзён, атрымліваецца крывая зьніжэньня ад 4 (12,5 проц.) да 1 (3,1 проц.) выпадку.

Уплыў узросту на колькасьць траўм дае лічбовыя паказьнікі, з якіх відаць, што найбольш маладыя ўзросты (ад 18 да 36 год) даюць найбольшую колькасьць траўм. Узрост у 18—20 год дае 13 выпадкаў (9,1 проц.) траўм у мужчын і 4 выпадкі (12,5 проц.) у жанчын; узрост ад 21 да 25 год дае 40 выпадкаў (27,9 проц.) траўм у мужчын і 16 (50,0 проц.) выпадкаў у жанчын; узрост у 26—30 год дае 31 выпадак (21,7 проц.) у мужчын і 11 выпадкаў (34,4 проц.) у жанчын. Далей для старэйшых узростаў атрымліваецца крывая зьніжэньня паказьнікаў ад 16 (11,2 проц.) да 7 выпадкаў (4,9 проц.).

Паказьнікі ўплыву ўзросту на дыягноз траўм даюць наступны малюнак.

Узрост ад 12 да 20 год і ў мужчын і ў жанчын дае найвышэйшую колькасьць параненьняў: сярод мужчын з 13 выпадкаў гэтага

ўзросту параненьняў 7 выпадкаў (53,8 проц.), ушыбаў і апёкаў па 3 выпадкі (па 23,1 проц.); сярод жанчын параненьняў 2 выпадкі (50 проц.), апёкаў ды іншых траўм—па 1 выпадку (па 25,0 проц.). Узрост у 21—25 год сярод мужчын дае найбольшую колькасьць траўм у выглядзе ўшыбаў—18 выпадкаў (45,0 проц.), далей ідуць параненьні—13 выпадкаў (32,5 проц.); апёкі ды іншыя траўмы займаюць нязначнае месца—ад 4 (10,0 проц.) да 5 (12,5 проц.) выпадкаў). У жанчын гэтага ўзросту найбольшая колькасьць траўм прыпадае на ўшыбы—8 выпадкаў (50 проц.) і г. д. У адносінах да ўсіх іншых, старэйшых, узростаў атрымліваецца крывая зьніжэньня, у якой ушыбы і параненьні прэвалююць над усімі іншымі траўмамі.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і колькасьці дае нам наступны паказьнік: з распрацаваных намі профэсій адзначанай галіны прамысловасьці на чорнарабочых прыпадае найвышэйшая колькасьць траўм—з 143 выпадкаў гэтай профэсіі 52 выпадкі (36,4 проц.) прыпадае на чорнарабочых мужчын і 14 выпадкаў (43,9 проц.)—на жанчын; калі-ж чорнарабочых, з прычыны іх малакваліфікаванасьці, выключыць як профэсію, дык першае па колькасьці няшчасных выпадкаў месца зойме профэсія сьлесароў: 16 выпадкаў (11,2 проц.) у мужчын і 7 выпадкаў (21,8 проц.) сярод жанчын; усе іншыя профэсіі даюць крывую зьніжэньня паказьнікаў няшчасных выпадкаў ад 10 (7,0 проц.) да 1 (0,7) выпадку.

Распрацаваныя намі няшчасныя выпадкі па профэсіях і дыягнозах траўм даюць малюнак, з якога відаць, што сярод чорнарабочых найчасьцей сустракаюцца параненьні: з 52 выпадкаў сярод мужчын гэтай профэсіі на параненьні прыпадае 24 выпадкі (46,1 проц.), потым ідуць ушыбы—21 выпадак (40,4 проц.); апёкі, пераломы ды іншыя траўмы даюць куды меншую колькасьць выпадкаў—ад 5 (9,7 проц.) да 1 (1,9 проц.) выпадку. Тое самае ў адносінах да параненьняў і сярод жанчын гэтай профэсіі: з 14 выпадкаў на параненьні прыпадае 8 выпадкаў (57,1 проц.), на ўшыбы—2 выпадкі (14,3 проц.), 3 выпадкі (21,5 проц.) займаюць іншыя траўмы. У далейшым распрацаваныя намі профэсіі даюць крывую зьніжэньня, у якой пераважнымі траўмамі зьяўляюцца, мяняючыся месцамі па колькасьці, ушыбы і параненьні. Апёкі, пераломы ды іншыя траўмы даюць меншую колькасьць выпадкаў.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях ды органах траўм паказвае, што па ўсіх амаль профэсіях найбольшая колькасьць траўм прыпадае на рукі: чорнарабочыя з 52 выпадкаў сярод мужчын даюць 19 (36,6 проц.) выпадкаў траўмы рук. Сярод жанчын тае-ж самае профэсіі з 14 выпадкаў траўм 13 выпадкаў (92,8 проц.) прыпадае на рукі; потым у мужчын ідуць траўмы ног—13 выпадкаў (25,0 проц.), тулава—9 выпадкаў (17,2 проц.) і г. д.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і доўгачаснасьці захворваньня дае наступны малюнак: у профэсіі чорнарабочых найбольшая колькасьць траўм прыпадае на траўмы з доўгачаснасьцю ў 2 дні—12 выпадкаў (23,2 проц.) з 52; за імі ідуць траўмы доўгачаснасьцю ў 3 дні—9 выпадкаў (17,3 проц.); з доўгачаснасьцю ў 1 дзень маем 5 выпадкаў (9,6 проц.). Сярод саладоўшчыкаў колькасьць выпадкаў траўм разьмяркоўваецца больш-менш роўнамерна—ад 1 да 2 ва ўсіх выпадках доўгачаснасьці захворваньня ад траўм.

У адносінах да ўплыву дня на колькасьць траўм мы бачым, што ў данай галіне прамысловасьці ў гэтым сэнсе няма амаль ніякіх адхіленьняў у параўнаньні з другімі галінамі прамысловасьці: на нядзелю прыпадае 10 выпадкаў (7,0 проц.) траўм, на панядзелак прыпадае найбольшая колькасьць траўм—28 выпадкаў (19,6 проц.) з 143, наступныя дні тыдню даюць крывую зьніжэньня з колькасьцю да 11 (7,7 проц.) выпадкаў у суботу.

## Будаўніцтва.

Па будаўнічай прамысловасьці распрацавана 410 выпадкаў траўматызму, з якіх на мужчын прыпадае 400 выпадкаў і на жанчын—10. Строгае разьмеркаваньне ўплыву роду на колькасьць траўм у данай галіне прамысловасьці, дзе жанчын працуе так мала—усяго 10—цяжка, зразумела, правесьці.

Уплыў роду на дыягноз траўм дае наступныя паказьнікі: з 400 выпадкаў траўм сярод мужчын ушыбы стаяць на першым месцы—191 выпадак (47,8 проц.); потым ідуць параненьні—166 выпадкаў (41,5 проц.); апёкі, пераломы ды іншыя траўмы займаюць нязначнае месца. Сярод дзесяці жанчын установлена 6 выпадкаў траўм ад параненьняў (60,0 проц.) і па 2 выпадкі ад ушыбў ды апёкаў (па 20,0 проц.).

Уплыў роду на органы траўм дае наступныя паказьнікі. Сярод мужчын большасьць траўм прыпадае на траўмы рук: з 400 выпадкаў—траўм рук мы маем 200 выпадкаў (50,0 проц.); далей ідуць траўмы ног—111 выпадкаў (27,7 проц.), тулава—57 выпадкаў (14,2 проц.); траўмы вачэй і галавы даюць нязначную колькасьць выпадкаў. Сярод жанчын таксама большасьць траўм даюць рукі—4 выпадкі (40,0 проц.), потым ідуць траўмы ног—3 выпадкі (30 проц.) і г. д. Як відаць, у адзначанай галіне прамысловасьці пасьля траўм рук большасьць траўм прыпадае на ногі.

Уплыў роду на доўгачаснасьць траўм у данай профэсіі дае лічбы, з якіх мы бачым, што самая большая доўгачаснасьць траўм сярод мужчын прыпадае на 2 дні: з 400 выпадкаў траўм сярод мужчын 78 выпадкаў (19,5 проц.) прыпадае на 2 дні; пасьля ідуць траўмы з доўгачаснасьцю ў 3 дні—65 выпадкаў (16,2 проц.); далей атрымліваецца крывая зьніжэньня. Сярод жанчын большасьць траўм прыпадае на работніц з доўгачаснасьцю ў 1 дзень—4 выпадкі (40,0 проц.).

У адносінах да ўплыву ўзросту на колькасьць траўм мы бачым, што большая колькасьць траўм прыпадае на больш маладыя ўзросты (ад 18 да 36 год).

Узрост ад 18 да 20 год дае 65 траўм (16,2 проц.) сярод мужчын; узрост ад 21 да 25 год сярод мужчын дае 97 выпадкаў (24,3 проц. рэшты ўзростаў); узрост ад 26 да 30 год сярод мужчын дае 84 выпадкі траўм (21,0 проц.).

З распрацаваных намі даных аб уплыве ўзросту на дыягноз траўм мы бачым, што сярод рабочых усіх узростаў у большасьці выпадкаў—ад 40 проц. да 45 проц.—сустракаецца ушыбаў і параненьняў. Ва ўзросьце ад 18 да 20 год ушыбаў сярод мужчын мы маем 33 выпадкі (17,3 проц. рэшты ўзростаў), а сярод жанчын таго-ж самага ўзросту—2 выпадкі (100 проц.). Ва ўзросьце ад 21 да 25 год ушыбаў сярод мужчын 48 выпадкаў (25,2 проц. рэшты ўзростаў) і г. д.

Сярод мужчын параненьняў ва ўзросьце ад 18 да 20 год—27 выпадкаў (16,3 проц.) і сярод жанчын—4 выпадкі (66,8 проц. усіх іншых узростаў) і г. д. Апёкі, пераломы ды іншыя траўмы займаюць нязначнае месца.

З распрацаваных намі 3 профэсій будаўніцтва профэсіі, аб'яднаныя рубрыкай „іншыя профэсіі", па колькасьці траўм займаюць першае месца—330 выпадкаў (82,5 проц.); потым ідуць цесьляры—63 выпадкі (15,8 проц.); бляхары займаюць апошняе месца—7 выпадкаў (1,7 проц.).

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і дыягнозах дае наступнае: сярод цесьляроў большасьць траўм прыпадае на параненьні—32 выпадкі (50,8 проц.); потым ідуць ушыбы—22 выпадкі (34,9 проц.); рэшта дыягнозаў займае нязначнае месца. Сярод бляхароў першае месца займаюць ушыбы—6 выпадкаў (85,7 проц.); сярод іншых профэсій ушыбы таксама стаяць на першым месцы—163 выпадкі (49,4 проц.)

З разьмеркаваньня траўм па профэсіях ды органу траўмы мы бачым, што сярод распрацаваных намі трох профэсій будаўніцтва большасьць траўм прыпадае на рукі: траўмы рук сярод цесьляроў даюць 30 выпадкаў (47,6 проц.), траўмы ног—17 выпадкаў (27,0 проц.), усе іншыя органы займаюць меншае месца. Сярод бляхароў сустракаецца 3 выпадкі траўм рук (42,9 проц.) і г. д.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і доўгачаснасьці дае наступныя паказьнікі. Сярод распрацаваных намі 3 профэсій „іншыя профэсіі" даюць нам амаль ва ўсіх выпадках самую большую колькасьць траўм—48 выпадкаў (14,5 проц.) доўгачаснасьцю ў 1 дзень; потым ідуць цесьляры—9 выпадкаў (14,3 проц.). На іншыя дні з доўгачаснасьцю ў месяц ды вышэй паказьнікі даюць крывую зьніжэньня.

Уплыў дня траўмы на колькасьць траўм дае нам наступныя даныя: на нядзелю прыпадае 16 выпадкаў траўм (4,0 проц.), у панядзелак гэта колькасьць узрастае да 75 выпадкаў (18,7 проц.), аўторак дае 74 выпадкі (18,5 проц.) і г. д.

## Шкляная прамысловасьць.

Па шкляной прамысловасьці распрацавана 987 траўм, з якіх на мужчын прыпадае 774 і на жанчын—213.

Уплыў роду на дыягноз траўм паказвае, што для шкляной прамысловасьці найбольш характэрнымі зьяўляюцца апёкі, прычым яны разьмяркоўваюцца так, што з 774 мужчын 295 чал. (38,1 проц.) пацярпелі ад апёкаў. Другое месца займаюць параненьні—215 выпадкаў (27,8 проц. усіх іншых дыягнозаў). За параненьнямі ідуць ушыбы—119 выпадкаў (15,4 проц.) У жанчын параненьняў больш—79 выпадкаў (37,1 проц.). Іншыя траўмы сярод мужчын даюць 144 выпадкі (18,6 проц.), а сярод жанчын—62 выпадкі (29,1 проц. рэшты дыягнозаў).

У мужчын большасьць траўм прыпадае на рукі—462 выпадкі (57,7 проц. усіх траўм); далей ідуць траўмы ног—171 выпадак (22,1 проц. і г. д.).

З паданых намі паказьнікаў уплыву роду на доўгачаснасьць захвораньня відаць, што самая большая колькасьць траўм сярод мужчын прыпадае на доўгачаснасьць у 2 дні—146 выпадкаў (18,9 проц.).

Далей крывая дае зьніжэньне. У жанчын тое самае: на доўгачаснасьць у 2 дні прыпадае 49 выпадкаў (23,0 проц.), і ў далейшым атрымліваецца крывая зьніжэньня.

Уплыў узросту на колькасьць траўм выяўляецца такім чынам, што сама больш іх прыпадае на маладзейшыя ўзросты (18—36 год). Узрост 18—20 год дае 296 выпадкаў (38,2 проц.) сярод мужчын і 129 выпадкаў (60,6 проц.) сярод жанчын. У далейшым мы маем крывую зьніжэньня паказьнікаў. Ва ўзросьце ад 21 да 25 год на мужчын прыпадае 180 траўм (23,3 проц. траўм усіх іншых узростаў) і на жанчын—35 выпадкаў (16,4 проц. траўм рэшты ўзростаў); узрост у 26—30 год дае сярод мужчын 135 выпадкаў (17,4 проц. рэшты ўзростаў), сярод жанчын гэтага самага ўзросту наглядаюцца 22 выпадкі (10,3 проц. усіх іншых узростаў).

Уплыў узросту на дыягноз траўм дае паказьнік, што пераважным дыягнозам сярод распрацаваных намі ўзростаў зьяўляюцца апёкі сярод мужчын і параненьні сярод жанчын. Сярод мужчын ва ўзросьце ад 18 да 20 год мы маем 146 выпадкаў апёкаў (49,2 проц. рэшты ўзростаў). У далейшым атрымліваецца крывая зьніжэньня паказьнікаў для кожнага ўзросту. Сярод жанчын параненьні для ўзросту ад 18 да 20 год даецца 65 выпадкаў (22,0 проц.).

З разьмеркаваньня траўм па распрацаваных намі 3 профэсіях і колькасьці бачым, што на майстроў гуты прыпадае 142 выпадкі траўмы (18,3 проц. траўм усіх іншых профэсій), на шкловыдувальнікаў—119 выпадкаў (15,4 проц. траўм рэшты профэсій), „іншыя профэсіі" даюць найвышэйшую колькасьць траўм сярод усіх распрацаваных намі профэсій шкляной прамысловасьці—513 выпадкаў (66,3 проц.) сярод мужчын і 211 выпадкаў (99,1 проц.) сярод жанчын.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і дыягнозе траўм дае наступнае: сярод шкловыдувальнікаў больш за ўсё здараецца апёкаў—39 выпадкаў (32,8 проц. рэшты дыягнозаў); далей ідуць параненьні—37 выпадкаў (31,1 проц.) і г. д. Сярод майстроў гуты таксама прэвалюючым дыягнозам зьяўляюцца апёкі—47 выпадкаў (33,1 проц.); потым ідуць параненьні—40 выпадкаў (28,2 проц.). Тое самае датычыць і іншых профэсій: 209 апёкаў (40,7 проц.) і 138 выпадкаў параненьняў (26,9 проц.).

З разьмеркаваньня траўм па профэсіях ды органах бачым, што ў шкляной прамысловасьці сама больш траўм прыпадае на рукі: у шкловыдувальнікаў мы маем 69 выпадкаў траўм рук (59,7 проц. траўм усіх іншых органаў); потым ідуць траўмы ног—29 выпадкаў (24,1 проц.) і г. д. У майстроў гуты на траўмы рук прыпадае 90 выпадкаў (19,5 проц.) і г. д. Сярод „іншых профэсій" траўмы рук даюць 303 выпадкі (59,1 проц.); потым ідуць траўмы ног—116 выпадкаў (22,6 проц.); траўмы тулава сярод мужчын даюць 46 выпадкаў (8,9 проц.); траўмы галавы ў іх жа—28 выпадкаў (5,5 проц.); сярод жанчын „іншых профэсій" большасьць траўм таксама прыпадае на рукі: 126 выпадкаў (59,7 проц. траўм рэшты органаў).

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і доўгачаснасьці захвораньня паказвае, што самую большую колькасьць траўм з доўгачаснасьцю ў 2 дні даюць „іншыя профэсіі"—102 выпадкі (19,8 проц.); майстры гуты таксама даюць найвышэйшую колькасьць траўм з

доўгачаснасьцю ў 2 дні—24 выпадкі (17,0 проц.) і г. д. Шкловыдувальнікі даюць найбольшую колькасьць траўм у 3 дні—24 выпадкі (20,2 проц.).

Ва ўсе іншыя дні атрымліваецца крывая зьніжэньня паказьнікаў.

Аналіз уплыву дня траўмы на колькасьць іх паказвае, што на нядзелю прыпадае 37 выпадкаў сярод мужчын (4,8 проц.) і 9 выпадкаў сярод жанчын (4,2 проц.); у панядзелак колькасьць выпадкаў узрастае да 146 сярод мужчын (18,9 проц.) рэшты дзён тыдню.

Ва ўсе іншыя дні ўтвараецца крывая зьніжэньня паказьнікаў.

## Іншыя галіны прамысловасьці.

З іншых галін прамысловасьці мы распрацавалі 1211 траўм сярод асоб абодвага роду, з якіх 1029 выпадкаў прыпадае на мужчын і 182—на жанчын. Як відаць з гэтых даных, большасьць траўм прыпадае на мужчын. Паколькі ў іншыя галіны прамысловасьці ўваходзіць пераважная колькасьць мужчын, пастолькі цяжка, бязумоўна, вывесьці параўнаўчыя даныя ў сэнсе ўплыву роду на колькасьць траўм.

Разглядаючы ўплыў роду на дыягноз траўм, бачым, што сярод мужчын прэвалюючым дыягнозам усіх траўм зьяўляюцца параненьні—443 выпадкі (43,1 проц. усіх іншых дыягнозаў); далей ідуць ушыбы—310 выпадкаў (30,1 проц.) і г. д. Сярод жанчын таксама прэвалююць параненьні—76 выпадкаў (41,8 проц.); потым ідуць ушыбы—76 выпадкаў; (41,8 проц. рэшты дыягнозаў); далей ідуць „іншыя“ траўмы—195 выпадкаў (18,9 проц.) сярод мужчын і 32 выпадкі (17,6 проц.) сярод жанчын.

Уплыў роду на органы траўм паказвае, што сярод мужчын больш за ўсё траўматызаваны рукі—642 выпадкі (62,4 проц. траўм іншых органаў); далей ідуць траўмы ног—186 выпадкаў (18,2 проц.) і г. д. Такая самая тэндэнцыя наглядаецца сярод і жанчын 120 выпадкаў траўм рук (65,9 проц.); потым ідуць траўмы ног—33 выпадкі (18,2 проц.).

У адносінах да ўплыву роду на доўгачаснасьць захвораньня маем наступныя даныя: сярод мужчын самая большая колькасьць траўм прыпадае на доўгачаснасьць у 2 дні—210 выпадкаў (20,4 проц.); з доўгачаснасьцю ў 3 дні сярод мужчын маем 163 выпадкі (15,8 проц.) і сярод жанчын—16 выпадкаў (8,8 проц.); на доўгачаснасьць у 4 дні прыпадае 86 выпадкаў (8,3 проц.) сярод мужчын і 19 выпадкаў (10,4 проц.) сярод жанчын.

Уплыў узросту на колькасьць траўм дае паказьнікі, з якіх відаць, што больш маладыя ўзросты даюць большую колькасьць траўм. Узрост ад 18 да 20 год дае 195 выпадкаў траўм (19,0 проц. траўм іншых узростаў); узрост ад 21 да 25 год дае 256 выпадкаў траўм (24,9 проц.) і г. д. Узрост 26—30 год дае 214 выпадкаў (20,8 проц.) сярод мужчын і 23 выпадкі (12,6 проц.) сярод жанчын; узрост ад 31 да 35 год дае 113 выпадкаў (11,6 проц.) сярод мужчын і 10 выпадкаў (5,6 проц.) сярод жанчын; узрост у 36—40 год дае 102 выпадкі (9,9 проц.) сярод мужчын і 11 выпадкаў (6,0 проц.) сярод жанчын.

Разглядаючы ўплыў узросту на дыягноз траўм, бачым, што ўзрост ад 18 да 20 год дае больш параненьняў—85 выпадкаў (19,2 проц. усіх іншых узростаў) сярод мужчын і 32 выпадкі (42,1 проц.) сярод жанчын; потым ідуць ушыбы: 158 выпадкаў (18,7 проц.) сярод мужчын

і 27 выпадкаў (46.5 проц.) сярод жанчын; іншыя траўмы ў гэтым узросьце даюць 41 выпадак (21,0 проц.) сярод мужчын і 11 выпадкаў (34,4 проц.) сярод жанчын; узрост ад 21 да 25 год дае сярод мужчын 256 выпадкаў (24,9 проц.) і сярод жанчын 56 выпадкаў (30,8 проц.) і г. д.

Разьмеркаваньне траўм па профэсіях і колькасьці дае наступныя даныя: „іншыя профэсіі" даюць найбольшую колькасьць траўм—688 выпадкаў (66,7 проц. рэшты профэсій) сярод мужчын і 160 выпадкаў (87,9 проц.) сярод жанчын; потым ідзе профэсія шаўцоў—66 выпадкаў (6,4 проц.), профэсія гарбароў—62 выпадкі (6,0 проц.) і г. д.

Уплыў профэсій на дыягноз траўм паказвае, што сярод сьлесароў прэвалюючым дыягнозам зьяўляюцца параненьні і ушыбы—37 выпадкаў параненьняў (45,1 проц.), а потым ідуць ушыбы—19 выпадкаў (23,2 проц.). Ва ўсіх іншых профэсіях параненьні і ўшыбы таксама іпрэвалююць.

З разьмеркаваньня траўм па профэсіях і доўгачаснасьці бачым, што ў сьлесароў большая колькасьць траўм прыпадае на траўмы з доўгачаснасьцю ў 2 дні—19 выпадкаў (23,1 проц.) сярод мужчын, на траўмы з доўгачаснасьцю ў 3 дні прыпадае 12 выпадкаў, або 14,8 проц., у 4 дні—9 выпадкаў (11,0 проц.), у 5 дзён—10 выпадкаў (12,2 проц.), у 6 дзён—7 выпадкаў (8,5 проц.) і г. д. Такі-ж самы малюнак наглядаецца і ў адносінах да рэшты профэсій.

Аналізуючы паказьнік уплыву дня траўм на колькасьць іх, бачым, што на нядзелю прыпадае 57 выпадкаў траўм (5,5 проц. траўм рэшты дзён), у панядзелак колькасьць траўм узрастае да 157 выпадкаў (15,3 проц.) сярод мужчын і да 34 выпадкаў (18,6 проц.) сярод жанчын; у аўторак мы маем 167 выпадкаў (16,3 проц.) сярод мужчын і 38 выпадкаў (20,9 проц.) сярод жанчын, у сераду—179 выпадкаў (17,4 проц.) сярод мужчын і 32 выпадкі (17,6 проц.) сярод жанчын, на чацьвер прыпадае 185 выпадкаў (17,9 проц.) сярод мужчын і 23 выпадкі (12,6 проц.) сярод жанчын, на пятніцу—171 выпадак (16,6 проц.) сярод мужчын і 27 выпадкаў (14,9 проц.) сярод жанчын і на суботу—113 выпадкаў (11,0 проц.) сярод мужчын і 17 выпадкаў (9,3 проц.) сярод жанчын.

---

Доц. С. Р. Дзіхцяр.

# Да характарыстыкі прамысловага траўматызму ў БССР за 1926—1927 г.

## (В ы в а д ы).

1. Распрацаваны матэрыял страхкас аб 4019 няшчасных выпадках сярод мужчын і 741 сярод жанчын. Матэрыял гэты не зьяўляецца поўным ні ў сэнсе ахвату ўсяго прамысловага траўматызму, ні ў сэнсе адбіцьця ўсіх прычын. У прыватнасьці, матэрыял не дае адказу на пытаньне аб матэрыяльных прычынах. Такім чынам, даная характарыстыка мае значэньне прыватнай параўнаўчай характарыстыкі прамысловага траўматызму па асобных галінах прамысловасьці і некаторых профэсіях.

2. Па характары траўм значная большасьць іх прыпадае на ўшыбы і параненьні сярод мужчын і на параненьні ды апёкі сярод жанчын. Родавыя адрозьненьні ў характары траўматызму бясспрэчна тлумачацца профэсіянальным складам мужчын і жанчын. Адрозьненьні ва ўмовах профэсіянальнай працы тлумачаць, зразумела, і адрозьненьні ў характары траўматызму па асобных галінах прамысловасьці.

3. У большасьці выпадкаў траўматызуюцца рукі. Параўнаўча павышаны траўматызм галавы наглядаецца ў шклянай прамысловасьці, тулава—у шклянай і броварнай, рук—у запалкавай і мэталяапрацоўчай, ног—у будаўнічай, запалкавай і лесапільнай галінах прамысловасьці. Шкляная прамысловасьць, апрача гэтага, выяўляе павышаны траўматызм вачэй і зьніжаны траўматызм рук.

4. Калі лічыць, што цяжкасьць траўм вызначаецца доўгачаснасьцю зьвязанай з ёй страты працаздольнасьці, дык усе траўмы мы падзяляем на лёгкія—з доўгачаснасьцю страты працаздольнасьці на 1—3 дні, сярэднія—з доўгачаснасьцю страты працаздольнасьці на 3—7 дзён, цяжкія-з доўгачаснасьцю страты працаздольнасьці на 8—14 дзён і надта цяжкія—са стратай працаздольнасьці больш чым на 14 дзён. Пры такой клясыфікацыі большасьць траўм можна залічыць да лёгкіх (50 проц. сярод мужчын і 53,8 проц. сярод жанчын) і да сярэдніх (24,2 проц. і ў мужчын і ў жанчын). Сярод мужчын наглядаецца большы процант цяжкіх і, пераважна, надта цяжкіх траўм у параўнаньні з жанчынамі. Па асобных галінах прамысловасьці ўвогуле хістаньні ня вельмі вялікія.

5. Пераважная большасьць няшчасных выпадкаў канчаецца выздараўленьнем 90,15 сярод мужчын і 91,2 сярод жанчын. Дзеля

таго, што вынік досыць значнай колькасьці няшчасных выпадкаў застаўся невядомым, мы асобныя галіны прамысловасьці па гэтай прымеце ацэньваем на падставе процантаў выздараўленьня. У гэтым сэнсе найгоршыя паказьнікі (найменшы процант выздараўленьня) даюць запалкавая і лесапільная галіны прамысловасьці, а найлепшыя—мэталяапрацоўчыя.

6. Па пытаньні аб разьмеркаваньні няшчасных выпадкаў па днёх тыдня, якое дае шмат якім аўтарам падставу рабіць вывад аб уплыве на траўматызм выходных дзён і алькоголізму, наш матэрыял не дае хоць крыху пэўнага адказу. Калі выключыць нядзелю і суботу, у якія наглядаецца меншая колькасьць няшчасных выпадкаў у залежнасьці ад малой колькасьці занятых рабочых resp. скарочанага рабочага дня, дык у сярэднім па ўсіх галінах прамысловасьці няшчасныя выпадкі разьмеркаваны больш-менш роўнамерна па ўсіх днёх тыдня; нязначнае павышэньне наглядаецца ў панядзелак. Таксама ў панядзелак павышаная колькасьць няшчасных выпадкаў наглядаецца ў мэталяапрацоўчай, шкляной і броварнай галінах прамысловасьці; у запалкавай, лесапільнай ды інш. галінах прамысловасьці параўнаўча павышаная колькасьць няшчасных выпадкаў прыпадае на чацьвер. Відаць, дзень няшчаснага выпадку вызначаецца надта складаным спалучэньнем шматлікіх і рознастайных фактараў (рабочая „ўстаноўка“ пасьля адпачынку і стомленасьць, зьмена, работы ў дзень адпачынку, бытавыя фактары, у тым ліку алькоголізм ды інш.). Бязумоўна, памылкова прыпісваць тое ці іншае разьмеркаваньне няшчасных выпадкаў па днёх тыдня ўплыву аднаго ізоляванага фактару.

7. Матэрыял дае надта абмежаваныя магчымасьці для вызначэньня ўзаемазалежнасьцяй між траўматызмам і профэсіянальна-ўзросным складам рабочых з прычыны адсутнасьці патрэбных для гэтага даных сярод нязначнай колькасьці траўм па шмат якіх профэсіянальных групах. Дзеля таго далейшыя вывады маюць адноснае значэньне і грунтуюцца на экстэнсыўных паказьніках.

8. Разьмеркаваньне траўм па ўзростах і родавыя адрозьненьні ў гэтым разьмеркаваньні магчыма растлумачыць самым складам профэсіянальных груп па роду і ўзросту, і на падставе даных матэрыялаў нельга меркаваць аб уплыве ўзросту на распаўсюджаньне траўматызму паасобных профэсіях.

9. Для асобных профэсій некаторыя траўмы асабліва характэрны. Так, сярод дрэваапрацовачнікаў найбольш пашыраны ўшыбы (37,6 проц.) і параненьні (38,8 проц.), сярод шкловыдувальнікаў—апёкі (32,8 проц.—33,1 проц.) і параненьні (28,2 проц.—31,1 проц.), сярод сьлесароў—ушыбы (44,9 проц.) і параненьні (26,5 проц.), сярод пакоўніц—апёкі (88 проц.), сярод цесьляроў—параненьні (54,8 проц.) і ўшыбы (32,1 проц.). Сярод іншых профэсій па асобных галінах прамысловасьці параўнаўча значна распаўсюджаны наступныя траўмы: сярод будаўнікоў—ушыбы (49,4 проц.), параненьні (40,3 проц.); у мэталяпрамысловасьці—ушыбы (36, 8 проц.), апёкі (22,6 проц.), параненьні (20,4 проц.); у лесапільнай і фанернай прамысловасьці—ушыбы (42,9 проц.) і параненьні (34,5 проц.); у шклянай прамысловасьці—апёкі (40,7 проц.) і параненьні (26,9 проц.) сярод мужчын, сярод жанчын — параненьні (37,4 проц.) і апёкі (22,8 проц.); у дражджоўнях, броварах і вінакур-

нях—апёкі (24,1 проц.), параненьні (22,7 проц.), ушыбы (10,7 проц.); у іншых галінах прамысловасьці—параненьні (44,3 проц.), ушыбы (34,9 проц.).

10. У адносінах да асобных органаў мы ўстанавілі, што найбольш часта траўматызуюцца рукі. Галовы траўматызуюцца параўнаўча часьцей сярод іншых профэсій будаўнікоў (6,4 проц.) і на дражджоўнях, броварах і вінакурнях (8,9 проц.); траўмы тулава часьцей сустракаюцца сярод дрэваапрацовачнікаў (18,8 проц.), цесьляроў (14,3 проц.), іншых профэсій будаўнікоў (13,3 проц.), на пільнях і фанерных заводах (16,1 проц.), на дражджоўнях і броварах (17,9 проц.). Траўмы ног часьцей сустракаюцца сярод цесьляроў (29,7 проц.), шкловыдувальнікаў (24,4 проц.), іншых профэсій будаўнікоў (28,2 проц.), у запалкавай прамысловасьці (20,9 проц.), у лесапільна-фанерных заводах (26,9 проц.). Вочы траўматызуюцца параўнаўча часьцей у сьлесароў (12,1 проц.).

11. Па проценту выпадкаў з вялікай доўгачаснасьцю страты працаздольнасьці найбольш цяжкія траўмы сустракаюцца сярод дрэваапрацовачнікаў, цесьляроў, шкловыдувальнікаў, сярод іншых профэсій у мэталяпрамысловасьці, запалкавых фабрыках. Найменшы процант выпадкаў, які канчаецца выздараўленьнем, наглядаецца сярод дрэваапрацовачнікаў і сярод іншых профэсій будаўнікоў, на лесапільна-фанерных заводах, на запалкавых фабрыках і дражджоўнях ды броварах.

12. Разьмеркаваньне траўм па днёх тыдня сярод асобных профэсіянальных груп пацьвярджае вывад, зроблены намі на падставе сумарных даных у адносінах да паасобных галін прамысловасьці (гл. вышэй п. 6). Так, у дрэваапрацовачнікаў большасьць няшчасных выпадкаў прыпадае на аўторак, у цесьляроў на сераду, у шкловыдувальнікаў—на сераду, у сьлесароў—на панядзелак, у пакоўніц—на панядзелак. Сярод іншых профэсій будаўнікоў большасьць траўм прыпадае на панядзелак і аўторак, у мэталяпрамысловасьці—на пятніцу, у лесапільна-фанерных заводах—на чацьвер, на гуце—на панядзелак сярод мужчын і на сераду—сярод жанчын, у дражджоўнях, броварах і вінакурнях—на аўторак, у іншых галінах прамысловасьці—на чацьвер сярод мужчын і аўторак сярод жанчын.

13. З асобных відаў траўм найбольш цяжкімі (па доўгачаснасьці страты працаздольнасьці) зьяўляюцца, як і трэ' было спадзявацца, пераломы і параненьні, за імі ідуць апёкі, ушыбы ды інш. траўмы. Даныя аб выніку траўм, паколькі яны могуць служыць для характарыстыкі іх цяжкасьці, пацьвярджаюць, што пераломы зьяўляюцца найбольш цяжкімі траўмамі па колькасьці выпадкаў, якія канчаюцца інваліднасьцю resp. выздараўленьнем. Сувязь між характарам траўмы ды ўзростам пацярпеўшых не атрымала хоць крыху пэўнага адбітку.

14. Параўнаўча больш цяжкія выпадкі (па доўгачаснасьці страты працаздольнасьці) наглядаюцца сярод траўм верхніх і ніжніх канцавін. Траўмы галавы і вачэй даюць адносна большы процант выпадкаў, якія канчаюцца інваліднасьцю. Цікава адзначыць, што з узростам як быццам павялічваецца колькасьць траўм тулава (асабліва заўважаецца сярод мужчын) і зусім выразна зьмяншаецца траўматызм рук. Відаць, гэта знаходзіцца ў залежнасьці ад кваліфікацыі і трэньніраваньня, з ростам якіх і павінны зьмяншацца выпадкі траўм непасрэдна працуючых органаў.

15. Уплыў дня траўмы на яе цяжкасьць і зыход не выяўляецца ў якіх-небудзь прыкметных пэўных законамернасьцях. Нарэшце, у пацьверджаньне правільнасьці нашага крытэрыя цяжкасьці траўмы (доўгачаснасьць страты працаздольнасьці) трэба падаць той факт, што чым даўжэйшая страта працаздольнасьці, выкліканая траўмамі, тым меншы процант іх канчаецца выздараўленьнем resp., тым большы процант канчаецца інваліднасьцю. Праўда, разам з доўгачаснасьцю страты працаздольнасьці пры траўмах расьце і процант невядомых вынікаў іх, аднак гэта страта ані не зьмяняе выказанага палажэньня, калі прыняць, што траўмы кожнай доўгачаснасьці з невядомымі вынікамі канчалісь у аднолькавай меры аднаўленьнем працаздольнасьці resp інвалідызацыяй альбо сьмерцю.

# Да характарыстыкі прамысловага траўматызму ў БССР за 1926—1927 гг.

(Табліцы разьмеркаваньня няшчасных выпадкаў [1])

[1]) Ва ўсіх табліцах—1-ы радок—абсолютныя лічбы
—2-гі " —процанты.

## ДА ХАРАКТАРЫСТЫКІ ПРАМЫСЛОВАГА ТРАЎМАТЫЗМУ Ў БССР

Табліца 1

| Дыягноз / Прамысловасьць | Ушыбы | | Пара-неньні | | Апёкі | | Пера-ломы | | Іншыя траўмы | | Равам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мэталёвая | 339 | 4 | 173 | 7 | 113 | 2 | 2 | 1 | 154 | 5 | 781 | 19 |
| | 43,4 | 21,0 | 22,2 | 37,0 | 14,4 | 10,4 | 0,3 | 5,2 | 19,7 | 26,4 | | |
| Шкляная | 119 | 24 | 215 | 79 | 295 | 48 | 1 | — | 144 | 62 | 774 | 213 |
| | 15,4 | 11,3 | 27,8 | 37,1 | 38,1 | 22,5 | 0,1 | — | 18,6 | 29,1 | | |
| Будаўнічая | 191 | 2 | 166 | 6 | 25 | 2 | 5 | — | 13 | — | 400 | 10 |
| | 47,8 | 20,0 | 41,5 | 60,0 | 6,3 | 20,0 | 1,2 | — | 3,2 | — | | |
| Дражджовая і броварная | 57 | 3 | 51 | 18 | 21 | 4 | 3 | 1 | 11 | 6 | 143 | 32 |
| | 39,8 | 9,4 | 35,7 | 56,2 | 14,8 | 12,5 | 2,1 | 3,2 | 7,6 | 18,7 | | |
| Сярніковая | 27 | 19 | 37 | 22 | 14 | 169 | 1 | 1 | 5 | 2 | 84 | 213 |
| | 32,1 | 8,9 | 44,1 | 10,3 | 16,7 | 79,3 | 1,2 | 0,5 | 5,9 | 1,0 | | |
| Лесап. і фанерная | 331 | 31 | 293 | 19 | 20 | 4 | 10 | — | 154 | 18 | 808 | 72 |
| | 40,9 | 43,0 | 36,2 | 26,4 | 2,5 | 5,6 | 1,3 | — | 19,1 | 25,0 | | |
| Інш. прамыслов. | 310 | 58 | 443 | 76 | 72 | 15 | 9 | 1 | 195 | 32 | 1029 | 182 |
| | 30,1 | 31,8 | 43,1 | 41,8 | 7,0 | 8,2 | 0,9 | 0,6 | 18,9 | 17,6 | | |
| | **1374** | **141** | **1378** | **227** | **560** | **244** | **31** | **4** | **676** | **125** | **4019** | **741** |
| | **34,2** | **18,9** | **34,3** | **30,7** | **13,9** | **33.0** | **0.8** | **0,6** | **16.8** | **16,8** | **100** | **100** |

Табліца 2

| Органы / Прамысловасьць | Галава | | Тулава | | Рукі | | Ногі | | Вочы | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мэталёвая | 30 | 2 | 61 | 1 | 496 | 11 | 126 | 4 | 68 | 1 | 781 | 19 |
| | 3,9 | 10,7 | 7,8 | 5,3 | 63,5 | 57,4 | 16,1 | 21,3 | 8,7 | 5,3 | | |
| Шкляная | 119 | 24 | 215 | 79 | 295 | 48 | 1 | — | 144 | 62 | 774 | 213 |
| | 15,4 | 11,3 | 27,8 | 37,1 | 38,1 | 22,5 | 0,1 | — | 18,6 | 29,1 | | |
| Будаўнічая | 25 | — | 57 | 2 | 200 | 4 | 111 | 3 | 6 | 1 | 400 | 10 |
| | 6,3 | — | 14,2 | 20,0 | 50,0 | 40,0 | 27,7 | 30,0 | 1,8 | 10,0 | | |
| Дражджовая і броварная | 12 | 1 | 29 | 2 | 65 | 26 | 28 | 3 | 9 | — | 143 | 32 |
| | 8,4 | 3,1 | 20,2 | 6,3 | 45,5 | 81,4 | 19,6 | 9,3 | 6,3 | — | | |
| Сярніковая | 1 | 1 | 7 | 6 | 52 | 198 | 21 | 7 | 3 | 1 | 84 | 213 |
| | 1,1 | 0,5 | 8,2 | 2,9 | 62,2 | 92,9 | 24,9 | 3,2 | 3,6 | 0,5 | | |
| Лесап. і фанерная | 31 | 1 | 136 | 7 | 421 | 36 | 201 | 26 | 19 | 2 | 808 | 72 |
| | 3,9 | 1,4 | 16,9 | 9,7 | 52,1 | 50,0 | 24,7 | 36,1 | 2,4 | 2,8 | | |
| Іншая прамыслов. | 31 | 7 | 106 | 19 | 642 | 120 | 186 | 33 | 64 | 3 | 1029 | 182 |
| | 3,0 | 3,9 | 10,3 | 10,4 | 62,4 | 65,9 | 18,2 | 18,2 | 6,1 | 1,6 | | |
| | **249** | **36** | **611** | **116** | **2171** | **443** | **674** | **76** | **314** | **70** | **4019** | **741** |
| | **6.2** | **4.8** | **15.2** | **15.7** | **54,0** | **59,8** | **16,8** | **10,3** | **7,8** | **9,4** | **100** | **100** |

Табліца 3

| Зыход / Дзень траўмы | Выздараўлен. | | Інвалідн. | | Сьмерць | | Невядомы зыход | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| 1 дзень | 585<br>93,7 | 108<br>92,3 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 39<br>6,3 | 9<br>7,7 | 624<br>15,5 | 117<br>15,8 |
| 2 дні | 727<br>92,1 | 166<br>90,2 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 62<br>7,9 | 18<br>9,8 | 789<br>19,6 | 184<br>24,8 |
| 3 дні | 546<br>90,8 | 93<br>95,8 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 55<br>9,2 | 4<br>4,2 | 601<br>15,0 | 97<br>13,1 |
| 4 дні | 304<br>92,7 | 66<br>94,3 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 24<br>7,3 | 4<br>5,7 | 328<br>8,2 | 70<br>9,4 |
| 5 дзён | 245<br>91,8 | 52<br>91,2 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 22<br>8,2 | 5<br>8,8 | 267<br>6,6 | 57<br>7,7 |
| 6 дзён | 219<br>89,7 | 27<br>90,0 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 25<br>10,3 | 3<br>10,0 | 244<br>6,1 | 30<br>4,1 |
| 7 дзён | 111<br>86,0 | 22<br>95,7 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 18<br>14,0 | 1<br>4,3 | 129<br>3,3 | 23<br>3,1 |
| 8—10 дзён | 300<br>90,1 | 64<br>91,4 | —<br>— | —<br>— | 1<br>0,3 | —<br>— | 32<br>9,6 | 6<br>8,6 | 333<br>8,3 | 70<br>9,4 |
| 11—14 дзён | 223<br>89,2 | 27<br>87,1 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 27<br>10,8 | 4<br>12,9 | 250<br>6,2 | 31<br>4,2 |
| 15—21 дзень | 6173<br>83,6 | 23<br>88,4 | 2<br>0,9 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 32<br>15,5 | 3<br>11,6 | 207<br>5,1 | 26<br>3,5 |
| 22—28 дзён | 74<br>78,7 | 15<br>88,2 | 1<br>1,1 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 19<br>20,2 | 2<br>11,8 | 94<br>2,3 | 17<br>2,3 |
| Больш м-ца | 116<br>75,8 | 13<br>68,4 | 6<br>3,9 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 31<br>20,3 | 6<br>31,6 | 153<br>3,8 | 19<br>2,6 |
| | **3623**<br>**90,16** | **676**<br>**91,2** | **9**<br>**0,22** | —<br>— | **1**<br>**0,02** | —<br>— | **386**<br>**9,6** | **65**<br>**8,8** | **4019**<br>— | **741** |

Табліца 4

| Зыход / Дзень траўмы | Выздараўлен. | | Інвалідн. | | Сьмерць | | Невядомы зыход | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Нядзеля | 144<br>88,9 | 27<br>96,4 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 18<br>11,1 | 1<br>3,6 | 162<br>4,0 | 28<br>3,8 |
| Панядзелак | 649<br>90,3 | 115<br>88,4 | 4<br>0,5 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 66<br>9,2 | 15<br>11,6 | 719<br>17,9 | 130<br>17,6 |
| Аўторак | 586<br>90,3 | 126<br>91,9 | 1<br>0,1 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 62<br>9,6 | 11<br>8,1 | 649<br>16,2 | 137<br>18,5 |
| Серада | 612<br>90,2 | 128<br>92,7 | 2<br>0,3 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 64<br>9,5 | 10<br>7,3 | 678<br>16,9 | 138<br>18,6 |
| Чацьвер | 602<br>89,8 | 99<br>95,2 | —<br>— | —<br>— | 1<br>0,1 | —<br>— | 68<br>10,1 | 5<br>4,8 | 671<br>16,7 | 104<br>14,0 |
| Пятніца | 607<br>91,2 | 109<br>87,9 | 1<br>0,2 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 57<br>8,6 | 15<br>12,1 | 665<br>16,5 | 124<br>16,7 |
| Субота | 423<br>89,1 | 72<br>90,0 | 1<br>0,2 | —<br>— | —<br>— | —<br>— | 51<br>10,7 | 8<br>10,0 | 475<br>11,8 | 80<br>10,8 |
| | **3623**<br>**90,16** | **676**<br>**91,2** | **9**<br>**0,22** | —<br>— | **1**<br>**0,02** | —<br>— | **386**<br>**9,6** | **65**<br>**8,8** | **4019**<br>— | **741**<br>— |

Табліца 5

| Доўгач. захвор. / Прамысл. | 1 дзень | | 2 дні | | 3 дні | | 4 дні | | 5 дзён | | 6 дзён | | 7 дзён | | 8—10 дзён | | 11—14 дзён | | 15—21 дзень | | 22—28 дзён | | Больш м-ца | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. |
| Мэталёвая | 192 | 3 | 111 | 4 | 88 | 3 | 55 | 4 | 48 | — | 51 | — | 21 | 1 | 61 | 1 | 53 | — | 43 | — | 22 | 1 | 36 | 2 | 781 | 19 |
| | 24,5 | 15,8 | 14,2 | 20,9 | 11,2 | 15,9 | 7,0 | 20,9 | 6,2 | — | 6,6 | — | 2,7 | 5,3 | 8,0 | 5,3 | 6,8 | — | 5,4 | — | 2,8 | 5,3 | 4,6 | 10,6 | | |
| Шкляная | 105 | 28 | 146 | 49 | 126 | 29 | 71 | 29 | 57 | 9 | 44 | 10 | 23 | 9 | 81 | 22 | 56 | 9 | 39 | 10 | 10 | 4 | 16 | 5 | 774 | 213 |
| | 13,6 | 13,2 | 18,9 | 23,0 | 16,3 | 13,6 | 9,2 | 13,7 | 7,3 | 4,2 | 5,6 | 4,7 | 3,0 | 4,2 | 10,5 | 10,3 | 7,2 | 4,2 | 5,0 | 4,7 | 1,3 | 1,9 | 2,1 | 2,3 | | |
| Будаўнічая | 57 | 4 | 78 | 3 | 65 | — | 44 | — | 17 | 1 | 23 | — | 11 | 1 | 35 | 1 | 23 | — | 25 | — | 9 | — | 13 | — | 400 | 10 |
| | 14,3 | 40,0 | 19,5 | 30,0 | 16,2 | — | 11,0 | — | 4,2 | 10,0 | 5,8 | — | 2,8 | 1,0 | 8,8 | 10,0 | 5,8 | — | 6,2 | — | 2,2 | — | 3,2 | — | | |
| Дражджовая і броварная | 14 | 3 | 29 | 8 | 24 | 4 | 12 | 4 | 8 | 5 | 12 | — | 6 | — | 14 | 2 | 8 | 2 | 9 | 1 | 3 | 2 | 4 | 1 | 143 | 32 |
| | 9,8 | 9,3 | 20,3 | 25,0 | 16,7 | 12,5 | 8,4 | 12,5 | 5,6 | 15,6 | 8,4 | — | 4,2 | — | 9,8 | 6,3 | 5,6 | 6,3 | 6,3 | 3,1 | 2,1 | 6,3 | 2,8 | 3,1 | | |
| Сярніковая | 10 | 45 | 27 | 70 | 8 | 27 | 7 | 12 | 4 | 18 | 7 | 10 | 3 | 3 | 7 | 16 | 4 | 7 | 3 | 2 | 3 | 2 | 1 | 1 | 84 | 213 |
| | 11,9 | 21,2 | 32,1 | 32,9 | 9,5 | 12,7 | 8,3 | 5,6 | 4,8 | 8,5 | 8,3 | 4,7 | 3,6 | 1,4 | 8,3 | 7,4 | 4,8 | 3,3 | 3,6 | 0,9 | 3,6 | 0,9 | 1,2 | 0,5 | | |
| Лесап. і фанерная | 127 | 11 | 188 | 16 | 127 | 18 | 53 | 2 | 46 | 3 | 36 | 2 | 25 | 3 | 53 | 7 | 49 | 4 | 33 | — | 27 | 4 | 44 | 2 | 808 | 72 |
| | 15,7 | 15,3 | 23,3 | 22,2 | 15,7 | 25,0 | 6,6 | 2,8 | 5,7 | 4,2 | 4,5 | 2,8 | 3,7 | 4,2 | 6,6 | 9,7 | 6,1 | 5,5 | 4,0 | — | 3,3 | 5,5 | 5,4 | 2,8 | | |
| Іншая прам. | 119 | 23 | 210 | 34 | 163 | 16 | 86 | 19 | 87 | 21 | 71 | 8 | 40 | 6 | 82 | 21 | 57 | 9 | 55 | 13 | 20 | 4 | 39 | 8 | 1029 | 182 |
| | 11,6 | 12,6 | 20,4 | 18,7 | 15,8 | 8,8 | 8,3 | 10,4 | 8,5 | 11,6 | 7,0 | 4,4 | 3,9 | 3,3 | 8,0 | 11,5 | 5,5 | 5,0 | 5,3 | 7,1 | 1,9 | 2,2 | 31,8 | 4,4 | | |
| | **624** | **117** | **789** | **184** | **601** | **97** | **328** | **70** | **267** | **57** | **244** | **30** | **129** | **23** | **333** | **70** | **250** | **31** | **207** | **26** | **94** | **17** | **153** | **19** | **4019** | **741** |
| | **15,5** | **15,8** | **19.6** | **24,9** | **14,9** | **13,1** | **8,2** | **9,4** | **6.6** | **7.7** | **6.1** | **4,0** | **3,3** | **3,1** | **8,3** | **9,4** | **6,2** | **4,2** | **5.2** | **3,5** | **2,3** | **2,3** | **3,8** | **2.6** | **100** | **100** |

Таблица 6

| Зыход / Прамысловасьць | Выздараўлен. | | Інвалідн. | | Сьмерць | | Невядомы зыход | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мэталёвая | 755 | 18 | — | — | — | — | 26 | 1 | 781 | 19 |
| | 96,7 | 94,7 | — | — | — | — | 3,3 | 5,3 | 19,4 | 2,7 |
| Шкляная | 736 | 207 | — | — | — | — | 38 | 6 | 774 | 213 |
| | 95,1 | 97,2 | — | — | — | — | 4,9 | 2,8 | 19,1 | 28,8 |
| Будаўнічая | 343 | 6 | 3 | — | — | — | 54 | 4 | 400 | 10 |
| | 85,7 | 60,0 | 0,3 | — | — | — | 13,5 | 40,0 | 10,0 | 1,5 |
| Дражджовая і броварная | 124 | 30 | — | — | — | — | 19 | 2 | 143 | 32 |
| | 86,7 | 93,7 | — | — | — | — | 13,3 | 6,3 | 3,6 | 4,4 |
| Сярніковая | 68 | 185 | — | — | — | — | 16 | 28 | 84 | 213 |
| | 80,9 | 86,9 | — | — | — | — | 19,1 | 13,1 | 2,1 | 28,8 |
| Лесапільная і фанерная | 659 | 60 | 2 | — | — | — | 147 | 12 | 808 | 72 |
| | 81,5 | 83,4 | 0,3 | — | — | — | 18,2 | 16,6 | 20,2 | 9,2 |
| Інш. прамысловасьць | 938 | 170 | 4 | — | 1 | — | 86 | 12 | 1029 | 182 |
| | 91,2 | 93,4 | 0,3 | — | 0,1 | — | 8,4 | 6,6 | 25,6 | 24,6 |
| | **3623** | **676** | **9** | — | **1** | — | **386** | **65** | **4019** | **741** |
| | **90.15** | **91,2** | **0,22** | — | **0.03** | — | **9.60** | **8.8** | — | — |

Табліца 7

| Дзень траўмы / Прамысловасьць | Нядзеля | | Панядзелак | | Аўторак | | Серада | | Чацьвер | | Пятніца | | Субота | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мэталёвая | 24<br>2,9 | —<br>— | 160<br>20,5 | 3<br>16,0 | 108<br>13,8 | 7<br>36,9 | 134<br>17,2 | 3<br>15,9 | 95<br>12,2 | 2<br>10,4 | 150<br>19,3 | 2<br>10,4 | 110<br>14,1 | 2<br>10,4 | 781<br>19,4 | 19<br>2,7 |
| Шкляная | 37<br>4,8 | 9<br>4,2 | 146<br>18,9 | 37<br>17,4 | 117<br>15,1 | 37<br>17,4 | 135<br>17,4 | 44<br>20,7 | 124<br>16,0 | 25<br>11,7 | 123<br>15,9 | 33<br>15,5 | 92<br>11,9 | 28<br>13,1 | 774<br>19,1 | 213<br>28,8 |
| Будаўнічая | 16<br>4,0 | —<br>— | 75<br>18,7 | 1<br>10,0 | 74<br>18,5 | 1<br>10,0 | 69<br>17,2 | 2<br>20,0 | 71<br>17,8 | 2<br>20,0 | 61<br>15,3 | 4<br>40,0 | 34<br>8,5 | —<br>— | 400<br>10,0 | 10<br>1,5 |
| Дражджовая і броварная | 10<br>7,0 | 3<br>9,4 | 28<br>19,6 | 2<br>6,3 | 26<br>18,2 | 6<br>18,7 | 21<br>14,6 | 5<br>15,6 | 23<br>16,1 | 4<br>12,5 | 24<br>16,8 | 8<br>25,0 | 11<br>7,7 | 4<br>12,5 | 143<br>3,6 | 32<br>4,4 |
| Сярніковая | —<br>— | 2<br>0,9 | 14<br>16,6 | 45<br>21,2 | 13<br>15,5 | 35<br>16,4 | 11<br>13,1 | 38<br>17,8 | 19<br>22,7 | 35<br>16,4 | 18<br>21,5 | 37<br>17,4 | 9<br>10,6 | 21<br>9,9 | 84<br>2,1 | 213<br>28,8 |
| Лесапільная і фанерная | 18<br>2,2 | 3<br>4,2 | 139<br>17,2 | 8<br>11,1 | 144<br>17,7 | 13<br>18,1 | 129<br>16,0 | 14<br>19,5 | 154<br>19,1 | 13<br>18,0 | 118<br>14,7 | 13<br>18,0 | 106<br>13,1 | 8<br>11,1 | 808<br>20,2 | 72<br>9,2 |
| Іншая прамыслов. | 57<br>5,5 | 11<br>6,1 | 157<br>15,3 | 34<br>18,6 | 167<br>16,3 | 38<br>20,9 | 179<br>17,4 | 32<br>17,6 | 185<br>17,9 | 23<br>12,6 | 171<br>16,6 | 27<br>14,9 | 113<br>11,0 | 17<br>9,3 | 1029<br>25,6 | 182<br>24,6 |
| | **162**<br>**4.0** | **28**<br>**3.8** | **719**<br>**17,7** | **130**<br>**17,5** | **649**<br>**16,2** | **137**<br>**18,5** | **678**<br>**16.9** | **138**<br>**18,7** | **671**<br>**16,7** | **104**<br>**14,0** | **665**<br>**16,6** | **124**<br>**16,7** | **475**<br>**11,9** | **80**<br>**10.8** | **4019**<br>— | **741**<br>— |

Dozent S. R. Dichtjar.

# Zur Charakteristik des industriellen Traumatismus in der W. S. S. R. in den Jahren 1926-1927.

*Schlussfolgerungen.*

1. Das zu Grunde dieser Arbeit gelegte Material der Versicherungskassen umfasst 4019 sich auf Männer und 741 sich auf Frauen beziehende Fälle. Die vorliegende Charakteristik hat die Bedeutung einer partiellen vergleichenden Charakteristik des industriellen Traumatismus nach den einzelnen Industriebranchen und den einzelnen Gewerben.

2. Eine bedeutende Mehrzahl der Unfälle geben für Männer Kontusionen und Verletzungen, für Frauen—Verletzungen und Verbrennen ab. Dieser Unterschied im Charakter der Unfälle bei den beiden Geschlechten lässt sich durch die gewerbliche Verteilung von Männern und Frauen in der Industrie erklären.

3. Am häufigsten werden die Hände traumatisiert. Verhältnissmässig oft leidet der Kopf in der Glashüttenindustrie, der Rumpf—in der Glashütten-, Hefen-, Bierbrauereiindustrie, die Hände in der Zündholz- und Metallhüttenindustrie, die Füsse—In der Bau-, Zündholzindustrie und den Sägewerken. In der Glashüttenindustrie ist, ausserdem, die Zahl der Augenverletzungen grösser und die Zahl der Fälle von Traumatisierung der Hände verhältnismässig kleiner als in den anderen Industriebranchen.

4. Alle Traumen werden vom Verfasser in 4 Gruppen eingeteilt: leichte Traumen—Verlust der Arbeitsfähigkeit während 1-3 Tagen; mittelschwere—Verlust der Arbeitsfähigkeit während 3-7 Tagen; schwere—Verlust der Arbeitsfähigkeit während 8-14 Tagen; sehr schwere—Verlust der Arbeitsfähigkeit während 14 und mehr Tagen. Die Mehrzahl der Traumen gehört, dieser Klassifikation nach, zu den leichten (50% bei den Männern und 53,8% bei den Frauen und zu den mittelschweren—24,2% bei den beiden Geschlechten). Der Prozentsatz der schweren und insbesondere der sehr schweren Traumen ist bei den Männern höher als bei den Frauen.

5. In den meisten Fällen enden die Unfälle mit einer Wiederherstellung (90,15% bei Männern uud 91,2% bei Frauen).

6. Über die Verteilung der Unfälle den Tagen der Woche nach, einem Moment aus welchem viele Autoren Folgerungen über den Einfluss der Erhohlungstage und des Alkoholismus auf den Traumatismus ziehen, gibt das vorliegende Material keine Aufschlüsse. Jedenfalls ist es ein Irrtum die Verteilung der Unfälle nach den Tagen der Woche mit einem einzelnen Faktor zu verknüpfen.

7. Die Verteilung der Unfälle nach dem Alter und—in den Altersgruppen—nach dem Geschlecht wird durch die Zusammensetzung der entsprechenden Gruppen in den Gewerben bedingt.

8. Den Gewerben nach, verteilen sich die Unfälle folgendermassen: für Arbeiter der Holzindustrie sind Kontusionen (37,6%) und Verletzungen (38,8%) für Glasbläser—Verbrennen (32,8—33,1%) und Verletzungen (28,2—31,1%), für Schlosser—Kontusionen (44,9%) und Verletzungen (26,5%), für Päckerinnen—Verbrennen (38%), für Zimmerleute—Verletzungen (54,8%) und Kontnsionen (32,1%) charakteristisch.

9. In Bezug auf die einzelnen Körperteile, die traumatisiert werden, ist es schon oben hervorgehoben worden, dass der erste Platz den Händen, gehört. Kopftraumen kommen am häufigsten bei den Arbeitern der Bau- (6,4%), der Hefen-, der Bierbrauerei- Spiritus- und Branntweinindustrie (8,9%) vor; Rumpftraumen—in der Holz- (18,8%), Bau- (13,3%), Säge und Furnier- (16,1%), Hefen- und Bierbrauereiindustrie (17,9%); Fusstraumen—bei Zimmerleuten (29,7%), Glasbläsern (24,4%), Bauarbeitern (28,2%), in der Zündholz- Säge- und Furnierindustrie (26,9%). Augentraumen bei den Schlossern (12,1%).

10. Die schwersten Fälle mit dauerndem Verlust der Arbeitsfähigkeit beziehen sich auf Holzarbeiter, Zimmerleute, Glasbläser und auf die in der Metall- und Zündholzindustrie beschäftigten Arbeiter.

11. Zu den schwersten Traumen (nach der Dauer des Arbeitsfähigkeitverlustes) gehören Frakturen und Verletzungen, ferner kommen Verbrennen-Kontusionen und erst nachher die übrigen Traumen.

12. Zu den relativ schwereren Fällen gehören Traumen der oberen und unteren Extremitäten. Kopf- und Augentraumen haben in einem verhältnissmässig grossen Prozentsatz der Fälle die Invalidität zur Folge. Die Zahl der

Rumpftraumen hat, wie es scheint, die Tendenz mit dem Alter (insbesondere bei Männern) sich zu vergrössern, die Zahl der Handtraumen—abzunehmen, was allem Anschein nach, auf die gewerbliche Ausbildung und den Training, mit deren Wuchs sich Fälle von Traumatisierung der unmittelbar arbeitenden Organe vermindern müssen, zurückzuführen ist.

13. Es lässt sich keine Gesetzmässigkeit in Bezug auf den Tag, an dem der Unfall geschehen ist, und seinen Einfluss auf die Schwere und den Ausgang des letzteren feststellen.

---

Д-р А. Г. Марголін.

# Спроба вывучэньня траўматызму на мэталяапрацоўчым заводзе „Чырвоны мэталісты“

Завод „Чырвоны мэталісты“ здавён-даўна зьвяртае на сябе ўвагу высокай захворанасьцю на ім рабочых і асабліва высокім траўматызмам. Так, паводле даных страхкасы, колькасьць няшчасных выпадкаў на заводзе ў IV квартале 1927 г. складала 58 проц., а колькасьць выкліканых імі дзён непрацаздольнасьці—55 проц. агульнай колькасьці па ўсёй Віцебскай акрузе. Больш таго, выяўлялася тэндэнцыя росту траўматызму. У студзені—сакавіку 1928 г. колькасьць няшчасных выпадкаў, залічаная да агульнай колькасьці іх па акрузе, дасягла пагрознай лічбы—92 проц.; на 1000 застрахаваных 176 выпадкаў прыпадала на „Чырвоны мэталісты“, тымчасам як у сярэднім па акрузе 8,8 выпадкаў. Такое становішча на заводзе ў поўнай меры апраўдвае спробу распрацаваць матэрыял, вывучыць умовы працы рабочых і прычыны, якія абумоўліваць такі высокі траўматызм сярод іх.

Асноўныя прычыны траўматызму на заводзе увогуле зусім зразумелы і раней вядомы. Справа ў тым, што завод гэты, які выпускае сельскагаспадарчыя машыны (адна з ударных галін прамысловасьці ў сучасны пэрыод у сувязі са стаўкай на павялічэньне машынізацыі ды ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі), надзвычайна вырас за апошнія некалькі год. З невялічкай рамонтнай майстэрні ваеннага тыпу ён абярнуўся ў магутны мэталяапрацоўчы завод. Гэта досыць ярка ілюструецца ростам вытворчай програмы.

| | 1925-26 г. | 1928-29 г. | % павялічэньня |
|---|---|---|---|
| Плугоў | 87000 | 125000 | 50 |
| Сявярак | 6000 | 17500 | 190 |
| Малатарань | 1500 | 15000 | 1000 |
| Конных прывадоў | 600 | 7000 | 1070 |

Колькасьць рабочых з 500 у 1925-26 вытворчым годзе павялічылася да 1100 у 1928-29 г. Пры такім хуткім росьце завод, аднак, ня мае патрэбнага для пашырэньня месца і затыхаецца ў вузкіх тэрыторыяльных рамках. Да таго ж, сілавая гаспадарка заводу перажывала пэрманэнты крызіс, бо ў прадбачаньні пераходу ў хуткім часе на энэргію Сталінбуду нерацыянальна рабіць значныя затраты на сілавыя ўстаноўкі. Такія вось агульныя прычыны, спараджаючыя ўсе іншыя і выклікаючыя высокі траўматызм. Выяўленьне падрабязных недахватаў і вызначэньне мерапрыемстваў змаганьня з імі—такая вось мэта зробленых дасьледзін.

Пры распрацоўцы статматэрыялу па траўматызьме была пастаўлена вузкая мэта—атрымаць даныя для практычнай работы, якія паказвалі-б, куды і на якія прычыны трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу і якія мерапрыемствы трэба ўжыць. Вось чаму ўсе няшчасныя выпадкі распрацоўваліся толькі з улікам момантаў: 1) агульнай колькасьці іх; 2) цэху; 3) часу здарэньня і 4) матэрыянальнай прычыны. З гэтых жа самых меркаваньняў клясыфікацыя матэрыяльных прычын была ўжыта не агульнапашыраная і ў падобных распрацоўках, а крыху іншая, спрошчаная, але больш прыдатная для пастаўленых практычных мэт. Усяго апрацаваны 743 выпадкі за ўвесь 1928 і 1 квартал 1929 каляндарнага году. У распрацоўку ўвайшлі толькі больш сур'ёзныя выпадкі, меўшыя ў выніку страту працаздольнасьці мінімум на адзін дзень, бо толькі на такія выпадкі прыходзяць у органы працы паведамленьні.

Згодна з пастановай НКП СССР, усе няшчасныя выпадкі, проста ці ўкосна зьвязаныя з работамі на прадпрыемстве, павінны быць зарэгістраваны ў „Кнізе запісаў няшчасных выпадкаў", і ў кожным такім выпадку павінна быць запоўнена і паслана ў інспэкцыю працы „апавяшчэньне аб няшчасным выпадку" па спэцыяльнай форме. Хаця ў пастанове ды інструкцыях зазначана, што так рэгістраваць трэба ўсе няшчасныя выпадкі, „незалежна ад таго, ці спраеджаліся яны стратай працаздольнасьці", але фактычна на ўсіх прадпрыемствах і на заводзе „Чырвоны Мэталісты", у прыватнасьці, рэгіструюцца звычайна толькі выпадкі, меўшыя ў выніку страту працаздольнасьці або сьмерць. Ад кожнага „апавяшчэньня" адразаецца талён і пасылаецца ў страхкасу.

Дзеля таго, што з-пад нагляду адміністрацыі па розных прычынах могуць уцікнуць асобныя няшчасныя выпадкі, ёсьць магчымасьць папраўляць гэты недагляд адміністрацыі праз складаньне страхкасай сьпісаў няшчасных выпадкаў, па якіх яна дапамогу па часовай непрацаздольнасьці выплаціла, але талёнаў апавяшчэньняў не атрымала. Як рэгулярная мера, гэта не ажыцьцяўляецца, але час-ад-часу адміністрацыі зазначаюць на разыходжаньне вестак між колькасьцю выпадкаў па „апавяшчэньнях" і па аплочаных бюлетэнях. Такім чынам, весткі інспэкцыі працы заўсёды крыху меншыя ў параўнаньні з весткамі страхкасы, але з бязупынным наладжаньнем рэгістрацыі выпадкаў розьніца гэта ўсё зьмяншаецца.

Зразумела, што па адзначаных дзьвёх прычынах агульная колькасьць няшчасных выпадкаў на заводзе „Чырвоны мэталісты" фактычна куды большая, чым тая, што ўвайшла ў распрацоўку; гэта відаць хаця-б з таго, што ў 1928 г. у сярэднім на дзень, паводле нашага матэрыялу, прыпадае два выпадкі, тымчасам як колькасьць першаісных выпадкаў хірургічнай дапамогай на мэдпункце заводу дасягае 6—8 на дзень.

Што да якасьці запаўненьня „апавяшчэньняў" і ў сувязі з гэтым прыдатнасьці гэтага матэрыялу для статраспрацоўкі, дык трэба адзначыць:

1) Пункт аб пасадзе пацярпеўшага звычайна запаўняецца так неаднатыпова, з такой часамі надмернай, часамі зусім невыстарчальнай дэталізацыяй прафэсіі, што ў якасьці самастойнага моманту для распрацоўкі яго выкарыстаць было нельга. Ён адыгрывае толькі ролю дапаможнага пункту, бо на падставе яго і пункту аб месцы здарэньня ўдавалася ўстанавіць цэх ці майстэрню, дзе здарыўся няшчасны выпадак.

2) Пункт аб часе (гадзіна і мінуты) здарэньня мог-бы даць каштоўны (і для практычных вывадаў) матэрыял да выяўленьня дынамікі траўматызму па гадзінах унутры зьмен і па зьменах, але весткі, адзначаныя ў ім, пры бліжэйшым разглядзе аказаліся такімі мала заслугоўваючымі давер'я, што ў распрацоўцы выкарыстаны ня былі. Справа ў тым, што пішуцца гэтыя весткі звычайна праз некалькі дзён пасьля здарэньня, прыблізна напамяць на падставе апытаньняў пацярпеўшага. З прычыны невыстарчальнага ўлічваньня тэй асобай, што запаўняе „апавяшчэньняў", важнасьці і канечнай патрэбы дакладнасьці ў запісваньні гэтых вестак, яны часамі пішуцца—абы запоўніць графу, часамі нават без адзначэньня часткі дня (напрыклад, 7 гадзін без адзначэньня раніцы ці вечару).

3) Пункт з падрабязным апісаньнем акалічнасьцяй выпадку, як-бы добра і падрабязна ён запоўнены ні быў, усё-ж не заўсёды дае выразнае ўяўленьне аб матэрыяльнай прычыне траўмы. Нават практыкаванае побач з распрацоўкай азнаямленьне з умовамі працы на месцы не заўсёды ўхіляла няўхільную ў такіх ацэнках частку суб'ектывізму.

4) Што-ж да прычын нематэрыяльных, г. зн. спробы вызначыць залежнасьць выпадку ад „віны самога рабочага", „віны адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсоналу" і, нарэшце, ад „незалежных прычын" (г. зн. ад выпадковасьці), дык такія ацэнкі, якія звычайна робяцца аб кожным выпадку тэхнічным інспэктарам або тэй асобай, што абсьледуе, і мае багата такіх вывадаў, як „выпадковасьць", неасьцярожнасьць" ды інш., прадстаўляюцца такімі суб'ектыўнымі і часамі замала абгрунтаванымі, што ў распрацоўцы пад увагу прыняты ня былі. На нашу думку, не статыстычныя вывады павінны базавацца на гэтай вызначанай у кожным асобным выпадку прычыннасьці, але, наадварот, гэта прычыннасьць павінна быць выведзена на падставе распрацоўкі матэрыялу статыстычным мэтодам.

Па днёх тыдня няшчасныя выпадкі разьмяркоўваюцца наступным чынам [1]):

| ДНІ ТЫДНЮ | Абсолютн. колькасьць | %% да падрахунку | Мэтал. зав. Пермскай губ. (у %) | З германскіх матэрыялаў (у %) |
|---|---|---|---|---|
| Нядзеля | 10 | 1,34 | 5,30 | 2,52 |
| Панядзелак | 137 | 18,42 | 17,77 | 16,94 |
| Аўторак | 117 | 15,73 | 14,21 | 15,76 |
| Серада | 121 | 16,27 | 16,77 | 15,66 |
| Чацьвер | 130 | 17,48 | 15,74 | 16,04 |
| Пятніца | 130 | 17,48 | 17,51 | 16,28 |
| Субота | 98 | 13,18 | 12,70 | 16,80 |

Разьмеркаваньне гэта мае звычайную форму росту ад пачатку тыдню да канца. Што яно зьмяншаецца ў суботу, дык гэта толькі здаецца з прычыны 6-гадзіннага працоўнага дня ў суботу (калі перавесьці гэту лічбу на 8-гадзінны працоўны дзень, дык атрымаецца 17,58 проц. замест 13,18). Калі зрабіць гэту папраўку, дык крывая набудзе форму бязупыннага росту ад аўторака пад канец тыдню. Максімум траўматызму прыпадае на панядзелак: прычыны гэтаму звычайна падаюцца ў статдасьледзінах і спыняцца на іх тут нявaрта. Нядзельны алькоголізм на высокі траўматызм у панядзелак бязумоўна ўплывае, але ў кожным разе асабліва рэзкіх у гэтых адносінах лічбаў мы ня маем. Наколькі больш высокая лічба ў панядзелак у нашым матэрыяле, чым у паданым для параўнаньня, не дае яшчэ належнай падставы рабіць вывад аб асаблівым значэньні алькоголізму на „Чырвоным мэталісту".

Пачынаючы з кастрычніка 1928 г., становішчу аховы працы на заводзе аддавалася асаблівая ўвага з боку раду органаў, бо вялізны рост захворанасьці і асабліва траўматызму ўпарта гэтага вымагалі. У сувязі з гэтым важна было выявіць малюнак дынамікі траўматызму за ахоплены распрацоўкай пэрыод часу. Матэрыял быў набыты па кварталах году; рух яго такі:

| КВАРТАЛЫ | Колькасьць выпадкаў | На 1000 рабочых у квартале |
|---|---|---|
| I кв. 1928 г. | 82 | 81 |
| II „ „ | 132 | 129 |
| III „ „ | 181 | 170 |
| IV „ „ | 240 | 224 |
| I „ 1929 г. | 108 | 104 |

[1]) У перадапошнім і апошнім слупкох паданы для параўнаньня лічбы аб траўматызьме: 1) на буйным мэталязаводзе Пермскай губ. за 1924 г. („Гігіена працы", 1926 г., № 7-8) і 2) з германскіх матэрыялаў („Сан. статыстыка працы" Каплуна).

Як відаць з формы крывой, траўматызм выяўляе спачатку 1928 г. аж да канца яго бязупынны рост. Першы квартал 1929 г. дае рэзкае зьніжэньне—на 54 проц. у параўнаньні з папярэднім, і лічба яго амаль наблізілася да лічбы I кварталу 1928 г. У сувязі з гэтым паўстала пытаньне, ці атрымліваецца малюнак паўтарэньня колькасьці траўматызму ў адным і тым самым сэзоне (або квартале) абодвух гадоў. Для праверкі гэтага была падлічана (паводле матэрыялаў тэйжа самай крыніцы) агульная колькасьць выпадкаў у IV кв. 1927 г. Параўнаньне атрыманай лічбы з лічбай адпаведнага кварталу 1928 г. паказала, што справа далёка ня ў сэзонах году; 1928 г. дае вялізны рост траўматызму (87 выпадкаў у IV квартале 1927 г. і 240 выпадкаў у IV квартале 1928 г.). Чым жа растлумачыць гэты рост траўматызму?

Магчыма, бязумоўна, што тут пэўную ролю адыгрывае паступовае наладжаньне і палепшаньне рэгістрацыі няшчасных выпадкаў адміністрацыяй заводу (да апошняга яшчэ часу лічбы страхкасы перавышаюць лічбы інспэкцыі працы). Але, бязумоўна, адна гэта прычына не магла-б даць такога вялізнага росту. Асноўную ролю тут адыгрывае агульнае пагоршаньне ўмоў працы ў сувязі са значным павялічэньнем вытворчай програмы пры даўнейшых тэрыторыяльных і энэргетычных магчымасьцях, пры тэй колькасьці рабочых ды абсталяваньня заводу, якія зьмяніліся мала. Гэта павялічэньне вытворчай програмы ды інтэнсыўнасьці працы мела ў выніку павялічэньне цеснаты і заграмоджанасьці ў цэхах, пагоршаньне шмат якіх умоў, як, напрыклад, запыланасьць, забруджанасьць газамі паветра ды інш. Вытворчая програма расла па кварталах наступным чынам:

| Кварталы | I—1928 г. | II | III | IV | I—1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Продукцыя заводу ў руб. | 678251 | 739018 | 902749 | 970355 | 834408 |
| „ ў руб. на 1 рабочага | 674,2 | 725,9 | 842,1 | 878,9 | 809,3 |

Адсюль відаць, што дынаміка траўматызму мае той жа самы характар, што і дынаміка продукцыйнасьці працы. Абое яны растуць з кварталу ў квартал у 1928 г. і падаюць (праўда, траўматызм падае куды разчэй) у пачатку 1929 г. Аднак у дынаміцы гэтых дзьвёх вялічынь няма строгага паралелізму. Калі нават падаць колькасьць няшчасных выпадкаў да аднолькавай колькасьці рабочых і аднолькавай колькасьці выпрацаванай продукцыі, дык і тады крывая будзе мець характар росту на працягу 1928 г. і рэзкага паданьня з пачатку 1929 г. Так, калі вылічыць колькасьць траўм, якія прыпадаюць на кожную сотню рублёў продукцыі аднаго рабочага на працягу кварталу, дык атрыманыя паказьнікі будуць такія [1]): I квартал 1928 г.—12'6; II кв.—18,11; III кв.—21,49; IV кв.—27,30; I кв. 1929 г.—13,33.

[1]) Паказьнікі вылічаны наступным чынам:

| Продукцыя заводу ў квартале | Сярэдняя колькасьць рабочых у квартале па заводзе | Продукцыя ў рублёх на аднаго рабочаго | Колькасьць няшчасн. выпадкаў за кварт. | Колькасьць выпадкаў на сотню руб. продукцыі I раб. |
|---|---|---|---|---|
| a | b | $\frac{a}{b}=c$ | d | $\frac{b.100}{d}=c$ |

Як відаць, нават пры нэвіляваным уплыве колькасьці рабочых і колькасьці продукцыі траўматызм усё-ж мае тэндэнцыю росту на працягу 1928 г. і паданьня ў пачатку 1929 г. Іншымі словамі, траўматызм больш хутка расьце і больш хутка падае ў параўнаньні з ростам і зьніжэньнем продукцыі па вытворчай програме заводу. Больш хуткі рост трэба растлумачыць тым, што рост цеснаты, заграмоджанасьці, неналаджанасьці транспорту, пагоршаньняў гігіенічных умоў працы ды інш. значна выпераджае рост выклікаўшай яго прычыны (павялічэньне продукцыі), і, такім чынам, з павышэньнем продукцыйнасьці працы траўматызм расьце куды хутчэй. Так, на думку амэрыканскіх аўтараў, колькасьць няшчасных выпадкаў павялічаецца ў 4 разы хутчэй, чым продукцыйнасьць; калі, напрыклад, продукцыйнасьць павялічылася на 5 проц., дык колькасьць няшчасных выпадкаў павялічаецца на 20 проц. (Вэрнон. „Прамысловая стомленасьць і продукцыйнасьць працы"). Як відаць, нашы лічбы маюць такі самы характар, толькі з крыху іншымі адносінамі:

| Кварталы | I—1928 г. | II | III | IV | I—1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Выпадкаў на 1000 рабочых у проц. да I кварталу | 100 | 159 | 210 | 276 | 128 |
| Продукцыйнасьць у сярэднім на аднаго раб. ў проц. да I кварталу | 100 | 108 | 125 | 130 | 120 |

Больш хуткае ў параўнаньні з продукцыйнасьцю зьніжэньне траўматызму ў I квартале 1929 г. зьяўляецца вынікам ажыцьцяўленьня раду мерапрыемстваў, паступовага наладжаньня організацыі працы (рух напоўфабрыкатаў, разьмяшчэньне варштатаў, рабочых ды інш.) і агульнага дапасаваньня да ажыцьцяўлянай вытворчай програмы.

Гэта апошняя акалічнасьць дае права зрабіць вывад, што павялічэньне інтэнсыўнасьці і продукцыйнасьці працы можа стацца крыніцай небясьпекі, калі яны праводзяцца не ў палепшаных (а таму адносна ў абсолютна пагоршаных) умовах, і наадварот—не становяць сабой небясьпекі, калі побач ажыцьцяўляюцца патрэбныя мерапрыемствы для палепшаньня ўмоў працы.

У адносінах да частаты (і рызыкі) траўматызацыі цэхі разьмяркоўваюцца наступным чынам: на 100 рабочых за распрацаваны пэрыод (15 месяцаў) прыпадае ў

| | | |
|---|---|---|
| кавальскім цэху | 213 | выпадкаў |
| гісэрні | 190 | „ |
| плужным | 114 | „ |
| у двары і знадворным транспорце | 86 | „ |
| такарным цэху | 75 | „ |
| сьлясарным | 68 | „ |
| дрэваапрацоўчым | 28 | „ |
| малярскім | 20 | „ |
| машынавым | 17 | „ |

Найбольш небясьпечнымі ў сэнсе траўматызму зьяўляюцца кавальскі, гісэрны, плужны цэхі, дваравы і знадворны транспорт. На гэтыя вось цэхі было зьвернута больш за ўсё ўвагі пры вывучэньні

прычын на мясцох. Характэрна, што гэтыя-ж 3 цэхі і двор пры першым жа поглядзе выдзяляюцца сваёй надзвычайнай цеснатой, заграмоджанасьцю. Па матэрыяльных прычынах няшчасных выпадкаў яны разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 1) ад ручных інструмантаў | 20,5 | проц. |
| 2) „ паданьня рэчаў на рабочых, прышчамленьня часьцей цела ды інш. | 15,3 | „ |
| 3) ад апёкаў | 14,9 | „ |
| 4) „ наколаў напорваньняў на вострыя рэчы | 17,5 | „ |
| 5) „ ручной транспортыроўкі цяжараў | 9,1 | „ |
| 6) „ натыканьня на рэчы і паданьня, спаткнуўшыся | 8,6 | „ |
| 7) „ аскепкаў, сьмяцінак, акалін, стружак | 7,5 | „ |
| 8) „ выканаўчых мэханізмаў | 3,5 | „ |
| 9) „ закрананьня рабочых тымі рэчамі, якія пераносяцца або перакідаюцца | 2,0 | „ |
| 10) іншыя | 7,1 | „ |

Як відаць, асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў ня тыя, якія можна ўхіліць мерапрыемствамі па тэхніцы бясьпечнасьці ў вузкім сэнсе гэтага слова. Гэта робіцца асабліва ясным пры разглядзе прычын па больш дэталёвых падразьдзелах.

1. Ад такіх прычын, як удар малатком па руцэ, удар ключом, ломам, рукой аб што-небудзь ды інш., словам, ад недакладных, няручных, некоордынаваных рухаў колькасьць выпадкаў дасягае 16,5 проц. агульнай колькасьці.

2. Ад прычын, якія могуць быць ахарактарызаваны выразам: „рэч валіцца з рук“—12,3.

3. Ад паданьня спаткнуўшыся аб што-небудзь наваленае, ад натыканьня на што-небудзь і ад таго, што рабочых закранаюць тымі, якія пераносяцца ці перакідаюцца, рэчамі, карацей, з прычыны заграмоджанасьці і цесьнаты ў цэхах—10,6 проц.

Усё гэта—прычыны, якія вымагаюць лепшай організацыі процэсаў вытворчасьці, разгрузкі цеснаты, рацыяналізацыі транспорту ды руху напоўфабрыкатаў унутры заводу і, нарэшце, большай увязкі вытворчай програмы з тэхнічнымі магчымасьцямі заводу.

Атрымаўшы такім чынам, агульнае ўяўленьне аб траўматызьме на заводзе, можна зьвярнуць увагу на прычыну яго па асобных цэхах. На першым месцы па небясьпечнасьці стаіць кавальскі цэх; асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў тут такія:

| | | |
|---|---|---|
| 1) ад аскепкаў, окалін (на сотню рабочых у 15 месяцаў) | 72 | вып. |
| 2) „ апёкаў | 53 | „ |
| 3) „ udaраў малатком, ключом, клешчамі ды інш. | 30 | „ |
| 4) „ наколаў, парэзаў аб вострыя канты | 26 | „ |
| 5) „ закрананьня тымі рэчамі, што праносяцца ці кідаюцца | 13 | „ |

Пры аглядзе ўмоў працы на месцы перш за ўсё кідаецца ў вочы надзвычайная цесната і заграмоджанасьць памяшканьня. Апрача варштатаў, мэханічных молатаў, кавадлаў і печак, ва ўсім памяшканьні навалены (мясцамі проста ў кучы) розныя напоўфабрыкаты. Правільна расплянаваных праходаў між імі нідзе няма. Каб прайсьці да якога-небудзь варштату, прыходзіцца або рабіць доўгія выкручастыя абходы куч напоўфабрыкатаў або-ж пераскокваць праз іх.

Для ілюстрацыі стану цэху можна падаць такі прыклад: ад дзьвярэй знадворку да ўваходу ў наступны цэх ўпоперак памяшканьня ідзе

галоўны праход; па ім носяць цяжары, па ім жа ідуць рэйкі для ваганэтак. З боку гэтага праходу знаходзіцца фрыкцыйны прэс, і вось распаленыя лемяхі з-пад гэтага прэсу перакідаюцца ўпоперак праходу і скідаюцца ў кучу на другім баку яго. Далей, сярод таго-ж самага праходу, на ўзроўні грудзей чалавека да канца падважніка падважана прыблізна двухпудовая гіра. І гэта ўсё пры жвавым руху іперавозцы матэрыялаў па праходу. Да цеснаты і высокай тэмпэратуры, амаль няўхільнай ва ўмовах кавальскага цэху, далучаюцца недахваты асьвятленьня. Усе вокны і верхнія сьветлавыя ліхтары ўсьцяж укрыты копацьцю, накшталт тых шкелцаў, скрозь якія глядзяць на сонца. Такія вокны паводле табліцы павінны прапушчаць ня больш 85—90 проц. сьвятла, і з прычыны гэтага цэлыя суткі тут працуюць пры электрычным асьвятленьні. Зрабіць электрычнае сьвятло рацыянальна расьсеяным, адбітым сьвятлом немагчыма, бо сьценкі і столі чорныя ад копаці. Рабочыя зоны і месцы разьмяшчэньня варштатаў невыстарчальна расплянаваны, у кожным выпадку небясьпека пападаньня аскепкаў ды окалін у таго, што стаіць побач, рабочага, ня ўлічана. Калі ўлічыць усе гэтыя акалічнасьці, дык зробіцца ў поўнай меры зразумелай завялікая колькасьць выпадкаў з прычын, адзначаных пад разьдзеламі 1, 3 і 5. Апёкі, наколы, парэзы аб вострыя канцы і частка параненьняў аскепкамі лёкалізуюцца галоўным чынам на руках. Само сабою паўстае пытаньне аб тым, каб насіць ды ў спраўнасьці трымаць рукавіцы. Тымчасам часта можна бачыць, як адзін з двох рабочых, што выконваюць аднолькавую вытворчую работу, носіць рукавіцы, другі-ж не, кажучы, што ў іх яму працаваць нязручна. Да выданьня апошняй пастановы Наркампраца аб замене рукавіц у меру іх зношваньня часта здараліся апёкі і параненьні рук з тае прычыны, што рукавіцы былі дзюравыя.

З траўмаў ад аскепкаў ды окалін на долю пападаньня ў вочы прыпадае (на 100 працуючых) дваццаць. Але пытаньне аб вочных консэрвах натыкаецца тут на рад сур'ёзных перашкод. Аскепкі з-пад молатаў маюць большую жывую сілу і лёгка могуць разьбіць шкло, яшчэ больш павялічваючы тым небясьпеку параненьня вачэй. Пры высокай тэмпэратуры, якая звычайна бывае ў цэху, і пры цяжкасьці фізычнай работы шкелцы акуляраў заўсёды пацеюць. Вось чаму ніводны рабочы ў цэху забясьпечных акуляраў ня носіць. Вывады абсьледваньня цэху такія.

Апрача мерапрыемстваў, маючых агульна-гігіенічнае значэньне,— вэнтыляцыя для зьніжэньня тэмпэратуры ды ачышчэньня паветра ад газаў і дыму, прамываньне шыб,—трэба: 1) рацыяналізаваць рух напоўфабрыкату, каб зьменшыць залежы і запасы яго ў цэху і разгрузіць такім чынам цеснату; 2) расплянаваць і расчысьціць праходы; 3) расплянаваць месца, дзе стаяць рабочыя, улічыўшы магчымасьць трапляньня аскепкаў ды окалін у суседзяў; 4) пільна сачыць за тым, каб рабочыя (дзе гэта магчыма і патрэбна) насілі рукавіцы.

У сэнсе разгрузкі цеснаты ў памяшканьні ёсьць ужо значнае дасягненьне, бо грамоздкія ды вельмі дыміўшыя старыя печкі паступова замяняюцца новымі, тыпу Бранскага заводу, якія займаюць куды менш месца.

Наступным па небясьпечнасьці зьяўляецца гісэрны цэх, па спэцыфічнай-жа сваёй вазе ў агульнай суме траўматызму на заводзе ён займае першае месца дзякуючы вялікай колькасьці рабочых, працуючых у ім.

Асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў тут такія:

1) ад апёкаў (на 100 рабочых за 15 месяцаў) . . . . . . . . 80 выпадкаў
у тым ліку ад апёкаў растопленым чыгуном . . . . . . . 70 „
„ „ „ „ не астыўшым ліцьцём . . . . . . . . . . 11 „
2) ад паданьня рэчаў з рук рабочых . . . . . . . . . . . 26 „
3) „ паданьня рабочых, калі яны спаткнуцца, зачэпяцца, натknown нуцца на што-неб дзь . . . . . . . . . . . . . . . . 22 „
4) „ пры ручной транспартыроўцы цяжкіх рэчаў . . . . . 21 „
5) „ наколаў, парэзаў аб вострыя канты . . . . . . . . . 10 „
6) „ аскепкаў, пылінак, сьмяцінак . . . . . . . . . . . . . 9 „

Тут трэба сказаць, што розныя прычыны няшчасных выпадкаў характэрны звычайна для розных дэталёвых профэсій у гісэрным цэху; так, напрыклад, апёкі растопленым чыгуном—для разьліваль-шчыкаў, апёкі неастыўшым ліцьцём і розныя выпадкі пры ручной транспортыроўцы—пераважна для выбіральшчыкаў, выпадкі ад аскеп-каў, пылінак, сьмяцінак—пераважна для рабочых па абсяканьні ліцьця. Апёкі растопленым чыгуном—асноўная бяда цэху і па колькасьці выпадкаў і па цяжкасьці і доўгачаснасьці непрацаздольнасьці. Прычыны, якія абумаўляюць вялікую колькасьць гэтых выпадкаў, у асноўным наступныя: 1) цесната, заграмоджанасьць падлогі апокамі 2) недахват спэцвопраткі, 3) дрэннае вэнтыляваньне памяшканьня і 4) дрэнны профпадбор рабочых.

1. Пра заграмоджанасьць падлогі досыць красамоўна гаворыць лічба—22 выпадкі (на 100 рабочых) паданьня, зачапіўшыся, спаткнуўшыся ды інш. Правільных, распланаваных праходаў між апокамі няма. Месцамі праходы гэтыя (калі выключыць даўжыню ручак апокаў, аб якія лёгка спаткнуцца) маюць усяго якіх-небудзь 10—15 *см.* і па гэтых вось праходах павінны завіхаючыся праходзіць рабочыя па двое побач, праносячы цяжкія чапені з чыгуном, які вельмі лёгка расплюхаць. Нават пасьля настойных вымаганьняў і загадаў органаў інспэкцыі працы праходы паміж апокамі пашыраны вельмі мала (з прычыны неадпаведнасьці тэрыторыі будынкам прадпрыемства).

2. Сярод недахватаў спэцвопраткі перш за ўсё кідаецца ў вочы неадпаведнасьць абутку. Амаль 90 проц. усіх апёкаў растопленым чыгуном лёкалізуецца на ступе. Агляд абутку ў поўнай меры растлумачвае гэту зьяву. Большасьць камаш зашнуроўваецца ці мае дзюркі, ва ўсіх гэтых няроўнасьцях растопленыя кроплі чыгуну лёгка затрымліваюцца, ня коцячыся ўніз, і робяць свой уплыў. Урэгуляваньне пытаньня з абуткам натыкаецца на перашкоду: з прычыны адсутнасьці адпаведных разьдзявалак, рабочыя не пакідаюць камаш на заводзе, але нясуць іх з сабою і хутка зношваюць іх не на рабоце. Недахватам вопраткі зьяўляецца тое, што рабочыя заўсёды ўбіраюць гімнасьцёрку ў штаны, з прычыны чаго чыгун можа затрымацца ля корсажу штаноў. У гутарцы ўсе рабочыя кажуць, што так насіць вопратку для іх найбольш зручна, тады крысы гімнасьцёркі ня будуць разьвявацца, чапляцца за якія-небудзь рэчы. На нашу думку, каб задаволіць абодвы вымаганьні, вопратка гісэрнікаў павінна быць суцэльная—тыпу комбінаткі. З прычыны гарачыні ў памяшканьні і цяжкой фізычнай работы, рабочыя звычайна расхрыстваюць гімнасьцёркі, дзякуючы чаму за каўнер могуць трапляць пыркі чыгуну. Быў, напрыклад, у цэху выпадак моцнага апёку родовага члену пырскам, трапіўшым за каўнер. Пры наліваньні чыгуну з ваграні ў чапень, калі асабліва многа і далёка разьлятаецца пырскаў чыгуну і жужлы, рабочыя, трымаючыя чапень,

стаяць, звычайна, высока падняўшы плечы, нібы баронячы, такім чынам, шыю і каўнер. Добрым сродкам абароны тут павіны быць з шырокімі крысамі ваўняныя капялюшы (галовы рабочых у цэхах пакрыты звычайнымі шапкамі з казыркамі). Апрача гэтай карысьці, такія капялюшы забесьпячалі-б вочы ад пырскаў і адначасна, зьяўляліся-б нечым накшталт каптуроў, якія бароняць вочы ад сьлепячага сьвятла голых электралямп.

Значыць, рацыянальная спэцвопратка тут павінна складацца з 1) ваўнянага капялюша, 2) камаш, глухіх з падвойнымі паднарадамі сьпераду, 3) цэльнага гарнітуру з ільнянай тканіны (брэзэнт тыпу № 116 або тэатральная парусіна). З прычыны дрэннай здольнасьці ільнянай тканіны ўцягваць і аддаваць вільгаць, што зьяўляецца надта важным ва ўмовах гісэрнага цэху для цеплярэгуляцыі організму (выпараньне поту), больш рацыянальнымі тут былі-б шарсьцяныя, суконныя гарнітуры (д-р А. С. Шафранава, „Гігіена працы“, 1928, № 4).

3. Пытаньне належнага вэнтыляваньня гісэрнага цэху, апрача агульна-гігіенічнага значэньня, мае вялікае значэньне ў сэнсе ўплыву на траўматызм. У халодны зімовы час у цэху было некалькі выпадкаў масавага атручаньня чадам, якое выяўлялася ў ванітаваньні, страце прытомнасьці ды іншых сымптомах цяжкога атручаньня CO. Больш лёгкіх-жа выпадкаў атручаньня было куды больш. Зразумела, што гэтыя лёгкія выпадкі атручаньня, якія спраtypeаджаюцца некаторай слабасьцю ў нагах, няўпэўненасьцю рухаў, расстройствам коордынацыі ды інш., бываюць аднэй з прычын няшчасных выпадкаў, ад расчыняньня-ж дзьвярэй для праветрываньня памяшканьня ў часе работы зімой зьяўляліся клубы густога туману, што зноў-ткі спрыяла павялічэньню няшчасных выпадкаў. Пытаньне рацыянальнага вэнтыляваньня прыточна-выцяжной вэнтыляцыі гісэрнага цэху—адно з асноўных пытаньняў, якія стаяць на парадку дня.

4. Шмат няшчасных выпадкаў (галоўным чынам апёкаў) пры ўважным разглядзе іх прычын, як відаць, здараецца ў выніку няпрыдатнасьці рабочых да гэтай профэсіі па сваіх псыхофізычных уласьцівасьцях. Для ілюстрацыі гэтай думкі падамо наступны прыклад: страхкаса зьвярнула ўвагу, што асабліва часта выпадкі непрацаздольнасьці ад апёкаў прыпадаюць на долю пэўных 4—5 рабочых. Была прапанова перавесьці іх у другія цэхі. У выніку колькасьць апёкаў у цэху зьнізілася. Трэба адзначыць, што работнікі страхкасы схільны тлумачыць гэты факт у тым сэнсе, што адзначаная група рабочых знарок ня ўжывала належных перасьцярог, імкнучыся атрымаць бюлетэнь па хваробе, мы ж думаем, што яны, відаць, па сваіх псыхічных і фізычных якасьцях не здавальняюць тым вымаганьням, што ставіць да рабочых работа гісэрнага цэху. Частата няшчасных выпадкаў зрабіла, урэшце, свайго роду натуральны адбор, сыгналізавала канечную патрэбу пераводу іх на другую работу. Для такіх профэсій, як, напрыклад, шофэры, лётнікі, трамвайныя вагонаважатыя, у некаторых мясцох качагары, набіраюць рабочых, звычайна, улічаючы псыхічную даравітасьць і фізычную прыдатнасьць іх (шляхам псыхотэхнічных і фізыолёгічных дасьледзін). Здаецца, што і для такіх работ, як работа гісэрнікаў, трэ' было б рабіць строгі сьвядомы профадбор, не чакаючы натуральнага адбору, які вельмі адбіваецца на здароўі няпрыдатных рабочых.

Побач з такімі якасьцямі, як „самауладаньне і прысутнасьць духу“, здольнасьць згрупоўваць сваю ўвагу, не адхіляючыся няістотным і неспадзяваным (концэнтраваная ўвага паводле Мюнстэрбэрга), здольнасьць „не бянтэжыцца пад уплывам сполаху“, прыдушаць прыступы сьмеху, чыханьня, кашлю ды інш., (г. зн. здольнасьць кары галаўных мазгоў 1) концэнтраваць узбуджальнасьць у пэўных цэнтрах, 2) тармазіць ірадыяцыю ўзбуджальнасьці і надмерную рэактыўнасьць бязумоўных рэфлексаў ды некаторых інстынктаў, 3) даваць хуткія рэакцыі па шляху мэтазгодных умоўных рэфлексаў),—побач з такімі ўласьцівасьцямі, якія часта сустракаюцца ў профэсіяграмах розных профэсій, зьвязаных з небясьпекамі,—для гісэрнікаў вельмі патрэбны яшчэ такія ўласьцівасьці, як значная цяглічная сіла, добры функцыянальны стан сардэчна-судзіннай сыстэмы, выразная коордынаванасьць рухаў, хуткае аднаўленьне страчанай роўнавагі цела і, нарэшце, вытрываласьць да розных прамяністых і хэмічных (забруджаньне паветра газамі, у тым ліку і $CO$) фактараў.

Калі нават згадзіцца, што некаторыя рабочыя гісэрнага цэху сьвядома і наўмысьля рабілі так, што атрымлівалі траўму ад уплыву растопленага чыгуну, не задумляючыся над магчымымі цяжкімі вынікамі, дык гэта будзе толькі сьведчыць аб псыхічнай няпоўнакаштоўнасьці гэтых рабочых, што зьяўляецца сур'ёзным супроцьпаказьнікам да дапушчэньня іх к такім работам.

Да групы пытаньняў тэй-жа самай катэгорыі належыць пытаньне аб падборы пар тых рабочых, што нясуць чапень. З абсьледваньняў акалічнасьцяй асобных выпадкаў і з гутарак з рабочымі выяўляецца, што найбольш цяжкія паражэньні разьлітым (а ня пырскнуўшым) чыгуном здараюцца звычайна з тэй прычыны, што адзін з рабочых, якія нясуць цяжкі чапень з чыгуном, ня ўтрымаўшы вялікага цяжару ці ня стрымаўшы роўнавагі, выпускае з рук ключ, чапеня перакульваецца, чыгун разьліваецца. Характэрна, што церпіць у такіх выпадках звычайна не „вінавайца“ таго, што скінуў чапень, але яго сябра, які не падрыхтаваўся да гэтага і дзеля таго не патрапіў уберагчыся. Рабочыя звычайна самі падбіраюць сабе таварышоў да пары, падыходзячых па сіле, спрытнасьці і росту (бо на долю больш нізкага з двох тых, што нясуць цяжар, прыпадае большая частка яго). Але часамі цэхавыя інструктары, кіруючыся якімі-небудзь сваімі меркаваньнямі, перашкаджаюць такому падбору.

Меры для змаганьня з апёкамі, ажыцьцёўленыя пад націскам органаў аховы працы, увогуле такія: пэўнае пашырэньне і распляноўка праходаў, перавод няпрыдатных у другія цэхі, частковая замена няпрыдатнага абутку новым, моблізацыя ўвагі рабочых на пытаньнях індывідуальнай самазабесьпячальнасьці і дысцыплінаванасьці. Кідаецца ў вочы, што нават гэтыя, далёка не выстрачальныя, мерапрыемствы далі значны эфэкт: колькасьць апёкаў рэзка зьнізілася ўжо ў IV квартале 1928 г., калі траўматызм ад усіх іншых прычын выяўляў яшчэ тэндэнцыю росту.

| Кварталы | I—1928 г. | II | III | IV | I—1929 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць апёкаў растопленым чыгуном у гісэрным цэху . . . . . | 6 | 22 | 27 | 12 | 13 |
| Агульная колькасьць няшч. выпад. на заводзе . . . . . . . . . | 82 | 132 | 181 | 240 | 108 |

Значная колькасьць наколаў, парэзаў аб сьпічы (10), апёкаў ня досыць застыўшым ліцьцём (11), часткова выпадкаў ад паданьня рэчаў з рук рабочых (26) і пры ручной транспортоўцы цяжараў (21) (у апошніх дзьвёх катэгорыях мае, бязумоўна, вялізнае значэньне цесната і заграмоджанасьць памяшканьня) залежыць ад дрэннай якасьці рукавіц у выбіральшчыкаў. Яны дрэнна забясьпечваюць рукі ад гарачых рэчаў—здараюцца апёкі, рэчы валяцца з рук; яны дрэнна бароняць ад вострых выступаў і няроўнасьцяй ліцьця—у выніку ўколы, драпіны, парэзы рук. Пасьля нядаўнай пастановы НКП аб замене рукавіц па меры зношваньня, становішча крыху палепшылася, але ўсё-ж замала. Рукавіцы вырабляюцца з ценкай цеплаправоднай тканіны, якая лёгка дзярэцца і прапальваецца.

Тымчасам яны павінны адпавядаць наступным вымаганьням: тканіны, з якіх яны сшыты, павінны мець як мага большы час (меншую ступень) прагравальнасьці, мусяць быць тоўстымі і шчыльнымі (для забесьпячэньня ад уколаў і парэзаў) і, нарэшце, знадворны слой павінен быць, памагчымасьці, з больш трывалага да высокай тэмпэратуры матэрыялу (часта даводзіцца браць у рукі яшчэ не астыўшае, распаленае ліцьцё) Згодна з данымі, здабытымі дасьледвальніцкімі работамі ў абсягу рацыяналізацыі спэцвопраткі Маскоўскім інстытутам аховы працы (д-р А. С. Шафранава. „Гігіена працы", 1926 г. № 5—6, 1927 г., № 12, 1928 г., № 4), пералічаным вымаганьням больш за ўсё павінны адпавядаць, на нашу думку, рукавіцы, далонная частка якіх складалася-б з трох слаёў тканіны, прычым знадворны слой—з азбэставай тканіны (або з грубога брээзнту), а сярэдні—з пухкай, шарсьцянай, напрыклад, шынэльнага ці каўкаскага сукна.

У плужным цэху асабліва пашыраны наступныя прычыны траўматызму:

1. Ад некоордынаваных рухаў (ушыб малатком, ключом) і ад паданьня рэчаў з рук рабочых—38 выпадкаў (на 100 рабочых за 15 месяцаў).

2. Парэзы, уколы, драпіны аб вострыя канты і выступы рэчаў—24 выпадкі (на 100 рабочых).

3. Ад аскепкаў, сьмяцінак пылінак—13 выпадкаў.

Апошнія дзьве катэгорыі траўмаў асабліва характэрны для плужанага цэху; па іх ён стаіць на першым месцы сярод другіх цэхаў заводу.

Па траўматызьме ад першай прычыны (ушыбы ў выніку некоордынаваных рухаў і пры паданьні рэчаў з рук) плужны цэх стаіць на другім месцы сярод іншых цэхаў, уступаючы толькі сьлясарнаму цэху, дзе ён дасягае 51 выпадку (на 100 рабочых у 15 месяцаў). Такі высокі траўматызм па гэтай матэрыяльнай прычыне тлумачыцца тым, што ў гэтых цэхах працуюць пераважна невялікімі ручнымі інструмантамі (малаток, ключ, напілак, зубіла ды інш.). Дынаміка траўмаў гэтага характару па кварталах выкрывае ўвогуле тую самую тэндэнцыю, што і ўвесь траўматызм на заводзе, але з больш рэзкімі скачкамі. Прыемным зьяўляецца яе значнае зьніжэньне ў I квартале 1929 г.

У абодвух цэхах (плужным і сьлясарным) колькасьць выпадкаў ад гэтых прычын па кварталах такая:

I кв.—1928 г.—17, II кв.—20, III кв.—32, IV кв.—62, I кв. 1929 г.—17.

Прычынай вялікай колькасьці парэзаў, драпін, уколаў аб вострыя канты і выступы рэчаў зьяўляецца невыстарчальнасьць самазабесьпячальнасьці самых рабочых, неахайныя адносіны да забясьпечных рукавіц. Нават там, дзе рукавіцы хоць крышачку замінаюць рабочым, яны часта іх ня носяць. Можна бачыць, як на аднэй і тэй жа рабоце адны працуюць у рукавіцах, другія—бяз іх, хаця, паводле іхных уласных слоў, рэзалі рукі ўжо ня раз. Сур'ёзнасьць пытаньня аб траўмах ад аскепкаў, пылінак і сьмяцінак зробіцца зразумелай, калі ўлічыць, што прыпадаюць яны галоўным чынам на долю тых, хто працуе ля тачыльных і шліфавальных наждачных колаў. Такім чынам, калі агульную колькасьць выпадкаў аднесьці не да ўсіх рабочых цэху, толькі да колькасьці гэтых рабочых, то паказьнік атрымаецца асабліва высокі. Колькасьць няшчасных выпадкаў з гэтай прычыны на 100 рабочых, працуючых ля наждачных колаў (па плужным і абрубачным аддзяленьні гісэрнага цэху), роўна 78. Траўматызуюцца пераважна вочы. Пры гэтым трэба ўлічыць, што лёгкіх выпадкаў, якія ў выніку ня маюць часовай страты працаздольнасьці і нават не заўважаюцца самым рабочым, здараецца куды больш. Аб гэтым досыць красамоўна сьведчыць выгляд акуляраў (корэгуючых) аднаго з рабочых, які доўгі час прапрацаваў у іх ля наждачных камняў. Усе чыста шклы маюць безьліч дробных западзін і ўзвышэньняў (ад прыпаленых частачак). (Такія-ж самыя акуляры ў рабочага гэтай профэсіі апісвае д-р Глезэраў „Гігіена працы“, 1929 г., № 1). Гэта хранічная траўматызацыя рагавіцы вока цягне за сабой, паводле дасьледзін прыват-доцэнта А. Я. Самойлава, зьніжэньне чуласьці рагавіцы і анатомічную зьмену нэрвовых канчаткаў у ёй.

Ня кожная работа ля наждачных кругоў мае шмат такіх траўм; яны сустракаюцца, галоўным чынам, там, дзе з характару вытворчага працэсу тая рэч, што абточваецца, ставіцца сваёй роўніцай пэрпэндыкулярна акружыне кругу. Адбітыя ад гэтай роўніцы частачкі ляжаць у кірунку твару рабочага, які, да таго-ж, глядзіць на месца да тыканьня рэчы з кругам. Калі пры гэтай рабоце не насіць акуляраў дык траўматызм вачэй няўхільны. Такую-ж ролю адбіваючай паверхні адыгрываюць падстаўкі, супорты пры тачэньні дробных і вузкіх рэчаў, асабліва, калі гэтыя супорты вельмі ўжо блізка прысунуты да акружыны наждачнага каменя. Нарэшце, частачкі, якія ляцяць ад асяродкавай сілы па датычнай ад акружыны таго, што круціцца, каменя, могуць трапіць у вочы ў тых выпадках, калі забясьпечны брыль кажуха апушчаны ня зусім нізка. Усе гэтыя тры прычыны, якія спрыяюць траўматызму, сустракаюцца на заводзе „Чырвоны Мэталісты“ ля шліфавальных варштатаў. Супорты часта занадта прысунуты да кругу, кажухі амаль ва ўсіх варштатаў прыладжаны нерацыянальна (некаторыя ня маюць адкідных брылёў, у некаторых кажух зьверху канчаецца ля верхняга канца вэртыкальнага дыямэтру), нарэшце, частка рабочых і асабліва хто



толькі на час падыходзіць да варштату адтачыць свой інструмант, ня носіць ні забясьпечных, ні простых акуляраў.

Двор заводу вельмі-ж заграмоджаны фабрыкатамі, напоўфабрыкатамі ды ўсялякай непатрэбшчынай, прычым усё гэта звалена ў хаотычным непарадку, з прычыны чаго часта нават праходу між усім гэтым знайсьці нельга. Уначы ён мала асьветлены. Адзін погляд на двор тлумачыць вялікую колькасьць траўматызму пры транспорце, які (траўматызм) і без таго бывае высокі, калі транспортуюцца цяжкія грамоздкія, з вострымі кантамі мэталёвыя вырабы. Ужо адзначалася, што колькасьць няшчасных выпадкаў ад выканаўчых мэханізмаў на заводзе нязначная (3,5 проц.), але ўсё-ж кідаецца ў вочы, што здараюцца яны, галоўным чынам, у двох цэхах: дрэваапрацоўчым (усяго 12) і ў плужным (усяго 8 выпадкаў, да таго-ж ля тых самых наждачных варштатаў). Лічбы гэтыя сьведчаць, што ўвага тэхнічнага пэрсоналу ў сэнсе палепшаньня мер па тэхніцы бясьпечнасьці павінна быць зьвернута сюды.

## Вывады

Часныя вывады падаваліся пры разглядзе асобных цэхаў, агульныя ж вывады такія:

1. З ростам продукцыі заводу рос, выпераджаючы яго, траўматызм з прычыны неадпаведнасьці вытворчай програмы тэрыторыяльным, тэхнічным ды энэргетычным (недахват энэргіі для наладжаньня вэнтыляцыі ды інш.) магчымасьцям заводу і з прычыны хібаў у организацыі працы. Рос ён хутка, бо ўмовы працы пагаршаліся ня толькі ў адносных, але і ў абсолютных велічынях.

2. З наладжаньнем організацыі працы і ажыцьцяўленьнем раду мерапрыемстваў па палепшаньні ўмоў працы, траўматызм значна зьнізіўся. Асабліва паказальна ў гэтых адносінах дынаміка апёкаў у гісэрным цэху.

3. Асноўнага палепшаньня ў траўматызьме заводу трэба ў далейшым чакаць ад рацыяналізатарскай работы (рух напоўфабрыкатаў, расстаўленьне варштатаў, матэрыялу ў цэхах ды інш.).

4. Сур'ёзнай увагі вымагае пытаньне аб забесьпячэньні рабочых спэцвопраткай і забясьпечнікамі, адпавядаючымі свайму прызначэньню (рукавіцы, акуляры, камашы, капялюшы) і аб ужыцьці мерапрыемстваў (ад растлумачальных аж нават да рэпрэсыўных) для абавязковага і сталага карыстаньня імі з боку рабочых.

5. Набіраць і групаваць рабочых разьлівальшчыкаў і носчыкаў растопленага чыгуну трэба рабіць з улікам іх псыхофізыолёгічнай прыдатнасьці да гэтай работы.

6. Шліфавальныя наждачныя варштаты і варштаты дрэваапрацоўчага цэху вымагаюць раду палепшаньняў у сэнсе тэхнікі бясьпечнасьці.

7. Памяшканьні большасьці цэхаў, і асабліва гісэрнага, вымагаюць рацыянальнай вэнтыляцыі.

У канцы лічу за прыемны абавязак выразіць глыбокую ўдзячнасьць дырэктару Інстытуту аховы працы БССР д-ру С. Р. Дзіхцяру за кіраўніцтва і дапамогу ў распрацоўцы пытаньня.

---

Dr A. G. Margolin.

## Beitrag zum Studium des Traumatismus in den Metallwerken „Der rothe Metallist“.

*Zusammenfassung.*

Der Verfasser studiert vom statistischen Standpunkte aus das auf die Landwirtschaftsmaschinenfabrik «der rothe Metallist» zu Witebsk sich beziehende Material über den Traumatismus.

Er befasst sich mit folgenden Fragen: 1) Dynamik des Traumatismus in ihrem Zusammenhange mit den Tagen der Woche; 2) Dynamik des Traumatismus im Zeitraum von 15 Monaten in Beziehung zur Dynamik der Produktion der Fabrik; 3) der Traumatismus in verschiedenen Abteilungen; 4) und bei verschiedenen Arbeitsgängen.

Auf Grund seiner Untersuchungen kommt der Verfasser zu folgenden Schlüssen:

1. Der Produktionswuchs der Fabrik wurde von einem Aufschwung des Traumatismus, der diesen Wuchs sogar überholte, begleitet. Diese Erscheinung lässt sich dadurch erklären, dass sowohl die territorialen, technischen und energetischen (Unzulänglichkeit der Energie für eine Ventilationseinrichtung u. s. w.) Möglichkeiten der Fabrik als die Organisation der Arbeit selbst, dem Programm der Produktionsentwicklung nicht entsprachen. Der Aufschwung des Traumatismus überholte den Produktionswuchs, weil die Arbeitsverhältnisse sich nicht nur in relativen, sondern auch in absoluten Grössen verschlimerten.

2. Im Anschluss an die Organisation der Arbeit und die Durchführung von einer Reihe von Massnahmen kann mann einen Abstieg des Traumatismus konstatieren, der besonders anzeigend für die Verbrennungen in der Giesserei ist.

3. Eine erhebliche Verbesserung der Traumatismusfrage an der Fabrik ist jetzt im Wege der Rationalisierung zu erhoffen (Vorrückung des Halbfabrikates, Verteilung der Arbeitsbänke, der Materialien in den Abteilungen u. s. w.).

4. Besonders ernst muss die Frage über Arbeitskleidung, über zweckentsprechende Schutzmassnahmen (Handschuhe, Brillen, Stiefel, Hut) und über die Mittel (von Erklärung bis auf repressive Massnahmen), die ihren Gebrauch seitens der Arbeiter obligatorisch und permanent machen würden, zu erörtern.

5. Die Auslese und die Gruppierung der Giesser und der Träger des zerschmelzten Roheisens muss auf einer psychophysiologischen Prüfung ihrer Tauglichkeit für diese Arbeit fussen.

6. An den Schmiergelschleifbänken und den Arbeitsbänken in der Holzbearbeitungsabteilung müssen Verbesserungen der Schutzvorrichtungen getroffen werden.

7. Alle Abteilungen—und insbesondere die Giesserei—verlangen die Einführung einer rationellen Ventilation.

---

Доц. С. Р. Дзіхцяр.

# Пра інвалідызацыю застрахованых БССР.

На жаль мы прымушаны былі перад гэтай работай паставіць абмежаваныя задачы, якія вызначаюцца тымі, што ў нас ёсьць, матэрыяламі. Рад пытаньняў, надта цікавых у навуковых адносінах і надта важных практычна, нам асьвятліць не ўдалося з прычыны колькаснай невыстарчальнасьці і якаснай няпрыдатнасьці для гэтага атрыманых статыстычных даных.

Асноўнымі дэфэктамі ў гэтым сэнсе зьяўляецца адсутнасьць уліку застрахаваных па ўзросьце ў асобных профэсіях, адсутнасьць уліку даных аб інвалідах за час да 1926 г. і адсутнасьць поўных даных за 1926 і 1927 г.

Такім чынам, работа грунтуецца на даных Галоўсоцстраху Беларусі аб складзе інвалідаў на 1/I 1927 г. і 1928 г. і аб руху інвалідаў за 1926 і 1927 г. З прычыны пералічаных дэфэктаў нашага матэрыялу інтэнсыўныя паказальнікі выл ічаліся ў адносінах лічбаў, атрыманых па перапісу ў сьнежні 1926 г. Зразумела, гэтыя паказальнікі ня могуць таму прэтэндаваць на абсолютную дакладнасьць. Мы думаем, аднак, што магчыма орыентавацца на іх з наступных меркаваньняў.

Перапісныя даныя аб складзе занятага наёмнай працай насельніцтва па профэсіях—адзінадакладныя і наогул адзіныя, якімі мы можам карыстацца. Ні органы соцстраху Беларусі не вядуць уліку профэсіянальнага складу застрахаваных, ні ў статыстыцы ЦСПСБ мы не маглі знайсьці такога ўліку, ні ў публікацыях ЦСУ Бел. няма профэсіянальнага складу працуючых за цікавячыя нас гады. Далей, наш матэрыял датычыцца даных за 1926 і 1927 г., значыць, статыстыка профэсіянальнага складу ў канцы 1926 г. трэба, думаць, увогуле правільна ўлічвае групу насельніцтва, інвалідызацыю якой мы прабуем характарызаваць гэтымі данымі.

Нарэшце, мы хацелі-б асобна падкрэсьліць, што, у сувязі і ў залежнасьці ад характару нашых матэрыялаў, гэта работа, натуральна, галоўным чынам, мае на ўвазе характарыстыку інвалідызацыі, а не социяльна-гігіенічную ацэнку ўсяго насельніцтва, занятага наёмнай працай на аснове яго інвалідызацыі. Гэта апошняе робіцца намі, каб атрымаць выключна першыя орыентоўчыя даныя, якія ў такім іх разуменьні бясспрэчна маюць пэўнае значэньне. Застаецца адзначыць яшчэ адну асаблівасьць гэтай работы, таксама вызначаную распрацаваным матэрыялам: намі характарызуюцца інваліды толькі вышэйшых (I, II і III) груп (у адносінах да профінвалідаў мы падаем даныя пра ўсе 6 груп). Іначай кажучы, гэта работа мае, як быццам, выключна страхавы сэнс. Сапраўды, нашы даныя могуць быць выкарыстаны як социяльна-гігіенічныя паказальнікі ўсяго пастолькі, паколькі такімі паказальнікамі могуць быць усялякія другія коэфіцыенты, якія выводзяцца на падставе статыстыкі социяльнага страхаваньня. Мы ня лічым, да рэчы,

патрэбным падрабязна разьбірацца цяпер у гэтым найскладанейшым і фактычна асноўным мэтодолёгічным пытаньні санітарнай статыстыкі, мы павінны хаця-б адзначыць сумненьні якія ўзьнікаюць у сувязі з агульна прынятымі ў нас з часу „земскай мэдыцыны“ асновамі ўліку масавага здароўя. Асноўныя сумненьні мы формулявалі-б так:

1) Наколькі даныя аб агульнай захворанасьці resp. хваравітасьці якой-небудзь групы насельніцтва могуць даць фактычную соцыяльна-гігіенічную ацэнку гэтай групы і выясьніць сапраўднае значэньне асобных соцыяльна-патолёгічных зьяў.

2) Ці зьяўляюцца даныя аб агульнай захворанасьці і хваравітасьці пры сучасным стане мэдычных ведаў і організацыі мэдычнага абслугоўваньня ў поўнай меры грунтоўнымі для найадказьнейшых вывадаў аб санітарным стане групы насельніцтва, тэрыторыі, цэлай краіны.

3) Які соцыяльна-гігіенічны сэнс і значэньне для соцыяльна-гігіенічнай характарыстыкі якой-небудзь групы насельніцтва мае ўлік працаздольнасьці і вытворчасьці і ці не зьяўляецца такі ўлік канечна патрэбным для такой характарыстыкі, калі не адзіна рацыянальным.

4) Ці даюць сучасныя нашы веды аб функцыях працуючага чалавечага організму хоць крыху цьвёрдыя асновы для колькі-небудзь рацыянальнага азначэньня ступені яго працаздольнасьці і ці не зьяўляецца кожнае такое азначэньне па абыякой схэме аднолькава вельмі ўмоўным, часамі нават у адносінах да крайніх ступеняй інвалідnасьці.

Мы спадзяемся яшчэ вярнуцца да абмеркаваньня ўсіх гэтых пытаньняў. Тут яны пададзены намі толькі для выясьненьня, што характарыстыка вышэйшых трох груп інвалідаў, выклікаючых, між іншым, параўнальна найменшыя перашкоды ў сэнсе іх дыягностыкі, ня толькі мае „вузкастрахавое“ значэньне, але павінна служыць і для агульнай соцыяльна-гігіенічнай ацэнкі цікавячага нас насельніцтва.

Усяго занятых наёмнай працай, апроч сельскагаспадарчых рабочых, паводле перапісу 23-XII 1926 г., у БССР было 131.066 мужчын і 58.364 жанчыны, усяго 189.430 чалавек, а разам з сельскагаспадарчымі рабочымі 15.141 мужчын і 70.513 жанчын, усяго 221.654 чал. (гл. табл 1). Паводле статыстычных даных ЦСПСБ на 1-X 1926 г., працуючых членаў саюзу было 186.626, а разам з беспрацоўнымі—211.568 (гл. табл. 2).

З параўнаньня даных абедзьвюх табліц можна да таго-ж бачыць розьніцу між профэсіянальным складам (перапісныя даныя) і прыналежнасьцю да саюзаў (даныя ЦСПСБ) вывучанага насельніцтва. Сярод яго на 1-I 1927 г. налічалася 5.677 інвалідаў I, II і III груп, з іх—4.119 мужчын і 1.558 жанчын, а на 1-I 1928 г.—7.145 інвалідаў, з іх—5.251 муж. і 1.894 жанч. Мы мусім растлумачыць, што падаем даныя за два гады не дзеля азначэньня дынамікі тых ці іншых зьяў, але дзеля параўнаньня і выяўленьня тых, што выяўляюцца, адносін: наш

## Лік рабочых і гранічны ўзрост

(Паводле перапісу 23/XII 1926 г.) Табліца 1

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | МУЖЧЫНЫ | | ЖАНЧЫНЫ | |
|---|---|---|---|---|
| | Агульны лік | Гранічны ўзрост | Агульны лік | Гранічны ўзрост |
| Рабочыя сельскай гаспадар. | 20075 | 70 | 12149 | 70 |
| Горнарабочыя | 17 | 47,5 | — | — |
| Мэталістыя | 4062 | 70 | 105 | 47,5 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 2770 | 70 | 615 | 57,5 |
| Папернікі | 849 | 70 | 346 | 57,5 |
| Друкары | 1333 | 70 | 441 | 57,5 |
| Тэкстыльшчыкі | 542 | 70 | 2101 | 57,5 |
| Краўцы | 431 | 57,5 | 282 | 47,5 |
| Гарбары | 1836 | 67,5 | 154 | 62 |
| Харчавікі | 1252 | 70 | 173 | 57,5 |
| Тытуньнікі | 36 | 57,5 | 105 | 52 |
| Хэмікі | 497 | 67,5 | 1013 | 52 |
| Мінэральнікі | 1966 | 67,5 | 594 | 57,5 |
| Мясцовы транспорт | 1448 | 70 | 301 | 57,5 |
| Рабочыя сілавых установак | 1418 | 70 | 7 | 57,5 |
| Іншыя | 3949 | 70 | 2334 | 70 |
| Сам.-рам. прамысловасьць | 10139 | 70 | 1969 | 67,5 |
| Будаўніцтва | 3355[1]) | 70 | 45 | 62 |
| Чыгуначны транспорт | 14846 | 70 | 326 | 67,5 |
| Іншыя віды транспорту | 1695 | 70 | 16 | 57,5 |
| Гандаль і крэдыт | 1041 | 70 | 135 | 70 |
| Установы | 2558 | 70 | 194 | 62 |
| Іншыя галіны | 11212 | 70 | 11181 | 70 |
| Адміністрацыйны пэрсонал | 8816 | 70 | 627 | 62 |
| Тэхнічны пэрсонал | 6047 | 70 | 140 | 52 |
| Гаспад. разьм. пэрсонал | 8398 | 70 | 1381 | 62 |
| Падлік контрол. пэрсонал | 12779 | 70 | 3487 | 57,5 |
| Дзелавод. пэрсонал | 3363 | 70 | 2069 | 62 |
| Мэд. саніт. пэрсонал | 2605 | 70 | 4545 | 67,5 |
| Работнікі асьветы | 6238 | 70 | 6306 | 70 |
| „ мастацтва | 600 | 67,5 | 194 | 62 |
| Юрыдычны пэрсонал | 347 | 57,5 | 23 | 37,5 |
| Работнікі сувязі | 767 | 57,5 | 451 | 52, |
| Работнікі гігіены і харч. інтэр., бясьп. | 12509 | 70 | 16516 | 70 |
| Іншыя і без адзн. профэсій | 1345 | 70 | 188 | 62 |
| **Усяго без сельскагаспад. рабоч.** | **131066** | — | **58364** | — |
| **„ разам з сельскагасп. раб.** | **151141** | — | **70513** | — |
| | — | **221654** | — | — |

| Усяго па галінах працы і гаспадаркі | Мужч. | Жанч. | Разам |
|---|---|---|---|
| Рабочых сельскагаспадар. | 20075 | 12149 | 3224 |
| „ цэнз. прамыслов. | 23143 | 8001 | 31744 |
| „ у інш. галінах | 44109 | 13836 | 57945 |
| **Усяго рабочых нар. гаспадаркі акрамя сельскай гаспадаркі** | **67252** | **22437** | **89689** |
| **Служачых** | **63814** | **35927** | **99741** |

[1]) Разам з будаўнікамі ў фабр.-зав. прамысловасьці.

## Зводка колькасьці працую

| Назва саюзаў | Працуючых ва ўстановах | | | | | З ліку працуючых было | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | | Жанчын | | РАЗАМ (гр. 1+2+3+4) | Членамі дан. саюзу | | | | | |
| | | | | | | РАЗАМ (гр. 7+8+9+10) | У тым ліку: | | | | Членаў інш. саюзаў |
| | | | | | | | Мужчын | | Жанчын | | |
| | Дарослых | Падлеткаў да 17 год уключна | Дарослых | Падлеткаў да 17 год уключна | | | Дарослых | Падл. да 17 г. уключ. | Дарослых | Падл. да 17 г. уключ. | |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| Сельгаслесрабоч. . | — | — | — | — | — | 22240 | — | — | — | — | — |
| Папернікі . . . . | 2747 | 83 | 813 | 50 | 3693 | 3378 | 2470 | 75 | 788 | 45 | 17 |
| Дрэваапрац. . . . | 7151 | 276 | 923 | 64 | 8314 | 7298 | 6267 | 238 | 740 | 53 | 173 |
| Гарбары . . . . | 3379 | 890 | 227 | 29 | 4525 | 4295 | — | — | — | — | — |
| Мэталістыя . . . | 3651 | 222 | 340 | 31 | 4244 | 4045 | — | — | — | — | — |
| Друкары . . . . | 1676 | 82 | 451 | 175 | 2383 | 2326 | — | — | — | — | — |
| Харчавікі . . . . | 5001 | 278 | 936 | 99 | 6314 | 5456 | — | — | — | — | — |
| Будаўнікі . . . . | 12371 | 489 | 419 | 18 | 13297 | 9599 | — | — | — | — | — |
| Тэкстыльшчыкі . | 991 | 57 | 1981 | 79 | 3108 | 2770 | — | — | — | — | — |
| Хэмікі . . . . . . | 4428 | 447 | 2847 | 473 | 8195 | 7725 | — | — | — | — | — |
| Краўцы . . . . . | 824 | 164 | 575 | 185 | 1748 | 1591 | — | — | — | — | — |
| **Разам . . .** | **42219** | **2987** | **9412** | **1203** | **55821** | **48483** | **36369** | **2548** | **8559** | **1007** | **1071** |
| Воднікі . . . . . | 1218 | 2 | 32 | — | 1252 | 1039 | — | — | — | — | — |
| Чыгуначнікі . . . | — | — | — | — | 28644 | 26829 | 24611 | 465 | 1684 | 69 | 611 |
| Мясц. транспорт. . | 2812 | 25 | 52 | 5 | 2894 | 2700 | — | — | — | — | — |
| Нарсувязь . . . . | 3128 | 5 | 593 | — | 3726 | 3024 | — | — | — | — | — |
| **Разам . . .** | **7158** | **32** | **677** | **5** | **36516** | **33592** | — | — | — | — | — |
| Працмастацтва . . | 895 | 22 | 282 | 1 | 1200 | 1154 | — | — | — | — | — |
| Мэдсанпрацы . . | 3436 | 21 | 5822 | 25 | 9304 | 9086 | — | — | — | — | — |
| Працасьветы . . . | 10183 | 57 | 8849 | 22 | 19111 | 17514 | — | — | — | — | — |
| Саўгандальслуж. . | 22931 | 237 | 3688 | 233 | 27089 | 23328 | — | — | — | — | — |
| **Разам . . .** | **37445** | **337** | **18641** | **281** | **56704** | **51082** | **32928** | **279** | **17659** | **216** | **1219** |
| Камгас. . . . . . | 3038 | 84 | 704 | 11 | 3837 | 3606 | — | — | — | — | — |
| Нархарч. . . . . | 677 | 23 | 896 | 34 | 1630 | 1492 | — | — | — | — | — |
| **Разам . . .** | **3715** | **107** | **1600** | **45** | **5467** | **5098** | **3438** | **92** | **1526** | **42** | **330** |
| **Па БССР . .** | **90537[1]** | **3463[1]** | **30330[1]** | **1534[1]** | **154508[2]** | **160495[3]** | **103434** | **3407** | **30079** | **1335** | **3361** |

[1]) Акрамя чыгуначнікаў. [2]) Разам з чыгуначнікамі. [3]) Разам з с.-г. рабочымі.

## чых і членаў саюзаў

Табліца 2

| Членаў саюзаў, ня ўліч. у графе 8-ай | | | | | | | | | | УСЯГО працуюч. членаў саюзаў (6+11+21) | Член саюзу ня вуч. гр. 22 | | Разам чл. саюзу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Працуючыя ў працашкол. | | | | РАЗАМ (гр. 12+13+14+15) | На прымац. да ФЗМК | | | | РАЗАМ (гр. 17+18+19+20) | | | | |
| Мужчын | | Жанчын | | | Мужчын | | Жанчын | | | | | | |
| Дарослых | Падл. да 17 год уключна | Дарослых | Падл. да 17 год уключна | | Дарослых | Падл. да 17 год уключна | Дарослых | Падл. да 17 год уключна | | | Беспрацоўныя | Навучаючыяся | Члены саюзу |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| — | — | — | — | 215 | — | — | — | — | 5531 | 27986 | 2425 | 427 | 31833 |
| 18 | — | — | — | — | 18 | — | 5 | 1 | 24 | 3402 | 46 | 26 | 3474 |
| 315 | 27 | 113 | 2 | 457 | 661 | 37 | 18 | — | 716 | 9487 | 941 | 1228 | 9640 |
| — | — | — | — | 1251 | — | — | — | — | 6 | 5782 | 1128 | 78 | 6758 |
| — | — | — | — | 378 | — | — | — | — | 565 | 5187 | 541 | 268 | 5797 |
| — | — | — | — | 188 | — | — | — | — | 88 | 2659 | 182 | 16 | 2800 |
| — | — | — | — | 538 | — | — | — | — | 53 | 6905 | 979 | 27 | 7053 |
| — | — | — | — | 223 | — | — | — | — | 6602 | 20122 | 1623 | 221 | 18268 |
| — | — | — | — | 929 | — | — | — | — | 7 | 4044 | 111 | 20 | 3837 |
| — | — | — | — | 85 | — | — | — | — | 8 | 8288 | 249 | 82 | 8149 |
| — | — | — | — | 990 | — | — | — | — | 128 | 2868 | 759 | 128 | 3596 |
| — | — | — | — | **5039** | — | — | — | — | **8197** | **69057** | **6559** | **1094** | **69372** |
| — | — | — | — | 6 | — | — | — | — | 7 | 1265 | 57 | 2 | 1111 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 28644 | 1585 | 330 | 28744 |
| — | — | — | — | 48 | — | — | — | — | 242 | 3184 | 324 | 22 | 3336 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | 103 | 3829 | 393 | 12 | 3532 |
| — | — | — | — | **54** | — | — | — | — | **352** | **36922** | **2359** | **366** | **36723** |
| — | — | — | — | 147 | — | — | — | — | 271 | 1688 | 233 | 52 | 1857 |
| — | — | — | — | 7 | — | — | — | — | 305 | 9616 | 1319 | 798 | 11515 |
| — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1421 | 20532 | 998 | 1709 | 21642 |
| — | — | — | — | 658 | — | — | — | — | — | 27747 | 3173 | 350 | 27509 |
| — | — | — | — | **812** | — | — | — | — | **1997** | **59513** | **5723** | **2909** | **62523** |
| — | — | — | — | 393 | — | — | — | — | 92 | 4322 | 635 | 19 | 4745 |
| — | — | — | — | 110 | — | — | — | — | 3339 | 5079 | 1406 | 20 | 6367 |
| — | — | — | — | **503** | — | — | — | — | **3431** | **9401** | **2041** | **39** | **11112** |
| **4190** | **241** | **1838** | **139** | **6623** | **9286** | **463** | **3865** | **363** | **19508** | **180639** | **19107** | **5835** | **211568** |

матэрыял, з прычыны ахарактарызаваных яго адмоўных уласьцівасьцяй, бязумоўна, ня можа зьяўляцца асновай для вывучэньня дынамікі.

На падставе зьмешчаных даных мы вылічылі наступныя стасункі:

Табліца 3

| | % індвалідаў у стасунку да ўсяго насельніцтва, якое займаецца наёмнай працай | | Рост абсолютн. колькасьці інвалідаў к 1-І 1928 г., калі колькасьць інвал. на 1-І 1927 г. прыняць за 100 |
|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | |
| Усяго | 2,56 | 3,22 | 125,9 |
| Мужчын | 2,73 | 3,47 | 127,5 |
| Жанчын | 2,21 | 2,69 | 121,7 |

Паказьнікі інваліднасьці недакладныя, бо мы выходзілі з нязьменнага насельніцтва (на 17-XII 1926 г.). Для простага вызначэньня разьмераў гэтай недакладнасьці мы, на жаль, ня маем ніякіх спосабаў. Укосным зазначэньнем могуць зьяўляцца перш за ўсё даныя аб руху колькаснасьці членаў профсаюзаў. Паводле гэтых даных, колькасьць членаў профсаюзаў на 1-X 1926 г. была 211.568, з іх 162.025 мужчын і 49.543 жанчыны, а на 1-X 1927 г. было 223.466 з іх 168.524 мужчын і 54.942 жанчыны, г. зн. калі прыняць колькасьць членаў профсаюзу на 1-X 1926 г. за 100, дык на 1-X 1927 г. было ўсяго членаў профсаюзаў 105,62 проц., мужчын—104 проц. і жанчын—110,9 проц. Бязумоўна, рост колькасьці членаў профсаюзаў не азначае росту колькасьці застрахаваных, які, уласна, і мае значэньне для цікавячага нас пытаньня.

Аб росьце колькасьці застрахаваных у нас такія даныя:

Сярэдняя колькасьць застрахаваных 1925-26 г.—138.746

„ „ „ 1926-27 г.—160.020, у аднос да 25-26 г. 115,4 проц.

„ „ „ 1927-28 г.—178.864, у аднос. да 26-27 г. 111,8 проц.

Але з 160.020 застрахаваных у 1926-27 г. было 8.487 застрахаваных часткова, а ў 1927-28 г. з 178.864 іх было 20.980 чалавек. Такім чынам, рост поўнасьцю застрахаваных, у адносінах да якіх толькі і трэба вылічаць колькасьць інвалідаў ад агульных прычын, значна меншы паказаных даных, а менавіта: у 1926-27 г., у параўнаньні з 1925-26 г. (у 1925-26 г. часткова застрахаваных быў надта нязначны процант), колькасьць застрахаваных узрасла на 9,2 проц., а ў 1927-28 г., у параўнаньні з 1926-27 г., на 4,2 проц. Калі вылучыць рабочых цэнзавай прамысловасьці, дык іх рост характарызуецца такімі данымі (паводле даных аб абароце рабочай сілы[1]): у 1925-26 г. было 25.101 раб., у 1926-27 г.—27.588 (рост на 9,9 проц.), у 1927-28 г.—30.835 (рост на 11,8 проц.).

[1]) Беларуск. ССР у лічбах. Да X-годзьдзя існаваньня БССР. 1919—1929 г. Выд. ЦСУ БССР 1929 г. Менск.

Пры параўнаньні ўсіх гэтых даных з паданым вышэй ростам колькасьці інвалідаў мы прыходзім да вываду, што рост апошніх перавышае рост насельніцтва, занятага наёмнай працай. Гэта сьведчыць аб інтэнсыўным „ачышчэньні“ радоў рабочых і служачых ад інвалідаў (факт гэты як быццам атрымаў далейшае пацьверджаньне ў даных бягучага ўліку інвалідаў[1])) і прымушае меркаваць, што корэктыў, якога патрабуюць нашы інтэнсыўныя паказьнікі, не павінен быць асабліва вялікім. Прымаючы яшчэ пад увагу выказаныя ўжо ў пачатку меркаваньні аб умоўным значэньні інтэнсыўнасьці паказьнікаў у данай рабоце, мы лічым за лішняе далейшае ўдакладненьне гэтага корэктыву, з якім, бязумоўна, давядзецца лічыцца пры далейшым аналізе. У кожным разе ўсё гэта прымушае прызнаць канечную патрэбу організацыі больш правільнага ўліку насельніцтва, занятага наёмнай працай (па роду, узросту і профэсіі), асабліва і ў першую чаргу застрахаваных, з мэтай удакладненага навуковага вывучэньня ўсіх яго соцгігіенічных прыкмет.

Усе інваліды і насельніцтва, занятае наёмнай працай па профэсіях, разьмяркоўваліся наступным чынам (табл. складзена ў парадку зьмяншэньня колькасьці інвалідаў мужчын на 1-І 1927 г.)

Табліца 4

| Група профэсій (кляс. Ц. С. К.) | Спэцыфічн. вага ў нас., занят. наёмн. прац. (паводле перапісу) | | Спэцыфічная вага інвалідаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На 1-І 1927 г. | | На 1-І 1928 г. | |
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Работнікі сельскай гаспадаркі | 13,3 | 17,2 | 13,9 | 6,4 | 9,1 | 3,6 |
| Улікова-контрольн. пэрсонал | 10,6 | 7,8 | 13,1 | 3,9 | 14,9 | 3,7 |
| Рабочыя гігіены, харчаваньня і інтэрнатаў | 8,3 | 23,4 | 9,6 | 33,1 | 10,5 | 36,2 |
| Чорнарабочыя і падзёнщчыкі | — | — | 9,2 | 6,2 | 11,6 | 8,3 |
| Будаўнікі | 2,5 | 0,06 | 7,1 | — | 7,0 | — |
| Гарбары | 2,2 | 0,2 | 5,0 | 0,2 | 5,0 | 0,2 |
| Работнікі сувязі | 1,8 | 0,6 | 4,8 | 2,3 | 4,7 | 2,4 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 02,7 | 0,9 | 4,0 | 0,6 | 4,7 | 0,4 |
| Мэталістыя | 5,6 | 0,15 | 3,6 | 0,2 | 3,3 | 0,1 |
| Гаспадарча-разьмяркоўчы пэрсонал | 0,8 | 1,9 | 3,6 | 2,2 | 3,7 | 2,1 |
| Харчавікі | 0,3 | 0,24 | 3,0 | 0,8 | 2,9 | 0,6 |
| Краўцы | 0,6 | 0,4 | 2,5 | 2,4 | 2,2 | 1,9 |
| Мясцовы транспорт | 4,1 | 0,42 | 2,5 | — | 2,5 | — |
| Работнікі асьветы | 2,6 | 9,0 | 2,2 | 15,2 | 2,0 | 12,8 |
| Іншыя рабочыя | 2,5 | 3,3 | 2,0 | 1,0 | 1,6 | 1,2 |

[1]) Гл. справаздачы аб чыннасьці Галоўсоцстраху БССР, складзеныя т. Мацьвеевым.

Табліца 4 (працяг)

| Група профэсій (кляс, ЦСК) | Спэцыфічн. вагаў нас., занят наёмн. прац. (паводле перапісу) | | Спэцыфічная вага інвалідаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | На 1-І 1927 г. | | На 1-І 1928 г. | |
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мэдычна-санітарны пэрсонал | 1,7 | 6,4 | 2,0 | 7,2 | 2,0 | 6,9 |
| Мінэральшчыкі і шклопарцаляншчыкі | 1,3 | 0,8 | 1,9 | 1,0 | 1,4 | 0,6 |
| Іншыя служачыя | 0,2 | 0,03 | 1,7 | 0,4 | 1,2 | 0.2 |
| Хэмікі | 0,33 | 1,4 | 1,6 | 2,8 | 1,1 | 3,2 |
| Тэкстыльшчыкі | 0,36 | 9,0 | 1,3 | 6,0 | 1,2 | 7,0 |
| Друкары | 0 9 | 0,6 | 1,2 | 0,4 | 1,2 | 0,5 |
| Папернікі | 0,6 | 0,5 | 1,1 | 4,4 | 1,1 | 4,3 |
| Тэх. пэрсонал | 4,0 | 0,2 | 1,1 | 0,1 | 2,1 | 0,1 |
| Рабочыя сілавых установак | 0,93 | 0,01 | 0,6 | — | 1,8 | — |
| Работнікі мастацтва | 0,4 | 0,27 | 0,5 | 0,4 | 0,4 | 0,4 |
| Чыгуначнікі | 9.8 | 0,4 | 0,3 | — | 0,2 | — |
| Горнарабочыя | 0,01 | — | 0,3 | — | 0,5 | — |
| Тытуньнікі | 0,02 | 0,14 | 0,1 | 0,6 | 0.2 | 0,5 |
| Воднікі | — | — | 0,1 | — | 0,3 | — |
| Без азначэньня профэсіі | 0,9 | 0,25 | 0,1 | 0,1 | 0,1 | 0,1 |
| Рабочыя ва ўстановах крэдытовай, гандл. ды інш. галінах | 9,8 | 16,3 | — | — | — | — |
| Рабочыя саматужна-рамонтн. прамысловасьці | 6,7 | 2,8 | — | — | — | — |
| Кіраўнічы пэрсонал | 5,8 | 0,9 | — | — | — | — |
| **Разам (у %/%)** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** | **100** |
| Разьмеркаваньне па катэгорыях працы | | | | | | |
| Рабочыя сельска-гаспадарч. | 13,3 | 17,2 | 13,9 | 6,4 | 9,1 | 3,6 |
| Абодв. роду | 14,5 | | — | — | — | — |
| Рабочыя фабрычна.-заводз. прамыслов. | 15,3 | 12,3 | — | — | | — |
| Абодв. роду | 14,3 | | — | — | — | — |
| Рабочыя ў інш. галінах прамыслов. | 29,2 | 19,6 | — | — | — | — |
| Абодв. роду | 26,1 | | — | — | — | — |
| Усе рабочыя | 44,5 | 31,8 | 47,3 | 26,9 | 49,9 | 29,3 |
| Абодв. роду | 40,4 | | — | — | — | — |
| Служачыя | 42,2 | 51,0 | 38,8 | 66,7 | 41,0 | 67,1 |
| Абодв. роду | 45,1 | | — | — | — | — |

Па зьмешчаных даных трэба зрабіць яшчэ некаторыя агаворкі, выкліканыя тым, што клясыфікацыя профэсій, прынятая пры распрацоўцы перапісу 1926 г., не ідэнтычна з клясыфікацыяй, прынятай пры распрацоўцы даных аб інваліднасьці органамі соцыяльнага страхаваньня. Апрача гэтага, няма даных аб профэсіянальным складзе рабочых, занятых у саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці, якія аб'яднаны ў аднэй групе: відаць, некаторыя профэсіі, напрыклад краўцы, былі-б прадстаўлены куды большай лічбай, і, значыць, іх спэцыфічная вага ў насельніцтве, занятым наёмнай працай, была-б большая, калі-б мы маглі іх вылучыць з гэтай агульнай групы; гэта датычыць і шмат якіх іншых профэсій. Далей, даныя аб некаторых профэсіях прышлося аб'яднаць: справаводчы пэрсонал з улікова-контр., шклопарцаляншчыкі з мінэральшчыкамі ды інш., паколькі такое аб'яднаньне прынята і пры распрацоўцы перапісных даных. Сумненьні выклікае група сельскагаспадарчых рабочых. Трэба думаць, што інвалідаў гэтай профэсіі трэба залічаць не да ўсёй масы наёмных сельскагаспадарчых рабочых, але толькі да часткі іх, якая дакладна намі ня можа быць

вызначана. Даныя аб чыгуначніках таксама вымагаюць тлумачэньня: падана толькі колькасьць інвалідаў, якія атрымліваюць пэнсію ў тэрыторыяльных касах, перапісам-жа ахоплены, бязумоўна, усе чыгуначнікі.

Пры ўсіх гэтых агаворках і магчымых недакладнасьцях усё-ж паданая табліца дае магчымасьць орыентавацца ў параўнаўчай інвалідызацыі большасьці профэсіянальных груп. Зусім зразумела, што калі спэцыфічная вага інвалідаў якой-небудзь профэсіі ў агульнай суме інвалідаў большая, чым спэцыфічная вага гэтай профэсіі ва ўсім насельніцтве, занятым наёмнай працай, дык становішча яе ў сэнсе інвалідызацыі горшае за становішча тых профэсій, што характарызуюцца адваротнымі стасункамі. Так, усе рабочыя мужчыны складаюць 44,5 проц., а служачыя мужчыны 42,2 проц. усяго насельніцтва, занятага наёмнай працай, тымчасам інваліды рабочыя мужчыны складаюць у 1928 г. 49,9 проц., а інваліды служачыя мужчыны—41 проц. усіх інвалідаў; гэта сьведчыць аб тым, што сярод рабочых наглядаецца больш інтэнсыўны пераход на пэнсію па інваліднасьці, чым сярод служачых. Асабліва інтэнсыўным здаецца гэты пераход сярод будаўнікоў, краўцоў, гарбароў, харчавікоў, тэкстыльшчыкаў; найменш інтэнсыўны гэты пераход, як быццам, сярод улікова-контрольнага і справаводчага пэрсоналу і асьветнікаў[1]). Гэта пацьвярджаецца і падсумаванымі данымі аб інтэнсыўных паказьніках інваліднасьці (гл. табліцы). Вось разьмяшчэньне некаторых профэсіянальных груп у зьбежнымі парадку паказальнай колькасьці інвалідаў мужчын (у проц.):

| | На 1-І 1927 г. | На 1-І 1928 г. |
|---|---|---|
| 1. Краўцы | 23,64 | 26,21 |
| 2. Гарбары | 11,11 | 14,20 |
| 3. Тэкстыльшчыкі | 9,58 | 11,59 |
| 4. Харчавікі | 9,98 | 11,98 |
| 5. Будаўнікі | 8,65 | 11,05 |
| 6. Мясцовы транспорт | 7,17 | 9,18 |
| 7. Дрэваапрацоўшчыкі | 5,78 | 8,81 |
| 8. Папернікі | 5,54 | 6,60 |
| 9. Друкары | 3,59 | 4,88 |
| 10. Шклопарцаляншчыкі | 4,07 | 3,85 |
| 11. Мэталістыя | 3,58 | 4,28 |
| 12. Улікова-контрольны пэрсонал | 3,34 | 4,44 |
| 13. Работнікі гігіены | 3,16 | 4,45 |
| 14. Мэдработнікі | 3,22 | 4,00 |
| 15. Работнікі асьветы | 1,48 | 1,63 |

Разьмяшчэньне профэсіянальных груп у парадку зьбежнай колькасьці інвалідаў-жанчын.

| | На 1-І 1927 г. | На 1-І 1928 г. |
|---|---|---|
| 1. Паперніцы | 20,25 | 23,7 |
| 2. Швачкі | 13,11 | 12,73 |
| 3. Харчавікі | 7,52 | 6,36 |
| 4. Тэкстыльшчыцы | 4,47 | 6,27 |
| 5. Хэмікі | 4,34 | 6,03 |
| 6. Мэталістыя | 2,86 | 1,9 |
| 7. Мінэральніцы | 2,52 | 1,85 |
| 8. Гарбарніцы | 1,95 | 2,6 |
| 9. Друкаршчыцы | 1,58 | 2,13 |

[1]) Зразумела, што як пры гэтым выглядзе, так і пры ўсіх далейшых на падставе аналізу таблічнага матэрыялу абавязкова трэба мець на ўвазе, што ў адносінах да профэсіянальных груп, прадстаўленых нязначнай колькасьцю, гэтыя вывады маюць надта адноснае значэньне.

| | | На 1-І 1927 г. | На 1-І 1928 г. |
|---|---|---|---|
| 10. | Дрэваапрацоўшчыцы | 1,46 | 1,3 |
| 11 | Работніцы асьветы | 3,75 | 3,84 |
| 12. | Работніцы мастацтва | 3,09 | 3,53 |
| 13. | Работніцы гігіены | 3,08 | 4,67 |
| 14. | Мэдсанработніцы | 2,47 | 2,87 |
| 15. | Улікова-контрольны пэрсонал | 1,5 | 1,98 |

Пры ацэнцы параўнаўчых вывадаў з гэтых даных канечна трэба ўлічыць, што ў некаторых профэсіях колькасьць жанчын вельмі нязначная, а таксама колькасьць інвалідаў жанчын (гл. табл. з абсолютнымі велічынямі). Не выклікае, аднак, сумненьня вывад, што ўвогуле сярод жанчын інтэнсыўнасьць інваліднасьці меншая, чым сярод мужчын; выключэньнем зьяўляюцца работнікі асьветы, дзе жанчыны даюць большыя паказьнікі інваліднасьці, чым мужчыны.

З прычыны паданых раней меркаваньняў ды агаворак усім гэтым даным ня варта надаваць значэньня дакладных паказьнікаў, але яны зьмяшчаюцца для параўнаўчай характарыстыкі асобных профэсіянальных груп. Трэба толькі мець на ўвазе пры тлумачэньні розных даных аб пашыранасьці социяльна-патолёгічных зьяў, у тым ліку і інваліднасьці, што яны датычаць выяўленай і зарэгістраванай часткі гэтых зьяў, а на выкрыцьцё вось ды рэгістрацыю мае ўплыў ня толькі сапраўдная і фактычная пашыранасьць тае ці іншай зьявы. Мы, напрыклад, не сумняваемся, што колькасьць пераходзячых на пэнсію інвалідаў залежыць ня толькі ад небясьпек і шкоднасьцяй іхнай працы, але і ад экономічных ды социяльна-культурных умоў. Вось, напрыклад, даныя аб напружнасьці беспрацоўя сярод некаторых профсаюзаў, якія разьмяшчаюцца ў парадку зьбежнай напружнасьці, г. зн. колькасьці беспрацоўных на 100 працуючых членаў саюзу на 1/X 25 г., resp. на 100 членаў саюзу на 1/X 1927 г.[1])

| | На 1/X 1926 г. | На 1/X 1927 г. | | На 1/X 1926 г. | На 1/X 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 Краўцы | 26,5 | 20,4 | 8. Друкары | 7,0 | 16,8 |
| 2. Гарбары | 19,5 | 20,4 | 9 Тэкстыльшч. | 2,7 | 4,9 |
| 3. Харчавікі | 14,2 | 21,1 | 10. Папернікі | 1,9 | 5,0 |
| 4. Мэталістыя | 10,4 | 10,9 | 11. Мэдсанработн. | 14,7 | 11,1 |
| 5. Мясцовы трансп. | 10,9 | 11,5 | 12. Саўгандальслужачыя | 11,3 | 17,8 |
| 6. Дрэваапрацов. | 9,9 | 17,2 | 13. Работн. асьветы | 4,8 | 6,0 |
| 7. Будаўнікі | 8,1 | 9,8 | | | |

З другога боку, зьмяшчаем некаторыя даныя аб зарплаце ў асобных галінах прамысловасьці (у парадку зьбежнай сярэдня-месячнай зарплаты за 1927 г.).

| | | р. | к. |
|---|---|---|---|
| 1. | У крагецкай прамысловасьці | 88 | 98 |
| 2. | " паліграфічнай " | 83 | 72 |
| 3. | " мэталяапрацоўчай " | 83 | 42 |
| 4. | " гарбарнай " | 76 | 88 |
| 5. | " папяровай " | 54 | 56 |
| 6. | " харчовай " | 54 | 49 |
| 7. | " шкляной " | 54 | 24 |
| 8. | " дрэваапрацоўчай " | 48 | 51 |
| 9. | " ільнаапрацоўчай (тэкстыльнай) | 39 | 01 |

[1]) Даныя з профстатыстыкі ЦСПСБ.

Відаць, абодва гэтыя фактары—беспрацоўе і заработак—у сэнсе ўплыву на пераход на інваліднаю пэнсію павінны дзеяць у процілежных кірунках: у добрааплачаных профэсіях пераход гэты адбываецца надта неахвотна, беспрацоўе-ж, наадварот, прымушае дамагацца інваліднай пэнсіі. Калі мы параўноўваем паданыя рады лічбаў аб інтэнсыўнасьці інваліднасьці, беспрацоўі ды зарплаце, дык у нас і ўзьнікае прадпалажэньне, што напружанасьць беспрацоўя робіць біць уплыў на павялічэньне інтэнсыўнасьці інваліднасьці, а ў профэсіянальных групах, дзе не адбіваецца гэты ўплыў, відаць, мае значэньне ўплыў заработку: друкары і мэталістыя пры досыць напружаным беспрацоўі, але пры параўнаўча нізкіх паказьніках інваліднасьці, займаюць самае вышэйшае месца. па зарплаце; наадварот. тэкстыльшчыкі, пры высокіх паказьніках інваліднасьці. але пры нязначнай напружанасьці беспрацоўя займаюць самае нізкае месца па зарплаце. Мы ня можам тут больш спыняцца на гэтым пытаньні, а ўплыў біолёгічных фактараў (роду ды ўзросту) мы будзем разглядаць крыху ніжэй, але нам здаецца надта важным ужо цяпер падкрэсьліць, што разьмеры інваліднасьці абумоўліваюцца ды вызначаюцца ў залежнасьці ня толькі, ад, так сказаць, мэдычных зазначэньняў, але і ад чыста экономічных фактараў.

Ня менш складанае пытаньне аб выкарыстаньні для соцыяльна-гігіенічнай характарыстыкі профэсій не агульнай колькасьці, але складу інваліднасьці. Мы можам разьмясьціць некаторыя профэсіі ў наступным парадку зьбежнасьці ў іх складзе інвалідаў I групы на 1/I 1927 г. і 1/I 1928 г.

Табліца 5

| Групы профэсій (кляс, Ц. С. К.) | Мужчыны — На 1/I 1927 г. — Групы інваліднасьці I | II | III | На 1/I 1928 г. — I | II | III |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Рабочыя** | | | | | | |
| Тэкстыльшчыкі | 25,0 | 57,7 | 17,3 | [illegible] | 63,5 | [illegible] |
| Тытуньнікі | 25,0 | 50,0 | 25,0 | 8.3 | 83,4 | 8,3 |
| Друкары | 22,9 | 54,2 | 22,9 | 20,0 | 52,3 | 27,7 |
| Краўцы | 17,3 | 56,1 | 20,9 | 14,2 | 55,7 | 30,1 |
| Мэталістыя | 16,0 | 56,7 | 27,3 | 12,8 | 56.4 | 30,8 |
| Шлопарцаляншчыкі | 15,9 | 55,6 | 28.5 | 6,0 | 64'0 | 30,0 |
| Мясцовы транспорт | 14,4 | 55'8 | 29,8 | 11,3 | 59,4 | 22,3 |
| Папернікі | 12,8 | 51,0 | 36.2 | 10,7 | 62,5 | 26,8 |
| Гарбары | 12,3 | 53,9 | 33.8 | 14.2 | 51,0 | 34,9 |
| Хэмікі | 9,1 | 50,0 | 40.9 | 8,6 | 44,8 | 46,6 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 8,0 | 63,8 | 28,2 | 8,6 | 60,4 | 31,0 |
| Будаўнікі | 7,5 | 60,0 | 32,5 | 7,3 | 63,8 | 28,9 |
| Рабочыя па апрацоўцы мінэраляў | 5,9 | 58,8 | 35,3 | 12,0 | 52,0 | 36,0 |
| Харчавікі | 2,4 | 34,0 | 66,4 | 4,0 | 62,0 | 34,0 |
| **Служачыя** | | | | | | |
| 15. Мэдработнікі | 23.8 | 51,3 | 25,0 | 21,9 | 55,2 | 22,9 |
| 16. Работнікі асьветы | 19,6 | 66,3 | 14.1 | 29,1 | 58.3 | 12,6 |
| 17. Улікова-контрольны пэрсонал | 11,7 | 60,9 | 27,4 | 12,0 | 53,9 | 34,1 |
| 18. Работнікі аховы бясьпекі | 7,9 | 65,4 | 26,7 | 5,9 | 61,6 | 32,5 |
| **У сярэднім** | **10,8** | **56,5** | **32,7** | **10,7** | **56,4** | **32,9** |

Табліца 5 (працяг)

| Група прафэсій (кляс. ЦСК) | Жанчыны | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1/1 1927 г. | | | На 1/I 1928 г. | | |
| | Групы інваліднасьці | | | | | |
| | I | II | III | I | II | III |
| Работніцы | | | | | | |
| Друкары | 42,9 | 14,3 | 42,9 | 40,0 | 50,0 | 10,0 |
| Гарбары | 33,3 | 66,7 | — | — | 50,0 | 50,0 |
| Харчавікі | 16,0 | 52,0 | 32,0 | 18,2 | 54,5 | 27,3 |
| Краўцы | 13,5 | 43,2 | 43,2 | 16,7 | 50,0 | 33,3 |
| Папернікі | 5,7 | 42,9 | 51,4 | 6,1 | 40,2 | 53,7 |
| Тэкстыльшчыкі | 5,3 | 47,9 | 46,8 | 2,3 | 39,4 | 58,3 |
| Шклопарцалянішчыкі | — | 33,3 | 66,7 | 9,1 | 36,4 | 54,5 |
| Раб. па апрац. мінэраляў | — | 33,3 | 66,7 | — | — | — |
| Дрэвaапрацоўшчыкі | — | 33,3 | 66,7 | 12,5 | 50,0 | 37,5 |
| Хэмікі | — | 31,8 | 68,2 | 3,3 | 27,9 | 68,9 |
| Тытуньнікі | — | 31,8 | 68,2 | — | 88,9 | 11,1 |
| Служачыя | | | | | | |
| Работнікі асьветы | 14,3 | 51,5 | 34,2 | 14,0 | 52,1 | 33,9 |
| Улікова-контрольны пэрсонал | 13,3 | 46,7 | 40,0 | 19,4 | 41,9 | 38,7 |
| Мэдработнікі | 11,6 | 61,6 | 26,8 | 13,7 | 60,3 | 26,0 |
| Хатнія работніцы | 5,7 | 52,3 | 42,0 | 5,8 | 55,2 | 39,0 |
| **У сярэднім** | **8,2** | **50,4** | **41,4** | **7,1** | **51,5** | **41,4** |

Найбольш паказным для цяжкасьці інвалідызацыі прыходзіцца лічыць колькасьць інвалідаў I групы, бо дыягностыка яе грунтуецца на параўнаўча найбольш об'ектыўнай прыкмеце—беспараднасьці. Бясспрэчна, маюць рацыю тыя, хто крытычна ставіцца да магчымасьці азначэньня працаздольнасьці ў процантах (старая клясыфікацыя груп інваліднасьці), але прыходзіцца таксама прызнаць, што пры сучасным стане нашых ведаў вельмі цяжка наогул гаварыць пра якуюнебудзь „рацыянальную" (Вігдорчык) клясыфікацыю, паколькі азначэньне межаў між 2 і 3, 3 і 4 і г. д. групамі робіцца выключна на падставе суб'ектыўных ацэнак, якія знаходзяцца пад уплывам ня толькі практыкі і ведаў экспэртаў, але таксама раду другіх фактараў. Пакуль яшчэ няма ня толькі мэтодаў „об'ектыўнага вымеру" працаздольнасьці, але і об'ектыўнага, ужо ня кажучы дакладнага азначэньня здольнасьці да працы тэй ці іншай цяжкасьці, тэй ці іншай кваліфікацыі, тэй ці іншай доўгачаснасьці. Самы факт, што якасьць і пэўнасьць такога азначэньня ставіцца ў залежнасьць ад „практыкаванасьці", „здольнасьці", лёгічнасьці экспэртаў, гаворыць пра адсутнасьць хоць крыху цьвёрдых крытэрыяў пры дыягностыцы груп інваліднасьці і фактычна зводзіць гэту дыягностыку да эмпірыі. Гэтым і тлумачыцца, што групавы склад інвалідаў аднэй і тэй-жа профэсіі не аднолькавы ў розны час (параўнай даныя за 1/I 1927 г. і 1/I 1928 г.). У кожным разе такія зьмены ў складзе інвалідаў ня толькі адбіваюць фактычныя зьмены цяжкасьці інвалідызацыі або прычын інваліднасьці, але і залежаць ад невыстарчальнасьці мэтодаў экспэртызы і ад іншых умоў (стану рынку працы, кампаніі па перааглядзе інвалідаў ды інш.). Цікава, між іншым, адзначыць, што ня гледзячы на зьмены ў складзе інвалідаў асобных профэсій за дасьледаваныя два гады, у сярэднім склад усёй масы інвалідаў застаўся амаль нязьменным. Гэта лішні раз даводзіць, што „сярэднія" статыстычныя паказьнікі, выведзеныя хоцьбы з вялікай, але недыфэрэнаванай колькасьці нагляданьняў, пры

вывучэньні зьяў жыцьця ня могуць іх выявіць, не дапамагаюць іх тлумачэньню, але, наадварот, нібы хаваюць іх сапраўдны характар.

Па зьмешчаных даных відаць, інвалідызацыя якіх профэсій найбольш цяжкая; калі разважаць аб цяжкасьці інвалідызацыі, як мы ўмовіліся, на падставе колькасьці інвалідаў I групы, да такіх профэсій належаць тэкстыльшчыкі, друкары, краўцы, мэдсанработнікі, работнікі асьветы, мэталістыя, гарбары. Устанавіць на падставе нашых матэрыялаў якую-небудзь законамерную ўзаемазалежнасьць між колькасьцю інвалідаў розных груп няма ніякай магчымасьці—відаць, такой узаемазалежнасьці і няма. Можна толькі констатаваць, што да II групы належыць большая частка інвалідаў—мужчын усіх профэсій, што склад жанчын інвалідак куды больш варыябельны, чым склад інвалідаў мужчын; што інвалідызацыя жанчын менш цяжкая, бо сярод іх менш інвалідаў I і II групы і больш інвалідаў III групы ў параўнаньні з інвалідызацыяй мужчын адпаведных профэсій. (Выключэньнем зьяўляецца ўлікова-контрольны пэрсонал). Аб цяжкасьці інвалідызацыі разважаюць яшчэ па ўзросьце надыходу інваліднасьці, выходзячы з таго меркаваньня, што для профэсіі інвалідызацыя тым цяжэй, чым раней яна надыходзіць, і наадварот,—тым лягчэй, чым пазьней яна надыходзіць.

Перш, чым аналізаваць нашы матэрыялы, падамо ўзросны склад вывучанага насельніцтва ды інвалідаў.

Табліца 6

| Узрост | Склад рабочых у фабр.-зав. прадпр.[1]) | | Склад інвалідаў на 1/I—1927 г. | | Склад інвалідаў на 1/I—1928 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. |
| | | | **Адносныя велічыні** | | | |
| Да 19 год | 13,3 | 30,6 | 0,2 | 0,5 | 0,3 | 1,0 |
| 20—24 „ | 19,7 | 33.0 | 1,8 | 4.5 | 1,9 | 4,4 |
| 25—29 „ | 19,8 | 16,3 | 3,7 | 7,3 | 4,2 | 8,1 |
| 30—34 „ | 14,0 | 7,6 | 3,5 | 4,6 | 4,2 | 5,7 |
| 35—39 „ | 11,1 | 6,4 | 4,4 | 6,3 | 5,1 | 6,7 |
| 40—44 „ | 8,2 | 3,6 | 3,9 | 5,8 | 4,4 | 6,7 |
| 45—49 „ | 6,0 | 1,7 | 5,1 | 8,0 | 5,4 | 8,6 |
| 50—54 „ | 4,0 | 0,6 | 8,0 | 10,5 | 8.1 | 10,3 |
| 55—59 „ | 2,5 | 0,36 | 11,9 | 14,7 | 12,9 | 13,7 |
| 60—64 „ | 1,1 | 0,07 | 20,0 | 15,9 | 18,4 | 13,9 |
| 65—69 „ | 0,4 | 0,02 | 18.4 | 10,2 | 18,2 | 10,3 |
| 70 і ст. | 0,1 | 0,01 | 18,9 | 11,6 | 16,9 | 10,6 |
| | | | **Абсолютныя велічыні** | | | |
| Да 19 год | 3074 | 2625 | 8 | 8 | 17 | 18 |
| 20—24 „ | 4559 | 2832 | 76 | 70 | 90 | 84 |
| 25—29 „ | 4577 | 1400 | 152 | 113 | 220 | 153 |
| 30—34 „ | 3236 | 650 | 145 | 72 | 218 | 108 |
| 35—39 „ | 2557 | 550 | 182 | 99 | 268 | 127 |
| 40—44 „ | 1886 | 305 | 161 | 90 | 231 | 126 |
| 45—49 „ | 1397 | 144 | 211 | 125 | 283 | 162 |
| 50—54 „ | 920 | 52 | 331 | 164 | 427 | 195 |
| 55—59 „ | 566 | 31 | 489 | 229 | 675 | 260 |
| 60—64 „ | 254 | 6 | 826 | 248 | 967 | 263 |
| 65—69 „ | 89 | 2 | 758 | 159 | 956 | 196 |
| 70 і ст. | 22 | 1 | 780 | 181 | 888 | 201 |
| **Разам з непаказ.** | **23143** | **8601** | **4119** | **1558** | **5251** | **1894** |

[1]) Всесоюзная перепись населения 1926 г.г. Изд. 1928 г. ЦСУ.

Табліца 6 (працяг)

| Узрост | Рабочыя | | Служачыя | | Усё насельн., занят. наёмн. працай | | Усё самадзейнае насельн. | | На 100 зан. наёмн. пр. інв. на 1/І 1928 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| | | | | | Адносныя велічыні | | | | | |
| Да 19 год . | 22,9 | 36,7 | 3,4 | 19,6 | 14,7 | 28,0 | 28,2 | 31,2 | 0,08 | 0.09 |
| 20—24 „ . | 15,2 | 19,1 | 13,9 | 25,8 | 14,6 | 22,5 | 14,9 | 13,2 | 0,46 | 0,53 |
| 25—29 „ . | 14,6 | 10,9 | 22,1 | 21,0 | 17,8 | 16.1 | 10,9 | 11,6 | 0,82 | 1,35 |
| 30—34 „ . | 10,8 | 6,9 | 17,9 | 11,5 | 13,3 | 9,1 | 8,4 | 8,3 | 1,04 | 1,66 |
| 35—39 „ . | 9,6 | 6,6 | 13,9 | 8,5 | 11,4 | 7,6 | 7,7 | 7,9 | 1,55 | 2,38 |
| 40—44 „ . | 8,0 | 5,5 | 10,1 | 5,2 | 8,9 | 5,3 | 6,5 | 6,4 | 1,72 | 3,33 |
| 45—49 „ . | 6,7 | 4,5 | 6,9 | 3,6 | 6,8 | 4,0 | 5,5 | 5,4 | 2,76 | 5,72 |
| 50—54 „ . | 5,2 | 3,7 | 5,0 | 2,1 | 5,1 | 2,9 | 4,8 | 5,2 | 5,52 | 9,61 |
| 55—59 „ . | 3,3 | 2,4 | 3,3 | 1,2 | 3,3 | 1,8 | 4,0 | 3,9 | 13,59 | 20,77 |
| 60—64 „ . | 1,9 | 1,9 | 1,8 | 0,8 | 1,8 | 1,3 | 3,8 | 3,4 | 34,35 | 20,34 |
| 65—69 „ . | 0,9 | 0,7 | 0,9 | 0,3 | 0,9 | 0,5 | 2,5 | 1,7 | 67.66 | 52,14 |
| 70 і ст. . . | 0,6 | 0,8 | 0,5 | 0,4 | 0,5 | 0,6 | 2,3 | 1,5 | 107,12 | 45,22 |
| | | | | | Абсолютныя велічыні | | | | | |
| Да 19 год . | 19969 | 12708 | 2181 | 7043 | 22150 | 19751 | 459308 | 473533 | — | — |
| 20—24 „ . | 13242 | 6589 | 8900 | 9260 | 22142 | 15849 | 243330 | 200163 | — | — |
| 25—29 „ . | 12754 | 3793 | 14084 | 7562 | 26838 | 11355 | 178153 | 176412 | — | — |
| 30—34 „ . | 9418 | 2396 | 11447 | 4115 | 20865 | 6511 | 137088 | 126393 | — | — |
| 35—39 „ . | 8410 | 2287 | 8880 | 3046 | 17290 | 5333 | 128132 | 120277 | — | — |
| 40—44 „ . | 6999 | 1916 | 6446 | 1868 | 13445 | 3784 | 104930 | 96268 | — | — |
| 45—49 „ . | 5822 | 1553 | 4413 | 1281 | 10235 | 2834 | 90450 | 52260 | — | — |
| 50—54 „ . | 4546 | 1286 | 3190 | 742 | 7736 | 2028 | 78266 | 78197 | — | — |
| 55—59 „ . | 2845 | 816 | 2121 | 436 | 4966 | 1252 | 65158 | 60234 | — | — |
| 60—64 „ . | 1639 | 653 | 1176 | 275 | 2815 | 928 | 62802 | 51420 | — | — |
| 65—69 „ . | 329 | 256 | 584 | 120 | 1413 | 376 | 40476 | 25451 | — | — |
| 70 і ст. . . | 524 | 299 | 305 | 149 | 829 | 448 | 37396 | 23047 | — | — |
| **Разам з не пак.** | **87327** | **34586** | **63814** | **35927** | **151141** | **70513** | **1627081** | **1514815** | — | — |

Зьмешчаныя даныя, важныя самі па сабе для ўяўленьня ўзроснага складу resp. працэсу агульнай „зношванасьці" (ад інваліднасьці і старасьці) асобных груп самачыннага насельніцтва, выкрываюць таксама некаторыя адносіны і ў зьявах інвалідызацыі. Зусім зразумела, перш за ўсё, што інвалідызацыя гэта, так сказаць, узростная функцыя—яна расьце разам з узростам: гэта відаць і з узростнага складу інвалідаў, і з інтэнсыўнасьці інваліднасьці па асобных узростных групах. Надта важна пры гэтым адзначыць, што ва ўсіх узростах, апроч самых старэйшых, жанчыны даюць куды большыя паказальнікі інваліднасьці, чым мужчыны; ва ўзросьце старэй за 60 год стасункі процілежныя. Тымчасам мы раней констатавалі, што па ўсёй масе працоўнага насельніцтва і па асобных профэсіях сярод жанчын наглядаецца менш інтэнсыўная інваліднасьць, чым сярод мужчын. Тлумачэньне гэтай, здавалася-б, супярэчнасьці мы знаходзім ва ўзросным складзе мужчын і жанчын, занятых наёмнай працай. Як відаць з нашых даных, жанчыны заняты галоўным чынам у малодшых узростах, маючы самыя нізкія паказальнікі інваліднасьці. Мужчыны-ж заняты ў значнай колькасьці і ва ўзростах, маючых параўнаўча большыя паказьнікі інваліднасьці. У гэтым сэнсе і трэба скорэктаваць вывад з адзначанага вышэй факту, інакш кажучы, на розьніцу між разьмерамі інваліднасьці абодвых родаў неравалжны ўплыў робіць узрост: пры іншых роўных умовах інвалідызацыя жанчын адбываецца больш інтэнсыўна, чым інвалідызацыя мужчын таго-ж самага ўзросту (выключэньнем, як ужо зазначалася, зьяўляецца ўзрост старэй за 60 год).

Такі-ж самы корэктыў, які выключае ўплыў узростнага складу, канечна трэба па сутнасьці зрабіць і ў параўнаўчых даных аб інтэнсыўнасьці інвалідызацыі асобных профэсіянальных груп. Для гэтага варта было-б стандартызаваць нашы даныя ў адносінах да ўзростаў аналёгічна таму, як гэта робіцца пры параўнаньні захворанасьці і сьмяротнасьці розных груп насельніцтва. Аднак нашы паказьнікі, як мы ўжо зазначалі аднойчы, вызначаюцца адноснай дакладнасьцю з прычыны самога характару матэрыялаў, якія ляглі ў іх аснову, і мы баімся, што праца, якая была-б патрачана на іх стандартызацыю не апраўдалася-б абсолютнай верагоднасьцю вывадаў. Вось чаму мы абмяжоўваемся ў даным выпадку параўнаньнем толькі цяжкасьці інвалідызацыі асобных профэсіянальных груп, для чаго карыстаемся звычайным мэтодам сярэдніх узростаў. Каб ня было непаразуменьняў, трэба адзначыць, што пад інтэнсыўнасьцю інвалідызацыі resp. інваліднасьці мы ўмоўна разумеем колькасную ацэнку, а пад цяжкасьцю—якасную ацэнку. Ніжэй мы яшчэ вернемся да пытаньня аб узаемаадносінах між гэтамі паказьнікамі. Калі, напрыклад, нам вядома, што адна група рабочых мае паказьнік інваліднасьці 5, (пяць інвалідаў на 100 рабочых), а другая—4,5, дык мы кажам, што інтэнсыўнасьць інвалідызацыі сярод першай групы большая, чым сярод другой; але калі сярод 5 інвалідаў I групы ніводны не належыць да беспарадных, а 4,5 II групы ўсе беспарадныя, ці калі сярэдні ўзрост 5 інвалідаў I гр. 60 год, а II гр. 50 год, дык мы констатуем, што інвалідызацыя сярод II групы цяжэйшая, чым сярод I. У гэтым толькі сэнсе мы і лічым магчымым карыстацца данымі аб сярэдніх узростах, як дадатковым (да даных аб разьмеркаваньні інвалідаў на групы) паказьнікам цяжкасьці інвалідызацыі. Канечна трэба, аднак, мець на ўвазе, што „сярэдні“ ўзрост, як і кожны сярэдні паказьнік, ня мае абсолютнага значэньня і зьяўляецца ня чым іншым, як нейкім абстрактным умоўным знакам, хаваючы часта надта важныя фактычныя розьніцы. Надта важна, напрыклад, апрача сярэдняга ўзросту, ведаць і ўзросны склад інвалідаў. У гэтым надта лёгка пераканацца, калі параўнаць інвалідаў некалькіх профэсій, маючых вельмі блізкія сярэднія ўзросты: напрыклад, гарбароў і адміністрацыйны пэрсонал, дрэваапрацоўшчыкаў і чорнарабочых, будаўнікоў ды інш. работнікаў харчаваньня і г. д.

Табліца 7

| Група профэсій (кляс ЦСК) | Сярэдні ўзрост інваліднасьці | | Інваліды ва ўзр. 19-44 г. | | Інваліды ва ўзр. 45-54 г. | | Інваліды ва ўзр. 55 г. і старэй | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | на 1/I 1928 г. | на 1/I 1927 г. | на 1/I 1928 г. | на 1/I 1927 г. | на 1/I 1928 г. | на 1/I 1927 г. | на 1/I 1928 г. | на 1/I 1927 г. |
| Гарбары | 50,8 | 50 | 34,6 | 38,7 | 17,2 | 19,2 | 45,2 | 42,2 |
| Адміністрац. пэрсонал | 50,8 | — | 41,3 | — | 5,9 | — | 52,9 | — |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 56,8 | 58,4 | 20,5 | 16,6 | 12,2 | 8,0 | 64,1 | 75,5 |
| Чорнарабочыя | 56,5 | 56,8 | 23,5 | 24,2 | 12,1 | 9,8 | 64,4 | 66,1 |
| Будаўнікі | 60,1 | 60,2 | 14,6 | 10,6 | 14,1 | 17,5 | 71,4 | 71,8 |
| Іншыя раб. харчав. | 60,1 | 62,6 | 14,8 | 7,9 | 9,4 | 11,4 | 75,6 | 80,7 |

Мы падалі гэтыя параўнаньні для ілюстрацыі нашай думкі, што пры адным і тым-жа „сярэднім узросьце“ інваліднасьці ўзростны склад можа быць розны, і калі сярод гарбароў да ўзросту 45—54 г. належыць 17,2% інвалідаў, а сярод адміністрацыйнага пэрсоналу—5,9%, дык відаць, якое гэта мае значэньне для характарыстыкі

цяжкасьці інвалідызацыі тэй і тэй профэсіі. Зразумела, і даныя аб узростным складзе інвалідаў патрабуюць корэктываў і, перш за ўсё, як ужо падкрэсьлівалася, ва ўліку ўзростнага складу самых профэсіянальных груп, стандартызацыі. Апрача гэтага, з тэй-жа толькі што паданай табліцы відаць, што даныя аб узростным складзе інвалідаў зьмяняюцца па гадох; не закранаючы падрабязна прычын (фактычныя зьмены, вынік „чысткі", перагляд ды інш.), нельга ня лічыцца з гэтым фактам пры характарыстыцы інваліднасьці асобных профэсій, іначай кажучы, нельга ня прызнаць умоўнасьці гэтых паказьнікаў (сярэдняга ўзросту ды ўзростнага складу). Паводле нашых даных, інваліднасьць надыходзіць ва ўзросьце малодшым, чым сярэдні ўзрост усяе масы інвалідаў, сярод гарбароў, мэталістых, краўцоў, друкароў, працасьветнікаў. Гэта тыя-ж профэсіі, сярод якіх мы знайшлі найбольшы процант інвалідаў I групы, г. зн. абодва паказьнікі цяжкасьці інвалідызацыі пацьвярджаюць адзін аднаго. Зразумела, могуць быць выпадкі, калі гэтыя паказьнікі і не супадуць: напрыклад, у нашым матэрыяле мэдыка-санітарныя работнікі маюць досыць высокі сярэдні ўзрост (у гэтым сэнсе інвалідызацыя не асабліва цяжкая), але паводле групавога складу яны належаць да профэсій з цяжкой інвалідызацыяй. Вось чаму для больш правільнага вываду аб цяжкасьці інвалідызацыі мэтазгодна яшчэ праверыць сярэднія ўзросты па групах інваліднасьці.

**Сярэдні ўзрост інвалідаў некаторых профэсій па групах у парадку зьмяншэньня ўзростаў для інвалідаў мужчын**

| III група | М. | Ж. |
|---|---|---|
| 1. Тытуньнікі | 71 | 38 |
| 2. Друкары | 61,3 | 29 |
| 3. Будаўнікі | 55,8 | — |
| 4. Мясцовы транспорт | 55,7 | — |
| 5. Краўцы | 52,5 | 41,5 |
| 6. Дрэваапрацоўшчыкі | 50,5 | 30,5 |
| 7. Тэкстыльшчыкі | 50,5 | 40,2 |
| 8. Мінэральнікі | 48,8 | 51,5 |
| 9. Харчавікі | 48,3 | 55 |
| 10. Мэталістыя | 46 | 44 |
| 11. Папернікі | 46 | 44 |
| 12. Гарбары | 45,9 | 31,5 |
| 13. Хэмікі | 43,7 | 36 |
| 14. Улікова-контрольны пэрсонал | 56,7 | 46,1 |
| 15. Мэдсанработнікі | 51,6 | 46,6 |
| 16. Работнікі асьветы | 49,7 | 49,8 |
| **II група** | **М.** | **Ж.** |
| 1. Хэмікі | 63,3 | 44 |
| 2. Будаўнікі | 63 | — |
| 3. Тэкстыльшчыкі | 61,5 | 43,4 |
| 4. Мясцовы транспорт | 61,2 | 55,7 |
| 5. Харчавікі | 60,3 | 52,5 |
| 6. Тытуньнікі | 59,7 | 27,0 |
| 7. Друкары | 59,3 | 42,3 |
| 8. Дрэваапрацоўшчыкі | 58 | 36 0 |
| 9. Мінэральнікі | 56,9 | 49,0 |
| 10. Краўцы | 56,2 | 45,2 |
| 11. Папернікі | 54,6 | — |
| 12. Гарбары | 54,0 | 72,0 |
| 13. Мэталістыя | 52,3 | 49,0 |
| 14. Мэдсанработнікі | 65,6 | 51,6 |
| 15. Улікова-контрольны пэрсонал | 60,3 | 58,6 |
| 16. Работнікі асьветы | 59,5 | 55,6 |

| I група | М. | Ж. |
|---|---|---|
| 1. Хэмікі | 74,0 | — |
| 2. Харчавікі | 63, | 22 |
| 3. Тэкстыльшчыкі | 60,8 | 47 |
| 4. Папернікі | 57 | 48,3 |
| 5. Гарбары | 56 | — |
| 6. Мінэральнікі | 55,1 | — |
| 7. Дрэваапрацоўшчыкі | 54 | — |
| 8. Будаўнікі | 49,3 | 36,0 |
| 9. Мэталістыя | 48,6 | 50,2 |
| 10. Мясцовы транспорт | 48,0 | — |
| 11. Краўцы | 46,1 | — |
| 12. Друкары | 44,0 | 42,0 |
| 13. Тытуньнікі | 25,0 | — |
| 14. Мэдсанработнікі | 55,6 | 43,3 |
| 15. Работнікі асьветы | 52 | 43,2 |
| 16. Улікова-контрольны пэрсонал | 48,7 | 51,2 |

| **Розьніца паміж сярэднім узростам інв. II і III гр.** | **М.** | **Ж.** |
|---|---|---|
| 1. Тытуньнікі | 19,6 | 8 |
| 2. Дрэваапрацоўшчыкі | 12,0 | 2,5 |
| 3. Мінэральнікі | 11,0 | 3,4 |
| 4. Тэкстыльшчыкі | 8,6 | — |
| 5. Будаўнікі | 8,1 | — |
| 6. Мясцовы транспорт | 8,1 | 5,5 |
| 7. Хэмікі | 7,5 | 5,5 |
| 8. Друкары | 7,2 | — |
| 9. Краўцы | 6,3 | 5 |
| 10. Мэталістыя | 5,5 | — |
| 11. Гарбары | 3,7 | 3,7 |
| 12. Харчавікі | 2,0 | 13,2 |
| 13. Папернікі | 11,3 | 11 |
| 14. Мэдсанработнікі | 14,0 | 5,0 |
| 15. Улікова-контрольны пэрсонал | 9,8 | 5,8 |
| 16. Работнікі асьветы | 3,6 | 12,5 |

На падставе гэтых даных можам перш за ўсё пацьвердзіць вывад проф. Вігдорчыка[1]), што чым вышэй група інваліднасьці, тым вышэй сярэдні ўзрост яе надыходу, апрача I групы. У нашым матэрыяле выключэньнем зьяўляецца адміністрацыйны пэрсонал, друкары і тытуньнікі, прычым яны выяўляюць проста адваротныя стасункі: ніжэйшыя групы інваліднасьці належаць да старшага ўзросту, а да малодшых належаць вышэйшыя групы. Калі выключыць пры тлумачэньні гэтага факту ўплыў проста малой колькасьці наглядаваньняў (тытуньнікі), дык трэба думаць, што гэтыя профэсіі адзначаюцца асаблівымі ўмовамі, якія выклікаюць асабліва цяжкія вынікі якраз у больш маладым узросьце, напрыклад, атручаньні. У адносінах да друкароў,—у кожным разе такое тлумачэньне ў поўнай меры праўдападобнае і адпавядае вядомым пэўным фактам з паталёгіі атручаньня воловам (дзеяньне прывыканьня да атруты).

Другі вывад, які можна зрабіць са зьмешчаных даных, заключаецца ў тым, што ў жанчын, відаць, інваліднасьць надыходзіць раней, чым у мужчын. Некаторыя выключэньні (мінэральнікі, харчавікі III групы) не паддаюцца рацыянальнаму тлумачэньню і, бязумоўна, ня могуць зьмяніць увогуле правільнага вываду аб большай цяжкасьці інвалідызацыі сярод жанчын.

[1]) Проф. Н. А. Вігдорчык—„Инвалидность", „Книга" 1924 г.

Нарэшце, параўнаньне сярэдніх узростаў па групах прыводзіць да вываду, што параўнаўча больш цяжкая (больш ранняя) інвалідызацыя наглядаецца сярод мэталістых, гарбароў, папернікаў, краўцоў, харчавікоў. Карыстаньне для азначэньня цяжкасьці інвалідызацыі данымі аб „тэмпе нарастаньня інваліднасьці“ (Вігдорчык) трэба лічыць ня зусім прыдатным, бо цяжкасьць жа азначаецца сярэднім узростам надыходу інваліднасьці ніжэйшых груп. Па паданых намі розьніцах у сярэдніх узростах II і III групы можна бачыць, напрыклад, што гарбары і мінэральнікі займаюць адно і тое месца паводле тэмпу нарастаньня ад III да II групы інваліднасьці, тымчасам іх сярэднія ўзросты ва ўсіх групах зусім неаднолькавыя, і мінэральнікі знаходзяцца ў больш спрыяючых умовах у сэнсе інвалідызацыі. Гэты спосаб, бязумоўна, мог-бы даць больш пэўныя вынікі, калі-б самы „тэмп нарастаньня“ вызначаўся не на падставе аднаразовага параўнаньня сярод узростаў розных груп інвалідаў, якія вызначаны ў розныя часы рознымі экспэртамі, у адносінах да розных людзей, але шляхам дынамічнага абсьледваньня пэўных груп інвалідаў пэўных профэсій.

Гэтым вычэрпваюцца нашы магчымасьці ў сэнсе вызначэньня паасобных паказьнікаў інтэнсыўнасьці і цяжкасьці інвалідызацыі асобных профэсій на падставе тых, што ёсьць пакуль, матэрыялаў. Калі-б нават гэтыя паказьнікі ня выклікалі ніякіх сумненьняў у сэнсе іх дакладнасьці і сапраўднага вызначэньня фактычных адносін, дык яны ўсё-ж не разьвязваюць пытаньня аб сынтэтычным паказьніку інвалідызацыі resp. інваліднасьці, г. зн. аб такім паказьніку, у якім-бы спалучаліся ўсе прыкметы, якія мы аналізавалі дагэтуль. Проф. Вігдорчык, як вядома, прапанаваў у якасьці такога сынтэтычнага паказьніка так званы „коэфіцыент зношванасьці“ просты і ўскосны. Сутнасьць гэтага зводзіцца да вызначэньня колькасьці тых, што трацяцца, год з прычыны інваліднасьці да фізыолёгічнай інваліднасьці групай насельніцтва (просты коэфіцыент) resp. групай інвалідаў (ўкосны коэфіцыент [1]). Не адмаўляючы значэньня коэфіцыенту зношванасьці для параўнаўчай характарыстыкі інвалідаў, трэба прызнаць досыць абмежаванае яго соцыяльна-гігіенічнае значэньне пры параўнаўчай ацэнцы інваліднасьці ды інвалідызацыі розных профэсіянальных груп. Гэта абмежаванасьць перш за ўсё абумаўляецца тым, што пры выявдзеньні коэфіцыенту зношванасьці ня ўлічаецца ўзростны склад тае, што вывучаецца, профэсіянальнай групы. Скарыстаем для паясьненьня прыклады, аналёгічныя тым, што падае сам проф. Вігдорчык. Профэсіянальная група „А“ дае ў год на 1000 рабочых:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 10 інв. | VI | катэгорыі ў | сярэднім | узросьце | 40 год. |
| 5 „ | IV | „ | „ | „ | 45 „ |
| 3 „ | II | „ | „ | „ | 50 „ |
| 1 „ | I | „ | „ | „ | 60 „ |

Дапусьцім, што група „Б“ дае такую-ж самую колькасьць інвалідаў тых-жа самых груп, з такімі-ж сярэднімі ўзростамі, г. зн. коэфіцыент зношванасьці ў абедзьвюх групах будзе аднолькавы, але, дапусьцім, што ёсьць фактычная розьніца ва ўзростным складзе

[1]) Падрабязна глядзі ў кнізе Н. А. Вігдорчыка „Инвалидность“.

абедзьвюх груп, а значыць, і ў інтэнсыўнасьці інвалідызацыі кожнага ўзросту, а менавіта:

Табліца 8

| Ўзрост | А. Разьмеркаван. па ўзросту | А. Інтэнсыўнасьць у проц. | Б. Разьмеркаван. па ўзросту | Б. Інтэнсыўнасьць у проц. |
|---|---|---|---|---|
| Да 39 г. | 700 | — | 600 | — |
| VI гр. 40—44 | 80 | 12,5 | 120 | 8,3 |
| IV „ 45—49 | 70 | 7,1 | 100 | 5,0 |
| II „ 50—54 | 70 | 4,3 | 80 | 3,75 |
| „ 55—59 | 50 | — | 40 | — |
| I „ 60—64 | 20 | 5,0 | 30 | 3,3 |
| „ 65 і ст. | 10 | — | 30 | — |
| **Коэфіц. зношв.** | — | **121,85** | — | **121,85** |

Гэты прыклад, нам здаецца, выразна паказвае, што адзін і той самы коэфіцыент зношванасьці ані не зьяўляецца паказьнікам і аднолькавай інвалідызацыі: відаць, група „А“ інвалідызуецца куды цяжэй, чым група „Б“. Роўным чынам магчыма, што група, якая мае больцы коэфіцыент зношванасьці, фактычна знаходзіцца ня ў горшых, а мо‘ і ў лепшых умовах адносна інвалідызацыі, чым група, што мае меншы коэфіцыент. Такі выпадак быў-бы, калі-б у нашым прыкладзе ў групе „Б“ на 1000 рабочых было інтэнсыўн. у аднос. адпав. узросту:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Інвалідаў VI групы | 11 | з сярэдн. узростам 40 г. | 9,2% | 26[1]) × 11 × 10% | = | 28,6 г. |
| „ IV „ | 7 | „ 45 г. | 7,0% | 21 × 7 × 37% | = | 54,39 г. |
| „ II „ | 3 | „ 50 г. | 3,75% | 16 × 3 × 100% | = | 48,0 г. |
| „ I „ | 1,2 | „ 60 г. | 4% | 6 × 1,2 × 150% | = | 10,80 г. |
| | | | | **Коэфіц. зношв.** | | **141,79** |

Такім чынам, коэфіцыент зношванасьці ў групе „Б“ большы, чым у групе „А“, але фактычная ступень інвалідызацыі зусім ня вышэйшая. Вось чаму мы і лічым, што ня толькі ўскосны, але і просты паказьнік інваліднасьці ў пэўнай меры „характарызуе толькі інваліда, а ня групу насельніцтва, з якой ён вярбуецца“ (Вігдорчык); каб ён мог характарызаваць і насельніцтва, канечна трэба яго стандартызаваць у адносінах да ўзростнага складу гэтага насельніцтва.

Соцыяльна-гігіенічнае значэньне коэфіцыенту зношванасьці абмяжоўваецца яшчэ тым, што ён вызначаецца так званай „фізыолёгічнай інваліднасьцю“. Тымчасам, „калі ў дакладнасьці надыходзіць фізыолёгічная інваліднасьць, мы ня ведаем“ (Вігдорчык) і, па сутнасьці справы, ня можам ведаць, бо яна, незалежна ад конкрэтных умоў профэсіянальнай працы, культурна-эконамічных умоў і быту, зьяўляецца абстракцыяй, бадай большай абстракцыяй, чым усялякая другая статыстычная „сярэдняя“.

Крытычныя заўвагі можа выклікаць і процантная ацэнка груп інваліднасьці, ацэнка, асуджаная, як вядома, самым аўтарам „коэфіцыенту“ зношванасьці.

Усе паданыя меркаваньні нам здаюцца выстарчальнымі для таго, каб прызнаць умоўнае значэньне коэфіцыентаў зношванасьці нараўне з другімі ўмоўнымі паказьнікамі інвалідызацыі. Маркузон[2]) у якасьці такога паказьніка раіць за лепшае лік „поўных“ інвалідаў на 100 або

[1]) За гранічны ўзрост па Вігдорчыку прыняты 66 год.

[2]) Маркузон—„Методика статистики социального страхования“. Вып. II „Вопросы труда“, 1928 г.

1000 рабочых resp. інвалідаў. Мы вылічылі коэфіцыент зношванасьці, паклаўшы ў аснову сярэдні ўзрост інвалідаў, незалежна ад групы. За ўзрост „фізыолёгічнай інваліднасьці“ мы прынялі гранічны ўзрост, г. зн. той узрост, у якім ёсьць яшчэ рабочыя асобных профэсій (паводле даных перапісу), бо мы яго лічым, у кожным разе, больш правільным, чым абстрактны ўзрост фізыолёгічнай інваліднасьці.

Падамо параўнаньне пакаьнікаў інвалідызацыі, вылучаных рознымі спосабамі.

Табліца 9

| Група профэсій (кляс, ЦСК) | Поўн. інвал. на 100 інв. | | Поўн. інвал. на 100 рабочых | | Ускосн. пак. (па Вігдорчыку) | Прост. пак. (па Вігдорчыку) | Коэф.[1]) зношв. (па Дзіхцяру) | Коэфіц.[2]) зношв. па ўзрост. (па Дзіхцяру) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1/I 1927 г. | На 1/I 1928 г. | На 1/I 1927 г. | На 1/I 1928 г. | На 1/I 1928 г. | На 1/I 1928 г. | На 1/I 1928 г. | Прост. | Ускос. |
| **Мужчыны:** | | | | | | | | | |
| Тэкстыльшчыкі | 72,2 | 70,9 | 6,9 | 8,22 | 1096,7 | 126,9 | 134,0 | 130,96 | 1130 |
| Тытуньнікі | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Друкары | 70,5 | 68,7 | 2,53 | 3,36 | 1300,1 | 63,4 | 67,0 | 69,78 | 1430 |
| Мэталістыя | 67,5 | 66,1 | 2,38 | 2,8 | 1789,3 | 76,3 | 84,9 | 87,3 | 2040 |
| Шклопарцалі | 67,2 | 63,7 | — | — | — | — | — | — | — |
| Мясц. транспорт | 66,5 | 65,6 | 4,77 | 6,01 | 984,2 | 89 | 100,1 | 110,16 | 1200 |
| Краўцы | 65,2 | 66,4 | 16,29 | 17,4 | 336,4 | 72,2 | 112,2 | 123,18 | 470 |
| Гарбары | 65,1 | 65,7 | 7,24 | 9,3 | 1521,2 | 215,6 | 212,5 | 237,14 | 1670 |
| Папернікі | 64,9 | 65,8 | 3,6 | 4,34 | 2006,3 | 132,5 | 55,8 | 60,72 | 920 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 64,6 | 64,4 | 4,01 | 5,68 | 1117,3 | 98,3 | 103,4 | 116,29 | 1320 |
| Хэмікі | 62,8 | 61,8 | 8,41 | 7,26 | 762,2 | 106,9 | 169,6 | 208,6 | 1780 |
| Мінэральнікі | 62,7 | 64,7 | 2,70 | 2,48 | 2026,7 | 39 | 40,9 | 46,2 | 1200 |
| Сельскагасп. раб. | 60,5 | 60,2 | 1,73 | 1,44 | 885,3 | 20,95 | 17,2 | 21,9 | 920 |
| Работнікі асьветы | 70,8 | 67,0 | 1,04 | 1,18 | 1671,2 | 35 | 26,0 | 24,12 | 1480 |
| Мэдсанработнікі | 70,4 | 70,1 | 2,27 | 2,81 | 812,1 | 31,2 | 42,3 | 42,4 | 1060 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 66,0 | 65,0 | 1,19 | 1,4 | 973,2 | 23,77 | 24,4 | — | 1180 |
| Харчавікі | 58,3 | 62,3 | 5,65 | 7,47 | 1126,3 | 134,8 | 121,2 | 142,56 | 1190 |
| Будаўнікі | 63,7 | 64,3 | 5,5 | 7,09 | 805,1 | 88,73 | 97,3 | 109,19 | 990 |
| **Жанчыны:** | | | | | | | | | |
| Гарбары | 78,0 | 58,3 | 1,52 | 1,52 | 762,5 | 19,8 | 11,4 | 16,12 | 620 |
| Друкары | 73.9 | 78,3 | 1,17 | 1,68 | 2190,5 | 37,7 | 50.5 | 43,66 | 2050 |
| Мэталістыя | 66,7 | 58,3 | 1,97 | 1,1 | 87,5 | 1,7 | 15,0 | 19,95 | 1050 |
| Харчавікі | 64,8 | 68,2 | 5,01 | 4,33 | 692,5 | 37,4 | 65,6 | 68,68 | 1080 |
| Краўцы | 63,9 | 66,7 | 8,38 | 8,48 | 214,9 | 27,3 | 33,9 | 36,91 | 290 |
| Чорнабоч. падзённч. | 61,3 | 60,9 | — | — | 2481,2 | 91 | — | — | 1900 |
| Тэкстыльшчыкі | 60,6 | 57,8 | 2,71 | 3,62 | 1101,5 | 67,7 | 71.2 | 99,06 | 1580 |
| Папернікі | 60,3 | 59.7 | 6,93 | 14,16 | 362,5 | 85,8 | 43,2 | 56,88 | 240 |
| Сельскагасп. раб. | 60,8 | 50,2 | 0,5 | 0,35 | 1001,5 | 5,15 | 5,88 | 7,35 | 1290 |
| Мінэральнікі | 55,6 | — | 1,4 | 1,13 | 534,0 | 8,9 | 8,3 | 10,73 | 580 |
| Шклопарцалі | 55,6 | 60,6 | — | — | — | — | — | — | — |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 55,6 | 64,5 | 0,82 | 0,84 | 2237,5 | 26,1 | 26,1 | 26,39 | 2300 |
| Хэмікі | 55,3 | 56,3 | 2,4 | 2,4 | 774,4 | 46,6 | 61,5 | 91,65 | 1520 |
| Тытуньнікі | 55,7 | 64,8 | 5,56 | 5,56 | 2299,7 | 196,7 | 182,3 | 193,05 | 2250 |
| Мэдсанработнікі | 66,6 | 66,9 | 1,63 | 1,92 | 1739,8 | 45,1 | 51,8 | 56,25 | 1960 |
| Работнікі асьветы | 65,7 | 65,6 | 2,47 | 2,52 | 1487,4 | 52 | 57,7 | 64,12 | 1670 |
| Улік.-контр. пэр. | 64,4 | 66,7 | 0,56 | 0,59 | 635,8 | 4,3 | 24,3 | — | — |

[1]) Мы вылічалі просты коэфіцыент зношванасьці паводле Вігдорчыка, але ў аснову клаўся сярэдні ўзрост усіх інвалідаў. Лік страчаных гадоў інвалідам II групы (100 проц.) прымаўся за роўны з розьніцай паміж сярэднім і гранічным узростамі, інвалідам I групы—у 1,5 разоў больш, інвалідам III групы—0,5.

[2]) Коэфіцыенты зношванасьці мы вылічылі, ня ўлічваючы групы інваліднасьці, г. зн. за сярэдні лік гадоў, што трацяцца інвалідамі ўсіх груп, прымалася розьніца паміж сярэднім узростам усіх інвалідаў і гранічным узростам.

Паводле гэтых паказьнікаў паасобныя профэсіянальныя групы разьмяшчаюцца ў стасунку цяжкасьці і інтэнсыўнасьці інвалідызацыі (па месцу) у наступным парадку:

Табліца 10

| Група прафесій (кляс. ЦСК) | Аўтары мэтоду вылічэньня | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Маркузон | | Вігдорчык | | Дзіхцяр | | Маркузон | | Вігдорчык | | Дзіхцяр | |
| | ext. | int. | ext. | int. | ext. | int. | ext. | int. | ext. | int. | ext. | int. |
| | Мужчыны | | | | | | Жанчыны | | | | | |
| Тэкстыльшчыкі | 1 | 3 | 9 | 4 | 11 | 4 | 11 | 4 | 5 | 2 | 5 | 1 |
| Мэдсанработнікі | 2 | 11 | 13 | 14 | 12 | 13 | 3 | 7 | 3 | 5 | 3 | 6 |
| Друкары | 3 | 10 | 6 | 11 | 5 | 10 | 1 | 8 | 2 | 6 | 2 | 7 |
| Работнікі асьветы | 4 | 16 | 4 | 13 | 4 | 14 | 6 | 5 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| Краўцы | 5 | 1 | 16 | 10 | 16 | 5 | 4 | 2 | 13 | 8 | 12 | 8 |
| Мэталістыя | 6 | 12 | 3 | 9 | 1 | 9 | 10 | 11 | 14 | 14 | 9 | 10 |
| Папернікі | 7 | 9 | 2 | 3 | 14 | 11 | 8 | 1 | 12 | 1 | 13 | 5 |
| Гарбары | 8 | 2 | 5 | 1 | 3 | 1 | 9 | 9 | 8 | 10 | 10 | 11 |
| Мясц. транспорт | 9 | 7 | 10 | 7 | 8 | 7 | — | — | — | — | — | — |
| Улікова-контр. пэрсонал | 10 | 15 | 11 | 15 | 10 | — | 5 | 13 | 10 | 13 | — | — |
| Мінэральнікі | 11 | 13 | 1 | 12 | 7 | 12 | — | 10 | 11 | 11 | 11 | 12 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 12 | 8 | 8 | 6 | 6 | 6 | 7 | 12 | 1 | 9 | 1 | 9 |
| Будаўнікі | 13 | 6 | 14 | 8 | 13 | 8 | — | — | — | — | — | — |
| Харчавікі | 14 | 4 | 7 | 2 | 9 | 3 | 2 | 3 | 9 | 7 | 8 | 3 |
| Хэмікі | 15 | 5 | 15 | 5 | 2 | 2 | 12 | 6 | 7 | 4 | 6 | 2 |
| Сельскагасп. раб. | 16 | 14 | 12 | 16 | 15 | 15 | 13 | 14 | 6 | 12 | 7 | 13 |

Гэта значыць, што калі кіравацца паказьнікамі „поўнага ліку інвалідаў“ (Маркузон), дык у стасунку мужчын найцяжэйшая інвалідызацыя адбываецца сярод тэкстыльшчыкаў, мэдсанработнікаў, друкароў і г. д., а калі кіравацца „ўскоснымі коэфіцыентамі зношванасьці“ (Вігдорчык), дык найбольшая цяжкасьць інвалідызацыі наглядаецца сярод мінэральнікаў, папернікаў, работнікаў асьветы і г. д., калі, нарэшце, кіравацца ўскоснымі коэфіцыентамі зношванасьці, вылічанымі паводле сярэдніх узростаў без адзначэньня груп, дык найбольш цяжка інвалідызаванымі будуць профэсіі мэталістых, хэмікаў, гарбароў і работнікаў асьветы.

Такая-ж рознастайная ацэнка даецца як у адносіне да жанчын, так і ў адносіне і да інтэнсыўных паказьнікаў. Трэба, аднак, падкрэсьліць, што ацэнкі, якія даюцца на падставе паказьнікаў па мэтоду Вігдорчыка, і вылічаныя спрошчаным мэтодам коэфіцыенты зношванасьці (бяручы сярэдні ўзрост без адзначэньня груп) надта блізкія паміж сабою.

Нельга згадзіцца з Маркузонам, што нібы для „страхавой“ ацэнкі інвалідызацыі досыць ведаць лік „поўных“ інвалідаў бяз уліку ўзростнага моманту. Бязумоўна, „коэфіцыент зношванасьці“ ў страхавым сэнсе больш важны і дакладны, бо і для страхавых органаў надта важна, на працягу якога часу выплачваецца дапамога; лік страчаных гадоў характарызуе ня толькі соцыяльна-экономічнае значэньне інваліднасьці, але ён вызначае і лік гадоў, на працягу якіх інваліды знаходзяцца на ўтрыманьні страхкас.

Мы паказалі, наколькі складаным, можна сказаць, дыялектычным зьяўляецца пытаньне аб інвалідызацыі і наколькі цяжка, калі ўвогуле

магчыма, знайсьці які-небудзь агульны сынтэтычны паказьнік гэтай зьявы, які-б мог служыць для правільнай социяльна-гігіенічнай ацэнкі тэй ці іншай профэсіянальнай групы. Таму мы лічым нялішнім падаць кароткую зводку, якая дае ўяўленьне аб цяжкасьці і інтэнсыўнасьці інвалідызацыі паасобных профэсіянальных груп паводле розных паказьнікаў.

У гэтай зводцы профэсіі разьмешчаны ў парадку зьбежнай інтэнсыўнасьці інваліднасьці ці цяжкасьці на 1/I 1928 г.

**Мужчын**[1])

**1) Па ліку інвал. на 100 раб.**

Краўцы
Гарбары
Харчавікі
Тэкстыльшчыкі
Будаўнікі
Мясц. транспорт
Дрэваапрацоўшчыкі
Папернікі
Друкары
Улік.-контр. пэрс.
Мэталістыя
Работ. гігіены, харчаван. і аховы Абясьпекі
Мэдработнікі
Шклопарцал.
Работнікі асьветы

**2) Па %інвал. I і II гр.**

Работнікі асьветы
Тэкстыльшчыкі
Мэдработнікі
Папернікі
Друкары
Будаўнікі
Мясц. транспорт
Шклопарцалян.
Краўцы
Мэталістыя
Дрэваапрацоўшчыкі
Работ. Аховы Абясьпекі
Харчавікі
Улік.-контр. пэрс.
Гарбары
Мінэральнікі

**3) Па ліку поўн. інвалід на 100 інвал.**

Тэкстыльшчыкі
Мэдработнікі
Друкары
Работнікі асьветы
Краўцы
Мэталістыя
Папернікі
Гарбары
Мясц. транспорт
Улік.-контр. пэрс.
Мінэрал. і дрэваапрац.
Будаўнікі
Харчавікі
Хэмікі
Сельскагасп. рабочыя

**4) Па ліку страч. году на 100 інвал.**

Мінэральнікі
Папернікі
Мэталістыя
Работнікі асьветы
Гарбары
Друкары
Харчавікі
Дрэваапрацоўшчыкі
Тэкстыльшчыкі
Мясц. транспорт
Улік.-контр. пэрс.
Сельскагасп. раб.
Мэдработнікі
Будаўнікі

**5) Па ліку страч. год на 100 рабочых**

Гарбары
Харчавікі
Папернікі
Тэкстыльшчыкі
Хэмікі
Дрэваапрацоўшчыкі
Мясц. транспорт
Будаўнікі
Мэталістыя
Краўцы
Друкары
Мінэральнікі
Работнікі асьветы
Мэдработнікі
Улік.-контр. пэрсонал

На падставе паданых матэрыялаў можна, такім чынам, лічыць установленым, што паказьнікі як інтэнсыўнасьці, так і цяжкасьці інвалідызацыі далёка не адбіваюць сапраўдных стасункаў. Статыстычна ўлічваюцца не фактычна „об'ектыўныя" інваліды, г. зн. не індывідуумы, страціўшыя працаздольнасьць пад уплывам пэўных прычын пры пэўных умовах, а індывідуумы, якія атрымліваюць пэнсію „па інваліднасьці". Мы бачым, што лік такіх індывідуумаў стаіць у найскладанейшай залежнасьці ад раду культурна-экономічных умоў, а самае

[1]) Першая графа дае ўяўленьне аб параўнаўчай распаўсюджанасьці інваліднасьці (інтэнсыўнасьці інвалідызацыі) сярод розных профэсій; 2, 3, і 4 графы даюць ўяўленьне аб параўнаўчай цяжкасьці інвалідызацыі; 5 графа дае ўяўленьне аб параўнаўчай інвалідызацыі па гэтых дзьвюх адзінках.

устанаўленьне права на пэнсію і яе разьмераў пры сучасным стане нашых ведаў ня можа прэтэндаваць на значную навуковую об'ектыўнасьць. Недарма і зусім правільна пачалі гаварыць аб клясавым падыходзе да пытаньняў экспэртызы... Гэта прымушае асабліва ўважліва адносіцца да вывадаў, асабліва калі ўзяць пад увагу, што інваліды падпадалі ў большасьці акруг поўнаму або частковаму пераглядy г. зн. на матэрыял мелі дадатковы ўплыў суб'ектыўныя фактары.

Таксама цяжка даваць ацэнку інвалідызацыі паасобных профэсіянальных груп і на падставе адных даных аб ліку падпаўшых мэдычнаму агляду інвалідаў за паасобныя гады.

Ня спыняючыся больш на агульных мэтодолёгічных разважаньнях, якія павінны былі-б, па сутнасьці, паўтарыць усё выказанае ўжо раней, падамо толькі даныя, характарызуючыя інвалідызацыю некаторых профэсій па паасобных паказьніках (у зьбежным парадку).

**Разьмяшчэньне профэсій у стасунку:** Табліца 11

| Інтэнсыўн. пак. інвалідыз. | Ліку поўных інв. на 100 інв. | | Ліку поўных інв. на 100 раб. | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Краўцы | Краўцы | Работн. асьветы | Швейнікі. | Краўцы |
| Будаўнікі | Гарбары | Мэдработнікі | Гарбары. | Харчавікі |
| Гарбары | Мэдработнікі | Краўцы | Будаўнікі. | Гарбары |
| Харчавікі | Мэталістыя | Друкары | Харчавікі. | Будаўнікі |
| Хэмікі | Друкары | Гарбары | Справаводы | Мясц. трансп. |
| Справаводы | Мясц. трансп. | Мэталістыя | Папернікі. | Хэмікі |
| Дрэваапрац. | Работн. асьветы | Хэмікі | Дрэваапрац. | Дрэваапрац. |
| Папернікі | Дрэваапрац. | Будаўнікі | Хэмікі. | Друкары |
| Мясц. трансп. | Будаўнікі | Дрэваапрац. | Мясц. трансп. | Мэталістыя |
| Мінэральнікі | Папернікі | Мясц. трансп. | Тэкстыльшчыкі. | Мінэральн. |
| Тэкстыльшчыкі | Хэмікі | Улік. кон. пэр. | Мэталістыя. | Папернікі |
| Друкары | Шклопарцал. | Папернікі | Друкары. | Тэкстыльшчыкі |
| Мэталістыя | Тэкстыльшчыкі | Раб. гігіены, харч. і бясьпекі | Гігіены, харчав. і бясьп. | Раб. гігіены, харчав. і бясьпекі |
| Раб. гігіены харчаван. і бясьпекі | Харчавікі | Шклопарцал. | Мінэральн. | Мэдработнікі |
| Сельскагаспад. | Сельгасраб. | Харчавікі | Сельск.гасп.раб. | Сельск.гасп.раб. |
| Мэдработнікі | | Сельгасраб. | Работн. асьветы | Работн. асьветы |
| Работн. асьветы | | | | |

Пры параўнаньні ўсіх даных мы прыходзім да вываду, што інвалідызацыя, як відаць, найбольш пашырана (інтэнсыўна) сярод краўцоў, гарбароў, харчавікоў, будаўнікоў, а найменш—сярод работнікаў асьветы, мэдработнікаў, работнікаў гігіены, харчаваньня і бясьпекі, сельскагаспадарчых рабочых; найбольш цяжкая інвалідызацыя наглядаецца, відавочна, сярод мэдработнікаў, работнікаў асьветы, друкароў, краўцоў і гарбароў і найменш цяжкая—сярод харчавікоў, улік.-контрольнага пэрсоналу, мінэральнікаў, сельскагаспадарчых рабочых.

Супярэчнасьці, якія наглядаюцца паміж гэтымі вывадамі і паасобнымі паказьнікамі інвалідызацыі, зусім зразумелы пасьля ўскрытай намі ўмоўнасьці паасобных паказьнікаў і складанасьці тэй, што вывучаецца, зьявы. У прыватнасьці трэба лічыцца з тым фактам,

што на паказьніках інвалідызацыі, вызначаных на падставе даных аб стане інвалідаў на I/1—1927 і 1928 г., адбіваецца характар інвалідаў, якія пачалі атрымоўваць пэнсію да 1926 г. і якія, бязумоўна, адрозьніваюцца ад інвалідаў больш позных гадоў.

Што да карыстаньня стажам работы па найму, як паказьнікам інвалідызацыі, дык тыя, што падаюцца намі, табліцы з данымі аб стажы інвалідаў, прайшоўшых мэдычны агляд за 1926 і 1927 г., паказваюць, наколькі гэтыя даныя нясталыя.

Інваліды аднэй і тэй самай профэсіі паказваюць у розныя гады розны сярэдні стаж (сярэдні стаж па ўсіх профэсіях у 1926 г. 13,2, а ў 1928 г.—16,3).

Наўрад ці можна гэты факт тлумачыць сапраўды зьменаю стажу інвалідаў—больш правільна яго трэба лічыць вынікам недакладнасьцяй у паказаньнях. У кожным разе, відавочна, няма ніякіх прычын лічыць нашы даныя аб стажы выстарчальнай об'ектыўнай падставай для ацэнкі інвалідызацыі тых або іншых профэсіянальных груп. Калі-б стаж вызначаўся на падставе верагоднай дакумантыроўкі, дык большы стаж да надыходу інваліднасьці мог-бы сьведчыць аб больш спрыяючым стане профэсій у параўнаньні з другой профэсіяй, у якой інваліднасьць надыходзіць пасьля меншага стажу.

Калі ўстанаўленьне самога факту інваліднасьці і вызначэньне яе ступені выклікае, як мы бачым, рад сумненьняў пры вывучэньні інвалідызацыі якой-небудзь групы насельніцтва, дык аналіз прычын інваліднасьці, вывучэньне яе этыолёгіі ня менш цяжкія. Па-першае, хвароба, выяўленая пры экспэртызе інваліднасьці і зарэгістраваная, значыць, як прычына надышоўшай інваліднасьці, надта часта зьяўляецца ўжо вынікам іншага, больш асноўнага захвораньня або толькі ідзе побач з іншай хваробай, якая зьяўляецца сапраўднай прычынай. Па-другое, і гэта яшчэ больш важна, самая дыягностыка інваліднасьці яшчэ далёка не такая дасканалая, каб даваць об'ектыўны адказ на запытаньне аб пахаджэньні інваліднасьці. Можна было-б падаць вядомыя ўсім шматлікія прыклады зьмен дыягнозаў у аднаго і таго самага інваліда рознымі экспэртамі resp. установамі па экспэртызе; можна было-б спаслацца на таксама вядомыя ўсім трафарэты ў дыягностыцы інваліднасьці (эмфізэма, артэрыёсклероз, міокардыт); можна было-б яшчэ пералічыць усе недахопы ў сучаснай організацыі экспэртызы. Пытаньне, аднак, для нас і бяз гэтага яснае, і трэба проста адзначыць, што ўсякае, так званае вывучэньне этыолёгіі інваліднасьці ёсьць аналіз зарэгістраваных назваў хвароб, на падставе якіх той або іншы індывідуум атрымлівае права на пэнсію „па інваліднасьці". Сапраўдныя, об'ектыўна існуючыя ўзаемазалежнасьці паміж станам організму і яго працаздольнасьцю, паміж умовамі працы і культурна-экономічным становішчам і станам організму, паміж умовамі працы і працаздольнасьцю—гэткае вывучэньне выявіць, канечна, ня можна.

Аднак, паглыблены аналіз статыстыкі дыягнозаў інваліднасьці мае свой сэнс і значэньне, якія вызначаюцца роўнасьцю ўмоў і недахопаў, якімі характарызуецца экспэртыза інваліднасьці ўсіх профэсій. Іначай кажучы статыстыка прычын інваліднасьці можа даць матэрыял для параўнаўчай характарыстыкі прычын інваліднасьці паасобных профэсіянальных груп.

Гэтымі папярэднімі заўвагамі мы хочам перасьцерагчы ад няправільнага тлумачэньня нашых далейшых вывадаў, якія ня могуць прэтэндаваць на высьненьне об'ектыўных прычын інваліднасьці, як роўным чынам на гэта ня могуць прэтэндаваць аналёгічныя досьледы іншых аўтараў.

Пераходзячы да самага аналізу матэрыялу, мы лічым нялішнім адзначыць, што, у сувязі з няўпэўненасьцю ў складзе інвалідаў да 1926 г., у аснову аналізу намі ўзяты толькі даныя аб інвалідах, прайшоўшых экспэртызу за 1926 і 1927 г. Агульныя вывады аб прычынах інваліднасьці падаюцца ў наступнай табліцы:

**Разьмеркаваньне інвалідаў працы па дыягнозах (у %% да падагуленьня)**

Табліца 12

| Прычыны інваліднасьці па дыягнозу | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Хваробы эпідэмічныя, эндэмічн. і інфэкцыйныя | 14,9 | 17,7 | 23,4 | 26,7 |
| У тым ліку tbc | 13,6 | 16,4 | 21,4 | 24,4 |
| Рак і іншыя злаякасныя новаўтвар. | 1,2 | 1,3 | 0,8 | 2,3 |
| Агульн. расстройствы жыўленьня | 2,7 | 2,7 | 12,5 | 4,2 |
| Хваробы нэрвовай сыстэмы | 8,0 | 7,2 | 9,1 | 8,5 |
| „ органаў зроку | 2,5 | 2,2 | 2,5 | 1,1 |
| „ „ слыху | 0,1 | 0,3 | 0,4 | 0,4 |
| „ „ крывязвароту | 28,4 | 28,1 | 21,5 | 28,6 |
| „ „ дыханьня | 14,3 | 11,7 | 9,1 | 2,3 |
| „ „ траўленьня | 2,6 | 4,0 | 0,8 | 2,8 |
| „ „ мочаплоцьных | 0,8 | 1,2 | 3,6 | 5,5 |
| „ касьцей і органаў руху | 6,8 | 5,5 | 4,0 | 5,3 |
| Старэчая друзласьць | 14,5 | 14,4 | 10,2 | 8,9 |
| Траўмы | 0,3 | 0,4 | — | 0,2 |
| Атручаньні | 0,2 | — | — | — |
| Нявыразныя хваробы | 0,7 | 0,1 | 0,6 | 0,4 |
| Іншыя хваробы | 1,7 | 3,2 | 1,7 | 2,8 |

Гэта табліčка, выяўляючы звычайную нясталасьць прычын інваліднасьці, зарэгістраваных за паасобныя гады, пацьвярджвае вядомую розьніцу ў патолёгіі жанчын і мужчын. Розьніца гэта не патрабуе асобных комэнтараў, і мы можам перайсьці да тлумачэньня ўплыву ўзросту на прычыны інваліднасьці. Паасобныя захвораньні, як прычыны інваліднасьці ў розных узростных груп, характарызуюцца так: хваробы эпідэмічныя, эндэмічныя ды інфэкцыйныя, у тым ліку сухоты, найбольш пашыраны ў маладым і сярэднім узростах, адыгрываючы надта нязначную ролю ў інвалідызацыі старэйшага ўзросту. Такія стасункі ўласьцівы таксама і для нэрвовых хвароб. Роля хвароб органаў крывязвароту і дыханьня ў інвалідызацыі, наадварот, нарастае поруч з узростам. Не гаворачы пра злаякасныя новаўтварэньні, старэчую друзласьць, роля якіх у інвалідызацыі пэўных узростаў і без таго вядома, трэба адзначыць, што хваробы органаў траўленьня адыгрываюць, як відаць, найбольш істотную ролю ў інвалідызацыі сярэдніх

узростаў; агульнае-ж расстройства жыўленьня, хваробы абмену зьяўляюцца прычынай інвалідызацыі ў параўнаўча аднолькавай меры ў розных узростах.

Узростны фактар, як вядома, трэба ўлічваць і пры параўнаньні розных профэсіянальных груп, у даным выпадку ў стасунку прычын інваліднасьці. Мы не маглі ўжыць звычайны спосаб стандартызацыі ўзростаў, бо ў нас ня было паўзростных прычын інваліднасьці ў паасобных профэсіях, але выкарысталі стандартызацыю прычын інваліднасьці. Мэтод гэты заключаецца ў тым, што вылічаецца, якія былі-б прычыны інваліднасьці тэй або іншай профэсіянальнай групы, калі-б у паасобных узростах прычыны інваліднасьці гэтай групы разьмяшчаліся таксама, як ва ўсёй масе інвалідаў (стандарт). Параўнаньне з сапраўднымі прычынамі дае магчымасьць ацэнкі іх ролі ў інвалідызацыі профэсіянальнай групы. Для яснасьці падамо конкрэтны прыклад. Нам вядома, па-першае, што па ўсёй масе інвалідаў, прайшоўшых экспэртызу ў 1926 г., сухоты лёгкіх і органаў дыханьня былі прычынаю інваліднасьці ў мужчын ва ўзросьце да 19 год у 43,8 проц. (з 100 інвалідаў у гэтым узросьце 43,8 сталі інвалідамі па хваробе лёгкіх і органаў руху), ва ўзросьце 20—24 г.— 27,2 проц., у 25—29 г.—46,1 проц., у 30—34 г.—32,2 проц., у 35—39 г.— 26,6 проц., у 40—44 г.—29,3 проц., у 45—49 г.—23,6 проц., у 50—54 г.— 15,8 проц., у 55—59 г.—4,1 проц., у 60—64 г.—3,9 проц., 65—69 г.— 1,04 проц., у 70—74 г.—3 проц. Па-другое, нам вядома, што інваліды сьлесары, прайшоўшыя экспэртызу ў 1926 г., праводле ўзросту падзяляюцца так: да 19 г.—4,5 проц., 25—29 г.—9,1 проц., 35—39 г.— 45,5 проц., 40—44 г.—4,5 проц., 45—49 г.—13,6 проц., 50—54 г.— 4,5 проц., 60—64 г.—13,6 проц., 65—69 г.—4,5 проц.

На падставе гэтых даных лёгка вылічыць, колькі было-б сухотных з 100 інвалідаў сьлесароў, калі-б у кожным узросьце яны захворвалі на сухоты ў такім-жа разьмеры, як і ўся маса інвалідаў, а менавіта:

$$\frac{43{,}8 \cdot 4{,}5}{100} + \frac{46{,}1 \cdot 9{,}1}{100} + \frac{26{,}6 \cdot 45{,}5}{100} + \frac{29{,}3 \cdot 4{,}5}{100} + \frac{23{,}6 \cdot 13{,}6}{100} + \frac{15{,}8 \cdot 4{,}5}{100} +$$

$$+ \frac{3{,}9 \cdot 13{,}6}{100} + \frac{1{,}04 \cdot 4{,}5}{100} = (1{,}97 + 4{,}19 + 12{,}10 + 1{,}32 + 3{,}21 + 0{,}71 + 0{,}53 +$$

$$+ 0{,}05) = 24{,}07.$$

У сапраўднасьці з 100 сьлесароў у 1926 г. сухотных было 26,1. Мы можам, такім чынам, зрабіць вывад, што сьлесароў, хворых на сухоты, сярод інвалідаў больш, чым сярод іншых профэсій, і больш, чым гэта адпавядае іх узроснаму складу.

Мы можам цяпер перайсьці да характарыстыкі паасобных профэсіянальных груп паводле прычын іх інваліднасьці. Адсылаючы за дакладнымі данымі да асноўных табліц, мы тут абмяжуемся толькі складаньнем скарочанай зводкі, на падставе якой мы будзем мець магчымасьць зрабіць вывады аб параўнаўчым значэньні некаторых прычын інваліднасьці, маючых профэсіянальна-патолёгічнае значэньне

## Мужчыны

Табліца 13

| Група профэсій (кл. ЦСК) | Сухоты лёгкіх і орг. дых. | | | | Хвар. нэрвовай сыстэмы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст.[1] | Ф.[2] | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 9,36 | 4,9 | 12,13 | 14,6 | 5,65 | 2,7 | 5,56 | 2,1 |
| Кавалі | 13,37 | — | 23.72 | 7,7 | 8,61 | 6,7 | 11,14 | 7,7 |
| Сьлесары | 24,07 | 26,1 | 23,78 | 22,2 | 16,23 | 34,8 | 7,42 | 5,6 |
| Варштатнікі | 9,28 | 28,6 | 22,85 | 28,6 | 5,75 | — | 9,33 | 7,1 |
| Інш. мэталістыя | 15,46 | 20,0 | 18,21 | — | 11,09 | 6,7 | 5,78 | — |
| Сталяры | 14,37 | 21,3 | 13,56 | 6,5 | 6,77 | 2,1 | 7,12 | 13,0 |
| Інш. дрэваапрац. | 10,09 | 8,7 | 18,21 | 25,0 | 7,68 | — | 7,39 | — |
| Папернікі | 14,29 | 17,2 | 14,39 | 20,0 | 0,69 | 3,4 | 8,81 | 10,0 |
| Наборшчыкі | 24,61 | 14,3 | 21,73 | 12,5 | 11,21 | 14,3 | 8,68 | 12,5 |
| Інш. друкары | 23,46 | 28,6 | 15,54 | 7,1 | 19,9 | 14,3 | 9,36 | 7,1 |
| Інш. тэкстыльшч. | 21,4 | 20,0 | — | — | 14,34 | — | — | — |
| Краўцы | 19,91 | 18,2 | 33,61 | 45,0 | 20,02 | 4,5 | 11,26 | — |
| Шаўцы | 22,03 | 29,7 | 32,29 | 37,5 | 11,46 | 2,7 | 13,4 | 4,2 |
| Пекары і булач. | 24,15 | 35,7 | 24,89 | 31,3 | 14,28 | — | 12,41 | — |
| Млынары | 8,91 | 16,7 | 6,63 | 4,2 | 5,31 | 11,1 | 4,87 | 4,2 |
| Інш. хэмікі | 10,6 | 7,7 | 18,57 | 20,0 | 5,5 | 7,7 | 6,53 | — |
| Шкловыдувальнікі | 15,93 | 22,7 | 22,56 | 18,8 | 8,08 | 4,5 | 11,22 | 18,8 |
| Каменшчыкі | 18,32 | — | 21,41 | 29,4 | 11,51 | 5,9 | 10,53 | 5,9 |
| Маляры | 20,67 | 47,1 | 20,46 | 20,0 | 10,95 | 5,9 | 10,24 | 20,0 |
| Цесьляры | 7,63 | 4,6 | 13,23 | 9,8 | 4,61 | 3,1 | 4,99 | 2,0 |
| Інш. будаўнікі | 7,25 | 5,0 | 9,36 | 9,7 | 5,00 | — | 4,53 | 9,7 |
| Рамізьнікі | 13,26 | 15,4 | 13,88 | 22,7 | 6,79 | 7,7 | 6,27 | 9,1 |
| Грузч. і насільшч. | 18,34 | 18,2 | 27,6 | 21,7 | 11,15 | 13,6 | 14,67 | 4,3 |
| Чорнарабочыя | 15,56 | 11,4 | 21,25 | 18,6 | 8,51 | 10,9 | 8,00 | 9,3 |
| Тэх. пэрсонал | 13,69 | 11,5 | 15,11 | 13,6 | 9,86 | 23,1 | 7,56 | 10,3 |
| Прадаўцы (прыказч.) | 14,96 | 14,3 | 17,95 | 14,8 | 8,17 | 8,2 | 7,67 | 11,1 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 11,74 | 13,9 | 12,09 | 11,3 | 7,26 | 11,4 | 6,82 | 8,6 |
| Інш. справод. пэрсонал | 13,41 | 18,3 | 19,26 | 21,6 | 7,89 | 10,8 | 7,97 | 7,2 |
| Інш. мэд.-сан. пэрсонал. | 9,21 | 9,1 | 20,17 | 17,6 | 5,41 | 18,2 | 9,65 | 11,8 |
| Настаўнікі І і ІІ ступені | 17,24 | 31,3 | 25,84 | 31,8 | 10,81 | 12,5 | 7,38 | — |
| Паштальёны | 17,73 | 35,7 | 21,42 | 28,6 | 8,99 | 7,1 | 5,89 | 14,3 |
| Інш. раб. сувязі | 11,38 | 5,7 | 10,22 | 8,1 | 7,43 | 14,3 | 5,16 | 13,5 |
| Раб. харчав. і інтэрнатаў | 9,36 | 7,1 | 14,68 | 18,8 | 6,74 | 7,1 | 2,94 | 9,4 |
| Міліцыянэры | 25,25 | 21,4 | 41,21 | 50,0 | 13,6 | 14,3 | 13,72 | 33,3 |
| Інш. раб. аховы | 11,41 | 6,6 | 9,21 | 9,3 | 7,08 | 2,8 | 5,36 | 2,3 |
| Інш. служачыя | 13,12 | 18,2 | 13.89 | 11,8 | 7,76 | 9,1 | 7,26 | 11,8 |

[1] Ст.—стандартызованыя лічбы. [2] Ф.—фактычныя лічбы.

Табліца 13 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хваробы органаў зроку | | | | Хваробы орг. крывязвароту | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабоч. . . | 2,14 | 3,1 | 1,74 | 2,1 | 33,46 | 30.5 | 31,23 | 22,2 |
| Кавалі . . . . . . . . . | 2,6 | 6.7 | 1,73 | — | 31,69 | 40.0 | 21,22 | 30,8 |
| Сьлесары . . . . . . . | 3,32 | — | 1,67 | — | 17,5 | 8,7 | 22,77 | 16,7 |
| Варштатнікі . . . . . . | 1,38 | — | 1,45 | — | 28,8 | — | 22,97 | 35,5 |
| Інш. мэталістыя . . . . | 2,9 | — | 1,28 | — | 25,13 | 20,0 | 27,15 | 37,7 |
| Сталяры . . . . . . . . | 2.88 | 2,1 | 2,03 | 2,3 | 30,07 | 27,7 | 27,12 | 13,0 |
| Інш. дрэваапрац. . . . . | 2,82 | 4,3 | 1,69 | — | 31,34 | 47,8 | 23,47 | 21,9 |
| Паперпікі . . . . . . . | 2,95 | 3,4 | 2,3 | — | 24,75 | 10,3 | 31,07 | 50,0 |
| Наборшчыкі . . . . . . | 3,01 | — | 3.93 | — | 21,52 | 25,6 | 24,57 | 37,5 |
| Інш. друкары . . . . . | 5,00 | — | 3.02 | 7,1 | 17,5 | 28,6 | 27,24 | 28,6 |
| нш. тэкстыльшч. . . . | 3,64 | 20,0 | — | — | 22,42 | 40,0 | — | — |
| Краўцы . . . . . . . . | 1,86 | — | 1,99 | — | 21,07 | 13,6 | 11,2 | 15,0 |
| Шаўцы . . . . . . . . | 3,25 | — | 2,51 | 4,2 | 20,43 | 13,5 | 11,13 | 8,3 |
| Пекары і булач. . . . . | 3,23 | 14,3 | 2,66 | — | 16,84 | 28,6 | 15,23 | 6,3 |
| Млынары . . . . . . . | 2,17 | — | 2,35 | — | 35,05 | 16.7 | 39,29 | 33,3 |
| Інш. хэмікі . . . . . . | 2,36 | 7,7 | 2,26 | 6,7 | 33,16 | 22,1 | 24,42 | 26,7 |
| Шкловыдувальнікі . . . | 2.86 | — | 1,92 | — | 26,91 | 18,2 | 19,93 | — |
| Каменшчыкі . . . . . . | 2,08 | — | 2,92 | 5.9 | 18,5 | 29.4 | 28,18 | 11.8 |
| Маляры . . . . . . . . | 3,06 | 5,9 | 0,15 | — | 23,67 | 17,6 | 28,21 | 20,0 |
| Цесьляры . . . . . . . | 1,85 | 1,5 | 1,75 | — | 32,81 | 29,2 | 30,05 | 27,5 |
| Інш. будаўнікі . . . . . | 1,75 | 5,0 | 1,2 | — | 32,94 | 50,0 | 28,91 | 25.8 |
| Рамізьнікі . . . . . . | 1,06 | — | 1,96 | — | 24,65 | 48,5 | 29,34 | 40,9 |
| Грузч. і насільшч. . . . | 3,01 | 4,5 | 2,6 | 17,4 | 20,65 | 36,4 | 18,48 | 21,3 |
| Чорнарабочыя . . . . . | 2,49 | 2,3 | 2,21 | 3,6 | 26,44 | 25,1 | 24,33 | 19,6 |
| Тэх. пэрсонал . . . . . | 3,07 | — | 2,17 | — | 30,44 | 38,5 | 28.38 | 20.7 |
| Прадаўцы (прыказч.) . . | 3,32 | 2,0 | 2,17 | 1,9 | 26,62 | 16,3 | 26.37 | 33,3 |
| Улік.-контр. пэрсонал . | 2,58 | 3,8 | 2,23 | 2,6 | 29,57 | 32,9 | 32,4 | 42,4 |
| Інш. справавод. пэрсонал | 2,85 | 3.2 | 2.14 | 3.1 | 29,52 | 37,6 | 27,44 | 39,2 |
| Інш. мэд.-сан. пэрсонал. | 2,17 | 4.5 | 2,6 | — | 32,78 | 27,3 | 23,22 | 17,6 |
| Настаўнікі I і II ступені . | 3,14 | — | 1,69 | — | 23,69 | 31,3 | 18.23 | 27.3 |
| Паштальёны . . . . . | 2,46 | — | 3,02 | — | 22,79 | 28,6 | 30,18 | 57,6 |
| Інш. раб. сувязі . . . . | 2,52 | 2,9 | 2,25 | — | 30,31 | 34.3 | 37,7 | 35,1 |
| Раб. харчав. і інтэрнатаў | 2,05 | 4.8 | 2,61 | — | 31,52 | 31.4 | 27,04 | 21.9 |
| Міліцыянэры . . . . . . | 3,75 | — | 2,45 | — | 17,66 | 21,4 | 5.91 | — |
| Інш. раб. аховы . . . . | 1,98 | — | 1,91 | — | 27.52 | 34,0 | 34,55 | 44.2 |
| Інш. служачыя . . . . . | 2,67 | 6,1 | 2,3 | 5,9 | 31,46 | 33,3 | 28,60 | 35,3 |

Табліца 13 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хвароби орг. дыханьня | | | | Хвар. орган. отраўленьня | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 16.45 | 21,5 | 11,74 | 13,2 | 2,5 | 1,8 | 3,34 | 4,9 |
| Кавалі | 15,8 | 20.0 | 14,38 | 15,4 | 2,6 | — | 5,47 | 7,7 |
| Сьлесары | 9,33 | 4,3 | 9,5 | 22,2 | 2.65 | — | 4,21 | — |
| Варштатнікі | 13,9 | 14,3 | 10,89 | — | 2,31 | 14,3 | 4,00 | 7,1 |
| Інш. мэталістыя | 11,37 | 26,7 | 10,81 | 37.5 | 2,97 | — | 3,81 | 12,5 |
| Сталяры | 14,45 | 12,8 | 10,92 | 13,0 | 2,42 | 2,1 | 3,86 | 3,2 |
| Інш. дрэваапрац. | 15,3 | 8,7 | 12.01 | 15,6 | 2.94 | 4,3 | 4,71 | 3,1 |
| Папернікі | 12,97 | 27,6 | 15,55 | 20,0 | 1.82 | 3,4 | 5,35 | — |
| Наборшчыкі | 8,03 | — | 12,66 | — | 3,98 | — | 2,71 | — |
| Інш. друкары | 7,15 | — | 11,92 | 14,3 | 2,00 | — | 3,96 | — |
| Інш. тэкстыльшч. | 13,08 | 20 | — | — | 2,94 | — | — | — |
| Краўцы | 12,42 | 22,7 | 10.63 | 10,0 | 2,18 | — | 4,94 | — |
| Шаўцы | 12,93 | 18,4 | 5,84 | 12,5 | 3,91 | 2,7 | 4,41 | 4,2 |
| Пекары і булач. | 11,2 | 7,1 | 8,84 | 18,8 | 3,3 | 7,1 | 5,73 | 12,5 |
| Млынары | 17,72 | 38,7 | 14,11 | 25,0 | 2,28 | — | 3,31 | — |
| Інш. хэмікі | 14.6 | 23,1 | 7,34 | 6,7 | 2,78 | 7,7 | 3,5 | 6,7 |
| Шкловыдувальнікі | 14,31 | 31,8 | 10,6 | 43,8 | 3,25 | — | 3,26 | — |
| Каменшчыкі | 10,35 | — | 10,49 | 5,9 | 2,08 | — | 3,65 | — |
| Маляры | 11.51 | — | 11.29 | — | 2,98 | — | 3,44 | — |
| Цесьляры | 15,78 | 21,5 | 10,03 | 7,8 | 2,35 | 1,5 | 3,02 | 2,0 |
| Інщ. будаўнікі | 15,18 | — | 12,75 | 6,5 | 2,21 | 5,0 | 3,46 | 3,2 |
| Рамізьнікі | 9,41 | 15,4 | 11,19 | 4,5 | 2,2 | — | 4,31 | — |
| Грузч. і насільшч. | 13,08 | 4,5 | 9,39 | 13,0 | 4,24 | 9,1 | 4,56 | 8,7 |
| Чорнарабочыя | 14,49 | 11,4 | 10,08 | 13,9 | 2,56 | 4,0 | 3,71 | 6,7 |
| Тэх. пэрсонал | 17,33 | 11,5 | 12,31 | 6,9 | 2,68 | 3,8 | 4,23 | 5,2 |
| Прадаўцы (прыказч.) | 14,29 | 14,3 | 9,79 | 7,4 | 2,85 | 4,1 | 4,15 | 5,6 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 17,02 | 11,4 | 13,21 | 6,0 | 2,51 | 2,5 | 3,79 | 3,3 |
| Інш. справавод. пэрсонал | 14,54 | 7,5 | 12,2 | 7,2 | 2,56 | 1,1 | 4,54 | 2,1 |
| Інш. мэд.-сан. пэрсонал. | 16,26 | 13,6 | 11,8 | 17,6 | 2,84 | — | 5,19 | 5,9 |
| Настаўнікі I і II ступені | 12,62 | 6,3 | 7,17 | 4,5 | 3,36 | — | 3,85 | 4,5 |
| Паштальёны | 16,24 | 7,1 | 13,11 | — | 3,32 | — | 3,93 | — |
| Інш. раб. сувязі | 15,45 | 17,1 | 15,79 | 13,5 | 2,68 | — | 3,96 | 8,1 |
| Раб. харчав. і інтэрнатаў | 15,35 | 14,3 | 12,23 | 25.0 | 2,58 | 4,8 | 4,28 | 6,3 |
| Міліцыянэры | 6,97 | — | 4,55 | — | 2,29 | — | 5,85 | — |
| Інш. раб. аховы | 12,15 | 14,2 | 12,57 | 9,3 | 2,28 | 1,9 | 3,55 | 2,3 |
| Інш. служачыя | 14,47 | 3,0 | 13,69 | 11,8 | 3,13 | 6,1 | 4,51 | — |

Табліца 13 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хваробы касьцей і органаў руху | | | | Траўмы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 4,88 | 8.1 | 4,33 | 5,6 | 0,19 | 0.4 | 0,33 | — |
| Кавалі | 6,35 | — | 6,48 | 7,7 | 0,36 | — | 0,5 | — |
| Сьлесары | 12,42 | 8,7 | 6,96 | 16,7 | 0,27 | — | 0,6 | — |
| Варштатнікі | 5,48 | — | 6,79 | — | 0,23 | — | 0,55 | — |
| Інш. мэталістыя | 8,53 | 6.7 | 4,98 | — | 0,46 | — | 0,85 | — |
| Сталяры | 7,08 | 2,1 | 5,22 | 10.9 | 0,25 | — | 0,3 | — |
| Інш. дрэваапрац. | 5,85 | 4,3 | 5,8 | — | 0,25 | — | 0,59 | — |
| Папернікі | 9,22 | 3,4 | 5,00 | — | 0,49 | — | — | — |
| Наборшчыкі | 8.98 | — | 5,9 | — | 0,55 | — | 0,62 | — |
| Іншыя друкары | 13,05 | — | 5,97 | 7,1 | 0,56 | — | 0,19 | — |
| Іншыя тэкстыльшчыкі | 9,92 | — | — | — | 0,22 | — | — | — |
| Краўцы | 10,58 | 9,1 | 9,86 | 20,0 | 0,7 | — | 0,96 | — |
| Шаўцы | 10,19 | 10,8 | 11,26 | 4,2 | 0.45 | — | 0,66 | — |
| Пекары і булачнікі | 11,69 | 7,1 | 8,61 | 12,5 | 0,54 | — | 0,58 | — |
| Млынары | 3.08 | — | 4,04 | 4,2 | 0,2 | — | 0,11 | — |
| Іншыя хэмікі | 7,61 | — | 6,01 | 6,7 | 0,21 | — | 0,69 | — |
| Шкловыдувальнікі | 7,4 | 9,1 | 8,28 | — | 0,24 | — | 0,19 | — |
| Каменшчыкі | 8.93 | 23,5 | 6,59 | 17,6 | 0,24 | — | 0,47 | — |
| Маляры | 9,53 | 5,9 | 8,39 | — | 0,54 | 5,9 | — | — |
| Цесьляры | 4.11 | 7,7 | 4,42 | 9,8 | 0.26 | — | 0,39 | |
| Іншыя будаўнікі | 3,86 | 10,0 | 4,18 | 6,5 | 0,21 | — | 0.09 | |
| Рамізьнікі | 6,65 | — | 5,34 | — | 0,48 | — | 0,35 | — |
| Грузчыкі і насільшч. | 9,84 | — | 7.71 | — | 0,36 | 4,5 | 0,5 | |
| Чорнарабочыя | 7,09 | 10,3 | 6,81 | 9,8 | 0,33 | 0,6 | 0,52 | 1,0 |
| Тэхнічны пэрсонал | 5.78 | — | 6,91 | 5,2 | 0,15 | — | 0,39 | — |
| Прадаўцы (прыказ.) | 8,11 | 6,1 | 6,04 | 3,7 | 0,27 | — | 0,59 | 1,9 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 6,15 | 5,1 | 4,58 | 2,0 | 0,31 | — | 0.23 | 0,7 |
| Інш. справавод. пэрсон. | 6,55 | 5,4 | 5,64 | 2,1 | 0.36 | — | 0,54 | 1.0 |
| Інш. мэд.-сан. пэрсонал | 5,26 | 4,5 | 6,52 | — | 0,28 | — | 0,47 | — |
| Настаўнікі І і ІІ ступені | 8,24 | — | 6,11 | — | 0,31 | — | 0,91 | — |
| Паштальёны | 9,28 | 7,1 | 4,51 | — | 0,53 | — | 0,71 | — |
| Інш. раб. сувязі | 4,8 | 5,7 | 3,59 | — | 0,13 | — | 0,21 | — |
| Работ. харч. і інтэрнат. | 5,34 | 7,1 | 5,26 | 3,1 | 0,22 | — | 0,23 | 3,1 |
| Міліцыянэры | 10,98 | 21,4 | 10.24 | 16,7 | 1,01 | 7,1 | 1,48 | — |
| Інш. работнікі аховы | 5.98 | 6,6 | 3,86 | 4,7 | 0.22 | — | 0,13 | — |
| Іншыя служачыя | 6.64 | 6,1 | 5,31 | — | 0,35 | — | 0,48 | — |

Табліца 13 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Старэчая друзласьць | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 17,59 | 20,2 | 21,72 | 25,7 |
| Кавалі | 11,22 | 26,7 | 1,61 | — |
| Сьлесары | 3,81 | 8,7 | 10,65 | 11,1 |
| Варштатнікі | 26,05 | 28,6 | 7,34 | — |
| Інш. мэталістыя | 12,79 | 6,7 | 18,37 | — |
| Сталяры | 12,5 | 14,9 | 20,54 | 21,7 |
| Інш. дрэваапрац. | 15,4 | 13,0 | 10,92 | 15,6 |
| Папернікі | 13,13 | 24,1 | 7,44 | 12,5 |
| Наборшчыкі | 4,93 | 14,3 | 6,41 | — |
| Іншыя друкары | 2,47 | — | 12,48 | 7,1 |
| Іншыя тэкстыльшчыкі | 2,48 | — | — | — |
| Краўцы | 10,64 | 13,6 | 1,72 | — |
| Шаўцы | 4,35 | 2,7 | 2,46 | — |
| Пекары і булачнікі | 3,83 | — | 8,35 | 12,5 |
| Млынары | 15,32 | 11,1 | 15,35 | 16,7 |
| Іншыя хэмікі | 13,34 | 15,4 | 19,12 | 13,3 |
| Шкловыдувальнікі | 9,92 | 9,1 | 6,23 | 6,3 |
| Каменшчыкі | 20,28 | 35,3 | 7,72 | 11,8 |
| Маляры | 6,2 | 11,8 | 5,9 | 20,0 |
| Цесьляры | 22,7 | 23,1 | 23,71 | 29,4 |
| Іншыя будаўнікі | 25,27 | 10,0 | 28,32 | 32,3 |
| Рамізьнікі | 25,59 | 15,4 | 17,93 | 22,7 |
| Грузчыкі і насільшч. | 7,1 | — | 4,3 | 4,3 |
| Чорнарабочыя | 11,15 | 15,4 | 11,6 | 11,3 |
| Тэхнічны пэрсонал | 10,72 | 11,5 | 15,38 | 25,9 |
| Прадаўцы (прык.) | 13,9 | 22,4 | 14,45 | 9,3 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 13,63 | 15,2 | 14,28 | 9,9 |
| Інш. справавод. пэрсонал | 11,07 | 6,5 | 9,56 | 1,0 |
| Інш. мэд.-сан. пэрсонал | 18,25 | 13,6 | 9,38 | 17,6 |
| Настаўнікі I і II ступені | 9,97 | 12,5 | 17,65 | 22,7 |
| Паштальёны | 9,25 | — | 5,08 | — |
| Інш. раб. сувязі | 13,74 | 5,7 | 11,89 | 13,5 |
| Работ. харч. і інтэрнат. | 20,31 | 23,8 | 16,1 | 6,3 |
| Міліцыянэры | 6,62 | — | — | — |
| Інш. работнікі аховы | 23,62 | 24,5 | 21,27 | 23,3 |
| Іншыя служачыя | 12,72 | 12,1 | 14,43 | 11,8 |

## Жанчыны

Табліца 14

| Група профэсій (кляс, ЦСК) | Сухоты лёгкіх і орг. дых. | | | | Хваробы нэрвовай сыстэмы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 10,01 | 11,1 | 22,28 | 29,4 | 4,93 | 5,6 | 10,52 | — |
| Папернікі | 23,54 | 10,5 | 30,39 | 10,0 | 9,84 | 10,5 | 10,38 | 10,0 |
| Іншыя тэкстыльшч. | 35,64 | 51,4 | 37,81 | 59,5 | 15,31 | 2,7 | 8,84 | — |
| Краўцы | 31,58 | 33,3 | — | — | 12,1 | — | — | — |
| Белашвейкі | — | — | 57,95 | 18,2 | — | — | 10,8 | 27,3 |
| Іншыя хэмікі | 31,37 | 43,3 | 33,15 | 31,8 | 13,11 | 6,7 | 8,51 | 9,1 |
| Чорнарабочыя | 19,15 | 12,9 | 29,99 | 24,0 | 9,64 | 16,1 | 8,55 | 8,0 |
| Прадаўцы | — | — | 25,52 | 21,4 | — | — | 10,53 | 21,4 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 26,11 | 20,0 | 35,36 | 44,4 | 9,55 | 10,0 | 9,11 | — |
| Машыніsткі | 42,02 | 60,0 | — | — | 16,22 | 20,0 | — | — |
| Інш. справ. пэрсонал | 31,85 | 26,3 | 26,29 | 33,3 | 14,39 | 21,1 | 9,96 | — |
| Інш. мэдпэрсонал | 19,07 | 32,3 | 36,79 | 36,4 | 12,28 | 16,1 | 10,92 | 15,2 |
| Настаўнікі I і II ступені | 23,01 | 21,1 | 31,8 | 36,7 | 10,17 | 17,5 | 8,68 | 16,7 |
| Прачкі | 11,04 | — | 25,15 | 10,0 | 5,08 | 6,3 | 7,96 | — |
| Хатнія работніцы | 15,03 | 11,2 | 15,05 | 10,5 | 6,25 | 2,6 | 5,66 | 7,3 |
| Інш. раб. харчав. | 18,12 | 13,7 | 23,23 | 16,0 | 7,83 | 3,9 | 7,79 | 20,0 |

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хваробы органаў зроку | | | | Хваробы органаў крывязвароту | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 1,29 | — | 1,25 | 5,9 | 27,43 | 36,1 | 28,01 | 41,2 |
| Папернікі | 1,49 | — | 0,56 | — | 20,04 | 15,8 | 22,74 | 10,0 |
| Іншыя тэкстыльшч. | 2,6 | 2,7 | 0,85 | — | 9,91 | 2,7 | 18,43 | 16,7 |
| Краўцы | 2,76 | — | — | — | 9,94 | 33,3 | — | — |
| Белашвейкі | — | — | 0,48 | — | — | -- | 14,16 | 27,3 |
| Іншыя хэмікі | 2,78 | — | 0,58 | — | 12,91 | 6,7 | 21,48 | 18,2 |
| Чорнарабочыя | 2,52 | — | 0,89 | — | 22,01 | 19,4 | 24,29 | 24,0 |
| Прадаўцы | — | — | 1,56 | — | — | — | 25,71 | 21,4 |
| Улік.-контр. пэрсонал | 2,33 | 10,0 | 0,87 | — | 23,81 | 20,0 | 20,04 | 22,2 |
| Машыніsткі | 3,4 | — | — | — | 10,78 | — | — | — |
| Інш. справ. пэрсонал | 4,82 | 10,5 | 0,87 | — | 15,44 | 5,3 | 20,6 | 41,7 |
| Інш. мэдпэрсонал | 3,85 | — | 1,49 | — | 16,03 | 9,7 | 18,25 | 27,3 |
| Настаўнікі I і II ступені | 2,69 | 1,8 | 0,94 | 3,3 | 21,03 | 22,8 | 24,33 | 20,0 |
| Прачкі | 1,62 | — | 1,2 | — | 27,66 | 31,3 | 28,95 | 30,0 |
| Хатнія работніцы | 2,07 | 3,4 | 1,06 | 0,8 | 24,56 | 31,9 | 36,14 | 35,5 |
| Інш. раб. харчав. | 2,2 | 3,9 | 1,07 | — | 23,32 | 25,5 | 31,76 | 30,0 |

Табліца 14 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хваробы органаў дыханьня | | | | Хваробы органаў траўленьня | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 10,35 | 11,1 | 2,42 | — | 0,36 | — | 3,09 | — |
| Паперніki | 8,61 | 5,3 | 3,46 | 20,0 | 0,2 | — | 3,49 | — |
| Іншыя тэкстыльшч. | 5,12 | 8,1 | 1,85 | — | 0,92 | 2,7 | 3,62 | 4,8 |
| Краўцы | 1,76 | — | — | — | 0,64 | — | — | — |
| Белашвейкі | — | — | 0,68 | — | — | — | 2,71 | 9,1 |
| Іншыя хэмікі | 5,12 | — | 2,07 | — | 1,2 | 3,3 | 3,56 | — |
| Чорнарабочыя | 11,71 | 19,4 | 1,86 | — | 0,67 | 3,2 | 2,38 | — |
| Прадаўцы | — | — | 2,53 | — | — | — | 2,56 | — |
| Улік.-контр. пэрсонал | 8,07 | 10,0 | 0,58 | — | 0,79 | — | 3,05 | — |
| Машыністкі | 2,3 | — | — | — | 1,28 | — | — | — |
| Інш. справ. пэрсонал. | 6,34 | — | 1,05 | — | 1,14 | — | 2,34 | — |
| Інш. мэдпэрсонал | 7,08 | 9,7 | 0,85 | — | 1,15 | 3,2 | 2,32 | 3,0 |
| Настаўнікі I і II ступені | 9,68 | 10,5 | 1,42 | — | 1,24 | — | 2,79 | — |
| Прачкі | 13,06 | 18,8 | 1,30 | — | 0,51 | — | 2,49 | — |
| Хатнія работніцы | 9,65 | 9,5 | 3,12 | 3,2 | 0,65 | — | 2,73 | 2,4 |
| Інш. раб. харчав. | 10,51 | 5,9 | 1,63 | 8,0 | 0,51 | — | 3,86 | 6,0 |

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Хваробы касьцей і органаў руху | | | | Траўмы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 5,01 | — | 3,86 | — | — | — | 0,2 | — |
| Паперніki | 6,21 | — | 4,36 | — | — | — | — | — |
| Іншыя тэкстыльшч. | 4,68 | 2,7 | 6,7 | 7,1 | — | — | 0,36 | — |
| Краўцы | 2,4 | — | — | — | — | — | — | — |
| Белашвейкі | — | — | 8,33 | — | — | — | 0,48 | — |
| Іншыя хэмікі | 3,26 | 3,3 | 6,62 | — | — | — | 0,23 | — |
| Чорнарабочыя | 3,59 | 6,5 | 6,02 | — | — | — | 0,36 | — |
| Прадаўцы | — | — | 3,48 | — | — | — | 0,12 | — |
| Улік.-контр. пэрсонал | 4,07 | — | 7,89 | — | — | — | 0,27 | — |
| Машыністкі | 3,72 | — | — | — | — | — | — | — |
| Інш. справ. пэрсонал. | 3,35 | — | 6,3 | — | — | — | 0,22 | — |
| Інш. мэдпэрсонал | 3,31 | 3,2 | 6,31 | 3,0 | — | — | 0,56 | — |
| Настаўнікі I і II ступені | 4,14 | 1,8 | 7,62 | 6,7 | — | — | 0;37 | — |
| Прачкі | 3,12 | 6,3 | 6,1 | 20,0 | — | — | 0,12 | — |
| Хатнія работніцы | 4,09 | 8,6 | 4,04 | 6,5 | — | — | 0,08 | 0,8 |
| Інш. раб. харчав. | 4,54 | 3,9 | 5,42 | 12,0 | — | — | 0,18 | — |

Табліца 14 (працяг)

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Старэчая друзласьць | | | | Хваробы мочаплоцьныя | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | | 1927 г. | | 1926 г | | 1927 г. | |
| | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. | Ст. | Ф. |
| Сельскагасп. рабочыя | 16,24 | 16,7 | 4,37 | — | 2,83 | — | 8,67 | 5,9 |
| Папернікі | 7,76 | 10,5 | 0,89 | — | 4,43 | 10,5 | 7,32 | 30,0 |
| Іншыя тэкстыльшч | 2,35 | 2,7 | 0,61 | — | 5,78 | 8,1 | 5,42 | 2,4 |
| Краўцы | — | — | — | — | 3,6 | — | — | — |
| Белашвейкі | — | — | — | — | — | — | 4,52 | 18,2 |
| Іншыя хэмікі | 4,11 | 20,0 | 1,45 | 4,5 | 3,69 | — | 6,64 | 9,1 |
| Чорнарабочыя | 8,03 | 9,7 | 3,37 | — | 3,65 | — | 6,28 | 8,0 |
| Прадаўцы | 4,4 | — | 8,34 | 7,1 | — | — | 6,91 | 7,1 |
| Улік.-контр. пэрсонал | — | — | — | — | 3,7 | 10,0 | 7,79 | 11,1 |
| Машыністкі | — | — | — | — | 5,6 | — | — | — |
| Інш. справ. пэрсонал | 1,41 | — | 4,96 | — | 4,46 | 5,3 | 6,12 | — |
| Інш. мэдпэрсонал | 5,79 | 6,5 | 0,67 | 3,0 | 4,09 | 3,2 | 5,43 | — |
| Настаўнікі I і II ступені | 6,71 | 3,5 | 4,75 | 10,0 | 3,86 | 3,5 | 4,39 | 3,3 |
| Прачкі | 15,78 | 6,3 | 4,62 | — | 3,23 | — | 7,51 | 20,0 |
| Хатнія работніцы | 18,46 | 15,5 | 2,06 | 20,2 | 3,74 | 1,7 | 3,89 | 3,2 |
| Інш. раб. харчав. | 9,48 | 15,7 | 9,96 | — | 3,54 | 7,8 | 5,25 | 4,0 |

Пры ацэнцы даных, паданых у табліцах, трэба мець на ўвазе, што лік выпадкаў, якія ляглі ў аснову іх, далёка не заўсёды выстарчальны для таго, каб ацэнку гэту лічыць зусім верагоднай або канчатковай. Малым лікам нагляданьняў тлумачацца таксама і рэзкія хістаньні паказьнікаў па гадох, аднак няма сумненьня, што хістаньні ўласьцівы самой сутнасьці вывучанай зьявы. У гэтым сэнсе трэба прызнаць, што вывады, вынікаючыя з надта вялікага і невыстарчальна дыфэрэнцыяванага ліку нагляданьняў, у пэўнай меры нівэлююць, пакідаюць без выяўленьня сапраўдныя стасункі і ўзаемазалежнасьці. У кожным разе мы сваім вывадам надаем адноснае значэньне; трэба думаць, што яны выясьняюць толькі тэндэнцыі, не даючы колькаснай характарыстыкі паасобных прычын інваліднасьці.

Калі вызначыць на падставе нашых даных профэсіянальна-паталёгічнае значэньне паасобных прычын інвалідызацыі, дык будзем мець такія вынікі: сярод інвалідаў мужчын сухоты найбольш прыпадаюць на варштатнікаў, папернікаў, шаўцоў, пекароў і булачнікаў, рамізьнікаў, справаводчы пэрсонал, настаўнікаў I і II ступені, паштальёнаў; хваробы нэрвовай сыстэмы найбольш прыпадаюць на наборшчыкаў, рамізьнікаў, чорнарабочых, тэхнічны пэрсонал, прадаўцоў, уліково-контрольны пэрсонал, мэдычнасанітарны пэрсонал, работнікаў сувязі, міліцыянэраў; хваробы органаў зроку найбольш прыпадаюць на сельскагаспадарчых рабочых, хэмікаў, служачых; хваробы органаў звароту крыві найбольш прыпадаюць на кавалёў, наборшчыкаў, рамізьнікаў, грузчыкаў і насільшчыкаў, служачых, настаўнікаў I і II ступені; хваробы органаў дыханьня найбольш прыпадаюць на сельскагаспадарчых рабочых, папернікаў, кавалёў, шаўцоў, млынароў, шклодувальнікаў, мэталістых; хваробы органаў траўленьня найбольш прыпадаюць на варштатнікаў, пекароў і булачнікаў, хэмікаў, грузчыкаў і насільшчыкаў, чорнарабочых, тэхпэрсонал, прадаўцоў, работнікаў харчаваньня і інтэрнатаў; хваробы касьцей і органаў руху найбольш прыпадаюць на сельскагаспадарчых рабочых, каменшчыкаў, цесьляроў, іншых будаўнікоў, чорнарабочых, мінэральнікаў; траўмы найбольш прыпадаюць на грузчыкаў і насільшчыкаў.

Сярод жанчын-інвалідаў сухоты, як прычына інваліднасьці, асабліва прыпадаюць на тэкстыльшчыц, хваробы нэрвовай сыстэмы—на мэдычна-санітарны пэрсонал і настаўніц I і II ступені; хваробы органаў звароту крыві—на сельска-гаспадарчых работніц і прачак; хваробы органаў траўленьня—на тэкстыльшчыц і мэдычна-санітарны пэрсонал; хваробы касьцей і органаў руху—на прачак і хатніх работніц; хваробы мочаплоцьныя—на паперніц і ўліково-контрольны пэрсонал.

Асаблівай увагі заслугоўвае старэчая друзласьць, як прычына інваліднасьці. Яна найбольш пашырана сярод мужчын у сельскагаспадарчых рабочых, сталяроў, папернікаў, каменшчыкаў, маляроў, цесьляроў тэхнічнага пэрсоналу, настаўнікаў I і II ступені, іншых работнікаў аховы бясьпекі; сярод жанчын—у хэмікаў, мэдычнага пэрсоналу. Гэта трэба тлумачыць тым, што азначаныя профэсіі параўнаўча моцна і рана зношваюць арганізмы.

Нам застаецца асьвятліць пытаньне аб тым, якая з прычыны інваліднасьці дае найбольш цяжкую інвалідызацыю. З гэтай мэтай усе прычыны інваліднасьці за 1926 і 1927 г. разьмешчаны ў парадку

ўзрастаючага адноснага ліку інвалідаў III групы (чым меншы гэты лік, тым цяжэй інвалідызацыя).

Табліца 15

| | | За 1926 г. | % інвал. III групы | За 1927 г. | % інвал. III групы |
|---|---|---|---|---|---|
| Мужчыны | Прычыны больш цяжкай інвалідызацыі | Рак ды інш. злоякасныя новаўтварэньні | 0 | Рак ды інш. злоякасныя новаўтварэньні | 4,8 |
| | | Атручаньні | 0 | Іншыя хваробы | 20,9 |
| | | Іншыя хваробы | 3,8 | Старэчая друзласьць | 21,2 |
| | | Хваробы нэрвовай сыстэмы | 21,0 | Хваробы органаў зроку | 32,4 |
| | | Старэчая друзласьць | 21,5 | Інфэкцыйныя хваробы | 32,9 |
| | | Бугарчатка (сухоты лёгкіх) | 29,2 | Хваробы мочаплоцьныя | 33,3 |
| | | Нявыразныя хваробы | 36,4 | Траўмы | 33,3 |
| | | Хваробы моча-плоцьных орган. | 38,5 | Хваробы нэрвовай сыстэмы | 39,0 |
| | | Хваробы органаў зроку | 38,5 | | |
| | | **У сярэднім** | **39,9** | **У сярэднім** | **45,1** |
| | Прычыны менш цяжкай інвалід. | Траўмы | 40,0 | Нявыразныя хваробы | 50,0 |
| | | Хваробы орган. крывязвароту | 47,8 | Агул. расстр. жыўленьня | 54,8 |
| | | Хваробы органаў дыханьня | 50,2 | Хваробы орган. крывязвароту | 55,9 |
| | | Агул. расстр. жыўленьня | 54,8 | Хвар. органаў слуху | 60,0 |
| | | Хвар. касьцей і органаў руху | 59,0 | Хвар. органаў траўленьня | 61,3 |
| | | Хвар. органаў траўленьня | 68,3 | Хвар. касьцей і органаў руху | 62,8 |
| | | Хвар. органаў слуху | 100 | Хваробы органаў дыханьня | 67,3 |
| Жанчыны | Прычыны больш цяжкай інвалідыз. | Рак ды інш. злоякасныя новаўтварэньні | 0 | Іншыя хваробы | 15,3 |
| | | Хваробы органаў зроку | 23,1 | Рак ды інш. злоякасныя новаўтварэньні | 18,2 |
| | | Старэчая друзласьць | 29,6 | Хваробы органаў зроку | 20,0 |
| | | Нявыразныя хваробы | 33,3 | Старэчая друзласьць | 35,7 |
| | | Сухоты | 35,4 | Хваробы нэрвовай сыстэмы | 45,0 |
| | | Хваробы орган. крывязвароту | 44,7 | Нявыразныя хваробы | 50,0 |
| | | | | Інфэкцыйныя хваробы | 51,6 |
| | | **У сярэднім** | **46,9** | **У сярэднім** | **52,3** |
| | Прычыны менш цяжкай інвалід. | Хвар. органаў траўленьня | 50,0 | Хваробы орган. крывязвароту | 54,0 |
| | | Хваробы нэрвовай сыстэмы | 54,2 | Хваробы мочаплоцьныя | 57,7 |
| | | Іншыя хваробы | 55,6 | Хвар. касьцей і органаў руху | 68,0 |
| | | Хваробы мочаплоцьныя | 63,2 | Хвар. органаў траўленьня | 69,2 |
| | | Агул. расстр. жыўленьня | 71,2 | Агул. расстр. жыўленьня | 80,0 |
| | | Хвар. касьцей і органаў руху | 71,4 | Хвар. органаў дыханьня | 90,9 |
| | | Хвар. органаў слуху | 100 | Траўмы | 100 |
| | | | | Хвар. органаў слуху | 100 |

Гэтыя даныя не патрабуюць ніякіх тлумачэньняў. Відавочна, папершае, што адны і тыя самыя прычыны выклікаюць сярод мужчын больш цяжкую інваліднасьць, чым сярод жанчын; у рачаіснасьці, трэба думаць, жанчыны пераходзяць на пэнсію па інваліднасьці ў больш раньніх стадыях захвораньня, а мужчыны ці могуць, ці прымушаны працаваць на вытворчасьці да больш позных стадый хваробы. Па-другое, мы адзначаем, што ў 1927 г. агульная цяжкасьць інваліднасьці зьменшылася ў параўнаньні з 1926 г. (процант інвалідаў III групы павялічыўся). Ці залежыць гэта ад больш строгіх адносін органаў экспэртызы да вызначэньня групы інваліднасьці, ці сапраўды контынгент інвалідаў зьмяніўся— сказаць досыць цяжка, але няма сумненьня, што ў гэтым адбіваецца таксама цяжкасьць об'ектыўнага вызначэнь нявыступені інваліднасьці.

У цэлым гэтыя вывады пацьвярджаюцца і данымі за 1928 г., а вы ключэньні, што наглядаюцца, могуць тлумачыцца невялікай колькасьцю

нагляданьня. Даныя 1928 г. пацьвярджаюць таксама выяўленыя родавыя розьніцы ў прычынах інваліднасьці, а менавіта разьмеркаваньне інвалідаў, прайшоўшых экспэртызу ў 1928 г., наступнае (у проц).:

| | Муж. | Жан. |
|---|---|---|
| Сухоты | 12,8 | 21,2 |
| Рак ды інш. злаякасныя новаўтварэн. | 0,87 | 2,73 |
| Агульн. расстр. жыўленьня | 1,6 | 3,4 |
| Хваробы нэрвовай сыстэмы | 8,7 | 10,9 |
| „ органаў зроку | 2,46 | 3,87 |
| „ „ слуху | 0,25 | 0,23 |
| „ „ крывязвароту | 52,2 | 38,7 |
| „ „ дыханьня | 3,27 | 0,91 |
| „ „ траўленьня | 3,4 | 1,81 |
| „ „ мочаплоцьныя | 1,05 | 4,8 |
| „ „ касьцей і орг. руху | 4,56 | 3,62 |
| Старэчая друзласьць | 7,6 | 6,4 |
| Траўмы | 0,5 | 0,45 |
| Атручваньні | — | — |
| Нявыразныя | — | — |
| Іншыя | 0,55 | 0,91 |

Роўным чынам і ўплыў узросту на прычыны інваліднасьці, устаноўленыя намі на падставе даных за 1926 і 1927 г., пацьвярджаецца данымі за 1928 г. у тым сэнсе, што тыя ці іншыя прычыны найбольш уласьцівы для пэўных узростаў. Разам з гэтым пацьвярджаецца і крайняя нясталасьць прычын інваліднасьці, зарэгістраваных за паасобныя гады. Асабліва зьвяртаюць на сябе ўвагу ў паданай толькі што табліцы хваробы органаў крывязвароту, дыханьня, старэчая друзласьць. Напомнім, што ў 1926 і 1927 г. хваробы органаў крывязвароту складалі каля 28 проц. усіх прычын інваліднасьці, хваробы органаў дыханьня—у мужчын 11—14 проц., у жанчын 2—9 проц., старэчая друзласьць каля 14 проц. у мужчын і 9—10 проц. у жанчын; такім чынам, у 1928 г. спэцыфічная вага хвароб органаў крывязвароту сярод прычын інваліднасьці рэзка падвысілася, а адносная вага хвароб органаў дыханьня і старэчай друзласьці рэзка зьнізілася. Наўрад ці можна гэта тлумачыць сапраўднымі зьменамі ў фактычных стасунках і ўмовах інвалідызацыі; прыходзіцца прызнаць, што ўстаноўленая намі нясталасьць у прычынах інваліднасьці, відаць, ёсьць вынік самага характару і сыстэмы экспэртызы інваліднасьці, якая ня мае пакуль што выстарчальна об'ектыўных мэтодаў. Узростны склад інвалідаў і „тэмп нарастаньня інваліднасьці" (Вігдорчык) таксама далёка ня сталыя і зьмяняюцца з году ў год. Досыць параўнаць адпаведныя даныя за 1928 г. з данымі за 1926 і 1927 г., каб пераканацца, што зьмяняюцца ня толькі границы хістаньняў сярэдніх узростаў інвалідаў розных профэсіянальных груп, але што надта цяжка сьцьвярджаць што-небудзь пэўнае аб росьце інвалідызацыі якой-небудзь аднэй профэсіянальнай групы на падставе аналізу даных за цэлых тры гады. Такім чынам узьнікае патрэба крытычнай ацэнкі об'ектыўнага значэньня і коэфіцыентаў зношванасьці для характарыстыкі інвалідызацыі паасобных профэсіянальных груп.

Мы ўжо паказалі, як ад хістаньняў узростнага складу інвалідаў штогод зьмяняюцца выяўленыя паводле нашага мэтоду стандартныя прычыны інвалідызацыі, а, значыць, зьмяняецца фактычная роля прычын у інвалідызацыі паасобных профэсіянальных груп. На жаль, матэрыялы страхкас за 1928 г. у частцы прычын інваліднасьці распрацаваны

па скарочанай номэнклятуры профэсіі, і мы ня маем магчымасьці правесьці дэталёвае параўнаньне з данымі за 1926 і 1927 г., як гэта зроблена намі вышэй для гэтых двох гадоў. Бясспрэчна, што калі-б была такая магчымасьць, то вынік быў-бы той самы, г. зн. мы лішні раз маглі-б пераканацца ў нясталасьці прычын інваліднасьці, якія рэгіструюцца органамі экспэртызы. Даныя за 1928 г. аб разьмеркаваньні інвалідаў розных профэсій па прычынах інваліднасьці могуць служыць толькі для орыентоўкі ў гэтым пытаньні, як дадатковы матэрыял да аналёгічных даных за 1926 і 1927 г. Нарэшце, параўнаньне даных за 1928 г. аб разьмеркаваньні інвалідаў па групах з адпаведнымі данымі за 1926 і 1927 г. сьведчыць, што гэта разьмеркаваньне само па сабе ня можа служыць выстарчальна цьвёрдым апорным пунктам для вызначэньня цяжкасьці інвалідызацыі розных профэсіянальных груп, паколькі і яно далёка ня сталае і ня можа быць сталым, як намі ўжо ня раз зазначалася. Аднак адну характарную зьяву мы знаходзім нязьменна з году ў год: профэсіі „служачыя“ даюць ня меншы процант інвалідаў вышэйшых груп параўнаўча з рабочымі, як гэтага можна было чакаць паводле вытворча-бытавых умоў, а часта нават значна вышэйшы (асабліва справаводчы пэрсонал, мэдпэрсонал, работнікі асьветы ды інш.). Было-б бязумоўна памылкаю рабіць на гэтай падставе вывад аб сапраўды вялікай цяжкасьці інвалідызацыі сярод служачых, ня ўлічваючы характару працы органаў экспэртызы і самай прыроды сучасных мэтодаў экспэртызы, якія пакідаюць занадта многа магчымасьцяй для рознастайных суб‘ектыўных тлумачэньняў. Трэба таму мець на ўвазе магчымасьць розных самавольных тлумачэньняў, а мо‘ і злоўжываньняў. Для нас няма ніякага сумненьня, што сучасная сыстэма экспэртызы інваліднасьці па самай сваёй сутнасьці можа быць і, бязумоўна, часта бывае месцам выяўленьня клясавых уплываў, прыкладаньня клясавых сіл і вядзеньня ў сваяасаблівых формах клясавага змаганьня. Трэба таму ці прыняць усе захады ды таго, каб у існуючай сыстэме экспэртызы забясьпечыць цьвёрдае правядзеньне пролетарскай клясавай лініі і зьнішчыць усякі буржуазны ўплыў ці стварыць такую новую сыстэму экспэртызы, якая-б сама па сабе, па сваёй ідэі і організацыйнай структуры служыла інтарэсам пролетарыяту, якая-б не магла не праводзіць пролетарскай лініі, якая-б не магла ня служыць інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба зараз падагуліць вынікі нашага вывучэньня інвалідызацыі сярод застрахаваных БССР.

1. Тэорэтычна перад такім вывучэньнем можна ставіць 2 задачы: а) даныя аб інвалідызацыі выкарыстаць у якасьці соцыяльна-гігіенічных паказьнікаў паасобных профэсіянальных груп і б) аналізаваць характар самых інвалідаў. Матар‘ял, узяты ў аснову гэтай працы, дае надта абмежаваныя магчымасьці для разьвязваньня першай задачы. Паколькі гэта задача мае надзвычай вялікую навуковую і практычную цікавасьць, трэба прыняць меры да адхіленьня на будучы час дэфэктаў матар‘ялу, трэба значыць, наладзіць улік асоб, занятых наёмнай працай, з падзяленьнем па роду, узросту, дакладнай профэсіі. Няма сумненьня, што пры наяўнасьці магчымасьці вылічэньня стандартных паказьнікаў інвалідызацыі яны мелі-б значна большае значэньне для соцыяльна-гігіенічнай характарыстыкі паасобных груп насельніцтва ў параўнаньні з агульнымі паказьнікамі захворанасьці і

хваравітасьці, бо яны ўлічваюць працаздольнасьць. Аднак і стандартныя паказьнікі інвалідызацыі розных груп насельніцтва не пазбаўлены ад асноўнага недахопу ўсякіх іншых соцыяльна-гігіенічных паказьнікаў, выяўленых з матэрыялаў мэдычных устаноў, бо ў аснове гэтых матэрыялаў, у канчатковым выніку, ляжыць заключэньне ўрача, якое па самай сваёй прыродзе пры сучасным стане нашых ведаў вельмі мала об'ектыўнае.

2. Дыягностыка інваліднасьці залежыць ад суб'ектыўных уласьцівасьцяй экспэрта яшчэ больш, чым ад уласьцівасьцяй урача дыягностыка захвораньня. Дыягностыка інваліднасьці па сутнасьці ёсьць ня толькі вызначэньне захвораньня, колькі вызначэньне здольнасьці да працы пры тым ці іншы захвораньні, і ня столькі нават самае вызначэньне такой здольнасьці, колькі вымер яе. Цяпер мэдыцына ня ведае яшчэ такіх мэтодаў, якія б задавальнялі вымаганьні колькінебудзь дакладнай об'ектыўнасьці ў гэтай галіне. Вось чаму таксама і пры разьвязаньні другой задачы вывучэньня інваліднасьці (аналіз характару самых інвалідаў) мы сустракаемся з цяжкасьцямі, якія залежаць ад самой прыроды сучаснай сыстэмы інваліднай экспэртызы.

3. Рознастайныя паказьнікі інвалідызацыі—яе інтэнсыўнасьці (распаўсюджанасьці) і цяжкасьці (ступені), вызначаныя празнымі спосабамі, не супадаюць адзін з адным. Кожны з гэтых спосабаў мае свае недахопы, прычым найбольш правільным, сынтэтычным паказьнікам інвалідызацыі можна лічыць коэфіцыент знашванасьці паводле Вігдорчыка, аднак пры канечнай умове яго стандартызацыі ў адносіне ўзростаў (аналёгічна са стандартызацыяй захворанасьці, прычын сьмяротнасьці ды інш.).

4. Супастаўленьнем розных паказьнікаў можна выявіць, што інвалідызацыя найбольш распаўсюджана (інтэнсыўна) сярод краўцоў, гарбароў, харчавікоў і будаўнікоў, а найменш сярод работнікаў асьветы мэдработнікаў, работнікаў гігіены, харчаваньня і аховы бясьпекі і сельскагаспадарчых рабочых. Найбольш цяжкая інвалідызацыя (найбольш малады ўзрост надыходу інваліднасьці, найбольшы процант інвалідаў I і I групы) наглядаецца сярод мэдработнікаў, работнікаў асьветы, друкароў, краўцоў і гарбароў, а найменш цяжкая—сярод харчавікоў, улікова-контрольнага пэрсоналу, мінэральнікаў, сельскагаспадарчых рабочых.

5. Род і ўзрост маюць уплыў на інтэнсыўнасьць, цяжкасьць і прычыны інваліднасьці. У сапраўднасьці жанчыны інвалідызуюцца больш інтэнсыўна і больш цяжка, чым мужчыны, але паколькі жанчыны заняты наёмнай працай у больш маладых узростах, што ўвогуле дае меншую інтэнсыўнасьць інвалідызацыі, дык гэта стварае, што ўся маса жаночага працоўнага насельніцтва, калі ня ўлічваць узроснага іх складу, дае, як быццам, меншыя паказьнікі інвалідызацыі.

6. Сярод прычын інваліднасьці найбольшае значэньне маюць хваробы органаў крывязвароту, сухоты, сгарэчая друзласьць, хваробы органаў дыханьня, хваробы нэрвовай сыстэмы, хваробы касьцей і органаў руху, агульнае расстройства жыўленьня.

Гэтыя прычыны выяўляюць, канечна, звычайныя родавыя розьніцы, прычым адна і тая-ж прычына ў мужчын выклікае больш цяжкую інваліднасьць, чым у жанчын (найвышэйшую групу інваліднасьці), што залежыць, пэўна ад узроснага складу інвалідаў, як зазначана ў папярэднім пункце.

7. Што да ўплыву збоку ўзросту, дык пры параўнаньні паасобных профэсіянальных груп адносна ролі паасобных прычын інваліднасьці, мы раім выключыць яго мэтодам стандартызацыі прычын. Мэтод гэты зводзіцца да вылічэньня экстэнсыўных паказьнікаў прычын інваліднасьці па профэсіянальных групах, выходзячы з сярэдніх паўзростных паказьнікаў для ўсяе масы інвалідаў і з узростнага складу гэтых профэсіянальных груп. Параўноўваючы стандартныя паказьнікі прычын інваліднасьці з фактычнымі, мы выявілі, што паасобныя прычыны інваліднасьці ў некаторых профэсіях адыгрываюць больш або менш істотную ролю, чым гэта адпавядае ўзростнаму складу інвалідаў гэтых профэсій (вывады паданы раней, гл. стар. 264).

8. Усе зробленыя намі вывады адносна характарыстыкі інвалідызацыі паасобных профэсіянальных груп маюць адноснае і толькі орыентоўчае значэньне таму, што самая экспэртыза інваліднасьці, цяпер, як гэта ня раз падкрэсьлівалася, ня мае выстарчальна об'ектыўных мэтодаў і ня так добра організавана, каб забясьпечыць ад рознастайных уплываў. Довадам гэтага, між іншым, могуць быць штогодныя хістаньні ўсіх, без выключэньня, паказьнікаў інвалідызацыі адных і тых жа профэсій, залежнасьць гэтых паказьнікаў ад экономічных і культурных умоў, адрозьніваючых гэтыя профэсіі (беспрацоўе, зарплата), выяўленьне пэўных клясавых тэндэнцый у вызначэньні груп інваліднасьці па розных профэсіях. Фактычна мы маем такое становішча, што перавод у інваліды тае ці іншае групы вызначаецца не сапраўднай інвалідызацыяй, а складаным комплексам фактараў, прычым гэтыя фактары вельмі цяжка паддаюцца ўліку і часта мала зьвязаны з умовамі, якія ў рачаіснасьці павінны былі ўплываць на інвалідызацыю. Экспэртыза інваліднасьці, такім чынам, часта зьяўляецца не вызначэньнем і вымерам сапраўднай працаздольнасьці, але аформленьнем права на пэнсію, прычым скарыстаньне гэтага права па сутнасьці залежыць больш ад імкненьняў прэтэндэнтаў, чым ад об'ектыўна ўстаноўленых падстаў.

9. Усе паданыя вывады пацьвярджаюцца і агульнымі данымі аб інвалідах на 1/I 1929 г. (гл. табліцы). Уплыў роду і ўзросту выяўляецца перш за ўсё пры параўнаньні ўзростнага складу інвалідаў мужчын і жанчын. У той час як інваліды-жанчыны ва ўзросьце да 55 год складаюць каля 50 проц. усіх жанчын-інвалідаў, інваліды-мужчыны такога-ж узросту складаюць толькі каля 30 проц. Гэта тлумачыцца ўстаноўленымі намі, з аднаго боку, узростным складам працуючых па найму мужчын і жанчын, а з другога—розьніцай ў інтэнсыўнасьці інвалідызацыі абодвых родаў. Розьніца ў цяжкасьці інвалідызацыі таксама пацьвярджаецца: у складзе мужчын-інвалідаў процант III групы меншы (35,82 проц.), чым сярод жанчын (43,8 проц.). Нарэшце пацьвярджаецца і залежнасьць паміж узростам і групамі інваліднасьці: узростны склад інвалідаў III групы, а ў пэўнай меры таксама і II групы адбівае натуральна ўзростны склад насельніцтва, гэта значыць, што, пабач з узростам, павялічваецца, відаць і інвалідызацыя; узростны склад інвалідаў I групы сьведчыць, што ўплыў узросту на інвалідызацыю гэтай катэгорыі надта абмежаваны.

Што да профэсіянальнага складу ўсіх інвалідаў, дык ён ня ўносіць істотных зьмен у вывады, зробленыя ўжо на падставе распрацаванага ў тэксьце матэрыялу. Цікава падкрэсьліць, што рост інвалідаў мужчын

ідзе галоўным чынам, а за 1928 год выключна, па лініі росту ліку інвалідаў III гр., а жанчын—па лініі ўсіх груп. Гэта відаць з наступнай таблічкі:

Табліца 16

| | Мужчын | | | Жанчын | | | Усяго інвалідаў на 1/-I 1929 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926 | 1927 | 1928 | 1926 | 1927 | 1928 | Мужч. | Жанч. |
| Інваліды I групы | 91 | 115 | 117 | 20 | 19 | 37 | 639 | 152 |
| " II " | 594 | 678 | 678 | 176 | 165 | 208 | 3382 | 1093 |
| " III " | 379 | 554 | 833 | 185 | 207 | 280 | 2239 | 972 |
| **Разам** | **1064** | **1347** | **1628** | **381** | **391** | **525** | **6260** | **2217** |

Няма ніякіх падстаў думаць, што зьмяніліся ўмовы інвалідызацыі, або што яны зьмяніліся неаднолькава ў стасунку да мужчын і жанчын. Гэты факт, па нашай думцы, дае дадатковы довад, што дыягностыка інваліднасьці залежыць ня толькі ад характару самай інваліднасьці, але таксама і ад некаторых іншых варункаў (контроль страхкас ды інш.). Падобныя меркаваньні вынікаюць яшчэ з разьмеркаваньня па групах інвалідаў розных профэсій (клясавы падыход).

10. Падаем, нарэшце, сумарныя даныя аб профэсіянальных інвалідах. Усяго на 1/I-1929 г. па БССР налічвалася 509 мужчын і 30 жанчын профэсіянальных інвалідаў усіх 6 груп (у тым ліку 129 інвалідаў горнарабочых, атрымаўшых інваліднасьць, відавочна, па-за межамі БССР). Узрост 84 проц. профэсіянальных інвалідаў мужчын і 80 проц. жанчын не дасягае 50 год, г. зн. інвалідызацыя, выкліканая профэсіянальнымі захвораньнямі і профкалецтвамі адбываецца галоўным чынам умаладым узросьце. Для параўнаўчай характарыстыкі профэсіянальнай інвалідызацыі, паколькі гэта можна зрабіць на падставе нашага матар'ялу, мы падаем табліцу процантных стасункаў профэсіянальных інвалідаў першых 3 груп да інвалідаў па агульных прычынах тых жа груп. Мы констатуем перш за ўсё, што сярод мужчын значна больш профэсіянальных інвалідаў (4,4 проц.), чым сярод жанчын (0,94). Параўнаўча вялікая профэсіянальная інвалідызацыя наглядаецпа сярод работнікаў мясцовага транспорту (12,8 проц.), харчавікоў (10,1 проц.), чорнарабочых (9,7 проц.), мэталістых (10 проц.), древаапрацоўшчыкаў (8,4 проц.), сельскагаспадарчых рабочых (6,9 проц.), друкароў (6.6 проц.). На жаль, мы ня маем даных аб конкрэтных прычынах профэсіянальнай інваліднасьці, але паводле характару пералічаных профэсій галоўнай прычынай наяўных профэсіянальных інвалідаў зьяўляюцца траўмы (апроч друкароў, а мо' яшчэ мэталістых і харчавікоў).

Няма сумненьня, што вылічаныя намі стасункі хістаюцца па паасобных гадох, як хістаецца і агульны лік профэсіянальных інвалідаў. Мы таксама і гэта ставім у залежнасьць не ад зьмены ўмоў інвалідызацыі, а ад зьмены ўмоў дыягноставаньня профэсіянальнай інваліднасьці.

11. У заключэньне мы лічым патрэбным асабліва падкрэсьліць асноўны вывад, які, па нашай думцы, варта зрабіць са зробленага намі аналізу фактычнага матар'ялу аб застрахаваных інвалідах БССР. Сучасны стан нашых ведаў у галіне дыягностыкі інваліднасьці і існуючая організацыя экспэртызы ня могуць забясьпечыць набыцьцё выстарчальна верагоднага матар'ялу для соцыяльна-гігіенічнай ацэнкі інвалідызацыі. Цяпер фактычна адбываецца не выяўленьне сапраўдных інвалідаў, а залічэньне на пэнсію па інваліднасьці асоб, занятых наёмнай працай і актыўна прэтэндуючых на яе. Такім чынам у галіне страхаваньня інваліднасьці рашаючае значэньне мае не актыўная роля

органаў аховы здароўя і соцыяльнага страхаваньня, а фактычны ўплыў рознастайных варункаў (экономічных, культурных, бытавых, палітычных), што ідзе самацёкам. Натуральным практычным вывадам з гэтага павінна быць такая рэорганізацыя экспэртызы інваліднасьці, якая па-першае, забясьпечвала-б правядзеньне пролетарска-клясавай політыкі ў гэтай справе і, па-другое, абмежавала-б да мінімуму суб'ектыўнасьць дыягностычных ацэнак, якая вынікае з самай мэтодыкі сучаснай экспэртызы. Само сабой зразумела, што павінны быць перагледжаны ня толькі організацыйная форма экспэртызы і форма контролю над ёю, але яшчэ і ўнесены карэнныя зьмены ў самую мэтодыку экспэртнай работы. Тут немагчыма разьбіраць дакладна гэта пытаньне, якое складае тэму спэцыяльнай працы, мы можам толькі адзначыць сутнасьць тых зьмен, якія з нашага пункту погляду патрэбны. Гэта сутнасьць вынікае з абсолютнай немагчымасьці на падставе звычайнага клінічнага дасьледваньня або нават доўгага клінічнага нагляданьня рабіць заключэньні аб сапраўднай працаздольнасьці, а яшчэ менш аб ступені гэтай працаздольнасьці. Таму трэба экспэртызу інваліднасьці абгрунтаваць ня толькі клінічнымі данымі, але яшчэ і данымі аб вытворчай дзейнасьці тых, што падпадаюць пад дасьледваньне. Уключэньне гэтага моманту, з аднаго боку, уносіць патрэбную корэгуючую об'ектыўнасьць у дыягностыку, а з другога— стварае патрэбу такой організацыі, якая ўжо сама па сабе забясьпечвае адпаведную плянавасьць і магчымасьць актыўнага ўплыву на перавод у інваліды. Організацыю гэту можна ўявіць сабе ў такім выглядзе, што на кожнага застрахаванага наладжваецца на прадпрыемстве або ва ўстанове спэцыяльны ўлік продукцыйнасьці яго працы (там, дзе наладжана дыспансэрызацыя, гэты ўлік можна весьці ў санітарным журнале); за правільнасьцю наглядаюць як адміністрацыя, так і грамадзкія організацыі, страхавыя органы, органы аховы здароўя. Продукцыйнасьць працы, калі наглядаць за ёй на працягу доўгага пэрыоду, бязумоўна, будзе надта правільным, а мо' і лепшым паказьнікам стану організму, і ўсякі колькі-нібудзь прыкметны ўпадак яе будзе сьведчыць, што застрахаванага трэба ўзяць на экспэртызу. Такім спосабам і самацёк інвалідаў будзе даведзены да магчымага мінімуму.

Паўтараем, мы выказалі толькі агульную думку, якая павінна легчы ў аснову рэорганізацыі экспэртызы інваліднасьці. Гэта думка будзе намі распрацавана спэцыяльна і там будуць паданы як прынцыповае абгрунтаваньне, так і дэталёвыя організацыйныя паказаньні. Мы не сумняваемся, што організацыя экспэртызы павінна ісьці і магчыма толькі ў паказаным намі кірунку.

12. Нарэшце, мы падаем параўнаньне даных пра прычыны інваліднасьці, згодна матар'ялаў аб прайшоўшых бюро ўрачэбнай экспэртызы за 3 гады, са стандартамі, вылічанымі вышэйазначаным спосабам. З гэтага параўнаньня відаць, якія прычыны і сярод якіх профэсій заслугоўваюць асаблівай увагі сваім перавышэньнем стандартных велічынь. Так, сярод сельскагаспадарчых рабочых паказьнікі інваліднасьці, вышэйшыя за стандартныя, даюць наступныя прычыны: хронічны раматус, хваробы органаў зроку, хваробы органаў дыханьня кіла, хваробы касьцей і органаў руху, старэчая друзласьць.

Мы лічым, што няма патрэбы паўтараць вывады, вынікаючыя з адпаведнай табліцы, якая разам з усімі іншымі не патрабуе, нам здаецца, асобных тлумачэньняў.

## Зводная табліца складу інвалідаў працы, якія страцілі працаздольнасьць ад агульных прычын і старасьці.

(Па 3 групах) Табліца 17

| Групы па ўзросту | Інваліды, залічаныя на пэнсію органаў соцстрахаваньня | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | Разам Абс. | Разам %% |
| | **Мужчыны** | | | | | | | | | |
| Да 19 гадоў . . . | — | — | — | — | — | 1 | 3 | 7 | 11 | 0,2 |
| 20—24 „ . . . | — | — | — | 3 | 4 | 8 | 24 | 57 | 96 | 1,5 |
| 25—29 „ . . . | — | — | 2 | 6 | 25 | 29 | 53 | 91 | 206 | 3,3 |
| 30-34 „ . . . | — | 1 | 5 | 18 | 19 | 40 | 65 | 99 | 247 | 3,9 |
| 35—39 „ . . . | — | — | 8 | 15 | 31 | 45 | 91 | 86 | 276 | 4,4 |
| 40—44 „ . . . | — | — | 23 | 19 | 42 | 52 | 59 | 86 | 281 | 4,5 |
| 45—49 „ . . . | 1 | — | 24 | 32 | 35 | 54 | 82 | 104 | 332 | 5, |
| 50—54 „ . . . | 2 | — | 31 | 37 | 53 | 65 | 115 | 177 | 480 | 7,6 |
| 55—59 „ . . . | — | — | 45 | 64 | 88 | 153 | 200 | 270 | 820 | 13,1 |
| 60—64 „ . . . | 3 | 6 | 52 | 90 | 154 | 218 | 256 | 301 | 1080 | 17,2 |
| 65—69 „ . . . | 4 | 5 | 97 | 160 | 269 | 219 | 245 | 216 | 1215 | 19,4 |
| 70—74 „ . . . | 2 | 4 | 105 | 118 | 139 | 105 | 94 | 73 | 640 | 10,2 |
| 75—79 „ . . . | 2 | 1 | 79 | 66 | 88 | 47 | 35 | 37 | 355 | 5,7 |
| 80 і больш . . . | — | 2 | 50 | 55 | 37 | 27 | 23 | 18 | 212 | 3,5 |
| Узрост не паказаны . . . . . . | — | — | — | — | — | 1 | 2 | 6 | 9 | 0,1 |
| **Разам (абс).** . . | **14** | **19** | **521** | **683** | **884** | **1064** | **1347** | **1628** | **6260** | **100,0** |
| (%%) . . . | **0,2** | **0,3** | **8,3** | **10,9** | **15,7** | **17** | **21,6** | **26** | **100,0** | — |
| | **Жанчыны** | | | | | | | | | |
| Да 19 гадоў . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ . . . | — | 1 | 1 | 2 | 1 | 7 | 16 | 30 | 58 | 2,6 |
| 25—29 „ . . . | — | — | 4 | 12 | 16 | 38 | 51 | 56 | 177 | 8 |
| 30—34 „ . . . | — | — | 6 | 6 | 18 | 22 | 35 | 49 | 136 | 6,2 |
| 35—39 „ . . . | 1 | — | 9 | 9 | 23 | 30 | 30 | 37 | 139 | 6,3 |
| 40—44 „ . . . | — | — | 7 | 13 | 30 | 36 | 30 | 36 | 152 | 6,9 |
| 45—49 „ . . . | — | — | 18 | 9 | 20 | 35 | 42 | 55 | 179 | 8,1 |
| 50—54 „ . . . | — | — | 18 | 24 | 49 | 41 | 42 | 66 | 240 | 10,8 |
| 55—59 „ . . . | — | 4 | 19 | 38 | 70 | 45 | 49 | 62 | 287 | 12,9 |
| 60—64 „ . . . | — | 2 | 40 | 60 | 73 | 54 | 40 | 62 | 331 | 14,9 |
| 65—69 „ . . . | — | 8 | 41 | 40 | 52 | 42 | 23 | 42 | 248 | 11,2 |
| 70—74 „ . . . | — | 3 | 28 | 24 | 38 | 17 | 18 | 16 | 145 | 6,5 |
| 75—79 „ . . . | 1 | 1 | 10 | 10 | 12 | 8 | 11 | 7 | 60 | 2,7 |
| 80 і больш . . . | 1 | — | 13 | 14 | 20 | 6 | 4 | 7 | 65 | 2,9 |
| **Разам (абс).** . . | **3** | **19** | **214** | **261** | **422** | **381** | **391** | **525** | **2217** | **100.0** |
| (%%) . . . | **0.1** | **0,8** | **9,6** | **11,8** | **19,3** | **17,2** | **17.6** | **23.6** | **100,0** | — |

Доц. С. Р. ДЗІХЦЯР

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад агульных захвораньняў і старасьці, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.[1]

Табліца 18

| Група профэсій (кляс. ЦСК) | Разьмяркаваньне інвалідаў па групах інваліднасьці | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчыны | | | | | Жанчыны | | | | |
| | Група | | | Разам | Спэц. вага інс. паасоб. праф. | Група | | | Разам | Спэц. вага інс. паасоб. праф. |
| | I | II | III | | | I | II | III | | |
| **Рабочыя** | | | | | | | | | | |
| Работнікі сельск. гасп. | 28 | 302 | 559 | 589 | — | 6 | 4,2 | 46 | 94 | — |
| | 4,7 | 51,2 | 44,1 | 100 | 9,4 | 6,4 | 44,7 | 48,9 | 100 | 4,2 |
| Горнарабочыя | 1 | 22 | 35 | 58 | — | — | — | 1 | 1 | — |
| | 1,7 | 38,0 | 60,3 | 100 | 0,9 | — | — | 100 | 100 | 0,04 |
| Мэталістыя | 34 | 124 | 91 | 249 | — | — | 4 | 5 | 9 | — |
| | 13,6 | 49,8 | 36,6 | 100 | 3,9 | — | 44,5 | 55,5 | 100 | 0,4 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 25 | 194 | 115 | 334 | — | 3 | 7 | 7 | 17 | — |
| | 7,5 | 58,1 | 34,4 | 100 | 5,3 | 17,6 | 41,2 | 41,2 | 100 | 0,9 |
| Папернікі | 10 | 33 | 21 | 64 | 1 | 4 | 36 | 42 | 82 | — |
| | 15,6 | 51,5 | 32,9 | 100 | — | 4,9 | 43,9 | 51,2 | 100 | 3,6 |
| Друкары | 13 | 36 | 26 | 75 | — | 1 | 5 | 3 | 9 | — |
| | 17,3 | 48,1 | 34,6 | 100 | 1,2 | 11,1 | 55,6 | 33,3 | 100 | 0,4 |
| Тэкстыльшчыкі | 12 | 38 | 15 | 65 | — | 7 | 51 | 67 | 125 | — |
| | 18,4 | 58,5 | 23,1 | 100 | 1,1 | 5,6 | 40,8 | 53,6 | 100 | 5,6 |
| Швэйнікі | 27 | 65 | 40 | 132 | — | 3 | 23 | 10 | 36 | — |
| | 20,5 | 49,2 | 30,3 | 100 | 2,1 | 8,3 | 63,9 | 87,8 | 100 | 1.6 |
| Гарбары | 39 | 120 | 99 | 258 | — | 2 | 1 | 2 | 5 | — |
| | 15,1 | 46,5 | 38,4 | 100 | 4,1 | 40,0 | 20,0 | 40,0 | 100 | 0,2 |
| Харчавікі | 7 | 111 | 71 | 189 | 3 | 2 | 6 | 7 | 15 | — |
| | 3,7 | 58,7 | 37.6 | 100 | — | 13,4 | 40,0 | 46.6 | 100 | 0,7 |
| Тытуньнікі | 3 | 9 | 3 | 15 | 0,2 | 1 | 6 | 3 | 10 | — |
| | 20,0 | 60,0 | 20,0 | 100 | — | 10,0 | 60,0 | 30,0 | 100 | 0,5 |
| Хэмікі | 5 | 35 | 24 | 64 | 1 | 3 | 10 | 33 | 46 | — |
| | 7,8 | 54,6 | 37,6 | 100 | — | 6,5 | 21,7 | 71,8 | 100 | 2,1 |
| Шклопарцал. | 8 | 53 | 18 | 79 | — | — | 4 | 12 | 16 | — |
| | 10,1 | 67,1 | 22,8 | 100 | 1.4 | — | 25,0 | 75,0 | 100 | 0,8 |
| Раб. па апрац. мінэраляў | 2 | 22 | 10 | 34 | — | — | 1 | 3 | 4 | — |
| | 5,9 | 64,7 | 29,4 | 100 | 0,5 | — | 25,0 | 75,0 | 100 | 0,2 |
| Будаўнікі | 33 | 257 | 121 | 411 | — | — | 3 | — | 3 | — |
| | 8,1 | 62,5 | 29,4 | 100 | 6,5 | — | 100,0 | — | 100 | 0,1 |
| Чыгуначнікі | — | 7 | 2 | 9 | — | 1 | — | — | 1 | — |
| | — | 77,8 | 22,2 | 100 | 0,1 | 100,0 | — | — | 100 | 0,04 |
| Воднікі | 2 | 6 | 4 | 12 | — | — | 1 | — | 1 | — |
| | 16,6 | 55,0 | 33,4 | 100 | 0,2 | — | 100,0 | — | 100 | 0,04 |
| Мясцовы транспорт. | 17 | 73 | 59 | 149 | — | — | 1 | 2 | 3 | — |
| | 11,4 | 49,0 | 39,6 | 100 | 2,4 | — | 33,3 | 66,7 | 100 | 0,1 |
| Рабоч. сілав. усган. | 8 | 61 | 33 | 104 | — | 1 | 1 | 1 | 3 | — |
| | 7.7 | 58,6 | 33,7 | 100 | 1,7 | 33,3 | 33,3 | 33,4 | 100 | 0,1 |
| Чорнарабочыя падзён. | 51 | 350 | 229 | 630 | — | 4 | 88 | 78 | 170 | — |
| | 8,1 | 55,5 | 36,4 | 100 | 10,6 | 2,4 | 51,7 | 45,9 | 100 | 7,7 |
| Іншыя рабочыя | 3 | 20 | 8 | 31 | — | 1 | 5 | 2 | 8 | — |
| | 9,6 | 64,6 | 25,8 | 100 | 4,0 | 12,4 | 62,6 | 25,0 | 100 | 0,4 |

[1]) Першы радок ва ўсіх табліцах адзначае абсолютныя лічбы, другі проценты.

Таблiца 18 (працяг)

| Група профэсій (клясыф. ЦСК) | Разьмеркаваньне інвалідаў па групах інваліднасьці | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчыны | | | | | Жанчыны | | | | |
| | Група | | | Разам | Спэц. вага інв. паасоб. праф. | Група | | | Разам | Спэц. вага інв. паасоб. праф. |
| | I | II | III | | | I | II | III | | |
| **Служачыя** | | | | | | | | | | |
| Адміністрац. пэрсонал | 3 | 15 | 9 | 27 | — | — | 2 | — | 2 | — |
| | 11,1 | 55,5 | 33,4 | 100 | 0,4 | — | 100,0 | — | 100 | 0,09 |
| Тэхнічны пэрсонал | 17 | 84 | 82 | 183 | — | 1 | — | 1 | 2 | — |
| | 9,3 | 45,9 | 44,8 | 100 | 2,9 | 50,0 | — | 50,0 | 100 | 0,0 9 |
| Гасп.-разьмер. пэрсон. | 37 | 153 | 115 | 305 | — | 10 | 35 | 39 | 84 | — |
| | 12,1 | 50,2 | 37,7 | 100 | 4,9 | 12,0 | 41,6 | 46,4 | 100 | 3,7 |
| Улікова-контрол. пэрсон. | 65 | 285 | 214 | 564 | — | 6 | 18 | 21 | 45 | 2 |
| | 11,5 | 50,6 | 37,9 | 100 | 9,1 | 13,3 | 40,0 | 46,7 | 100 | — |
| Справаводчы пэрсон. | 59 | 209 | 138 | 406 | — | 6 | 46 | 37 | 89 | 4 |
| | 14,5 | 51,5 | 34,0 | 100 | 6,4 | 6,7 | 51,3 | 41,5 | 100 | — |
| Мэдыка-саніт. пэрсон. | 24 | 57 | 25 | 106 | — | 23 | 80 | 39 | 142 | — |
| | 22,7 | 53,8 | 23,5 | 100 | 1,7 | 16,2 | 56,4 | 27,4 | 100 | 6,4 |
| Работнікі асьветы | 31 | 62 | 26 | 119 | — | 24 | 135 | 90 | 249 | — |
| | 26,1 | 52,1 | 21,8 | 100 | 1,8 | 9,6 | 54,2 | 36,2 | 100 | 11,2 |
| Работнікі мастацтва | 4 | 15 | 8 | 27 | — | 1 | 5 | 1 | 7 | — |
| | 14,8 | 55,6 | 29,6 | 100 | 0,4 | 14,3 | 71,4 | 14,3 | 100 | 0,3 |
| Юрыдычны пэрсонал | 4 | 12 | 4 | 20 | — | — | — | — | — | — |
| | 20,0 | 60,0 | 20,0 | 100 | 0,3 | — | — | — | — | — |
| Работнікі сувязі | 20 | 101 | 93 | 214 | — | 3 | 18 | 31 | 52 | — |
| | 9,4 | 47,2 | 43,4 | 100 | 3,4 | 5,8 | 34,6 | 59,6 | 100 | 2,3 |
| Работнікі гігіены: | | | | | | | | | | |
| а) прачкі | — | — | — | — | — | 3 | 32 | 30 | 65 | — |
| | — | — | — | — | — | 4,6 | 49,2 | 46,2 | 100 | 2,9 |
| б) іншыя работнікі гігіены | 1 | 5 | 2 | 8 | — | — | 1 | 1 | 2 | — |
| | 12,5 | 62,5 | 25,0 | 100 | 0,1 | — | 50,0 | 50,0 | 100 | 0,1 |
| Работнікі нархарч. і інтэрнатаў: | | | | | | | | | | |
| Хатнія работніцы | — | 1 | 1 | 2 | — | 23 | 273 | 215 | 511 | — |
| | — | 50,0 | 50,0 | 100 | 0,03 | 4,5 | 53,4 | 42,1 | 100 | 23,2 |
| Інш. работ. харч. і інтэр. | 11 | 75 | 51 | 137 | — | 12 | 127 | 129 | 268 | — |
| | 8,0 | 54,7 | 37,3 | 100 | 2,2 | 4,5 | 47,4 | 48,1 | 100 | 12,2 |
| Работнікі аховы бясьпекі | 35 | 367 | 181 | 583 | — | 1 | 26 | 14 | 41 | — |
| | 6 | 62,9 | 31,1 | 100 | 9,3 | 2,4 | 63,4 | 34,2 | 100 | 1,8 |
| Іншыя служачыя | — | 2 | — | 2 | — | — | — | — | — | — |
| | — | 100 | — | 100 | 0,03 | — | — | — | — | — |
| Без паказан. профэсіі | — | 1 | 5 | 6 | — | — | — | — | — | — |
| | — | 16,7 | 83,3 | 100 | 0,04 | — | — | — | — | — |
| **Разам** | **639** | **3382** | **2239** | **6260** | — | **152** | **1093** | **972** | **2217** | **—** |
| | **10.2** | **54,0** | **35,8** | **100** | **100** | **6,9** | **49,3** | **43,8** | **10o** | **100** |

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад профкалецтва і профзахвораньняў, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.

Табліца 19

| Група профэсій (клясыфік. ЦКС) | Разьмеркаваньне інвалідаў па групах інваліднасьці | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчыны | | | | | Жанчыны | | | | |
| | Група | | | | Разам | Група | | | | Разам |
| | I | II | III | IV-V | | I | II | III | IV-V | |
| Рабочыя | | | | | | | | | | |
| Работнікі сельскай гаспадаркі | 3 | 18 | 20 | 26 | 67<br>13,2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 4 |
| Горнарабочыя | 9 | 42 | 45 | 33 | 129<br>25,4 | — | — | 1 | — | 1 |
| Мэталістыя | 1 | 9 | 15 | 13 | 38<br>7,4 | — | 1 | — | — | 1 |
| Дрэваапрацоўшчыкі | 1 | 12 | 15 | 16 | 44<br>8,6 | — | 1 | — | 1 | 2 |
| Папернікі | — | — | 2 | — | 2<br>0,4 | — | — | — | — | — |
| Друкары | — | 2 | 3 | — | 5<br>1 | — | — | — | — | — |
| Тэкстыльшчыкі | — | — | 2 | — | 2<br>0,4 | — | — | 2 | — | 2 |
| Швэйнікі | 1 | — | — | — | 1<br>0,2 | — | — | — | — | — |
| Гарбары | — | — | 1 | 1 | 2<br>0,4 | 1 | — | — | — | 1 |
| Харчавікі | 1 | 10 | 8 | — | 19<br>3,7 | — | — | 1 | — | 1 |
| Хэмікі | 1 | 1 | 1 | — | 3<br>0,6 | — | — | — | — | — |
| Шклопарпал. | — | 1 | — | 1 | 2<br>0,4 | — | — | — | 1 | 1 |
| Раб. па апрацоўцы мінэралаў | — | 2 | 1 | — | 3<br>0,6 | — | — | — | — | — |
| Будаўнікі | — | 4 | 11 | 10 | 25<br>5 | — | — | — | — | — |
| Чыгуначнікі | 1 | 1 | 1 | — | 3<br>0,6 | — | — | — | — | — |
| Воднікі | — | — | 1 | — | 1<br>0,2 | — | — | — | — | — |
| Мясцовы транспорт | — | 7 | 12 | 9 | 28<br>5,5 | — | 1 | — | — | 1 |
| Рабочыя сілавых устан. | — | — | 4 | 2 | 6<br>1,2 | — | — | — | — | — |
| Чорнарабочыя падзён | 1 | 21 | 39 | 26 | 87<br>17,2 | 1 | 2 | 3 | 3 | 9 |
| Іншыя рабочыя | 1 | — | — | 1 | 2<br>0,4 | — | — | — | — | — |
| Служачыя | | | | | | | | | | |
| Тэхнічны пэрсонал | 2 | 2 | 2 | 1 | 7<br>1,4 | — | — | — | — | — |
| Гаспад.-разьмер. пэрсон. | 1 | — | 2 | — | 3<br>0,6 | — | — | — | — | — |

Табліца 19 (працяг)

| Група профэсій (клясыфік. ЦКС) | Разьмеркаваньне інвалідаў па групах інваліднасьці | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчыны | | | | | Жанчыны | | | | |
| | Група | | | | Разам | Група | | | | Разам |
| | I | II | III | IV-VI | | I | II | III | IV-VI | |
| Улікова-контрольн. пэрсон. | — | 3 | 2 | | 5<br>1,0 | — | — | — | — | — |
| Справаводчы пэрсон. | 1 | 1 | 2 | — | 4<br>0,5 | — | — | — | 1 | 1 |
| Мэдыка-саніт. пэрсон. | 3 | — | — | — | 3<br>0,6 | — | — | 1 | — | 1 |
| Работнікі гігіены (прачкі і інш.) | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 |
| Работнікі нархар. і інт. (хатн. раб. і інш.) | — | — | — | — | — | — | 1 | — | — | 1 |
| Іншыя работн. харчав. і інтэр. | — | 1 | — | — | 1<br>0,2 | — | — | 1 | 2 | 3 |
| аботнікі аховы бясьпекі | 3 | 7 | 6 | — | 16<br>3,1 | — | — | — | — | — |
| Без паказаньня профэсій | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — |
| **Разам** | **30** | **144** | **196** | **139** | **509**<br>**100** | **3** | **7** | **11** | **9** | **30** |

**Зводная табліца складу інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад профкалецтва і профзахвораньняў, на 1/I 1929 г. па і 6 групах.**

Табліца 20

| Узростныя групы | Мужчыны | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|
| | Абс. | %% | Абс. | %% |
| Да 19 год | 3 | 0,6 | 3 | 10,0 |
| 20—24 „ | 58 | 11,4 | 6 | 20,0 |
| 25—29 „ | 76 | 14,9 | 6 | 20,0 |
| 30—34 „ | 82 | 16,2 | 4 | 13,3 |
| 35—39 „ | 87 | 17,2 | — | — |
| 40—44 „ | 70 | 13,7 | 3 | 10,0 |
| 45—49 „ | 53 | 10,4 | 2 | 6,7 |
| 50—54 „ | 27 | 5,3 | 3 | 10,0 |
| 55—59 „ | 15 | 2,9 | 2 | 6,7 |
| 60—64 „ | 18 | 3,5 | — | — |
| 65—69 „ | 12 | 2,3 | — | — |
| 70—74 „ | 5 | 1,0 | — | — |
| 75—79 „ | 2 | 0,4 | 1 | 3,3 |
| 80 і больш | 1 | 0,2 | — | — |
| **Разам** | **509** | **100** | **30** | **100** |

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад агульных захвораньняў і старасьці, якія лічыліся на пэнсії на 1/I 1929 г.

(Мужчыны)

Табліца 21

| Узростныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Абс. | % |
| | Разьмеркаваньне па ўзросных групах | | | | | | | | | |
| | **Група інваліднасьці I.** | | | | | | | | | |
| Да 19 год . . . . | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | 2 | 0,3 |
| 20—25 „ . . . . | — | — | — | — | 1 | 2 | 5 | 5 | 13 | 2,3 |
| 25—29 „ . . . . | — | — | — | — | 6 | 7 | 11 | 13 | 37 | 5,8 |
| 30—34 „ . . . . | — | — | — | 5 | 5 | 7 | 9 | 21 | 47 | 7,4 |
| 35—39 „ . . . . | — | — | 1 | 5 | 9 | 4 | 25 | 15 | 59 | 9,2 |
| 40—44 „ . . . . | — | — | 7 | 4 | 7 | 13 | 7 | 11 | 49 | 7,6 |
| 45—49 „ . . . . | — | — | 5 | 8 | 5 | 11 | 11 | 5 | 45 | 7,0 |
| 50—54 „ . . . . | 2 | — | 16 | 9 | 6 | 7 | 6 | 6 | 52 | 8,1 |
| 55—59 „ . . . . | — | — | 20 | 10 | 10 | 7 | 15 | 12 | 74 | 11,6 |
| 60—64 „ . . . . | — | — | 8 | 6 | 9 | 9 | 9 | 8 | 49 | 7,6 |
| 65—69 „ . . . . | — | — | 11 | 13 | 21 | 8 | 8 | 8 | 69 | 10,8 |
| 70—74 „ . . . . | — | — | 16 | 8 | 16 | 5 | 5 | 5 | 55 | 8,6 |
| 75—79 „ . . . . | — | — | 14 | 8 | 12 | 4 | 1 | 4 | 43 | 6,7 |
| 80 і больш год. . | — | 1 | 20 | 9 | 3 | 6 | 3 | 3 | 45 | 7,0 |
| Узрост не паказ. . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам . .** | **2** | **1** | **118** | **85** | **110** | **91** | **115** | **117** | **619** | **100** |
| % . . . | 0,3 | 0,1 | 18,5 | 13,3 | 17,2 | 14,2 | 18 | 18,4 | 100 | — |
| | **Група інваліднасьці II.** | | | | | | | | | |
| Да 19 год . . . . | — | — | — | — | — | — | 2 | 4 | 6 | 0,2 |
| 20—24 „ . . . . | — | — | — | 2 | 2 | 3 | 8 | 28 | 43 | 1,3 |
| 25—29 „ . . . . | — | — | 2 | 3 | 15 | 15 | 22 | 40 | 97 | 2,9 |
| 30—34 „ . . . . | — | 1 | 2 | 6 | 5 | 14 | 27 | 41 | 96 | 2,8 |
| 35—39 „ . . . . | — | — | 5 | 8 | 11 | 13 | 30 | 29 | 96 | 2,8 |
| 40—44 „ . . . . | — | — | 13 | 10 | 22 | 19 | 18 | 30 | 112 | 3,3 |
| 45—49 „ . . . . | 1 | — | 14 | 17 | 13 | 26 | 24 | 36 | 131 | 3,9 |
| 50—54 „ . . . . | — | — | 8 | 18 | 25 | 24 | 38 | 51 | 164 | 4,8 |
| 55—59 „ . . . . | — | — | 19 | 35 | 34 | 61 | 74 | 74 | 297 | 8,8 |
| 60—64 „ . . . . | 1 | 5 | 34 | 54 | 88 | 112 | 141 | 121 | 556 | 16,4 |
| 65—69 „ . . . . | 4 | 3 | 69 | 105 | 194 | 150 | 168 | 125 | 818 | 24,1 |
| 70—74 „ . . . . | 2 | 4 | 83 | 95 | 103 | 95 | 73 | 50 | 505 | 15,0 |
| 75—79 „ . . . . | 2 | 1 | 62 | 57 | 70 | 43 | 34 | 31 | 300 | 8,9 |
| 80 і больш год. . | — | — | 29 | 42 | 34 | 19 | 19 | 15 | 158 | 4,7 |
| Узрост не паказ. . | — | — | — | — | — | — | — | 3 | 3 | 0,1 |
| **Разам . .** | **10** | **14** | **340** | **452** | **616** | **594** | **678** | **678** | **3382** | **100** |
| % . . . | 0,3 | 0,4 | 10,4 | 3,3 | 18,1 | 17,5 | 20 | 20 | 100 | — |

Табліца 21 (працяг)

| Узросныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Абс. | % |
| | Разьмеркаваньне па ўзростных групах | | | | | | | | | |
| | Група інваліднасьці III. | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | 1 | 2 | 3 | 0,1 |
| 20—24 „ | — | — | — | 1 | 1 | 3 | 11 | 24 | 40 | 1,8 |
| 25—29 „ | — | — | — | 3 | 4 | 7 | 20 | 38 | 72 | 3,3 |
| 30—34 „ | — | — | 3 | 7 | 9 | 19 | 29 | 37 | 104 | 4,7 |
| 35—39 „ | — | — | 2 | 2 | 11 | 28 | 36 | 42 | 121 | 5,4 |
| 40—44 „ | — | — | 3 | 5 | 13 | 20 | 34 | 45 | 120 | 5,3 |
| 45—49 „ | — | — | 5 | 7 | 17 | 17 | 47 | 63 | 156 | 7,0 |
| 50—54 „ | — | — | 7 | 10 | 22 | 34 | 71 | 120 | 264 | 11,8 |
| 55—59 „ | — | — | 6 | 19 | 44 | 85 | 111 | 184 | 449 | 20,0 |
| 60—64 „ | 2 | 1 | 10 | 30 | 57 | 97 | 106 | 172 | 475 | 21,2 |
| 65—69 „ | — | 2 | 17 | 42 | 54 | 61 | 69 | 83 | 328 | 14,7 |
| 70—74 „ | — | — | 6 | 15 | 20 | 5 | 16 | 18 | 80 | 3,6 |
| 75—79 „ | — | — | 3 | 1 | 6 | — | — | 2 | 12 | 0,5 |
| 80 і больш год. | — | 1 | 1 | 4 | — | 2 | 1 | — | 9 | 0,4 |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | 1 | 2 | 3 | 6 | 0,2 |
| **Разам** | **2** | **4** | **63** | **146** | **258** | **379** | **554** | **833** | **2239** | **100** |
| % | 0,1 | 0,2 | 2,8 | 6,5 | 11,5 | 16,9 | 24,7 | 37,3 | 100 | — |

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад агульных захвораньняў і старасьці, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.

(Жанчыны)

Табліца № 22

| Узросныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Абс. | % |
| | Разьмеркаваньне па ўзростных групах | | | | | | | | | |
| | Група інваліднасьці I. | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ | — | — | — | 1 | — | 2 | 5 | 3 | 11 | 7,2 |
| 25—29 „ | — | — | 1 | — | 3 | 6 | 6 | 7 | 23 | 15,1 |
| 30—34 „ | — | — | 4 | 2 | 2 | 2 | 1 | 4 | 15 | 9,9 |
| 35—39 „ | — | — | 1 | 2 | 4 | 2 | 2 | 5 | 16 | 10,5 |
| 40—44 „ | — | — | 1 | 1 | 3 | — | — | 3 | 8 | 5,3 |
| 45—49 „ | — | — | 4 | 1 | 2 | — | 1 | 7 | 15 | 9,9 |
| 50—54 „ | — | — | 1 | — | 1 | 3 | 1 | 2 | 8 | 5,3 |
| 55—54 „ | — | — | 3 | 2 | 6 | 2 | 1 | — | 14 | 9,2 |
| 60—64 „ | — | — | 2 | 4 | 2 | — | — | 1 | 9 | 5,9 |
| 65—69 „ | — | 1 | 3 | ... | 1 | 2 | — | 1 | 8 | 5,3 |
| 70—74 „ | — | — | 2 | 1 | 1 | — | — | 1 | 5 | 3,3 |
| 75—79 „ | — | — | — | 3 | 1 | — | 2 | 1 | 7 | 4,6 |
| 80 і больш год. | — | — | 5 | 2 | 3 | 1 | — | 2 | 13 | 8,5 |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам** | — | **1** | **27** | **19** | **29** | **20** | **19** | **37** | **152** | **100** |
| % | — | 0,6 | 17,8 | 12,5 | 19,1 | 13,2 | 12,5 | 24,3 | 100 | — |

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад агульных захвораньняў і старасьці, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.

(Жанчын) Табліца 22 (працяг)

| Узросныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Кольк. | % |
| | Разьмеркаваньне па узростных групах | | | | | | | | | |
| | **Група інваліднасьці II.** | | | | | | | | | |
| Да 19 год . . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ . . . . | — | 1 | 1 | 1 | — | 2 | 7 | 16 | 28 | 2,6 |
| 25—29 „ . . . . | — | — | 3 | 9 | 7 | 14 | 27 | 22 | 82 | 7,5 |
| 30—34 „ . . . . | — | — | 1 | 3 | 7 | 10 | 11 | 19 | 51 | 4,6 |
| 35—39 „ . . . . | 1 | — | 7 | 5 | 9 | 12 | 9 | 13 | 56 | 5,1 |
| 40—44 „ . . . . | - | — | 5 | 7 | 8 | 12 | 7 | 9 | 48 | 4,4 |
| 45—49 „ . . . . | — | — | 9 | 4 | 8 | 16 | 15 | 9 | 61 | 5,6 |
| 50—54 „ . . . . | — | — | 14 | 14 | 24 | 9 | 15 | 16 | 92 | 8,4 |
| 55—59 „ . . . . | — | 3 | 8 | 18 | 25 | 15 | 15 | 21 | 105 | 9,8 |
| 60—64 „ . . . . | — | 2 | 27 | 29 | 42 | 31 | 15 | 29 | 175 | 15,9 |
| 65—69 „ . . . . | — | 6 | 31 | 27 | 39 | 27 | 16 | 29 | 175 | 15,9 |
| 70—74 „ . . . . | — | 3 | 25 | 22 | 31 | 16 | 16 | 14 | 127 | 11,7 |
| 75—79 „ . . . . | 1 | 1 | 9 | 6 | 10 | 8 | 9 | 6 | 50 | 4,6 |
| 80 і больш год. . | 1 | — | 8 | 7 | 15 | 4 | 3 | 5 | 43 | 3,9 |
| Узрост не паказ. . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам . .** | **3** | **16** | **148** | **152** | **225** | **176** | **165** | **208** | **1093** | **100** |
| % . . . | 0,3 | 1,5 | 13,5 | 13,9 | 20,6 | 16,1 | 15,1 | 19 | 100 | — |
| | **Група інваліднасьці III.** | | | | | | | | | |
| Да 19 год . . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ . . . . | — | — | — | — | 1 | 3 | 4 | 11 | 19 | 1,9 |
| 25—29 „ . . . . | - | — | — | 3 | 6 | 18 | 18 | 27 | 72 | 7,5 |
| 30—34 „ . . . . | — | — | 1 | 1 | 9 | 10 | 23 | 26 | 70 | 7,3 |
| 35—39 „ . . . . | — | — | 1 | 2 | 10 | 16 | 19 | 19 | 67 | 6,9 |
| 40—44 „ . . . . | — | - | 1 | 5 | 19 | 24 | 23 | 24 | 96 | 9,9 |
| 45—49 „ . . . . | — | — | 5 | 4 | 10 | 19 | 26 | 39 | 103 | 10,6 |
| 50—54 „ . . . . | — | — | 3 | 10 | 24 | 29 | 26 | 48 | 140 | 14,4 |
| 55—59 „ . . . . | — | 1 | 8 | 18 | 39 | 28 | 33 | 41 | 168 | 17,3 |
| 60—64 „ . . . . | — | — | 11 | 27 | 29 | 23 | 25 | 32 | 147 | 15,1 |
| 65—69 „ . . . . | — | 1 | 7 | 13 | 12 | 13 | 7 | 12 | 65 | 6,6 |
| 70—74 „ . . . . | 1 | — | 1 | 1 | 6 | 1 | 2 | 1 | 13 | 1,3 |
| 75—79 „ . . . . | — | — | 1 | 1 | 1 | — | — | — | 3 | 0,3 |
| 80 і больш год. . | — | — | — | 5 | 2 | 1 | 1 | — | 9 | 0,9 |
| Узрост не паказ. . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам . .** | **1** | **2** | **39** | **90** | **168** | **185** | **207** | **280** | **972** | **100** |
| % . . . | 0,1 | 0,2 | 4 | 9.2 | 17,3 | 19,3 | 21,3 | 28,6 | 100 | — |

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад профкалецтва і профзахвораньняў, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.

(Мужчыны)

Табліца 23

| Узросныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Абс. | % |
| | Разьмеркаваньне па ўзросных групах | | | | | | | | | |
| **Група інваліднасьці I.** | | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | 3,3 |
| 20—24 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 25—29 „ | — | — | — | — | — | — | 2 | 1 | 3 | 10,0 |
| 30—34 „ | — | — | 2 | 1 | — | 1 | 1 | 1 | 6 | 20,0 |
| 35—39 „ | — | — | — | 1 | 1 | — | — | 2 | 4 | 13,4 |
| 40—44 „ | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 2 | 4 | 13,4 |
| 45—49 „ | — | 1 | 1 | 1 | — | 1 | — | — | 4 | 13,4 |
| 50—54 „ | 1 | — | 1 | — | — | — | — | 1 | 3 | 10,0 |
| 55—59 „ | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 | 2 | 6,6 |
| 60—64 „ | — | — | — | 1 | — | — | — | — | 1 | 3,3 |
| 65—69 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 70—74 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 75—79 „ | — | — | — | 1 | — | — | — | 1 | 2 | 6,6 |
| 80 і больш год. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам** | **1** | **1** | **6** | **5** | **2** | **2** | **4** | **9** | **30** | **100** |
| **Група інваліднасьці II.** | | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 2 | 1,4 |
| 20—24 „ | — | — | — | — | — | 2 | 7 | 7 | 16 | 11,1 |
| 25—29 „ | — | — | — | 2 | 1 | — | 2 | 7 | 12 | 8,3 |
| 30—34 „ | — | — | — | 1 | 2 | 4 | 4 | 4 | 15 | 10,4 |
| 35—39 „ | — | — | 3 | 2 | 4 | 6 | 4 | 9 | 28 | 19,5 |
| 40—44 „ | — | — | 1 | 4 | 1 | 3 | 4 | 8 | 21 | 14,4 |
| 45—49 „ | — | — | — | 1 | 1 | 1 | 5 | 8 | 16 | 11,1 |
| 50—54 „ | — | 1 | — | 1 | 2 | 1 | 3 | 3 | 11 | 7,8 |
| 55—59 „ | — | — | — | — | 1 | — | — | 2 | 3 | 2,1 |
| 60—64 „ | — | — | 2 | 1 | 2 | 2 | 1 | 4 | 12 | 8,3 |
| 65—69 „ | — | — | 1 | 1 | 2 | 1 | — | 1 | 6 | 4,2 |
| 70—74 „ | — | — | — | 1 | — | — | — | 1 | 2 | 1,4 |
| 75—79 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 80 і больш год. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам** | **—** | **1** | **7** | **14** | **16** | **20** | **30** | **56** | **144** | **100** |

Доц. С. Р. ДЗІХЦЯР

## Склад інвалідаў працы, страціўшых працаздольнасьць ад профкалецтва і профзахвораньняў, якія лічыліся на пэнсіі на 1/I 1929 г.

(Мужчыны) Табліца 23 (працяг)

| Узросныя групы | У тым ліку інвалідаў, залічаных на пэнсію ў органах соцстраху | | | | | | | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раней 1922 г. | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | Абс. | % |
| | Разьмеркаваньне па ўзросных групах | | | | | | | | | |
| | Група інваліднасьці III. | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ | — | — | 1 | — | — | 3 | 9 | 8 | 21 | 10,7 |
| 25—29 „ | — | — | — | 2 | 2 | 7 | 6 | 14 | 31 | 15,8 |
| 30—34 „ | 1 | — | 2 | 4 | 3 | 2 | 12 | 15 | 39 | 20,0 |
| 35—39 „ | — | 1 | — | 1 | 3 | 7 | 7 | 10 | 29 | 14,8 |
| 40—44 „ | — | — | — | 1 | 4 | 3 | 7 | 10 | 25 | 12,7 |
| 45—49 „ | — | — | 1 | 5 | 2 | 2 | 8 | 3 | 21 | 10,7 |
| 50—54 „ | — | — | — | — | 1 | 1 | 4 | 3 | 9 | 4,6 |
| 55—59 „ | — | — | — | 2 | 1 | — | 3 | 3 | 9 | 4,6 |
| 60—64 „ | — | — | — | 1 | | — | — | 1 | 2 | 1,0 |
| 65—69 „ | — | — | 1 | 2 | 1 | — | 1 | 1 | 6 | 3,0 |
| 70—74 „ | — | — | 1 | — | — | — | 2 | — | 3 | 1,5 |
| 75—79 „ | — | — | — | — | — | — | — | | — | — |
| 80 і больш год | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | — | — | 1 | 1 | 0,6 |
| **Разам** | 1 | 1 | 6 | 18 | 17 | 25 | 59 | 69 | 196 | 100 |
| | Група інваліднасьці IV. | | | | | | | | | |
| Да 19 год | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 20—24 „ | — | — | — | — | — | 2 | 9 | 10 | 21 | 15,1 |
| 25—29 „ | — | — | — | — | 2 | 4 | 17 | 7 | 30 | 21,6 |
| 30—34 „ | — | — | — | — | 1 | 1 | 11 | 9 | 22 | 15,9 |
| 35—39 „ | — | — | — | 2 | 1 | 4 | 11 | 8 | 26 | 18,7 |
| 40—44 „ | — | — | — | 1 | — | 2 | 9 | 8 | 20 | 14,4 |
| 45—49 „ | — | — | — | — | — | 5 | 5 | 2 | 12 | 8,6 |
| 50—54 „ | — | — | — | — | — | — | 1 | 3 | 4 | 2,8 |
| 55—59 „ | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 | 0,7 |
| 60—64 „ | — | — | — | — | — | — | 1 | 2 | 3 | 2,2 |
| 65—69 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 70—74 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 75—79 „ | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 80 і больш год | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Узрост не паказ. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **Разам** | — | — | — | 3 | 4 | 18 | 65 | 49 | 139 | 100 |

